ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:

**Уладзімір Мароз**
***Вершы***

**Іван Шамякін**
**НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ**

**Віктар Альшэўскі**
**ПАЧУЦЦЁ РАЎНАВАГІ, АЛЬБО ЧАС УЗЫХОДЗЯЧАГА СОНЦА**
***Дыярыуш мастака***

**Максім Танк**
**ПІСЬМЫ ДА ПІСЬМЕННІКАЎ СВЕТУ**

9 **2003**



# ПОЛЫМЯ

**9**

**(887)**

**2003**

**верасень**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ**
**І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ**
**ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2003**

ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

## УЛАДЗІМІР МАРОЗ

### БЕЛАРУСКІЯ МАЕ СТАГОДДЗІ

Нам стагоддзі-гады, а для Госпада проста імгненні,
Што лістотаю дрэў адлятаюць штораз у нябыт.
У разгадках загадкі праходзяць чаргой пакаленні,
Толькі кожнаму рупіцца ўласны свой выявіць спрыт.

Што да нас, пасля нас — не такая і важная справа,
Свет пачаўся адсюль, значыць, нам вырашаць:
быць — не быць.
Самі будзем ісці хоць улева, а хочам — управа,
І нікому няўцям, што ірвецца жыццёвая ніць.

Так ірвалася часта, а то і зусім незваротна,
Недароды, віхуры, падман затапталі сляды.
На расстайных дарогах скавыш падвывае самотна,
Неспазнанасць часоў дадае незваротна бяды.

Каб уведаць, адужаць — душы прыкладзі намаганні,
Бо без роду і племені ты неадпрэчна адзін.
Перамогу здабудзь у суровым надчасным змаганні,
А найперш дык самому дай Бог зразумець, чый ты сын.

За тваімі плячыма шыхтуюцца слынныя продкі,
Што зямлю баранілі, ішлі за свой гонар на бой.
Дым Айчыны бруіцца няспынна,нясцерпна салодкі,
Дзеяў слаўных і чынных працяг валадарыць табой.

Быць уласнаму лёсу па сілах удзячным імкнуся,
Што спазнаць даў хоць трохі гісторыі дух трапяткі.
Вы заўсёды са мною, стагоддзі маёй Беларусі,
Гэтак будзе і сёння, і заўтра, і так на вякі.

### ТУРАЎСКІЯ КРЫЖЫ

Адвечны шлях свой дабрадаццю высвеці,
Каб да вытокаў дзверы адамкнуць.
Плывуць крыжы Дняпром, плывуць па Прыпяці,
Ад Кіева да Турава імкнуць.

Кіруюць супраць плыні, хоць каменныя —
Такое не спасцігнуць аніяк.
Парой урочнай сілы патаемныя
Явілі продкам Божай волі знак.

Вось каля горада вада ўскрывавела, —
Паганству чэзнуць надышла пара, —
На хрысціянства розум наш направіла
І на сцяжыну вывела дабра.

Князь Тур хрысціўся ля ракі ў калодзежы —
Да нашых дзён паданне даплыло.
На лёс шчаслівы, каб народ у згодзе жыў,
Магутны Божа ўзяў нас пад крыло.

Тых таямніц пабачыць можна сённячы,
Але ў душы без веры каламуць.
Ідзём-брыдзём, гісторыі не помнячы, —
Калі ж ізноў крыжы к нам прыплывуць?

## ПОКЛІЧ ДАРОГ

Гэты енк цягнікоў, што праз цемрань лятуць несупынна,
Гулкі пошчак дарог, што хвалююць хлапечую кроў...
Адпусці, Беларусь, пабадзяцца цікаўнага сына,
Ён праз покліч калёсаў даўно да вандровак гатоў.

Тут пабураны замак яшчэ не адкрыў таямніцаў,
І балота Пагоня назовам не ўзрушвае слых.
Лес Літва проста лес, дзе чырвоныя кроплі суніцаў...
А за светам такое — адразу займаецца дых.

Так і сталася потым — паездзіў па свеце нямала,
Лёс даваў падарожжаў напоўніцу выпіць нагбом.
Між Еўропай і Азіяй востра адчайна гайдала,
Мог забыцца зусім, дзе твой кут і радзінны твой дом.

У чужынскіх у землях напраўду багата дзівосаў:
Вось блакіт купалоў, мінарэтаў раслінная вязь.
Там гатычныя храмы ды стромкая гладзь хмарачосаў —
Вочы май і глядзі, без радзімы і вотчыны князь.

Аж яно не тваё — адпадае нарэшце зацьменне,
Прыгажосць — не сказаць, а душа застаецца нямой.
Так прыходзіць ураз ад спазнанай спакусы збавенне —
Людзі, край і зямля, дзе ты родны, жаданы і свой.

Я даўно ўжо вярнуўся, трывогі вярэдзяць Айчыны,
Забірае жыццё, не шукаю на шчасце падкоў.
Толькі што гэта раптам? — накоціць ізноў без прычыны
Гулкі пошчак калёсаў праз цемру і енк цягнікоў...

## НАКАНАВАННЕ ЦІХАЙ ЯЗДЫ

Спакой журботны ў стомленых вачах,
Адбітак жорсткіх даўкіхператрусаў.
Паэты ездзяць на старэнькіх «Жыгулях» —
Не перагнаць ім «новых» беларусаў.

Хаця зусім не супраць і яны
Утульна мчаць на новым «Мерседэсе».
Гаспадарамі сёння іншыя паны,
Няма ім спраў да ластавак у стрэсе.

Няхай і так, адкінем гэты спрыт,
З нас кожны плаціць па сваіх рахунках.
Плыве спакойна побач родны краявід —
Яго мінуў бы ў хуткасных варунках.

Спыніся проста ў ціхім гушчары,
Куды патрапіць больш ніхто не можа.
Грыбной заложнік ты і ягаднай пары —
Спакусе той «Пежо» не дапаможа.

Ці каля Нёмна выведай куток,
Глухі наўсцяж, дзе хамаў не бывае.
Гаючай сіні каўтані жывы глыток,
Дарэшты зліся з мілым родным краем.

І бездараж яго табе не ў знак,
Да хутара праедзеш без прыгодаў.
Душы спачынак, і няхай прабудзе так —
Наўзбоч трывог, і гора, і нягодаў.

## СВАЯ ТЭРЫТОРЫЯ

Трымаюць ад чорта ці д'ябла ў палоне,
Вярэдзяць спакусай завулкі душы
Чужая зямля, неспазнанае ўлонне,
Хоць кінь усё разам ды тут жа зграшы.

У час гэты востры ніхто не дарадца,
За спіну пляцак — ды ў нязведаны шлях.
Парою няўрочнай пацягне бадзяцца
Па новых краінах ды іх гарадах.

А што да цнатлівак, сяброў і напояў —
І ехаць не трэба, руку працягні.
Пахмеллем, згрызотамі ды неспакоем
Згарае нарасхрыст імпэт у агні.

Так сілы сыходзяць — куды і навошта? —
Адзіна каханай цяпла не стае.

Пад нёбам плывуць недасланаю поштай
Лісты недапісанай кнігі твае.

На хутары дом недавершаны стыне,
І крыж-абярэг не пастаўлены тут.
Зямля забуцвела без рук селяніна,
Парушаны сэнсу спрадвечны статут.

Кружляць супыніся, нарэшце, мужчына,
На споведзь нясі свае шчыра грахі.
Гасподзь іх адпусціць, даруе Айчына —
Сваю тэрыторыю дбайна ўзрабі.

## КАЛЕГАМ-ТАВАРЫШАМ

Дзе іншыя вершы — там іншы свет, —
Чаму на другіх непадобны?
Пакліканы я і абраны паэт,
І быць не магу падробны.

Спяваеце песню сваю, я — сваю,
Нікому ніхто не вінен.
Адно, на чым цвёрда да скону стаю —
Хутчэй нелюбоў адрынем.

Люблю я вас розных, люблю такіх,
І толькі прашу — не зайздросьце.
Чароўным гучаннем радкоў маладых
Сябрамі заходзьце ў госці.

Я рады за вас, дык пакіньце і мне
Мой голас пяшчотны, ціхі.
Нядоля сябрыну няўзнак абміне,
Пазбудземся гэтак мы ліха.

## ЗГАДКІ АБ ЦУДЗЕ

Недазволена лезеш у скруху,
Дабрадаці дзе спрэс не відно.
Не прайсці па вадзе, як пасуху —
Сілы цёмныя цягнуць на дно.

Ды і іншыя цуды не здужаць —
Гэта можа тварыць толькі Ён.
Не раскрыецца любасці ружа
Сярод немачы скрыўленых дзён.

Цяжкі скутак чапляецца ўпарта,
Хоць імкнуўся, па шчырасці жыў,
І людзей, нават самых нявартых
Ціхамірнай душою любіў.

Насамрэч так здаецца, не болей —
Палічы ўсе сумленна грахі.
Неабачна свабодную волю
Раскідаў, як салому з страхі.

Прапіваў свае дні залатыя,
Родным людзям цяпла не дадаў.
Пасылае дакоры нямыя
Чарада недаробленых спраў.

Дык якія памкненні аб цудзе? —
Чым хутчэй пакаянне нясі.
Калі верыш — так здарыцца, будзе,
Наастачу даўгі аддасі.

# ГОРНІЯ ШЛЯХІ

*З Іерусалімскай нізкі*

## МАЯ СВЯТАЯ ЗЯМЛЯ

Яе ведаў, спрадвечную, з кніг,
Поўных цудаў дзівосных і дзеяў,
Дзе іскрылася казка ці міф,
Што Гасподзь дабрадатна пасеяў.

Я быў тут — адначасна і там,
І далёка нібыта, а блізка.
Паднябесны прасветлены храм,
Чалавецтва святая калыска.

З таго часу — жаданне дапяць
Жыватворных мясцін на планеце.
Ды нікому не дадзена знаць,
Як шляхі нашы лягуць па свеце.

І ўсё роўна душою імкнуў,
У малітве прасіў падсвядома.
Браму светлую ключ адамкнуў —
Я нарэшце вярнуўся дадому.

Гэтых тысяч гадоў не было —
Спрычыніўся да справаў
Хрыстовых,
Дзе лунала любові крыло
Запаветам чаканым і новым.

Я хаджу праайчынай сваёй,
Дзе бруіць хрысціянства крыніца.
Незнаёма-знаёмай зямлёй
Аніяк не магу наталіцца.

## ІЕРУСАЛІМ

Зямнымі шляхамі Збавіцеля
Абраны імкнецца прайсці.
Падножжа нябеснай абіцелі
Убачыць хоць раз у жыцці.

Пагрукайце — будзе адчынена,
На шчырасць даецца адказ.
Тут зверхнасць любові не спынена,
Чакае зняможаных нас.

Дзе горад святы адкрываецца
Як Божае любасці дар,
Там сонца ўвесь дзень не хаваецца,
Ні ветру няма, ані хмар.

Тут час не ўладар над стагоддзямі,
Адпрэчвае тайнай гады.
Завулкаў крывымі разводдзямі
Па бруку ідзеш, як тады.

Вітае дзіцячай даросласцю,
Падлашчвае раем зямным.
Жыве гаманой дый узнёсласцю
Нябесны Іерусалім.

Здзіўлення няма ад нязнанасці —
Усе мы тут дома, свае.
Чаканасці і нечаканасці
Ён з лёгкай душой раздае.

## ВУЛІЦА СМУТКУ

Свой знак на скрыжалях запішам,
Пачуцці папросяцца ў верш.
Па вуліцы Смутку за крыжам,
Ці з крыжам спякотна ідзеш.

Прыпынкі мінае сябрына,
У кожнага думкі свае.
Па вуліцы Божага Сына
Гасподзь нам прайсціся дае.

У свет дабрадатнасці дзверы
Адчынены сёння для нас.
На вуліцы шчырае Веры
Знайдзі на пытанні адказ.

Ураз Дабравесця падзеі
Наяве ў душы ажывуць.
Па вуліцы яснай Надзеі
Да шчасця ільга даімкнуць.

Пазбыцца пякучай юдолі,
Трывогаў, пакутаў і слёз.
На вуліцы светлай Любові,
Якую для нас Ён прынёс.

Наперадзе, толькі не збочыць,
Галгофа стамлёна стаіць.
Па вуліцы Радасці крочыць,
Якой наканавана быць.

## ГАЛГОФА

Дзе дольнія і горнія шляхі
Зліваюцца ў адзін прасветлы шлях —
Стаіць Галгофа на сямі вятрах,
Адпрэчвае імклівыя вякі.

Зняможаны ўзыходзіў Ён сюды,
Данёс з пакораю свой цяжкі крыж.
Натоўп кіпеў, як нелюбві спарыш,
Таптаў Яго апошнія сляды.

Крычала зайздрасць люта: «Укрыжуй!
Хай кроў на дзецях нашых і на нас!»
На здзек гучалі словы ў гэты час:
«Калі Сын Божы, хоць Сябе ўратуй!»

Адзін Ён ведаў, што ўратуе свет,
Дарогу прэч пакажа ад спакус.
Паўстала цемра, стаўся землятрус —
Адлік пачаў так Новы запавет.

Стаіць Галгофа на сямі вятрах,
Пакутаў сведка праз усе вякі.
Гарыць агеньчык свечкі трапяткі,
У Маці Божай смутак у вачах.

## ПЛІТА ПАМАЗАННЯ

Не без праведных свет наш людзей —
Так было і так будзе навечна.
Да Пілата Іосіф ідзе
З шчырай просьбай сваёю сардэчнай.

Ісуса здымае з крыжа —
Даць спачын у каменнай грабніцы.
У жанчын тонка вейкі дрыжаць,
Яны ціха прыйшлі пакланіцца.

Шматпакутнае цела ляжыць,
Пахкай міррай яго абціраюць.
Праз вякі працякуць капяжы,
Пра жалобу штораз нагадаюць.

Водар мірры наўкола бруіць,
Ад пліты разыходзяцца хвалі.
Не ірвецца стагоддзямі ніць,
Хоць не раз перарваць спрабавалі.

Твар абмыю тым пахам святым,
За Яго памалюся пакуты.
Камень промнем блішчыць залатым,
Непагасным агнём ахінуты.

Стануць светлымі думкі твае,
Ад цяжару прыходзіць збавенне.
Так Гасподзь табе сілы дае
Дачакаць дабрыні ўваскрашэння.



**ІВАН ШАМЯКІН**

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

## ВЯСЁЛАЕ СЯБРОЎСТВА

Я мала ездзіў за мяжу. Спалохаў мяне Нью-Йорк, не сам горад, а тое, што я захварэў там. Трапіць у шпіталь на чужыне, без ведання мовы... І ў Бельгіі захварэў: два дні ляжаў у доме Люсьена і Марыі Танья — спалохаў сваю кіраўніцу Валянціну Чарняўскую.

— Больш я з вамі не паеду, — сказала яна.

— Больш я і сам не паеду. Атручвае мяне буржуазнае паветра.

Аднак ездзіў, пра што, дасць Бог, напішу: пра паездкі ў ГДР, Польшчу, Чэхаславакію — з пісьменнікамі, то пад кіраўніцтвам мудрага Юрыя Бондарава, то на чале «скакуна», самалюбца Юрыя Сураўцава, то сам узначальваў невялічкую дэлегацыю, у якой фактычна кіраваў латышскі яўрэй Гунар Цыруліч. Аднак пра гэта пасля.

Мала я ездзіў і па Саюзе: не быў у Кіргізіі, Узбекістане, не дабраўся нават да Урала, Сталінград не наведаў — такі ж высокі сімвал магутнасці славянскага духу, як Масква, Ленінград. Ездзіць мне не давала прага пісання, дзень без радка ў бяздзейнасці здаваўся страчаным днём. Ды і ёсць нейкая рыса характару, якая ў народзе называецца дамаседствам. З'ездзіць на курорт было праблемай. Я пісаў пра сваю дысцыплінаванасць: як акуратна ездзіў на пленумы праўлення «Советского писателя», на сесіі камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях. Але помню адзін выпадак. Трэба было ехаць у Маскву ў Саюз пісьменнікаў (не помню мерапрыемства — не з'езд і не пленум, мабыць, нейкая нарада). Лета. Спякота. Жыў на дачы. Бадзёра сабраўся. Маша праводзіла на аўтобусны супынак. Нядзеля, народу процьма, хоць і аўтобусы ішлі адзін за адным. Прапусцілі адзін, другі. І я раптам кажу Машы:

— Пайшлі дадому. Не паеду!

Здзівілася вельмі, запыталася: ці не захварэў?

А пасля здзівіў хатніх сваёй радасцю, што не паехаў, што праявіў сваю волю: не хачу — не еду. Маша расказала Андрэю. Ён смяяўся, і яны разам кпілі з мяне, называючы мой «фартэль» гультайствам.

Я пісаў, што і па Беларусі мала ездзіў. Гэта не так. Маладога аўтара «Глыбокай плыні», мяне літаральна зацягалі два энтузіясты з Пушкінскай бібліятэкі (адзін Кляўко, імя другога не ўспомню). Мы ездзілі па раёнах вобласці, ва ўсе больш-менш значныя бібліятэкі. Тое ж было з «Сэрцам на

далоні», але на гэты раз першынство трымалі ваенныя (раман выйшаў у «Раман-газеце» тыражом у мільён экземпляраў. Во жыццё было!). Тут ініцыятарам выступала бюро прапаганды СП, якое ўзначальваў нястомны Марат Ягораў.

Гадоў колькі назад (3-4), калі яшчэ не «страціў» ногі — не выхадзіў рэсурс — Мікола Мятліцкі намерыўся везці мяне на радзіму сваёй Ірыны — Астравеччыну. Я прызнаўся, што гэта адзіны раён рэспублікі, дзе не ступала мая нага. Сказаў з упэўненасцю, бо лічыў так. А потым у час адпачынку разглядаў карту Беларусі, прайшоўся па ёй і пераканаўся, што сказаў няпраўду! Не ў адным Астраўцы я не быў. Ажно сорамна зрабілася: не быў у Карме, райцэнтры. Сам жа з Кармы іншай — Добрушскай.

Не бачыў Лельчыц, не наведаўся ў Рось, дзе некалі адбываў практыку. Сорамна. Чаму? Ехаў туды, куды запрашалі? Ды не. Нямала ездзіў і па ўласнай волі, асабліва калі набыў машыну, спачатку сваю, пасля меў службовыя.

Дзве легенды Беларусі — Белавежа і Нарач. Але і туды я не адразу дабраўся. На Нарач трапіў, калі там збудавалі дачы Лынькоў, Танк, Куляшоў. Мы з Андрэем наведалі іх у 1956 годзе (запомнілася ў сувязі з трагічнай смерцю Аляксандра Фадзеева, мы прывезлі «старым» сумную вестку).

З дырэктарам Белавежы Уладзімірам Раманавым я пазнаёміўся ў Мінску на нейкай лясной нарадзе (на якія нарады я толькі ні хадзіў! Дзень засядаў, ноч пісаў). Пазналіся, што мы землякі — дабрушане, і бацькі нашы леснікі, амаль суседзі, толькі яго ў Шабрынскім лясніцтве, мой у Добрушскім. Зачараваў мяне гэты незвычайны чалавек: інвалід вайны, без нагі, на пратэзе-дзеравяшцы, але здзіўляючы жыццялюб, весяльчак, гумарыст, анекдотаў мала хто ведаў столькі, як Уладзімір Сяргеевіч.

— Што ж гэта вы, пісьменнікі, у Белавежу не заглядваеце?

— А каму там чытаць нашы вершы? Зубрам?

— А мяне ты за чалавека не лічыш? Ды я табе такую аўдыторыю арганізую! Хочаш — леснікоў, егераў, хочаш — пагранічнікаў. Будзе Хрушчоў — і яго прымусім слухаць.

Не помню, з кім я неўзабаве наведаўся ў пушчу, здаецца, з Калачынскім, яшчэ з некім. Але там былі якраз высокія замежныя госці, і нас далей Каменюкоў не пусцілі. Сябры мае пакрыўдзіліся. Аднак у Белавежу рваліся ўсе. Не толькі пісьменнікі. Нашы дзеці. Мае не давалі спакою: «Звазі нас у Белавежскую пушчу, тата! Звазі!» І сын і дзяўчаты.

Да таго часу машыну набыў не толькі я, лаўрэат, разбагацелі і «ненародныя» мае калегі. Селі за руль Уладзімір Карпаў, Тарас Хадкевіч, з якімі жылі ў адным доме, сябравалі сем'ямі.

Дамовіліся зрабіць падарожжа на трох машынах па роднай Беларусі, па той яе частцы, якую менш ведалі, — Заходняй. Маршрут: Мінск — Брэст, Белавежская пушча, Гродна, Навагрудак, Свіцязь... Здаецца, планавалі яшчэ Мір і Нясвіж — не хапіла часу, ці проста мы, дарослыя, стаміліся, ды Нясвіж і Мір наведвалі не аднойчы, я і ў санаторыі адпачываў.

Выехалі ў добрую летнюю пару, ліпеньскую ці ў пачатку жніўня — у самае жніво. Дарога да Брэста была адной з лепшых, не тое, што да Гомеля, але, безумоўна, не такая шырокая, як цяпер: вузкая і нямала дзе выбітая. Ля Дзяржынска за руль селі нашы жонкі. Была такая мода. Павел Кавалёў арганізаваў курсы па ваджэнні (тады СП многа цікавых мерапрыемстваў арганізоўваў), і на курсы гэтыя пайшлі не толькі ўладальнікі машын, але і тыя, хто марыў пра «Волгі», і жонкі нашы (між іншым, акрамя

хіба Галі Васілеўскай, ніводная з іх пасля машыну не вадзіла, прынамсі, па горадзе, хоць вучыліся старанна). Здараліся анекдатычныя эпізоды. Пераздача правілаў руху. Адказвае мая Маша. Выдатна. Маёр хваліць яе. Іду да схем я і «плаваю», як апошні двоечнік, — не прачытаў, перазасядаў напярэдадні ў прызідыумах ці ў рэстаране. Маёр сароміць:

— Іван Пятровіч! Што гэта вы! Як адказвала жонка і як вы!

Калегі смяюцца, але самі скрыжаванне пераехаць не могуць. Жонкі здзекуюцца з нас. Мы пасміхаемся: не знаем тэорыі, але ўсё ж водзім машыны, вы знаеце, але горада баіцеся, як злога звера.

Маша правяла кіламетраў дзесяць і... забаставала:

— Ваня, не магу. Траіх дзяцей вязу. Каму трэба гэтая гульня? — у машыне Ліна, Таня, Саша.

Марыя Міхайлаўна Карпава не здаецца, прытым, што і ў яе дзеці — Люда і Валодзя. Яшчэ больш зацятая Клаўдзія Іванаўна Хадкевіч, хоць Тарас ухваляе не жончына жаданне, а нежаданне маёй Машы весці машыну. Ды маці падбухторвае сын Лёня, а дачка Вета прытрымліваецца бацькавай думкі. Разлад у сям'і...

Стомленыя ранняй пабудкай — на світанні, каб па халадку ехаць, і гадзінамі 7-8 дрогкай дарогі, дзеці, ды і мы, дарослыя, змарыліся. І дзеці не мелі асаблівай цікавасці да руінаў Брэсцкай крэпасці, музея (вялікіх помнікаў яшчэ не было). Гэта моцна ўсхвалявала партызана Карпава. Ён абураўся: як так — ім, змене нашай, ужо нецікавы наш гераізм. Такое яго абурэнне я неаднаразова чуў на сходах, у рэдакцыях, калі хтось прыніжаў армейскую, партызанскую тэму. Здаралася, на падпітку пускаў у ход свае пудовыя кулакі, помніцца яго бойка з Няфёдам, яе пасля называлі «бой зуброў». Марыя Міхайлаўна мужавы палітычныя, патрыятычныя прынцыпы таксама заўсёды горача адстойвала.

Іх занепакоенасць абыякавасцю дзяцей усхвалявала мяне і Машу; нас палохала трэшчына ў калектыве, мы імкнуліся, каб у дарозе дзецям усё прыносіла радасць: сур'ёзнае, вялікае, гістарычнае і дробнае, побытавае — клёкат бусла на ліпе. Такой жа думкі трымаўся і дабрак Тарас; ён перажыў пекла нямецкага палону, але ўсе нягоды не зменшылі яго прыроднай дабрыні. Быў ён надзвычай спагадлівы, чалавекалюбівы, разважлівы, па-сялянску мудры. Здаралася, што жонка часам узнімала на яго голас. Тарас і на яе не злаваўся. Казаў: «Кожны выяўляе свой характар. Чалавека трэба прымаць такім, які ён ёсць, — што далі яму маці і бацька».

Між іншым, у Брэсцкай крэпасці і нам шмат што не спадабалася, адчувалася запусцєнне, і мы, вярнуўшыся, напісалі ліст у ЦК.

Да ночы спяшаліся ў пушчу. Раманаву я пісаў перад прыездам, але тыдні за два да паездкі, даты не мог назваць. Напярэдадні спрабаваў дазваніцца — не дазваніўся. Натуральна, хваляваўся, бо сябры мае, і асабліва жанчыны, спадзяваліся на маё сяброўства з Раманавым (Якое сяброўства! Шапачнае знаёмства! Хвалько!) А трэба ж размясціць шасцярых дарослых і семярых дзяцей. Дзе? Як? Што ў дырэкцыі пушчы ёсць?

Не было тады яшчэ нічога. Не было гасцініцы ў Каменюках. Не было Віскулёў. Ды каб і былі там будынкі — не для нас, плябеяў. Я і пасля іх наведаў адзін раз — Раманаў павадзіў нас з Андрэем.

Трывога мая была не дарэмнай. Раманава ў Белавежы не было — у далёкай камандзіроўцы. Сустрэў нас яго памочнік, малады лесавод, з міліцэйскімі замашкамі. Патрабаваў дакументы. Палагоднеў трохі, калі я паказаў дэпутацкае пасведчанне.

З усіх жаданняў дзяцей самае моцнае было пабачыць мяжу, заглянуць на польскі бок. Ды і дарослым цікава: што там у палякаў? А нічога там не было — працяг пушчы, якую яны высякалі. Мы не seклі. Да нашага часу.

— Можна праехаць уздоўж граніцы?

— Гэта вы дамаўляйцеся з пагранічнікамі.

Лесавод даў тэлефон.

Доўга я званіў, пакуль не знайшоў афіцэра, які зацікавіўся пісьменнікамі, чытаў некага з нас. Дазволіў праехаць да шашы Пружаны —Польшча, намошчанай яшчэ палякамі.

Вальер ужо быў, у ім хадзілі зубры і казулі. Мой Саша пералез цераз агароджу да іх, перапалохаў жанчын. А ў лес ляснічы ісці не дазволіў з дзецьмі. Ды і позна ўжо было, хацелася да прыцемак праехаць паўз мяжу.

Па лясной, зараслай травой дарожцы — ніхто тут не ездзіў — выехалі да мяжы. Нічога асаблівага: агароджа з калючага дроту, за ёй узараная паласа — з польскага боку ніякіх адзнак памежжа. Паўз агароджу наезджаная грунтавая дарога — для пагранічнікаў. І больш нічога. Спачатку і пагранічнікаў не відно было. Але дзяцей зацікавіла: край сваёй краіны! Пачатак чужой!

— Там, за дротам, Польшча?

— За паласой.

— І там жывуць палякі? — пытаўся малы Саша. — А якія яны?

З яго смяяліся — Маша, Ліна, Таня. — Як рыцары у казках.

На шчасце, і паляк паказаўся са стрэльбай на плячы, у незнаёмай форме, не вайсковай — ляснік. Стаяў каля памежнай паласы, глядзеў на нашы машыны.

— А можна яму памахаць рукой?

— А чаму не!

Дзеці высунуліся з машын, ветліва махалі рукамі, хусткамі. Ён сарваў форменны картуз, таксама памахаў.

А потым, каля шашы, дзе канчалася наша падарожжа ўздоўж мяжы, нас спынілі пагранічнікі. Капітан! Такі высокі начальнік сцішыў дзяцей. Дакументы ён правяраў для прыліку, хоць мае дэпутацкае пасведчанне разглядаў даўжэй, ды і жаночыя пашпарты, як бы звяраючы фота з натурай. Яўна яго цікавіла — якія яны, пісьменнікі, якія ў іх жонкі. На начлег параіў паехаць у Пружаны. Ламаліся нашы планы: я абяцаў сябрам, што зямляк мой Раманаў размесціць нас у пушчы. Дзецям вельмі хацелася пераначаваць у пушчы. Дарослым таксама. Чаму не пахваліцца: «Я начаваў у Белавежы».

Ад'ехалі. Спыніліся на нараду. Ехаць у Пружаны нікому не хацелася. Вяртацца назад з легендарнай пушчы ў захудалы гарадок?

Я прапанаваў бліжэйшую вёску пры выездзе з пушчы — сялянскія хаты. Жанчыны адзінагалосна запярэчылі.

— Запанелі вы, бабы.

— Нас трынаццаць чалавек. Хто размесціць?

Іх праўда. Але ж ехалі: салдат, якога вайна выварыла ва ўсіх пякельных катлах, партызан, які тры гады начаваў пад дубамі і хвоямі, і франтавік, які стаяў на Мурманскіх сопках, але маленства, юнацтва якога прайшло ў лесе. Тарас сказаў:

— А чаму нам не пераначаваць у лесе? Такая цяплынь!

Дзеці ажно заскакалі вакол машын.

— У лесе! У лесе! У лесе!

Праехалі яшчэ з дзесятак кіламетраў. Парадзела пушча. Здалося, канчаецца. І мы заўважылі лясную дарожку, а за якія трыста метраў добрую паляну з гатовай шукай дроў — ад прачысткі. Найлепшае прыстанішча! Бівак! З адным недахопам — без вады. Але вадой — як ведалі пра такі начлег — жанчыны запасліся каля канторы пушчы. Дзве новыя каністры, купленыя ў падарожжа тым жа практычным Тарасам.

Цямнела. Запалілі касцёр. Жанчыны выгрузілі прыпасы, як бы паказваючы, у каго іх больш, хоць прысмакаў адной гаспадыні хапіла б на ўсю ўжо добра згаладалую каманду, бо абедалі яшчэ ў Кобрыне ў сталоўцы.

Палаў касцёр. Лажыліся фантастычныя цені ад дрэў, у прагаліне паміж дрэвамі ўзнімаўся незвычайны тут, у лесе, серп маладзіка. Моргалі рэдкія зоркі. І — цішыня-цішыня. Толькі пакрыўджана адзывалася незнаёмая птушка. Пазней гугукнала вусцішна сава. Не помню, хто са старэйшых дзяўчат — Ліна ці Вета — выказала стоены страх:

— А калі зубры прыйдуць?

— Што ты! На такі агонь не сунуцца.

— Кажуць, яны машын не любяць.

— Яны матацыклістаў не любяць.

Пайшлі пацешныя аповеды, думаю, выдуманыя тымі гараджанамі, якія і блізка ад Белавежы не былі.

На сухой ігліцы заслалі настольнікі. Не думалі жанчыны начаваць у лесе, а захапілі ўсё неабходнае: посцілкі, посуд — талеркі, нажы, відэльцы, конаўкі і нават нехта, здаецца, Марыя Міхайлаўна, шклянкі.

Тарас, як факір, нямаведама адкуль дастаў пляшку «Сталічнай».

— Узяў-такі? — абурылася Клаўдзія Іванаўна.

— А як жа інакш, Клава! Без яе, весялухі, які баль! Каб у пушчы ды не выпіць!

Уладзімір Карпаў засмяяўся.

— Тарасе! Нас не пераплюнеш! — пайшоў да машыны і прынёс штоф «Белавежскай».

— У Белавежы дазволена толькі «Белавежская».

Рагаталі дарослыя і дзеці, пякучы на лаўцах сала і смажачы «воўчы» хлеб з накапаным на яго тукам. Ды, як казалі нашы бабулі, у любую добрую справу абавязкова ўлезе чорт. Так і ў той памятны вечар.

Мая і Тарасава машыны стаялі побач бліжэй да вогнішча, асвечаныя полымем. А Карпава — ззаду, у цені ялін. Што прыйшло на розум Марыі Міхайлаўне? Відаць, мела трохі страху. Трэба пасунуцца бліжэй да вогнішча, да гурта. Спакайней спаць будзе.

Не помню, ці сказала яна мужу, можа, і сказала, ды той, перад спакусай добрай вячэры, адмахнуўся. І тады яна вырашыла сама падагнаць машыну бліжэй — вяла ж удзень кіламетраў сто, і мы, «баявыя кіроўцы», яе пахвалілі.

Завяла. Рушыла. І ўляпіла пярэднім бамперам у багажнік Хадкевічавай машыны. Вай-вой! Што пачалося. Пад зорным небам! У Боскім лесе.

Тарас і яго Клаўдзія на міг анямелі. Валодзя Карпаў кінуўся да машыны і, заўсёды паслухмяны муж, тут не ўтрымаўся ад «партызанскай» лексікі.

Марыя Міхайлаўна ніколі ў жыцці не ўжывала нецэнзурных слоў, але і культурнымі, інтэлігентнымі словамі магла даць добры адлуп мужу, калі той яе дапякаў. Але тут змаўчала — вінаватая. Заплакала. Ды плач яе не ўлагодзіў Хадкевічаў, наадварот, вывеў з шокавага стану. Дабрак Тарас з цяжкім уздыхам сказаў:

— Ляснула мая «Даль палявая», — ганарар за раман, які выйшаў год ці два назад.

Ціхі стогн бедака запаліў пажар у сэрцы шумнай Клаўдзіі Іванаўны. Агонь гэты яна абрынула на Марыю Міхайлаўну, і без таго залітую слязамі.

— Варона ты камарынская (Карпава да вайны настаўнічала ў Камарыне).

Раней Марыя Міхайлаўна і Клаўдзія Іванаўна ніколі не сварыліся, былі добрымі суседкамі — жылі на адной пляцоўцы, дзеці іх сябравалі. Мы, як тры рыцары, сталі паміж жанчынамі. Марыя Міхайлаўна папрасіла прабачэння, але Клаўдзія Іванаўна не адразу супакоілася. Тым больш, што Валодзя яшчэ падліў масла ў агонь, прапанаваў:

— Клаўдзія Іванаўна, калі вы ўжо так перажываеце за ўмяціну, то давайце мяняцца... машынамі.

Але жанчыне ўсё яшчэ карцела ўесці суседзяў, і яна сказала:

— Партызан — партызан, а дурань.

Хадкевічава «Волга» — самая новая, паўгода назад купленая, нейкія тры тысячы набегала, а Карпава — чатыры гады жыла, і Марыя Міхайлаўна двойчы мяла ёй крылы — мела вопыт.

Не адмова мяняцца — словы, з якіх выходзіла, што партызаны — дурні, моцна абразілі бясстрашнага разведчыка.

Карпаў не лаяўся, не крычаў — ён задыхаўся ад абразы і крыўды. Тарас узлавана загадаў жонцы змоўкнуць. Змоўкла — адчула, што перабрала.

Я адцягнуў увагу сяброў на машыны. Агледзеў Тарасаву. Адчыніў багажнік. Адчыняецца, хоць трохі пагнуты. Самае прыкметнае — разбіты падфарнік.

— З-за чаго сыр-бор! Глупства. Я сваю «Пабеду» не так стукаў. А ў тваёй, Валодзя, той жа падфарнік. І пагнуты бампер. Цот на цот. Цэлая твая, Тарас, «Палявая даль». Кроплі адарвеш, Валодзя, ад «Вясенніх ліўняў». Сотню кропель.

Тарас засмяяўся. Чалавек надзвычайнай дабрыні, што прайшоў праз ваеннае ліха, ён усяму ведаў цану, сяброўства — вышэйшая вяршыня. І гэты мірны лес. Зорнае неба. І маладзік, што павітаў нас і патануў у лесе.

— Пайшлі вячэраць! Як сказаў філосаф, ісціна — у віне.

— Сёння — у «Белавежскай», — павесялела згадзіўся Уладзімір Барысавіч.

Дзеці, што хаваліся пад старымі хвоямі, з'явіліся на кліч чарадой, дэманструючы, што іх дружбу нішто не парушыла. Не з'явілася адна Вета, мабыць, ёй было сорамна за маці, за яе словы. Гэта засмуціла Тараса. Натуральна, не з'явіліся Марыя Міхайлаўна і Клаўдзія Іванаўна.

Гаспадарылі ля вогнішча Марыя Філатаўна і дзяўчаткі.

Мы, мужчыны, філосафы, творцы, пачалі з «пошукаў ісціны». Глыбока яна! Але — штоф нямелкі. І пляшка. Маша, ведучы дзяцей спаць, паківала нам пальцам:

— Глядзіце ж! Заўтра вам везці дзяцей. Мы за руль больш не сядзем.

Калі Маша і дзеці адышлі да машын, нямаведама адкуль Тарас дастаў яшчэ адну «пасудзіну ісціны». І шукалі мы яе, ісціну, да світання; хоць і п'яныя былі, але не шумелі, размаўлялі амаль шэптам — дзеці і жонкі спяць. Ды хто з жонак спаў!

Пошук ісціны змарыў нас, калі добра ўжо развіднела. Адразу траіх. І жонкі, якія чулі наш світальны шэпт, далі нам паспаць гадзін да дзесяці, пакуль не разбудзіў ляснік: хто такія, у пушчы нікому не дазволена начаваць!

Меліся ехаць па халадку, а ехалі па спякоце. Галовы — свінцовыя. Ехалі, як стажоры, — 50 кіламетраў, не больш. Адбылася адна невялічкая прыгода. На вузкай шашы калгас разаслаў лён, можа, на паўкіламетра. Незразумела, навошта рассцілаў? Ды ўцяміць не магу і зараз: малаціць, церці коламі машын? Лён рассцілаюць на лужайках, на пожнях, дзе вільготна.

Я ехаў вядучым. На льне дадаў хуткасці. І раптам адчуў — глухне матор, буксуюць колы, пад днішчам — незнаёмы гук. Спыніўся. Спыніліся ўсе. Першы здагадаўся Тарас: на кардан наматаўся лён. Што рабіць? Карпаў паспрабаваў даць задні ход. Не адмотваецца.

Падышоў стары вартаўнік. Карпаў не ўтрымаўся, каб не спытаць:

— Які дурань дадумаўся лён слаць на дарозе?

— Начальнік, пане.

— Усе вы тут паны!

Селянін чамусьці спалохаўся, што і яго лічаць панам.

— Не ўсе, паны, не ўсе, — і амаль цалкам перайшоў на польскую мову. — Пшапрашам, панове. То не ёсць бяда. Тут адзін пан ножам выразаў.

Палезлі і мы пад машыны з нажамі ў руках. Але нажы былі тупыя, і праца не здалася лёгкай.

На ціхім ходзе не намотвалася. Мінулі пастку. На шчасце, яна была адна.

Я, вядучы, дрэнна вывучыў карту, кепскім быў штурманам. Планаваў жа паехаць на Ваўкавыск і на Рось, рваўся наведаць цэментны завод, дзе больш за дваццаць гадоў назад праходзіў незабыўную практыку. А выскачылі на Бераставіцу. Хацеў павярнуць на Ваўкавыск — хлопцы запярэчылі.

Гродна. Дзе начаваць? У гатэлі? А ці будзе месца на трынаццаць душ?

Па маёй прапанове паехалі ў абкам. І нас там прынялі з абдымкамі. Размясцілі ў абкамаўскай гасцініцы. Машыны ў двары былога палаца, пад аховай. Толькі папрасілі выступіць — перад апаратам абкама і аблвыканкама.

Выступленне было гарачае — нямнога ж яшчэ часу прайшло пасля XX з'езду. Адліга. Абкамаўцы кляймілі гродзенскага пісьменніка Аляксея Карпюка, скардзіліся на яго нам, у прыватнасці, мне, аднаму з кіраўнікоў Саюза: «Прачысціце вы яму мазгі!» Такая пераадрасоўка мне асабіста падабалася: дэмакратычна! Карпюка не любіў Броўка, іншыя старэйшыя. Мне Карпюк падабаўся — яго прапановы на нашых пленумах, сходах сумбурныя, але смелыя: казаў чалавек пра тое, што балела і яму, і шмат каму яшчэ, толькі тыя не адважваліся гаварыць з трыбуны.

Камуніст Карпюк «ваяваў» з гродзенскімі партыйцамі. З кім іншым распарадзіліся б лёгка: прэч з партыі! Але як выключыць вядомага партызана, камандзіра атрада, кавалера двух баявых ордэнаў? Пасля асуджэння культа асобы! Трывалі, сціснуўшы зубы, прабіралі на бюро абкама, гаркама. Ды ўрэшце знайшлі зачэпку. Хтосьці з архівістаў, які разбіраў нямецкія дакументы, выявіў ашчадную кніжку на імя вязня лагера Аляксея Карпюка. Дыверсант Карпюк у 1942 г. быў арыштаваны і сядзеў у беластоцкай турме і ў лагеры Штудгоф. Але хто з савецкіх палонных меў нямецкія грошы і трымаў іх на рахунку? Грошай — кот наплакаў, паўсотня марак. Але факт! Надзвычайны! Не было ў літаратуры пра вайну другога такога факта. А пытанне ўзнікала ў кожнага: за якія заслугі лагерніку давалі маркі? За даносы!

Засмучаны Аляксей Нічыпаравіч прыехаў у Саюз пісьменнікаў. Раска-

заў сваю горкую эпапею. І пра грошы — тое, што я, партызанскі летапісец, не ведаў ды і не мог ведаць. А было так. Паўночна-заходнія раёны Беласточчыны і Гродзеншчыны немцы далучылі да Усходняй Прусіі, і жыхары гэтых раёнаў мелі нямецкае грамадзянства і зусім іншыя адносіны ўлад. Турма, лагер — агульныя, але правы савецкага і нямецкага грамадзяніна розныя. «Немцу» маглі прысылаць пасылку, грошы. Іх залічвалі на асабісты рахунак вязня: за добрыя паводзіны ён мог атрымаць нейкую суму і за яе купіць сабе хлеба, якога давалі так мала, тытуню, цыгарэт... Грошы Аляксею прыслаў бацька. І яны засталіся на кніжцы, пакарыстацца імі вязень не здолеў, бо прыкладных паводзін не паказаў, а праз паўгода з лагера ўцёк — у партызаны, дзе ў пачатку 1944 года стаў камандзірам атрада.

Сюжэт! Я паверыў Аляксею. І загарэўся напісаць. Але ж трэба праверыць! Магло быць такое? Пазваніў старшыні КДБ Пятрову.

— Было такое, Васіль Іванавіч?

Генерал здзівіўся:

— Першы раз чую. Сумняваюся. Але вы заінтрыгавалі мяне. Даручу маім хлопцам праверыць.

Пазваніў няхутка.

— Што некаторыя беларусы і палякі на Гродзеншчыне, Беласточчыне мелі статус немцаў — гэта праўда. І што былі ашчадныя кніжкі на вязняў... немцы акуратныя да сваіх, спаліць маглі чалавека, але дакумент захоўвалі.

— Значыцца, Карпюк не маніў?

— Думаю, сказаў праўду.

Я параіўся з Броўкам: а што, калі мы напішам Машэраву? Лёс пісьменніка. Трэба дапамагчы!

Пятро Усцінавіч узлаваўся.

— Ліберал вы, Іван Пятровіч. І ў любую казку верыце. Вы паслухайце, што ён гародзіць, ваш Карпюк...

— Партызан.

— Партызаны — камуністы. І галовы мелі.

Расказаў Макаёнку. Андрэй:

— Абавязкова напішы!

— Так, ты думаеш, проста. На бюро запросяць Броўку, а ён не церпіць Карпюка. І мне можа даць пад зад: не лезь раней бацькі наперад.

— Хадзем да Пілатовіча.

Пілатовіч займаў тады пасаду сакратара па прапагандзе. Выслухаў уважліва. Нічога не паабяцаў. Але я пазваніў Карпюку, каб напісаў апеляцыю. Тыдні праз два яго выклікалі на пасяджэнне бюро ЦК. Паслухалі. Паўшчувалі за цяперашнія выступленні: абкамаўцы ўсе грахі яго сабралі ў адну кучу.

Машэраў здзівіўся, чаму няма Броўкі ці Шамякіна. Але нас ніхто не запрашаў.

За выключэнне выступіў адзін Міцкевіч. Вымова без занясення ва ўліковую кніжку. Спагнанне, якое не псавала камуністу біяграфіі. Некаторыя сакратары сельскіх райкамаў мелі па некалькі такіх «ордэнаў».

Які радасны прыйшоў да нас Карпюк! Пілатовіч сказаў на бюро пра наш з Андрэем візіт да яго, пра нашу пазіцыю. І Аляксей падзякаваў пасвойму:

— Пра цябе, Андрэй, я ведаў, што ты чалавек.

— А Шамякін хто? — спрацакаваў Андрэй.

— Думаў, што бюракрат, як усе. Выслужваецца.

— Ну, Аляксей, цяпер я разумею, за што цябе б'юць.

— Хадзем жа вып'ем за чалавекаў!

Карпюк у рот амаль не браў, на ўсіх сходах «садзіўся на свайго канька» — кляйміў пісьменнікаў і асабліва членаў партыі, якія п'юць. Зала пляскала і... рагатала.

— Аляксей! Назаві — хто не п'е!

— Крапіва.

— Адзін? Ці не мала на дзвесце чалавек?

Але на іншым сходзе і Крапіву крытыкаваў — за тое, што маўчыць, калі трэба аўтарытэтнае слова.

Такім ён застаўся ў памяці, Алёша Карпюк. Чытач здзівіцца: пры чым тут падарожжа ў пушчу і Карпюк? Не магу растлумачыць. У начных успамінах пра Белавежу Карпюк не з'яўляўся. Быў ён у маім творчым «запасніку», але для другога цыкла — «Партрэты», калі хопіць сілы і часу напісаць іх. Але апынуўшыся ў слаўнай Гародні, што я мог апісваць? Каложскую царкву? Абкам? Не! Я ўспомніў жывога чалавека — майго калегу, амаль легендарнага ў сваёй барацьбе за праўду.

Абкамаўцы папрасілі нас на другі дзень выступіць перад сакратарамі сельскіх партарганізацый. Наша аўдыторыя! Але я прапанаваў далучыць да нашай групы Карпюка. Знайшлі Аляксея ў «Інтурысце», дзе ён працаваў. Пакрыўдзіўся, што не ведае пра наш прыезд. Згадзіўся выступіць з намі. Але прапанаваў запрасіць маладых паэтаў (не помню ўсіх, помню Дануту Бічэль). Абкамаўцы сваіх не падтрымалі: няма калі вершыкі слухаць — уборка. Не інакш, за адмову ўзяць паэтаў Карпюк на выступленне не з'явіўся. Яшчэ раз паказаў характар.

Пакуль мы выступалі (між іншым, трымалі нас сакратары паўдня, бо не толькі слухалі, але самі разгаварыліся — цэлыя сюжэты падкідвалі), жонкі нашы і дзеці добра набілі ногі, аглядаючы горад. Абкам даў ім кампетэнтнага гіда з краязнаўчага музея. Дзеці былі ў захапленні, асабліва Тарасаў Лёня і мой Саша.

А вось Навагрудак, які мы аглядалі на чацвёрты дзень падарожжа, ўражання не зрабіў: гола. Але зачаравала ўсіх Свіцязь. Паўдня там прагулялі. Купаліся. Настрой узняўся як ніколі. У абкамаўскай майстэрні падрамантавалі машыны, замянілі падфарнікі, зрабілі прафілактыку. І суседкі, якія два дні не размаўлялі і глядзелі адна на адну амаль варожа, на трэці дзень пасвятлелі, павіталіся і ўміг аднавілі свае суседскія, сяброўскія адносіны. Толькі за руль ніводная не папрасілася. Ці садзіўся хто-небудзь з іх пасля? Не ведаю.

Дзеці жылі падарожжам. У школу пайшлі — сачыненні напісалі пра Белавежскую пушчу, Гродна і Свіцязь. Мае ўсю доўгую зіму марылі пра новую паездку вясной і летам. Я абяцаў. Але абяцання не выканаў. Чаму? З-за працы. Раней, чым назваць так п'есу, Андрэй мяне называў «зацюканым апосталам». А між тым у Белавежы і ён не быў, хоць ездзіў у Брэст на прэм'еры спектакляў па сваіх п'есах.

Пасля майго знаёмства з Раманавым Андрэй патрабаваў, каб я завёз яго ў Белавежу. І вось нагода. Прэм'ера «Сэрца на далоні» ў пастаноўцы Волкава. Прапаную Андрэю паехаць — густу лепшага драматурга веру. У Віцебску, куды я ездзіў з Георгіем Коласам, спектакль мне не спадабаўся, але ў іх была свая інсцэніроўка. Брэст ставіў па маёй.

— А ў Белавежу паедзем? — спытаў Андрэй.

— Абавязкова.

Спектакль спадабаўся і мне, і Андрэю — суддзі высокага рангу. Узрадаваны, усцешаны ігрой акцёраў, я, што называецца, шыкануў банкетам. Распусціў усё, што меў, узяў у сябра, а потым Андрэй сам дадаваў: ён любіў бедным акцёрам зрабіць свята. Прачнуліся пасярод дня. Меліся ехаць у Белавежу. Машыну дырэктар тэатра паабяцаў. Заглянулі ў кашалькі — пазмрачнелі. З чым ехаць? З дзесяццю рублямі? Прыехаць да малазнаёмага дырэктара пушчы: накармі збяднелых творцаў? Можа, і пакорміць, чалавек шчодры, але дзе будзе наш пісьменніцкі гонар?

— Добра, што білеты загадзя ўзялі, — уздыхнуў я.

Андрэй абурыўся:

— Ты што, здаешся? Змагар! Брэст перавярну, крэпасць штурмам вазьму, але ў пушчу паедзем. Колькі мару! Баішся ты — адзін паеду. Сядзі ў нумары, глытай слінкі, а я ў тэатр! Пазычаць грошы.

— У каго пазычаць? У акцёраў?

Вярнуўся на машыне, узбуджаны, «прычышчаны», заведзены на ўсе свае абароты.

— Ляцім! А то дзень канчаецца.

Дзень быў вясновы, але хмурны; ранняя вясна: на паўночных схілах і пад густымі прысадамі ляжаў снег. Вось Камянец. Знакамітая Белая вежа. Але агледзім яе пасля. Хутчэй у пушчу, каб быць там да заходу сонца.

У Каменюках ужо збудавана была гасцініца. Не баяліся, што не будзем мець начлегу, — Раманаў дасць прытулак. Але ж найперш — у гасцініцу! Пустая. Займаем лепшы нумар — «міністэрскі» — два пакоі (у Віскулях, калі іх збудавалі, прытулак мелі толькі саюзныя міністры; усё гэта я распытаў у Раманава, калі пачаў пісаць «Снежныя зімы»).

Паставілі партфелі — і ў дырэкцыю пушчы, будынак побач. Пуста. Адна прыбіральшчыца. Дырэктар у пушчы. Дзякуй Богу, не ў Фінляндыі, дзе ён быў месяц назад, калі я дазваніўся ў яго кантору.

— І доўга ён будзе там? Ноч наступае.

— У нас час нямераны. Мы жывём у лесе.

— Ах, я ж забыўся: вы на мяжы паясоў (у Польшчы свой час).

Не зразумела жанчына.

— А вы хто?

— Рэвізоры. Чыталі Гогаля? Мы — адтуль. Во ён, — паказаў Андрэй на мяне, — гараднічы, а я Хлестакоў.

Жанчына засмяялася.

— Хлестакова я бачыла. У тэатры. Падобны.

— Дайце хатні тэлефон пана дырэктара.

Дала без допыту, на паперцы напісала імя, імя па-бацьку.

Агледзелі вальеры. Два аблезлыя зубры ніякай увагі да нашых персон не выявілі. Дзікі хоць зарохкалі, але няласкава, бадай пагрозліва. Адны добрыя казулі падышлі да загарадкі, выцягнулі шыі.

— Просяць хлеба.

— Дарагія мае! Мы сёння не абедалі. Пачастуемся самі — пачастуем вас.

З гасцініцы пазванілі Раманаву на кватэру. Адказала жонка. Бачыў я яе аднойчы — у Мінску на юбілеі ляснога міністра Мацвеенкі. Мяне ён запрасіў у якасці «вясельнага генерала». Меў я тады такі гонар. Там Раіса Іванаўна трымалася збоку, правінцыялкай. І я не ведаў, якая яна ў будзённым жыцці.

Аднак дзень канчаўся, а мы яшчэ не сустрэліся з гаспадаром пушчы. А без гаспадара што пабачым заўтра?

Набіраў я, але трубку перахапіў Андрэй.

— Добры дзень, гаспадыня Белавежы!

— Я не гаспадыня. Гаспадар — дзяржава.

— Але ж ёсць галоўны зубр? Важак!

— Вы маеце на ўвазе дырэктара?

— І дзе ён хаваецца?

— Ад каго яму хавацца?

— Ад нас.

— А вы хто?

— Мы? Мы — рэвізоры.

— Па якой частцы?

— Па зубрах.

— З акадэміі?

— Бярыце вышэй.

Гаспадыня засмяялася.

— Па зубрах была рэвізія.

— Была, але працавала дрэнна: даўжыню рагоў не вымерала, зуброў не палічыла, «ляпёшкі» не паважыла. Колькі закладае — колькі выкладае... Пуд? Два?

Раіса Іванаўна зразумела: не начальства, балаболы нейкія.

— Хутка вернецца галоўны ахоўнік? Зубрыха не прываражыць?

Раіса Іванаўна рагатнула.

— Халастых у нас няма, у кожнай свой зубр. Мой начуе дома.

— З'явіцца — няхай ідзе да нас. У шосты нумар.

— Заўтра дня не будзе?

— А мы хочам сёння! Мы такія... нецярплівыя. А вы яму клуначак звяжыце; сподні абавязкова...

Гэты грубы жарт жанчыну ўзлаваў:

— А мы такіх рэвізораў заганяем у вальер, але не да зуброў — да свіней.

Андрэй засмяяўся.

— Мая душа! У такім разе — прыходзьце вы. Далібог, не будзеце сумаваць. І да свіней нас гнаць не захочаце.

— Калі вы той, на каго думаю, то з вамі пазяхаць не будзеш.

— А на каго вы думаеце?

— Мы нядаўна ў тэатры былі. Людка! Як спектакль называўся?

Я ўзяў трубку, сур'ёзна прадставіўся.

— А гэта ваш сябра — Макаёнак?

— Ён.

— Я так і здагадалася. За свіней няхай прабачыць. Гэта яму за сподні і за рэвізораў. А яны абрыдлі нам, рэвізоры.

— Дык чакаць вас?

— Прыйдзем.

Андрэй тут жа скаціўся на першы паверх, у рэстаран. А дамаўляцца з афіцыянткамі — ох, як ён умеў! Бадай гэтак жа, як Глебка.

Праз паўгадзіны ў шостым «люксе» быў накрыты стол не горшы за тыя, што накрывалі ў Віскулях — Хрушчову і яго хеўры.

Па стуку пратэза на лесвіцы здагадаліся — ідзе. І я ажно захваляваўся: што нам скажа гаспадар?

Стук у дзверы.

— Можна?

— Калі ласка.

— Іса! — так Раманаў упарта называў жонку. Жартуючы, тлумачыў: «Для эканоміі. Словы трэба эканоміць і на словах трэба эканоміць».

У калідоры Уладзімір Сяргеевіч са мной пацалаваўся.

— Здаровы быў, пане Іване!

— А гэта Андрэй Макаёнак, — прадставіў я сябра.

Раіса галасіста засмяялася.

— А я здагадалася. Ніводзін начальнік не дазволіў бы сабе так размаўляць з жонкай дырэктара.

Раіса была не з тае пароды, якую на сучасных конкурсах прыгажосці абвяшчаюць «міс года» ці «міс рэспублікі», але ў яе гады я прысудзіў бы ёй адно з першых месцаў — сімпатычна-прывабная жанчына, якімі славіцца наша зямля: выразны твар, жывы, з пастаяннымі смяшынкамі ў вачах, бялявая, проста падстрыжаная, акуратна прычэсаная, для свайго ўзросту прыгожа акругленая. Такой яна заставалася яшчэ сорак гадоў, на працягу якіх я сустракаўся з Раманавымі, на жаль, з кожным годам усё радзей.

Скінуўшы паліто, Уладзімір Сяргеевіч зазірнуў у пакой, дзе накрыты стол, спачатку нахмурыўся — пакрыўдзіўся, але тут жа засмяяўся:

— Іса! Ты паглядзі! Во гэта госці: са сваёй дзічынай прыехалі. Дзе палявалі? Яўна браканьеры. Ды што зробіш! Мусім аскароміцца ў Вялікі Пост.

Набліжаўся Вялікдзень.

Нашы пісьменніцкія застоллі заўсёды вясёлыя, акрамя памінак, хоць і там часам пад канец забываліся, з якой нагоды сабраліся. Але, далібог, не помню другой такой бяседы, як тая наша белавежская. За сталом сабраліся тры выдатныя гумарысты на аднаго слухача. Па багацці выдумак, анекдотаў, паляўнічых «утак», падслуханых у народа, сачынёных самымі смешных прыгод — жываты балелі! Раманаў бадай пераплюнуў лепшага камедыёграфа. Гэта Андрэй сам прызнаў. Асабліва цікава расказваў яўрэйскія анекдоты.

Ды і Раіса Іванаўна мела востры язык.

Гадзін да трох ночы рагаталі пад шум пушчанскіх сосдаў. І хтось з нас заключыў: не занудлівая філасофія, не сухая палітыка, не дзяльба ўкрадзенага, а гумар, жарт, смех закладае асновы сяброўскага саюза, цэментуе яго на доўгія гады.

Не адразу заснулі мы з Андрэем — доўга яшчэ гаварылі пра Раманавых. Персанажы нашых будучых твораў! Аднак ні Андрэй, ні я не напісалі, хоць сюжэты мелі: можа, праз тое, што расказвалі адзін аднаму часта, таму і не напісалі. Андрэй задумы новых п'ес правяраў на слухачах. Я новы сюжэт нават Машы не расказваў, баяўся: раскажу — не напішу. Сакрэт творчасці!

Дырэктар позна лёг, але прачнуўся рана. І нас падняў: снедаць да сябе на кватэру. Прапанаваў нейкую сваю адмысловую настойку, рэцэпт якой ведаў толькі ён адзін. Ды мы былі ворагі пахмелля; сапраўды, я ніколі не пахмяляўся, Андрэй — вельмі рэдка, у выключных выпадках.

Уладзімір Сяргеевіч (сам за рулём «газіка») павёз нас па пушчы, якая звінела галасамі ранніх птушак, хоць было яшчэ «зімна», як сказаў егер, які набіваў кармушкі сенам — для зуброў.

Там чакалі іх, схаваўшыся пад густымі елкамі. Убачылі аднаго зубра, які стаяў пад дрэвам.

— Гэта дзед. Адзіночка. Яму ўжо не хочацца ў статак. Адгуляў.

— І мы, старыя, будзем такія?

— А ты думаеш, будзеш падскокваць да ста гадоў, як малады бычок?

— Цішэй.

Трашчала галлё пад дрэвамі і на дрэвах. Ішоў статак — галоў дванаццаць. Маладыя маткі з цялятамі.

Дзіўна ўсхвалявалі, ажно сэрца закалацілася. Ішлі ўладары пушчы — князёўны і нашчадкі. Пабачыць такое дорага каштуе. Я пашкадаваў, што пры тым даўнім падарожжы ў пушчу не ўдалося паказаць дзецям гэты цуд прыроды.

Між іншым, сустрэча наша і яшчэ аднаго госця з зубрамі дала мне першы раздзел рамана «Снежныя зімы». З пушчы пачаў я «раскручваць» складаны лёс партызана Івана Антанюка. Ды і Раманаў ёсць. Карнач у «Атлантах і карыятыдах» — спалучэнне Макаёнка і Раманава. Яны як бы дапаўнялі адзін аднаго. Пісаў я аднаго Андрэя, але Маша, чытаючы рукапіс, раптам адкрыла: «А тут Карнач — Раманаў».

Так рэальныя людзі ўваходзяць у раманы, п'есы, кінафільмы.

Пасля сустрэчы з зубрамі пушча адкрыла нам казачную веліч. Да таго быў лес. Сярод такіх самых дубовых лясоў я вырас. Але той гомельскі лес не стаў легендай для мяне. Малады яшчэ быў, каб эстэтычна і нават містычна ўспрымаць прыроду.

Пад'ехалі да невялікага азярка. На плёсе плавала чарада качак, не зважаючы на шум машыны.

— Загубім адну душу? Вунь таго прыгажуна-кагара?

— А ты ўпэўнены, што ён зрабіў сваю справу? Многа жонак. Я і зайздрошчу, і спачуваю яму, — жартаваў Андрэй.

— Хто з вас лепшы стралок?

Андрэй быў выдатны стралок: у Каралішчавічах з малакаліберкі збіваў шышку па заказе. Я сказаў пра гэта Раманаву, які прынёс з «газіка» стрэльбу. Але Андрэй перадаў яе мне.

— На, мазіла. Прамаж. Такога нельга забіваць.

Я доўга цэліўся. Але качар падплыў да качак.

І я стрэліў у неба.

Качкі са свістам пранесліся над намі, адна нават «плюнула» на машыну, насмяшыўшы нас.

Раманаў сказаў:

— Я ўзяў бы цябе, Іван, памочнікам па ахове фауны.

— Праспіць не толькі качак, але і зуброў, — пажартаваў Андрэй.

Агледзелі будоўлю ў Віскулях. І ніхто з нас не падумаў, што гэты няскончаны гмах стане сумна-гістарычным помнікам тупагаловасці людзей, што самі сябе абвясцілі кіраўнікамі «новай генерацыі». Ды генерацыя стала дэгенерацыяй — служкай капіталу.

Выступілі на пагранічнай заставе надзвычай цёпла сустрэтыя ахоўнікамі мяжы. Ва ўдзячнасць мелі шыкоўную лазню, якая пахла пушчай, і абед, які чамусьці нагадваў матчыны святочныя абеды, калі мы зрэдку наведвалі іх, сваіх маці.

Пакрыўдзілі Раісу Іванаўну: спазніліся, а яна цэлы дзень рыхтавала незвычайны абед. Дасталося не нам — Уладзіміру Сяргеевічу і знаёмаму начальніку заставы. Прасіла застацца яшчэ на дзянёк. Не! Білеты ў кішэні.

Сяржант адвёз нас на Брэсцкі вакзал. Ледзьве паспелі на цягнік.

У вагоне, калі забыўся пагранічны абед, елі Раісін — катлеты з маладой аленіны, піражкі з журавінамі. Частавалі суседзяў, бо наклала шчырая гаспадыня на цэлы ўзвод.

Суседзі заміналі ўспомніць дзівосы нашага гасцявання. Вылілі незабыўныя ўражанні ў мяне на кватэры — Машы і маім дзецям. І, дарослыя, яны папікалі бацьку, што не звазіў іх яшчэ раз у Белавежскую пушчу.

Ды і самі мы з Андрэем паспелі з'ездзіць адзін раз. Хутка Раманаў апынуўся ў Мінску — намеснікам міністра лясной гаспадаркі. А без яго ў пушчу не цягнула.

Але і ў міністэрстве мы яго знаходзілі. Не, хутчэй ён нас знаходзіў. І вазіў па лясах. Планавалі з'ездзіць у Белавежу з дзецьмі. Не помню — чаму не атрымалася. Ездзілі ў Бярэзінскі запаведнік, на Браслаўскія азёры.

А гады праз два-тры Раманавы наблізіліся да нас тэрытарыяльна: гарадская блізкасць, хоць у адным доме, — не тое. Дазволілі і кіраўнікам мець дачы. І Раманаў будаваўся побач з вялікім пасёлкам, дзе жыў Андрэй — за які кіламетр; па лясной сцежцы мы даходзілі за дзесяць мінут — Андрэй, у назе якога сядзела з вайны дванаццаць асколкаў, Уладзімір — на драўляным пратэзе. Праўда, ён хадзіў рэдка — прыязджаў на машыне, а на машыне — кіламетры чатыры: з кальцавой дарогі на «дзяржаўную», што вяла да рэзідэнцыі «Заслаўе-2» (дзе «Заслаўе-1», дагэтуль не ведаю). Была яшчэ адна прычына: на дачы Макаёнка гаспадарыла, даволі крута, Люба — гераіня аповесці «Тайна драмы» («Аповесць пра сябра»).

Раіса не любіла Любу. Уладзімір Сяргеевіч сказаў мне адкрытым тэкстам, а Люба не любіла Раманавых. Завошта? За іх весялосць, розум, дасціпнасць? Па-мойму, з гэтай нагоды ў Андрэя адбываліся «крутыя разборкі» з Любачкай.

— Я сказаў ёй: сяброў ты мне не заменіш, не тыя ў цябе звіліны.

Машу і мяне Люба таксама не любіла, на нашу дачу наведвалася толькі тады, калі ехала з Андрэем з горада. Мы з Андрэем прывыклі бачыцца амаль кожны дзень. І пляваў я на яе адносіны. Падумаеш, «цаца»! Хоць менавіта я быў іх арбітрам, нярэдка мірыў. Андрэй мацюкаў мяне словамі Пестрака: «Атлусцелы правадыр беларускіх апартуністаў». Я часта абараняў яе — жанчына! Але ўдзячнасці ад яе ніколі не чуў, бадай ні разу не сказала банальнае «дзякуй». Яна трымалася дужа высокай думкі пра сваю персону; урачом была бяздарным, а ганіла амаль усіх сваіх калег — жанчын, мужчын чапала рэдка.

Калі Андрэй памёр, я не бачыў яе слёз над трунай і магілай. Але калі селі за сталы на памінкі (я вёў рэй, удава сядзела побач), Люба ўбачыла, што ў сярэдзіне доўгага стала мая Маша сядзіць побач з Ленай, першай Андрэевай жонкай, маці яго дзяцей. І Люба раптам горка разрыдалася. Я пачаў супакойваць. І пачуў ашаламляльнае: «Я знала, што Марыя Філатаўна ненавідзіць мяне».

— Адкуль вы ўзялі, Любоў Іванаўна? Марыя Філатаўна любіла вас, — суцяшаць можна і няпраўдай.

— А з кім яна села! З Леначкай!

— Яны так доўга сябравалі...

Гэта была праўда, і ад яе Любачка разрыдалася яшчэ мацней: адчула, што няма ў яе за гэтым сталом сяброўкі, акрамя хіба сястры.

Між іншым, мяне абуралі паводзіны яе бацькі: хаваў Саюз пісьмен-

нікаў, камісія, а ён гаспадарыў, хоць пры жыцці Андрэя быў «ніжэй травы, цішэй вады», заўсёды трымаў зяцеў бок і асуджаў дачку: маўляў, не ўмее гаспадарыць. Паказаў, як умее гаспадарыць ён.

Аднак — пра Раманавых. Паколькі Раіса заўсёды ездзіла з мужам (ён з адной нагой ліха вадзіў машыну), у Андрэя збіраліся рэдка. Часцей у мяне. Маша шчыра любіла гэтую вясёлую пару. А каго яна не любіла! Але калі дача была гатова, часцей збіраліся ў Раманавых.

Андрэй прыходзіў да мяне за два кіламетры.

— Вып'ем? — пытаўся я.

— Не.

— Не?

— Даўно мы не былі ў Раманавых. Трэба зарадзіцца яго гумарам. А то не ідзе мая камедыя.

Ехалі «зараджацца». Не таілі, чаго прыехалі. І яны, і Валодзя, і Раіса, рады былі нам, і сапраўды такі зараджалі творцаў сваімі характарамі, рысы якіх ёсць не ў аднаго героя камедый Макаёнка і не ў аднаго героя «Атлантаў і карыятыд».

Хто не меў такіх сяброў, той напэўна не зразумее, якое гэта шчасце мець іх! Якім змястоўным, напоўненым робіцца жыццё ў такім братэрскім калектыве. І іх цяжка бачыць у бяссонныя ночы і... пісаць для нашчадкаў, сваіх дзяцей, як яно распадалася, тое вясёлае жыццё. А распадалася яно трагічна раптоўна. Дваццаць гадоў назад памёр Андрэй. Асірацелі. Потым, у 1991-м, лёс ударыў Машу і мяне — памёр наш сын Саша. Маша пасля яго смерці не ездзіла ні на якія курорты, не хадзіла ў госці — якія жарты! Пажыццёвая жальба ці не была прычынай яе цяжкай невылечнай хваробы. Пяць гадоў назад я страціў самага дарагога чалавека. Маша натхняла, радавала мяне 57 гадоў. О, як многа яна давала мне: ласкі, цеплыні, жаночых характараў, як памагла ў працы — многія тысячы старонак надрукаваны ёю! А колькі выпісана характараў!

Год назад званок. Жаночы голас:

— Ад Раманавых. Памерла Раіса Іванаўна.

— Божа! Што здарылася?

Улетку яны заязджалі да мяне на дачу. Тыдні два таму я гаварыў з ёй па тэлефоне. Давала рэцэпты ад хвароб маіх.

У той трагічны дзень ёй пазваніла ўнучка Аня, выкладчыца англійскай мовы ва універсітэце.

— Бабуля, я іду дадому. Што купіць?

Атрымала заказ. Не больш гадзіны патраціла на пакупкі. Прыйшла дадому. Яна мела ключы. Адчыніла. Бабуля ляжыць на падлозе. Без дыхання. Інсульт.

Я адчуваю сябе вінаватым, што не прысутнічаў на пахаванні. Не змог пакланіцца ёй. Кланяюся. Кожны раз, калі кланяюся светлай памяці Машы. Сёння, 17 сакавіка, у Машы дзень нараджэння, ёй — 82.

Зрэдку званю Раманаву. Ніякага гумару. Сур'ёзная размова. А што сур'ёзнае? Нашы хваробы ды абрыдлая палітыка, ад ведання якой жыццё не робіцца лягчэйшым. Няхай бы ў дзяцей нашых яно было весялейшае. Няхай бы яны пазналі, што такое вясёлае жыццё. Нам пашанцавала — мы мелі ладны кавалак вясёлага жыцця. Дзякуй Лёсу і Богу.

*Сакавік 2003*

## ТАЙНА ДРАМЫ

Памёр Андрэй раптоўна. 12 лістапада 1982 года мы адзначалі яго дзень нараджэння ў новай кватэры, якую ён атрымаў чатыры дні назад. Мэблю яшчэ не купіў. А 16 лістапада ў адзін міг у бальніцы, у прысутнасці жонкі-ўрача чалавека не стала — тромб у лёгкае.

Мінула 20 гадоў, трагічных для мяне, але той боль помню дагэтуль, ён побач з болем за Сашу (1991), за Машу (1998). Боль за сябра такі ж гарачы, да слёз, як і боль за самых блізкіх людзей, — сына і жонку.

Але пра гэта я пісаў. Помнік сябру? А які ён можа быць у пісьменніка? Успаміны — самы трывалы, бо, як кажуць, рукапісы не гараць. Надрукаваныя ў часопісе, у кнізе — вечныя. Я іх нямала напісаў — успамінаў пра настаўнікаў, сяброў; калі буду жывы, дабяруся да дзеячаў іншай сферы — да палітыкаў.

Пра П.М. Машэрава я напісаў, па-мойму, нядрэнна, лепш, чым некаторыя журналісты, бо выявіў характар. Хоць «узрадавалі» мяне, што Наталлі Пятроўне не спадабалася; дрэнна, што перад напісаннем ці апублікаваннем не пагутарыў з членамі сям'і: у блізкіх свой адметны погляд на бацьку, на дзеда, на брата. Хачу напісаць пра Івана Палякова, гадоў дваццаць карціць. Паўгода таму ён мне пазваніў: «Ваня! Прыязджай! Я табе такія матэрыялы дам!»

— Іван Яўсеевіч! Чаму вы не зрабілі гэта гадоў 15 назад? А цяпер я аслеп, абязножаў.

Але паабяцаў заехаць. І не заехаў. Хоць улетку яшчэ з кіем клыпаў. Цяпер паказваць сваю нямогласць не хацелася. А хіба ён не такі? Жонка сказала, што ў яго дрэнна з нагамі. Чалавеку 88! Не памагае, выходзіць, што ён многа хадзіў — партызан, паляўнічы, рыбалоў, а я ў арміі ездзіў — зенітчык, пасля прагна пісаў начамі, а ўдзень засядаў у мностве рад, рэдкалегій, парткамітэтаў, саветаў — дайшоў жа ад сельскага савета да Вярхоўнага Савета СССР. Высока лёс узносіў...

Аднак я адхіліўся. Вяртаюся да помнікаў-успамінаў. Сапраўды, я напісаў іх больш, чым хто іншы з маіх калег, калі не лічыць літаратуразнаўцаў, але ў іх іншы жанр, іншая манера, стыль, і пішуць яны, як правіла, пра тых, каго ў жыцці не ведалі, хто заняў сваю нішу ў іерархіі да іх, даследчыкаў, нараджэння.

Першыя мае ўспаміны, безумоўна, былі пра Якуба Коласа, з якім меў шчасце сустракацца неаднойчы, але, напэўна, вялікая розніца ва ўзросце, літаратурная нявопытнасць не далі мне магчымасці напісаць чалавечы характар, глыбіню яго і веліч. Ды і сам Колас-класік не вельмі ахвотна адкрываў скарбонку сваёй душы перад маладым вераб'ём. Ён па прыродзе сваёй быў скрытны. Плюс да ўсяго ў той пасляваенны час стваралі своеасаблівы культ класікаў (не толькі ў нас, і на Украіне — Тычына, Рыльскі; у рускіх гэта менш праявілася, «культ» Шолахава выяўляўся зусім паіншаму, яго не ўзнялі над народам і калегамі — не даваўся казак).

Я запісаў гэтыя думкі ў дзённіку і меў неасцярожнасць надрукаваць. Лепшы сябра мой, сын Канстанціна Міхайлавіча — Даніла, дырэктар музея Коласа, разумны чалавек, пакрыўдзіўся, ледзь паразумеліся. Зусім беспадстаўна пакрыўдзіўся на мяне сын Броўкі — Юры. Я любіў, люблю Пятра Усцінавіча, доўга працаваў пад яго кіраўніцтвам, шмат чаму ў яго навучыўся, але меў неасцярожнасць у дзённіку запісаць выступленне на вечары ўдавы Міхася Лынькова аб узаемаадносінах гэтых двух добрых творцаў, а яны былі складаныя з часоў даваеннай «чысткі», калі пісьмо ў ЦК,

артыкул у газеце рабіліся даносамі і вызначалі лёс чалавека, жыццё яго, не толькі грамадскае, але і фізічнае.

Лепшым помнікам я лічыў свой успамін пра земляка, суседа па кватэры, па дачы, глыбокага празаіка Івана Мележа. Удава Лідзія Якаўлеўна дзякавала мне. Але тут жа «плюнула» на маю лысіну, апублікаваўшы дзённікі Івана, чалавека мніцельнага, раўнівага. Дагэтуль не магу зразумець яго адносін да мяне. Праз плот гутарылі як лепшыя сябры, а ў дзённіку — іншае. Ад чаго такая раздвоенасць? Ад зайздрасці? Дык яму ж крытыка надавала ўвагі намнога больш, чым мне. І прэміі ў яго былі саюзныя. Праўда, з чытачамі было інакш, чыталі больш мяне. Няўжо гэтаму зайздросціў? Ці трэба друкаваць дзённікавыя запісы пра тых, хто яшчэ жывы? Пасля публікацыі ў «Полымі» і выхаду кнігі «Роздум на апошнім перагоне» я перастаў друкаваць дзённікі, хоць іх у мяне два дзесяткі агульных сшыткаў. Я вынайшаў новую форму: не мемуары — навелы (цікавыя эпізоды) з свайго жыцця ад маленства да старасці пад агульнай назвай «Начныя ўспаміны». Сустрэты яны чытачамі прыязна. Яны такі сапраўды нараджаюцца ў час бяссонніцы.

Лепшыя ўспаміны — пра Пятра Глебку. Напэўна, таму, што я моцна любіў гэтага простага, народнага, вясёлага і глыбока эрудыраванага чалавека. Вельмі любіў ездзіць з ім у камандзіроўкі, стараўся пасяліцца ў адным нумары. Праца ў Камітэце па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях, сяброўства з іншым мудрацом Аляксандрам Пракоф'евым былі для мяне святам.

Не быў я ў блізкіх адносінах з Максімам Танкам, хоць разам працавалі ў СП. Але я любіў Яўгена Іванавіча. Зблізіліся мы, калі ён хварэў, — я часта наведваў яго ў бальніцы. І я шчыра і любоўна напісаў пра яго і прытым гэтак жа хутка, як пра Андрэя.

Праз дваццаць пяць год пасля смерці Піліпа Пестрака напісаў і пра яго — любіў гэтага звестуна, змагара.

Не менш любіў Броўку, ведаў усе праявы яго складанага характару, а напісаў холадна-афіцыйна. Чаму? Вось яшчэ адна загадка. Цяпер дапаўняю вобраз яго эпізодамі з «Начных успамінаў». Але навела «Трымай дыстанцыю» выяўляе не лепшыя якасці Броўкавай незвычайнай асобы. Безумоўна, час на яго ўплываў больш, чым на многіх іншых. Меў ён такую рысу характару, як страх. Але гэта асобная тэма, сюжэт, нашу яго даўно і «перанасіў» — на «роды» не хопіць сілы. Закранаў у навеле «Незабыўны юбілей», але там — не для масавага чытача, толькі хіба для пісьменнікаў, і не маладых — для тых, хто сам перажыў «чыстку» і вялікі подзвіг — вайну.

Звычайна я абмяжоўваў успаміны пра тых, хто пакінуў нас, невялікім аб'ёмам — адзін-два аркушы (20-30 старонак) і, як правіла, мала кранаў асабістае, сямейнае жыццё, больш творчае, грамадскае.

Успаміны пра Андрэя пісаліся інакш — без абмежавання аб'ёму, з біяграфіяй ад маленства да сталасці: вайна, вучоба, каханне, сям'я — Алена, Ала, Сяргей. Не мог назваць вінаватага ў яго разводзе з Ленай, бо Андрэй так і не сказаў прычыны нават мне. Ведаў, што Андрэй не трымаўся евангельскага запавету. Ды і цяжка яму было: жанчыны ліплі да яго, як мухі на мёд: прыгажун, весяльчак, гумарыст. І ён не цураўся іх, не адштурхоўваў, гарнуў да сябе. Былі разумныя кабеты, дзве з іх маглі б стаць добрымі жонкамі. Былі звычайныя распусніцы, мне сорамна было за Андрэя, я асуджаў яго, ён рагатаў, часам казаў сур'ёзна:

— Такіх, як твая Маша, няма ў наш час. Дзе знайсці такую? А такой, як Лена, я не хачу.

Я трымаўся іншай думкі і пісаў у раманах і аповесцях прыгожых фізічна і духоўна жанчын (за гэта мяне крытыкавалі нават у той час ханжаскай ідэалогіі).

Я расказаў гісторыю Андрэевай жаніцьбы з Любай Дубовік. Не напісаў тады (цяпер пішу), што, як казалі ў нас, чорту трэба было стаптаць сто пар лапцяў, каб звесці двух такіх розных людзей. Абсалютна розных.Чалавека ў высокім, шырокім, глыбокім сэнсе — жыццялюба, філосафа, творцу з сатырычным складам розуму, праўдалюба, смелага ва ўсіх праявах жыцця — грамадскага, творчага, бытавога і — дробную мяшчанку, прыжывалку, анучніцу, слабога ўрача з нізкай агульнай культурай... У «Тайне драмы» я пра гэта не пісаў, хіба толькі адно — некампетэнтны ўрач, няправільна лячыла. І праўда: бачыў, як яна лячыла Андрэя. Я здзіўляўся. Маша, фельчар, абуралася, калі я расказваў ёй, як Любачка (так яе называлі чамусьці ўсе нашы жонкі; Ядвіга Паўлаўна Навуменка называла яе «бульбінай» нават у прысутнасці Андрэя, што яго не смяшыла, бадай крыўдзіла) лячыла мужа: ціск высокі — укол, нізкі — укол, забалела нага, у якой сядзела дванаццаць асколкаў ад мін, — укол... на ноч, для патэнцыі — укол. Ездзіла да знахарак, прывозіла іх рэцэпты.

У аповесці я нічога абразлівага пра Любу не напісаў, акрамя вось гэтага заключэння, што ўрач яна бяздарны, ды і тое — агульнымі словамі, без дэталяў, якія паведамляю тут. Не напісаў, здаецца, нават пра агульную культуру. А яна на радасцях, за сталом у сваіх бацькоў пасля ЗАГСа, дзе мы з Машай (па просьбе Андрэя былі сведкамі — засведчылі, дурні), выявіла гэтую культуру: расказвала, што да знаёмства з Андрэем не чула пра такога драматурга (а камедыі яго ішлі ва ўсіх рэспубліках — 500-700 тэатраў ставілі). А пра Шамякіна чула, што ёсць такі начальнік, якога ў лечкамісіі кладуць у люкс. Для яе вышэйшая ацэнка чалавека — люкс.

«Тайна драмы» ішла ў студзеньскім нумары «Маладосці» за 1984 год. Да таго часу я меў столькі выданняў на многіх мовах, што яшчэ адна публікацыя не з'яўлялася падзеяй. Іншыя ўспаміны прайшлі бадай што непрыкметна для мастацка-літаратурнай прэсы. Не чакаў я з нецярпеннем выхаду нумара.

Да таго ж было не да выданняў — са мной здарылася бяда, нечаканая і недарэчная. Участковы ўрач угаварыла легчы ў бальніцу на абследаванне: за здароўем не пісьменнікаў — чыноўнікаў — сачылі, а я ж быў дэпутат ВС СССР, старшыня Вярхоўнага Савета БССР. У бальніцы вырашылі абследаваць страўнік — працэдура цяжкая і непрыемная. Урач Антон Адамовіч, што яе праводзіў, працуе і цяпер. Гаварун: у час працэдуры ўмее заваражыць пацыента вясёлымі размовамі. Псіхолаг! Я нармальна перанёс экзекуцыю. Пасля вячэры адчуў сябе блага. Варта было ўзняць трывогу. Не ўзняў — сціпласць сялянская. Знясілены засынаў і прачынаўся. Будзілі прыступы болю. На познім зімовым досвітку дацягнуўся да сігналу трывогі. Была субота. Дзяжурыла загадчыца аддзялення Ірына Аляксандраўна Аляшкевіч — дабрэйшая жанчына, разумны ўрач. Без доўгага агляду яна здагадалася, што здарылася. Нічога не сказала мне, чым бадай пакрыўдзіла. Але праз паўгадзіны з'явіўся хірург Філіповіч Мікалай Яўстафавіч. За ім прыехаў хірург Шорт, кардыёлагі. З'явіўся сам начальнік Упраўлення Уладзімір Сяргеевіч Улашчык, бледны Адамовіч, і, нарэшце, сам міністр Мікалай Саўчанка.

Я зразумеў, што справа мая — швах. Пахне смажаным. Кансіліум быў

нядоўгі. Дыягназ не абвясцілі. Выйшлі прафесары — з'явіліся сёстры: аналіз крыві, электракардыяграма. У хуткім часе вяртаецца Філіповіч. Без сакрэтаў абвяшчае:

— Іван Пятровіч, трэба аперыраваць. Тэрмінова. Непрыемная з'ява, — назваў медыцынскі дыягназ па-лацінску, тут жа растлумачыў: — Прадзіраўлена кішка, развіваецца перытаніт...

— Аперацыя дык аперацыя, — помню, што страху не было, з'явіўся нейкі нават гумарыстычны настрой.

Хірург выйшаў. Я пазваніў Машы, у люксе быў тэлефон. Пакуль яна, нябога, дабегла з Купалы да Чырвонаармейскай, мяне ўсыпілі, завезлі ў аперацыйную і... разрэзалі. Як расказаў пасля Філіповіч, выразалі кавалак кішкі, амаль цвелай, сшылі жывыя канцы. Жыві, Іван!

Але выходзіў я з наркозу цяжка. І ўвогуле было цяжка. Падняўся толькі на дванаццаты дзень. Кажуць, у наш час падымаюцца пасля такіх складаных аперацый на другі дзень, і падрыхтоўка прасцейшая. У наш час усё ўпрошчанае, адно жыццё вельмі складанае.

Пакуль ляжаў у рэанімацыі — пускалі да мяне адну Машу. Адвезлі ў люкс (дарэчы, у тэрапіі) — адразу з'явіўся калега-спачувальнік. Па ўласнай ініцыятыве ці па «просьбе» крытыка майго. Не хачу думаць дрэнна нават пра Мікалая Ягоравіча. Тым больш пра Аляксея. Гэты любіў наведваць калег і расказваць пра сябе, толькі пра сябе — які ён таленавіты і як яго не цэняць. Часам прыходзіў, калі працавалася, і дзве-тры гадзіны ляцелі, як кажуць, кату пад хвост. Такіх няпрошаных візітаў я не любіў, хоць ставіўся да гэтага універсала паблажліва: ён многа ведаў і часам паведамляў пра тое, што да мяне, сакратара Саюза, не даходзіла.

Натуральна, што госць мой, якому я ўзрадаваўся, пачаў з галоўнага — з партыйнага сходу, які адбыўся праз тры дні пасля маёй аперацыі. Сход быў на іншую тэму, але ў цэнтры апынуўся я, мае ўспаміны пра Андрэя.

— Першы выступіў Мікола Матукоўскі. І, ведаеш, гаварыў з гневам, ажно пачырванеў. Маўляў, так пісаць нельга. Нельга ўвогуле ў літаратуры сацрэалізму, тым больш кіраўніку Саюза, дэпутату. Абразіць няшчасную жанчыну...

— Хто гэта няшчасны? Люба?

— Ды ўжо ж.

— Не родныя дзеці? Люба?

— Сказаў, што ты абвінаваціў яе ў смерці Макаёнка...

— Нікога я не вінаваціў...

— Я перадаю табе, што гаварыў Матукоўскі. Як кажуць, разбіў ушчэнт. Яму не пляскалі, але слухалі ўважліва. Матукоўскага падтрымаў Аляксей Русецкі. Прысутнічаў Мікалай Чаргінец, не член нашай арганізацыі. Міліцэйскі генерал на сцэну не палез, але ў кулуарах падтрымліваў Матукоўскага.

Доўга госць расказваў.

Мяне крытыкавалі нямала — за раманы, аповесці (я пісаў, як тры мае сябры сарвалі мне прысуджэнне прэміі за аповесць «Гандлярка і паэт»; у архіве ЦК, які адкрыты цяпер, бачылі іх данос, выходзіць, даносілі не толькі ў 40-х гадах, але і ў 70—80-х). Я навучыўся крытыку пераносіць лёгка. Але расповяд пра сход, пра нелітаратурныя абвінавачванні карэспандэнта «Известий» мяне, хворага, моцна ўсхвалявалі. Шчыры ж успамін. І раптам Матукоўскі! Ён лічыў сябе Андрэевым сябрам. Кожную сваю п'есу раней, чым аднесці ў тэатр, паказваў Андрэю, і той добра пама-

гаў яму, часам не адзін дзень сядзелі разам, правілі; я на ўласныя вочы бачыў, хады два сюжэтныя падказаў. Матукоўскі папракаў мяне, што я кінуў п'есы пісаць: маўляў, такі сюжэтчык, а кінуў вышэйшы жанр. «Мая стыхія — раманы», — адказваў я.

Чаму ж ён, шаноўны Мікалай Ягоравіч, аплёўвае шчырыя ўспаміны пра калегу, які так рана і трагічна пайшоў з жыцця? Лёс удавы яго ўсхваляваў? Не паверыў бы я, каб хто спрабаваў гэта даказаць. Зайздрасць больш праўдзіва. Але зайздрасць да нябожчыка! Бывае такое? А Русецкі? Ніколі не пісаў п'ес, толькі вершы не вышэйшага гатунку і мала — не пісалася чалавеку. Зайздросціў заробку? А генерал — аўтар міліцэйскіх раманаў? Колькі мы разам (Андрэй, Чаргінец) выпілі каньяку!

«Задачку» крыху пазней проста і беспамылкова рашыла мудрая і дасціпная Ядвіга Паўлаўна.

— Што вы ламаеце галаву? Псіхолагі! Супраць «Тайны» выступаюць усе, у каго другая жонка.

Праўда! Я ніколі пра гэта не думаў, нават не ўсіх ведаў, хто быў жанаты двойчы. Ведаў, што першая жонка Матукоўскага спілася і памерла на працы ў энцыклапедыі. Калі я стаў там галоўным рэдактарам, чуў ад жанчын, што прычына — Матукоўскі, і яго вінавацілі, завёў каханку.

Госць мой прадаўжаў мусоліць тэму, хваліў аповесць, таго, што знайшоў Матукоўскі, не бачыў, рабіў іншыя заўвагі: сам пісаў успаміны пра акцёраў і лічыў іх, пасрэдныя, вяршыняй дасканаласці. Пісаў пра сваё — нічога больш не чуў, не бачыў. Але яго лагодная ацэнка маёй працы не супакоіла мяне. Ды на маё шчасце прыйшла ўрач, якая лячыла мой разрэзаны жывот, — Чарнова Раіса Рыгораўна, загадчыца хірургічнага аддзялення. Яна, не толькі хірург, але і псіхолаг, адразу ўбачыла, што хворага «завялі». Памерала ціск і тут жа выгнала прэч дабрадзея. І дала загад: акрамя жонкі маёй, нікога не пускаць — грыпозны час.

А праз дзень-два Чарнова паведаміла мне, што ў тэрапеўтычнае аддзяленне лягла Любоў Іванаўна. Радавыя ўрачы, сёстры не карысталіся высокай прывілеяй лячыцца ў лечкамісіі, але жонка народнага пісьменніка, дэпутата была афіцыйна прымацавана, як і мая жонка. Я не надаў дробязнай навіне значэння: лягла — няхай лечыцца, цяпер яна староннi для мяне чалавек.

Насцярожыўся я крыху пазней, калі прыйшла мая жонка, і Раіса Рыгораўна сказала ёй:

— Схадзіце, вазьміце начную сарочку і паначуйце побач з мужам, падзяжурце.

Дзіўны і нечаканы дазвол! Супакоены пасля госця, я адчуваў сябе нядрэнна. Сігнальная кропка пад рукой. Выходзіць, загадчыца аддзялення баіцца. Чаго? Каго? Вядома ж, Любачкі, якая ляжыць паверхам ніжэй. Пасля, калі я ачуняў, мы выпадкова сустрэліся на вуліцы. Раіса Рыгораўна расказала прычыну сваёй пільнасці.

Любачка, неразумная, забабонная і разам з тым упэўненая ў сваёй таемнай сіле, прызналася некаму з калег, што ездзіла да знахаркі. І вось вынік, які мае гэты паскуда Шамякін, — ледзьве не загнуўся. Паабяцала:

— Яшчэ не такое яму зраблю. Больш не напіша, якая я... Карміла, паіла яго і ўсіх дармаедаў...

Падавала на стол за Андрэевы грошы, калі мы наведваліся. Ён шчодры быў чалавек — не яна. Карміць такіх гасцей не трэба было — не галодныя. Пад гэтай маркай Любачка шчыра карміла бацькоў сваіх, сына ад

першага мужа, які, між іншым, памёр гэтак жа раптоўна, ды сваякоў. Андрэй часам казаў бадай у роспачы:

— Колькі зарабляю! І куды яны дзяюцца, ганарары мае? Не ўмее Люба эканоміць.

Не, эканоміць яна ўмела — для сябе. Дзяцей Андрэевых, Алу і Сяргея, студэнтаў, якія часам наведвалі бацьку, без яго ні разу не пакарміла. Быў я сведкам крутой размовы Андрэя на гэту тэму. Пасля чаго яна «закаціла» істэрыку. На істэрыкі яна была майстра. Падала часам на падлогу, закатвала вочы, пускала сліну, хрыпела — памірае.

Андрэя гэта спачатку моцна палохала. Выкрыла Любачкіну «ігру» яе ж маці. Была на дачы, корпалася ў агародзе. Андрэй скаціўся з другога паверха.

— Любе дрэнна. Трэба «хуткую».

— А што з ёй?

Андрэй расказаў прыкметы раптоўнай хваробы.

Маці абсалютна спакойна:

— Не хвалюйцеся. Не трэба «хуткай». Паляжыць — супакоіцца. Не першы раз.

Выходзіць, і бацькам сваім задавала клопатаў. Але адна істэрыка яе спалохала нават маю Машу, якая не любіла «бульбіну», як і большасць жонак пісьменнікаў нашага ўзросту. Пра гэты маскоўскі эпізод я напісаў у «Тайне драмы». Можа, менавіта ён найбольш і ўзлаваў Любачку.

Дні праз тры Чарнова перавяла ўдаву ў стары корпус.

— Са скандалам, — прызналася мне. Цяпер прозвішча Макаёнка мала ёй дапамагала.

Нападамі сваімі на мяне яна стварыла надзвычайную рэкламу аповесці: дзясяткі ўрачоў (сам Улашчык) прыходзілі, прасілі: «Дзе пачытаць?» Маша прынесла экземпляраў дзесяць, у той час я купляў кожнае новае выданне ці часопіс з маёй рэччу не пяць экземпляраў, як цяпер, а часам паўсотні, сотню і шчодра дарыў калегам, знаёмым, чытачам. Гэтак жа, як урачы, чыталі аповесць пісьменнікі (мы не заўсёды чытаем адзін аднаго); экземпляры бібліятэкі Саюза пісьменнікаў былі зачытаныя да дзірак; так некалі зачытвалася «Глыбокая плынь».

Так па сутнасці скончылася «Тайна драмы» — без «фігі» (адзін з выдатных рускіх пісьменнікаў неяк даводзіў, што ў фінале твора аўтар павінен паказаць чытачу фігу).

Не, было яшчэ адно хваляванне. На гэты раз больш для Машы, чым для мяне, хоць у нас з ёй усё было агульнае — радасці, гора, хваляванні.

Меўся быць суд паміж дзецьмі Андрэя і «ўдавой» (хоць сапраўднай удавой была маці дзяцей) аб раздзеле маёмасці.

Стала вядома, што Любоў Іванаўна прэтэндуе на дачу (новую, збудаваную пасля пажару). Добры апетыт мела! Дзеці запрашалі ў сведкі мяне, бо я ведаў, як будавалася дача, але я яшчэ быў нядужы.

Ядвіга Паўлаўна, якая гарэла гневам супраць Любачкі, напрасілася сама ў сведкі і проста патрабавала, каб пайшла Маша. Жонка мая ні разу не была ў судзе і хвалявалася так, што я прымусіў яе глытнуць седуксен, які глытаў сам перад выступленнямі з высокай трыбуны.

Маша не магла не пайсці абараняць правы дзяцей. Была ў захапленні ад сведчання Ядвігі Паўлаўны. Выкладчыца гісторыі БДУ так намалявала бессаромнае нахабства «ўдавы», што тая пасля Ядзі больш не выступала. Дачу адстаялі — дзецям. Але і «ўдаве» за шэсць год дзялёжкі пасцелі ня-

мала засталося: чатырохпакаёвая кватэра, машына, гараж, частка ганарару. Выпадак, які пацвярджае неабходнасць шлюбнага кантракту!

Магу прызнацца, што адной сваёй якасцю Люба захапляла мяне: уменнем лавіць мужчын — як карасёў на кручок. Не больш, як праз год, пайшла чутка, што Любоў Макаёнак сышлася з Мікалаем Мяшковым, міністрам вышэйшай адукацыі. Я не адразу паверыў. Не, праўда! Я добра ведаў Мікалая Максімавіча: былі разам у Вярхоўным Савеце, у розных камісіях, камітэтах. Разумны, спакойны, разважлівы чалавек, не без гумару. Сустракаліся і пасля яго «шлюбу». Карцела спытаць, як яму жывецца з новай жонкай. Не спытаў, пасаромеўся. Такіх знаёмых, якія б ведалі іх сямейнае жыццё, не выявілася. Андрэй свае адносіны з жонкай выносіў на наш з Машай суд: даводзіла Любачка яго да белага калення, бег да нас, прызнаваўся: «Я ў вас адпачываю душой». Мяшкоў, відаць, свае радасці і болі нікому не давяраў. Даходзілі глухія слухі пра адносіны Любы да яго дачкі (ці дачок), але гэта праз дзесятыя жаночыя вусны. А ў жанчын свая логіка і ацэнка жыцця іншая. Яны праніклівыя, добрыя разведчыцы, але такія ж сачыніцелькі, як мы, раманісты.

Сустрэў аднойчы Любу. Павітаўся. Адказала прыветліва, здалося, нават усцешаная, можа, таму, што я павітаўся першы. Больш не сустракаліся. Сваё жыццё, свае праблемы, менш радасцей, больш гора. Не да Любы! А калі не стала Машы, цяжка хварэла Ядвіга Паўлаўна, і пагаварыць не было з кім. І «Аповесць пра сябра» перавыдадзена была толькі ў кнізе ўспамінаў пра выдатнага драматурга; у гэтым не мая заслуга — Сцяпана Лаўшука, шчырае дзякуй яму. Яго ж стараннямі ўдалося выдаць Збор твораў Андрэя Макаёнка. Ганьба рэжысёру Раеўскаму! Пагана ён ставіўся да творчасці драматурга-класіка, а пасля смерці зняў усе спектаклі па Андрэевых п'есах; ставіць многа слабога, аднадзёнкі, але не ўзнавіў сцэнічнае жыццё хоць бы адной п'есы лепшага драматурга. А як прагучалі б у наш час у новай рэжысёрскай трактоўцы тыя ж «Пагарэльцы» (у першай аўтарскай рэдакцыі)! А «Зацюканы апостал»! Ды і «Трыбунал». Што ж, Валеры Мікалаевіч, Бог табе суддзя. Што застанецца ад тваёй творчасці? Думаю, «школы Раеўскага» не будзе.

Не помню, за што я «зачапіўся» ў бяссонную ноч — за смерць Андрэя, за сваю аперацыю, за лёс нашых твораў (толькі не за Любу!), але само сабой усё сплялося ў адзін клубок і... напісаўся эпілог «Тайны драмы». Іншай назвы не магло быць, дарэмна я для кнігі змяніў назву на бязлікую — «Аповесць пра сябра». Навошта? Каго спалохаўся? Ці чаго? Падтэксту?

## СЮЖЭТЫ

Сюжэт. Аснова кожнага мастацкага твора. Пра сюжэт напісаны горы даследаванняў — пра сюжэт таго ці іншага аўтара, вартага такога шырокага і глыбокага аналізу, і пра сюжэт кожнага твора, пра які ёсць што сказаць. Пра «Вайну і мір», апавяданні Чэхава, раманы Тургенева, трылогію Коласа, раманы Гарэцкага, Чорнага. Але раман можа быць шматсюжэтны і бывае такім у пераважнай большасці, а можа быць аднасюжэтны — рэдка. Аднасюжэтным я назваў бы «Абломава» і ў пэўным сэнсе «Людзі на балоце», хоць у «Подыху навальніцы» Мележ пераходзіць да шматсюжэтнасці.

Але не пра гэта думаў я ў бяссонніцу. Я думаў пра свае раманы, аповесці. Як узнікаў той ці іншы сюжэт — з якой падзеі жыццёвай, з якога характару.

Думаю, многа ўзнікла з тэмы. Напэўна ж, Леў Талстой загадаў сабе: «Я напішу гісторыю нашэсця Напалеона». (Шкада, што ў дзённіках таго часу ён нічога не паведамляе аб працы над творам. Пэўна, не думаў, што раман перарасце ў чатырохтомную эпапею і стане «правафланговым» усяе багатай рускай літаратуры не аднаго XIX ст.)

Але пра свае раманы. Безумоўна, «Глыбокая плынь» зарадзілася з тэмы — напісаць аб партызанах. Але адной тэмы мала. Трэба характар чалавека, жыццё яго, радасці і беды; яны рухаюць сюжэт. З'явілася Таццяна Маеўская, яе зварот дадому, у сям'ю. Уратаванне яўрэйскага дзіцяці. З яе прыходу завязваецца першы сюжэтны вузел. Не таю, што далей, у атрадзе, іншыя характары засланяюць гераіню — Жэнька Лубян, Лясніцкі, хоць апошні напісаны для пэўнай ідэйнай функцыі. Але без гарачага стаўлення аўтара да ўсяго маштабу падзей, што сталі прадметам апісання, твор будзе сляпы, як той нябога-інвалід, які мацае зямлю, па якой ідзе, кіем — што там: груд, яма, камень. У добра арганізаваным творы не можа быць цёмных месц. А хто нарадзіў Таццяну? Мая жонка Маша. Яна, дваццацігадовая фельчарыца, праз месяц пасля пачатку вайны ішла з двухтыднёвай дачкой ад Краснаполля рэчыцкага да роднай Церухі трыццаць кіламетраў у пустэльным балотным міжрэччы Дняпра і Сожа. Але не было б рамана без аўтарскай фантазіі. Яна нібыта нязначная — дзіця чужое, але які вузел завязвае.

Малады нявопытны пісьменнік, якога армія, вайна на пяць гадоў адарвалі ад роднай моўнай стыхіі і якому шмат якія партызанскія рэаліі адкрылі былыя партызаны, сачыніў для таго часу нядрэнны раман, і тады ацэнены высока (Сталінская прэмія), і праз амаль шэсць дзесяткаў гадоў мне не сорамна пачынаць збор твораў «Глыбокай плынню».

Не магу не адзначыць, што добрым памочнікам у пакуль што таемнай для мяне працы быў Іван Сяргеевіч Бібікаў, старшыня Пракопаўскага сельсавета, былы партызан з трагічнай біяграфіяй — немцы і паліцаі па-зверску забілі ўсю яго сям'ю — траіх дзяцей, жонку, цешчу. Мы жылі ў адным доме, разам працавалі — хадзілі па шасці калгасах: я ж тры гады выбіраўся сакратаром партыйнай арганізацыі, у якой чалавек дваццаць камуністаў — няшмнога, але тым больш было працы — франтавікі-інваліды, малапісьменныя, а на іх уся адказнасць за справы ў калгасах: сяўба, уборка ўраджаю па сем-восем цэнтнераў з гектара, лесапавал. Падаткі грашыма і натурай: маеш ці не маеш карову, свінню, а 46 кг мяса — здай. А ў мяне на ўроках дзеці трацілі прытомнасць (эпізод у аповесці «Мост» — здзіўляюся, як яго надрукавалі ў той час).

З Бібікавым мы хадзілі з Макаўя ў Чарацянку, у Будзённага, вярталіся апоўначы па гразі, снезе, і ён расказваў пра партызанскія справы. Можа, нешта і сачыняў, не ведаў жа, што пішу. Але «сачыненні» яго і выліваліся ў найлепшыя раздзелы рамана.

Нараджэнне і развіццё сюжэта «Глыбокай плыні» бадай нармальнае, як і ў большасці раманістаў. Загадкай для мяне з'яўляецца па-сутнасці першае маё апавяданне. Студэнт тэхнікума будаўнічых матэрыялаў, паэт-пачатковец, быў я шчырым прыхільнікам літаратурнага аб'яднання пры «Гомельскай праўдзе». Лідэр, паэт напорысты і самаўпэўнены, студэнт-філолаг Кастусь Кірэенка «разнёс» ушчэнт мае вершы; кідаў самыя абразлівыя словы: вершаплёцтва, графаманства. Не лезь, Іван, у паэтычную шарэнгу!

Але я не скіс, не здаўся. Не ўмею пісаць вершы — буду пісаць прозу. Напісаў два апавяданні: адно, пра маладую фельчарыцу, доўгае, другое ка-

роткае — старонкі тры-чатыры вучнёўскага сшытка. Прачытаў на аб'яднанні. Пахвалілі. Нават бязлітасны Косця сказаў прыемныя словы. Гэта натхніла, і я паслаў апавяданні (вунь куды!) у «Полымя рэвалюцыі». Адказ атрымаў ад Міхася Лынькова. Друкаваць нельга. Але ліст з'явіўся найвышэйшай пахвалой. Не хто-небудзь — сам Лынькоў праявіў увагу да маёй творчасці! Я ўсю вайну насіў гэтае пісьмо ў ранцы побач з пісьмамі жонкі маёй Машы.

Далучыўшыся да літаратуры, я зразумеў, што пачаткоўцам адказваюць рэдактары аддзелаў, галоўны часам падпісвае тыя адказы. Але аднойчы ў гутарцы адзін на адзін Міхась Ціханавіч спытаў:

— Гэта ты, в'юнаша, да вайны прыслаў апавяданне «Бярозавы сок»? Хацеў надрукаваць, але для тоўстага часопіса — куцае...

«Куцае...» Ранены чырвонаармеец апрытомнеў, азірнуўся. Навокал нікога.

Пагорак на ўзлессі. Вясна. Але нідзе ні лужыны, ні лапінкі снегу. А ў чалавека не толькі баліць рана, смыліць, пячэ ўсё нутро. Ды ўбачыў недалёка бярозку. Дапоўз да яе, прадзёўб штыком і доўга, прагна смактаў бярозавік. І сок даў яму сілу. Акрыяў чалавек, дачакаўся свайго санітара.

Адкуль узяўся сюжэт? Запазычыў? Не. Нідзе не чытаў ні да таго, ні пасля. Адно хіба. Сын лесніка, я падсочваў бярозавік: па дзве бочкі квасу, запраўленага ячмянём і скарынкамі падсмажанага хлеба, ставілі. І была спакуса: не са збанка напіцца, а латок, па якім цёк сок з раны ў збанок, пасмактаць. Незабыўная асалода!

У войску я атрымаў дазвол у «мёртвы час» пісаць у сталоўцы. Пісаў. Акрамя пісем жонцы, нейкія апавяданні. І — дзіўна! — ніводнага сюжэта не помню. У пачатку вайны напісаў апавяданне і даслаў у газету Ленінградскай ваеннай акругі, яшчэ фронта не было — газета ішла з такім падзагалоўкам. Зноў сюжэта свайго твора не помню, але помню адказ рэдакцыі месяцы праз два, калі Ленінград ужо быў блакіраваны. Адказ быў кароткі і... злы: маўляў, ваюй, малодшы сяржант, а не займайся глупствам.

Пасля такога адказу я доўга не пісаў. Ды і з паперай была праблема, давалі па два лісткі на месяц для пісем.

Дывізіён перакінулі ў Кандалакшу (на абарону Мурманска Сталін прыслаў дзве дывізіі — зенітную і паветраную; англа-амерыканскія караблі не павінны былі гінуць у Кольскім заліве, прайшоўшы Атлантычны акіян, Баранцава мора).

Батарэя, на якой я займаў самую бяздзейную пасаду — хімінструктара (баяліся, што немцы прыменяць газы), стаяла каля станцыі Афрыканда (спякотная назва) — на аэрадроме дальніх бамбардзіроўшчыкаў. Праз пустэльную за паўночным кругам Фінляндыю Д-5 ішлі ў Нарвегію бамбіць у фіёрдах варожыя караблі, якія патапілі нямала суднаў саюзных караванаў.

Здаралася, што назад вярталіся не ўсе бамбардзіроўшчыкі. Мы пазнавалі гэта па кароткім вінтовачным салюце каля штабной зямлянкі лётчыкаў.

А неяк пасярод суровай зімы лётчыкі расказалі нам, што вярнуліся пілот і штурман самалёта, якіх не дачакаліся месяц назад, лічылі загінуўшымі. Пахаваўшы стралка-радыста, пілот і штурман ішлі тры тыдні, пакуль не сустрэла іх аленевая запрэжка суомі. Палярныя людзі перавезлі іх праз фінска-савецкую мяжу. Суцэльнага фронту паміж Мурманскам і Кандалакшскім напрамкамі (ды і ніжэй) не было — бездарожжа. Уратаваных лётчыкаў мне пабачыць не ўдалося: не прыехалі яны ў часць — ляжалі ў шпіталі, пасля, магчыма, трапілі ў іншы полк ці былі камісаваны.

Але незвычайны сюжэт, які Анатоль Вялюгін назваў «джэкалондаўскім», так захапіў мяне, што я «насіў» яго, можа, год, дапаўняючы сваімі дэталямі. І напісаў на палях фінска-рускага слоўніка. Шкадую, што пасля вайны страціў гэты слоўнік — унікальны рукапіс.

У Петразаводску меў завалы паперы — ад фінаў, у якіх нават бялізна пасцельная была папяровая. Але не помню, каб я нешта пісаў, акрамя вялікіх дакладных у палітаддзел корпуса. Не, пісаў яшчэ гісторыю дывізіёна, там былі мастацкія эпізоды, але рэдактар — начштаба — іх выкрэсліваў, толькі факты і лічбы.

Скончылася вайна. Звольнілі дзяўчат. Засталіся старыя салдаты. І камсоргу не было чаго рабіць. Ды і ўвогуле адпачывалі — усе, і афіцэры, і радавыя. Стаялі ў зялёным прыгожым нямецкім гарадку Ландсбергу-на-Вардце, тады ўжо польскім: высялялі немцаў і засялялі палякаў. І тут, як кажуць, засвярбелі ў мяне рукі: пісаць! Меў жа асобны пакой у добрым доме, які мы занялі яшчэ ў сакавіку, пасля даведаўшыся, што не толькі наш асобны дывізіён, але, можа, не адзін зенітны полк кінулі ў гэты гарадок прыкрываць стаўку Жукава: тут распрацоўваўся план штурму Берліна.

Я цвёрда вырашыў: звольнюся, на цагельны завод не пайду, буду працаваць у школе, каб вучыцца завочна.

Але трэба ж неяк заявіць пра сябе (пісьмо Лынькова натхняла). Трэба нешта напісаць. А што? Прайшоў вайну — ад Мурманска да Берліна (нейкія сто кіламетраў не дайшлі, на пяты дзень пасля Перамогі на экскурсію ездзілі на грузавіку; гітлераўская сталіца гарэла, пакораных і пакараных немцаў адзінкі ўбачылі). Мноства баявых сітуацый, сотні людзей, з якімі ваяваў побач. У тым ліку асабліва войска — дзяўчаты, выхавацелем якіх я, камсорг, быў. Але — дзіўна! — не хацелася пісаць пра зенітчыкаў. Чаму? Вытлумачыць могуць толькі псіхолагі. Блізкія падзеі? «Неперавараныя»? Першую рэч пра зенітчыкаў і абарону Мурманска я напісаў праз адзіннаццаць гадоў пасля сканчэння вайны. Не думаў, не планаваў. Нечакана. У 1956 г. я паехаў турыстам у Югаславію (навела «Ох, бабы!»). І праз колькі дзён мяне апанавала незвычайная настальгія па Машы, па дзецях і ўсплыла ўся гісторыя нашых сустрэч, кахання. Выкрышталізаваўся сюжэт. Вярнуўся — і літаральна на адным дыханні напісаў аповесць «Непаўторная вясна». Не аўтабіяграфічная. Героі — Пятро Шапятовіч і Саша Траянава. Надрукаваў. Пачыталі калегі. Пахвалілі. Нехта сказаў: «Чаму не прадоўжыць? Герояў — у вайну». Сапраўды, чаму? Але раней, чым дабрацца да Мурманска, — Беларусь у вайне, лёс фельчарыцы Сашы і яе сям'і. Аповесць «Начныя зарніцы». Расказы Машы і пэўная доля фантазіі — лёс Лялькевіча. І нарэшце «Агонь і снег», лічу, лепшая аповесць, роўная «Масту», апошняй аповесці пенталогіі, напісанай значна пазней.

Без фантазіі няма аповесці. Але часам «незакілзаная» фантазія можа і нашкодзіць. Так атрымалася з чацвёртай аповесцю «Сустрэчы». Занадта выдуманая. А што занадта, то не дужа здрова, кажуць палякі.

Пенталогію ратаваў «Мост». Пра гэту аповесць першы Васіль Быкаў напісаў: захапіла яго праўда жыцця вёскі ў першыя пасляваенныя гады, на такі паказ жыцця нямногія з творцаў адважваліся, хоць «Мост» пісаўся ўжо ў вядомую «адлігу».

«Зеніт» — раман аб лёсе няшчасных салдат у спадніцах — напісаўся ажно праз 40 гадоў, у другой палове 80-х. Вунь колькі выношваў жыццё зенітчыц! У некаторых дэталях я паўтараў «Агонь і снег». Але на іншым

узроўні, вышэйшым, з большым напружаннем, з новымі героямі, значна пашыраным іх складам. Я, аўтар, задаволены гэтым раманам. Але прайшоў ён амаль незаўважаны крытыкай, якая ў той час развальвала савецкую ўладу. Вінавацілі савецкую літаратуру ў кан'юнктуры, а самі выступалі яўнымі кан'юнктуршчыкамі, класікам рабілі эмігранта Сяднёва, пісьменніка вельмі слабага, у нас у СП ніводнага такога не было з самых слабых, нашы не адрываліся ад зямлі, кожны твор меў карэнні, жывыя.

Аднак вяртаюся ў Германію, у лета пераможнага года. Жыў прагай пісаць. Але пра што? Сваю біяграфію пісаць не хацелася. Увогуле пра зенітчыкаў мастацкі твор не складваўся. Не дарэмна кажуць: трэба адысці на адлегласць, каб убачыць галоўнае, істотнае. Пісаць па-беларуску гісторыю дывізіёна? Хіба ж гэта мастацкі твор? А мне хацелася напісаць падобнае да рукапісу, што ляжаў у нямецкім чамадане, які хтось з маіх «сяброў» разрэзаў, думаў, што ў камсорга незвычайныя трафеі, а там — фінска-рускі слоўнік, па тэксце якога густым чарнілам на не зусім зразумелай мове (для рускага) была напісана лётчыцкая гісторыя.

Як сказана ў Ахматавай: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи...» Так, напэўна, і ў прозе — сюжэт можа даць дробязь. Не святыя былі савецкія байцы. Бралі «рэпарацыю» з праклятых фашыстаў, што абрабавалі Беларусь, Украіну, палавіну еўрапейскай Расіі. Генералы забіралі вялікае і сапраўды каштоўнае дабро, радавыя — сукенкі, панчохі і чаравікі. Але ў той час з'явіўся ўжо строгі загад Жукава: ніякага марадзёрства! Хаця і да загаду ў нашым дывізіёне ніхто не ўзбагаціўся — ні камандзір, ні нампаліт, ні тым больш мы з парторгам Калбекам (ён узбагачаўся тым, што завёў сабе каханку-немку, і гэта мяне абурыла; да сваіх дзяўчат ён за тры гады не дакрануўся, не ў прыклад некаторым афіцэрам).

Можна было знайсці чаравікі. Але наша армія не хадзіла тады ў чаравіках. Боты! Нямецкія армейскія боты ніхто не абуваў — фашысцкая форма. Шылі свае. Але з чаго!.. Халявы — з нейкай асаблівай англійскай парусіны. Аднак жа на перадкі трэба скура. І галоўнае — падэшва. Гэты тавар франтавыя інтэнданты падабралі ў першую чаргу. Ды і шавец у дывізіёне быў адзін — нейкі стары з Растова, ці то яўрэй, ці то татарын. Чалавек паслужлівы: рабіў ад відна да цямна ў чэрвеньскі дзень.

Аднойчы мы з Канстанцінам Калбекам пайшлі аглядаць горад. Як жылі немцы? (Дом, які мы занялі ў сакавіку, быў на ўскраіне, бадай жа на лузе, за якія дзве сотні метраў ад хуткаплыннай Варты.)

Ходзім. Дзівімся. Прыходзім да высновы: добра жылі немцы. На супрацьлеглым баку горада перад двухпавярховым домам спыняемся. Спыніла нас адна рэч: на другім паверсе дзве шырокія шыбы, выбітыя бамбёжкай ці артабстрэлам, застаўлены тоўстай падэшвеннай скурай. Глянулі адзін на аднаго, зразумелі, што кожны падумаў пра адно і тое ж: вось яно — тое, што нам патрэбна.

Падняліся на другі паверх. Увайшлі ў вялікую кватэру. Буржуі! У такіх не грэх і ўзяць! Акно скурай засланяюць, а мы ледзьве не босыя — пераможцы!

Сустрэла нестарая, але змарнелая, з пажоўклым тварам, немка. Мы павіталіся: «Гутэн таг, фрау».

Яна запрасіла да стала і пачала тараторыць. Я зразумеў: просіць прабачэння, што не мае чым пачаставаць — ні піва, ні кавы.

Мы дзякавалі па-руску, спакусліва пазіраючы на падэшву. Немка дастала фотаальбом, пачала паказваць нам здымкі. Сын — з калыскі да сал-

дата. Бравы прыгожы хлопец. Не ў эсэсаўскай форме. Салдат арміі. Маці расказвала пра сына. Мы разумелі з дзесяці слоў адно. Маці плакала: загінуў сын, адзіны. І я ледзьве не да слёз спачуваў маці. Ды і ў Канстанціна Дзмітрыевіча звыклая ўсмешка знікла з яго чырвонага, трохі пабітага воспінамі твару.

Мала што мы разумелі: месца — Брэст, але які — наш ці французскі? У 1941 г. Генрых яшчэ гімназіст. Значыцца, лёг салдат у французскую зямлю менш чым за год да сканчэння страшнай бойні.

Не разумелі — слухалі душэўны крык маці. І хіба маглі пасля такой размовы забраць падэшву? Забыліся на яе. Не глядзелі на акно.

Выйшлі. Калбек звыклым рухам выцер далоняй твар, сказаў:

— Во такія мы, Ваня.

Глянуў угару на «падэшву», паспрабаваў засмяяцца, але не пазнаў я смеху яго — нейкі ненатуральны ён быў, непрадметны.

А ў штабе ў сваім пакоі за паліраваным нямецкім сталом я ўспомніў яго словы: «Во такія мы».

Паўтарыў:

— Во такія мы, пераможцы!

І тут жа з'явіўся сюжэт з маёрам Раманенкам, з яго трагедыяй і чалавечнасцю.

У жніўні мне далі адпачынак з выездам дадому. Я прыехаў да Машы, убачыў сваю дачку Ліну, якой было ўжо чатыры годзікі. Пехатой схадзілі да маіх бацькоў, не ведаючы, як ходзяць цягнікі з Навабеліцы да Злынкі. Кіламетраў 45. Малую нёс я, адкормлены на нямецкіх харчах (адзінае, што старшыны экспрапрыіравалі на патрэбу ўсяго дывізіёна, была жывёла — каровы, быкі, свінні). А Маша была худзенькая. Падарожжа гэтае — цэлая эпапея. Назад ехалі. Выйшаў указ: дэмабілізавалі спецыялістаў народнай гаспадаркі, асветы, медыцыны. Бацькі захавалі мой дыплом, і я мог звольніцца праз ваенкамат дома. Але як пакінуць людзей, з якімі жыў, ваяваў пяць гадоў?! А галоўнае — рукапіс «Помсты». Не мог я пакінуць яго. Праўда, прасіў Калбека, каб захаваў. Выканаў мой «партыйны бацька» просьбу. Пакуль я падарожнічаў, дывізіён з Ландсберга перадыслацыравалі ў Познань. Ледзь знайшоў праз камендатуру.

З дому захапіў «Беларусь», «Полымя» не знайшоў. Адзіны адрас: «Беларусь». Туды паслаў аповесць. Верыў у палявую пошту. Дайшла. Ільля Гурскі прачытаў, ацаніў, але для яго часопіса завялікая, перадаў у «Полымя», дзе аповесць хутка надрукавалі: у № 11-12 «Полымя» за 1945 год. Нумар я атрымаў у студзені ў Пракопаўцы. Ад радаснага ўзбуджэння мяне ажно калаціла, залез на печ і перачытаў сваё сачыненне не адзін раз, пакуль не вярнулася з абходу хворых Маша, яна супакоіла.

«Глыбокая плынь», раман, так не хваляваў, бо з'явілася ўпэўненасць у сваёй сіле, хоць Уладзімір Карпаў, рэдактар, правіў найперш мову. Мы сварыліся, каб у канцы дня, пасля напружанай працы, памірыцца за добрай чаркай. Пасля я зразумеў, што гомельскі беларускі говар, асабліва ў дыялогу, правіць на «правільную мову» не было патрэбы. Пры асобным выданні я што-ніштто «вярнуў назад».

У нейкім раннім інтэрв'ю я сказаў, што, працуючы над раманам, гутарыў з партызанскімі камандзірамі. Гутарыў, безумоўна. Але не ў час напісання, а калі набыў імя, і яны, былыя лясныя ваяры, прачыталі раман.

У 1948 годзе я паступіў у партыйную школу. Дырэктарам яе быў камандзір Гомельскага партызанскага злучэння Ільля Паўлавіч Кожар. Я нап-

расіўся на прыём пасля залічэння і задаў яму колькі пытанняў, хоць другая і трэцяя часткі рамана ў гэты час друкаваліся ў «Полымі». Ён глядзеў на мяне, як на дзівака ці выскачку-падхаліма, які хоча паказаць сябе. Адказы даваў аднаскладовыя: так, не. А калі раман надрукавалі, і газеты, партыйныя, сур'ёзныя, далі вялікія, па «падвалу», а то і па два, водзывы, Ілья Паўлавіч паклікаў мяне на доўгую размову, задаволены, хваліў раман і рабіў некаторыя заўвагі, неістотныя, частку іх я выкарыстаў пры перавыданні і ў рускім выданні.

Руская кніга з'явілася ў адным годзе з беларускай — у 1949-м. Аператыўнасць! Не сам я — Броўка завёз экземпляры «Полымя» ў «Новый мир». Часопіс не даў. Але супрацоўніца, якая чытала па-беларуску, наша магілёўская Соф'я Мазо (яна ж Караганава — па мужу, Грыгор'ева — па літаратуры) ацаніла раман і прапанавала «Советскому писателю». Пасля прызналася: пераклала за два месяцы. Што ж, дзякуй ёй.

Пасля публікацыі я пагутарыў і з другім гомельскім партызанам, камсоргам брыгады — Аркадзем Рудаком. Гэта быў чалавек іншага складу, чым Кожар, — весяльчак, жартаўнік. Гэты мог бы падказаць і характары, і падзеі. Пашкадаваў, што не сустрэўся з ім раней, калі рукапіс быў на стале. А як я мог сустрэцца? Армейскія боты дабіваў, грошы на паездку ў Гомель на пасяджэнне літаб'яднання Маша пазычала. Галота! Такога галадранца і ў абкам не пусцілі б ці ў гаркам, дзе рабілі Кожар і Рудак.

Лёгка было сустракацца, маючы значок лаўрэата Сталінскай прэміі.

Я не даваў сабе супынкі. Яшчэ будучы ў партшколе на выпускным курсе (а нагрузка там была — не паспіш), я пачаў новы раман — пра калгасную вёску. Усе пісалі пра яе: Янка Брыль узнёслую паэму сачыніў — «У Забалоцці днее». Чым я горшы? Два гады жыў у пасляваеннай вёсцы, рабіў і настаўнікам, і сакратаром партарганізацыі. Раман назваў «Блізкі час». Блізкі час лепшага жыцця. Так разумеў. У гэтым быў нейкі сэнс. Мяне ўшчувалі (здаецца, Вялюгін), пераканалі, што лепш «У добры час».

Адкуль яго сюжэт? Не помню — ні падзеі, ні характару. Прыезд афіцэра-франтавіка? Мільёны, каму пашанцавала, вярнуліся на родныя папялішчы. Не было нават яркага характару. А гэта ж не апавяданне на дваццаць старонак, раман — на пяцьсот.

Трэба шукаць героя! Паехаў у творчую камандзіроўку — у лепшы калгас Хойніцкага раёна — у вёску Веляцін. Паказаў прыклад. Іншыя мае калегі выкарыстоўвалі такія камандзіроўкі, каб з'ездзіць у родную вёску, да бацькоў. І рабілі правільна: перад сваімі людзі раскрываліся больш шчыра. Мяне старшыня сельсавета пасяліў ва ўдавы з двума дзецьмі — хлопцамі-школьнікамі. Мне адвялі чыстую палавіну, са сталом у куце — сядзі пішы, керасін гаспадыні выпісалі. Але старшыня ведаў, да каго сяліць: ні з жанчыны, ні з дзяцей яе слова нельга было выцягнуць. У калгасе, дзе яна рабіла цялятніцай, усё было добра. Лепш не трэба — па яе словах. Але гэта было не так. Начальства прымала мяне, як гогалеўскага рэвізора. Настаўнікі, якія чыталі «Помсту», «Глыбокую плынь», лічылі сваім абавязкам частаваць госця. Ды не толькі інтэлігенты сельскія. Прыехаў сакратар райкама Лобан (імя не помню) да бацькі свайго. Вячэра, што на вяселлі. Я заўсёды піў умерана, але там мяне аглушылі адной шклянкай першаку (хадзіла легенда, што найлепшая самагонка ў Беларусі — у Старых Дарогах і ў Хойніках. А па-мойму, усюды яна, зараза, была добрая).

Прачнуўся праз колькі гадзін, ачмурэлы ад шуму: даўно мінула поўнач, а вяскоўцы на чале з камсамольскім важаком сядзяць за сталом, смок-

чуць тую ж сівуху, якая мяне, нельга сказаць, незагартаванага, адной шклянкай улажыла ў «калыску».

«У добры час» не перавыдаваўся, не ўключаў я «калгасную эпапею» ў зборы твораў і не помню нават герояў. Цяпер перачытваць позна ссівеламу старому. Помню адзін эпізод, звязаны з гэтым раманам. Зімяніну раман падабаўся, але сказаў ён пра гэта аднаму мне, праўда, пры Садковічу. Інструктар ЦК Войніч, сам ці па чыёйсьці падказцы, напісаў рэцэнзію (здаецца, у «Звязду»), у якой абвінавапіў аўтара ў ачарненні калгаснай вёскі. А праз год-два ва ўсесаюзнай літаратуры пачалася кампанія супраць бесканфліктнасці твораў на мірную тэму. «У добры час» занеслі ў шэраг твораў бесканфліктных. Вось такія былі павароты!

«Рэабілітаваў» я сельскую тэму і сябе раманам «Крыніцы». Ішоў 1953 год. Аплакалі смерць «роднага і незабыўнага правадыра ўсіх народаў». Жыццё, ідэалогія, не саступаючы з марксісцка-ленінскіх пазіцый, набывала нейкія, пакуль што нам, радавым, незразумелыя адценні, нюансы. Я гэта адчуў на пленуме ЦК КПБ, які адбыўся ў чэрвені і на якім я, сакратар партарганізацыі, прысутнічаў. Старыя (ці, наадварот, самыя «новыя» — «чорныя», першым выступіў старшыня Дзяржплана Чорны з разгромнай прамовай) хацелі «з'есці» першага сакратара Патолічава. Ды за Чорным адразу ж выступіў сакратар Дзяржынскага райкама былы партызан Лемяшонак. Ён даў моцны адлуп «чорным» (гэта ён так назваў іх), і яго праводзілі з трыбуны авацыяй. Рэкамендаваны Прэзідыумам ЦК КПСС наш былы сакратар Міхаіл Зімянін звяў.

Пленум ішоў тры дні. На другі дзень аб'яўлены перапынак доўжыўся гадзін пяць. Старшынскае месца заняў Пятро Абрамаў. Ён абвясціў: Масква, улічваючы падтрымку камуністамі, прапануе пакінуць Патолічава на пасадзе першага. І паведамленне пра арышт Берыі сустрэлі маўчаннем: не разумелі, што да чаго.

Ды адчуў я, што павеяла ветрам адлігі, бо ўжо не адзін месяц, пасля рамана «У добры час», ламаў галаву над сюжэтам новага твора. Пра што? Сяло! Зноў сяло? Але па-новаму. Праўда, у цэнтры не калгаснікі — інтэлігенцыя, настаўнікі і партыйныя, савецкія работнікі. А цэнтральная фігура — сакратар райкама. Да таго часу я меў не аднаго ўжо прататыпа. Той жа Гарацэў, які неаднойчы распякаў нас, старшынь, сакратароў. А сам, кульгавы чорт, што рабіў? Бабнік, выпівака, «правадыр». І з'явіўся вобраз Барodкі. Яркі, незвычайны для таго часу. Першы адмоўны персанаж сакратара райкама не толькі ў нашай беларускай літаратуры, але бадай ва ўсёй савецкай. Раман выйшаў у 1956 годзе (перад ці пасля XX з'езду КПСС, не помню). Але пасля з'езду стаў сенсацыяй. Рэцэнзіі далі ўсе газеты. Кавалкі чыталіся па радыё. У крытыцы з'явіўся нават тэрмін — барodкаўшчына. Нехта можа сказаць: кан'юнктура. Не, гэта не кан'юнктура — увага да быцця, да яго змен, сюжэт, народжаны жыццём. Ды не пішацца кан'юктурнае на працягу трох гадоў. Тэма: настаўніцтва вясковае, якое я добра ведаў, і партыйнае кіраўніцтва ўсімі праявамі жыцця народа. Яно давала вынікі: паспяхова адбудоўвалі пасля вайны гарады, заводы, будавалі новыя — гіганты, як Мінскі трактарны. Але сяло заставалася ў занядпадзе, удовы запрагаліся ў плуг, каб узараць сабе сорак сотак, пасеяць бульбачку, трэба ж карміць дзяцей. Адно было дасягненне: магчымасць вучыцца. Усенавуч — быў законам, для сяла — адзіна разумным. Колькі нас, інжынераў, вучоных, мастакоў, выйшла з таго пасляваеннага галоднага сяла!

Пасля «Крыніц» я пісаў па сутнасці аўтабіяграфічныя аповесці, якія склалі кнігу «Трывожнае шчасце» (як з'явілася задума, я пісаў вышэй. Паўтаруся: апошняя аповесць «Мост» напісана праз 15 гадоў пасля «Пошукаў сустрэч», пасля рамана «Сэрца на далоні»).

«Сэрца на далоні»... Раман цяжка пісаўся, але стаў бадай самым чытэльным творам. З чаго пачаўся? З якой падзеі? З якога характару? Цяжка адказаць проста, аднаскладова. Перапляценне сюжэтаў, ваеннага і мірнага, — канструкцыя складаная. Пазней я паўтарыў яе ў рамане «Вазьму твой боль». Але там сюжэт з'явіўся больш нечакана, бадай з адной размовы. Сюжэт «Сэрца на далоні» я доўга шукаў, пакутліва шукаў. У мяне была асаблівая цікавасць да ўсіх праяў жыцця, да людзей, да працы, нават да машын. Я ўсё стараўся пазнаць. Здаецца, у Булгакава прачытаў: «Что видишь, то и пиши, а что не видишь — писать не следует». Я пісаў пра медыкаў, але бачыў толькі радавых урачоў, фельчараў. Не бачыў ніводнай сур'ёзнай аперацыі. Папрасіў хірурга Прохарава (вечная яму памяць) звадзіць мяне на аперацыю. Павёў. Была група студэнтаў. Разам з імі я глядзеў з нейкага ўзвышша і, здаецца, убачыў, як Прохараў распаласаваў хвораму жывот, і як бы вывернуў кішкі. Больш нічога не ўбачыў, бо ачнуўся ў суседнім пакоі; сястра падносіла да носа нашатыр. Самлеў цікаўны творца. Ні я, ні Прохараў нікому з нашых не расказвалі, Машы расказаў, бо з ёй такое здаралася ў медвучылішчы. Але дзіўна: пасля ганебнай слабасці мне захацелася абавязкова напісаць пра хірурга. Ды не пра абы-якога — вялікага майстра і незвычайнага чалавека. Тады многа пісалі пра першую перасадку сэрца, пра аперацыі на сэрцы. Во што павінен зрабіць мой герой! Я ўжо даў яму імя — Антон Яраш.

Але каго ён павінен лячыць?

Не адзін год да таго фарміраваўся другі сюжэт — пра Мінскае падполле. У інстытуце гісторыі партыі ды і ўвогуле сярод гісторыкаў ішла спрэчка: хто быў арганізатарам падполля ў сталіцы? На нейкім этапе група гісторыкаў пераканала нават партыйныя інстанцыі: Ісай Казінец. Яму прысвоілі званне Героя. Такой жа думкі трымаўся нават Іван Новікаў, аўтар рамана пра Мінскае падполле. Я прачытаў некаторыя дакументы (мне іх далі прадстаўнікі іншай групы — Філімонава) і цвёрда пераканаўся: Казінец ніяк не мог стаць на чале змагароў, хоць сам быў актыўным удзельнікам — у гета; арганізатарам мог быць толькі Іван Кавалёў, даваенны сакратар Заслаўскага райкама партыі. Але не пра Кавалёва складваўся сюжэт. Бадай дваццаць гадоў я насіў вобраз рэальнай падпольшчыцы, з якой пазнаёміўся яшчэ ў 1948 годзе, калі з сям'ёй прыехаў у Мінск, у партшколу, і здымаў пакойчык у прыватным доме на Лагойскім тракце. «Прымяраў» гэту Вольгу да многіх твораў — не падыходзіла. Слабое веданне гісторыі падполля не давала вострага сюжэту. І тут... не камароўская гандлярка магла стаць пацыенткай Яраша!

Адкуль узялася Зося Савіч? Плод фантазіі? Ці гісторыя правакацыйнага пахавання немцамі расстралянага ўрача; патрыёта зрабілі здраднікам. Такія факты я сустракаў яшчэ пры стварэнні «Глыбокай плыні». Расказвалі пра такога старасту, але ўлады не пацвярджалі, органы даказвалі: здраднік. Ды майго цесця Філата Кротава, партызанскага сувязнога, ледзь не загналі ў Сібір. Шчасце, што ў органах апынуўся партызанскі камандзір, з якім Філат Азаравіч трымаў сувязь, Аркадзь Рудак яго ведаў. Калі я гутарыў з ім, успомніў пра «церускога пісара»: калгасны рахункавод, Філат па заданні партызан рабіў пры старасце пісарам некаторы час.

На вытворчасці былі брыгады камуністычнай працы. І я хадзіў на машынабудаўнічы завод імя Кірава, знаёміўся з хлопцамі гэтых брыгад. Не без прататыпаў-рабочых нарадзіўся «правільны» Тарас і вясёлы Славік.

З такіх дэталей, вялікіх і малых, будаваў даволі складаную канструкцыю. Але раманісты ведаюць, што, акрамя сюжэта, патрэбна колькі іншых аперацый, як кажуць будаўнікі, аздабляючых. Праўда жыцця, праўда характараў, не апісальная, у развіцці сюжэта адпаведная кампазіцыя — галоўны клопат аўтара. Дзень і ноч (пісаў у начны час) жыў з героямі. Цяпер, у старасці, дзіўлюся: калі паспяваў пры маёй працы ў СП, у Вярхоўным Савеце, у розных рэдкалегіях, камісіях, маючы чацвярых дзяцей, памагаючы жонцы гадаваць іх, выхоўваць. І добрую кампанію любіў, без сяброў жыць не мог. Пісаў апавяданні, партрэты. З іх не ўсе, як кажуць, «вытрымалі выпрабаванне часам». Мне гэты тэрмін не падабаецца — «выпрабаванне часам». Праўдзівы твор, сапраўды мастацкі, як бы ні ўзнік яго сюжэт, мае трываласць добрага архітэктурнага збудавання. Нехта даўно сказаў: колькасць сюжэтаў у сусветнай літаратуры абмежаваная, нават называлася лічба. Думаю, гэта не так. Стабільныя пачуцці людзей — любоў да дзяцей, каханне, нянавісць, страх, але мяняецца жыццё, яго сацыяльныя ўклады, ідзе навуковы, тэхнічны, мастацкі прагрэс. Летапіс свайго часу, літаратура адлюстроўвае гэтыя змены, звязвае апісанне машын, тэлебачання, Інтэрнету з апісаннем пачуццяў герояў, не толькі тых, што з'яўляюцца ў сацыяльнай сферы, але найперш тых, што вечна жылі, жывуць, будуць жыць у чалавечых душах. Колькі напісана пра каханне з часу з'яўлення пісьменнасці? Тысячы тысяч — паэм, песень, аповесцей, раманаў, драм... Падобныя творы гэтыя адзін на адзін? Прымітыўныя, падражальныя, спісаныя з чужога, можа, і маюць падабенства. Але тыя, што не тлеюць ад часу, ніколькі непадобныя, таму імя ім дадзена — арыгінальныя. Возьмем бліжэйшыя да нашага часу — Шэкспір, Гётэ, Байран, Пушкін, Тургенеў, Талстой, Чэхаў, Гюго, Бальзак, Шолахаў, Купала, Багдановіч... Не называю сучаснікаў. Але тыя, каго назваў, — як яны адрозніваюцца адзін ад аднаго. Не толькі творчай арыгінальнасцю — паказам тых жа найглыбейшых і найгарачэйшых душэўных пачуццяў чалавека — кахання, любові, нянавісці. Але каб паказаць іх адметнасць і адрознасць ад ужо напісанага, трэба ўсё пабачыць і перажыць.

Сюжэт часам нараджаецца з простага жыццёвага факта, але каб ён стаў фактам літаратуры, патрэбны жыццёвы вопыт аўтара, яго веды, розум і яго ўласныя перажыванні, блізкія да тых, якія мусяць, па волі аўтара, перажыць яго героі.

Настаўніца прыехала ў Мінск і пайшла не ў міністэрства, а ў Саюз пісьменнікаў, да мяне. Яна, замужняя, пакахала жанатага завуча сваёй школы. Скандал. Жонка каханага пабіла яе. І педсавет зволіў з працы. Не верыла чыноўнікам, паверыла пісьменніку. Я зразумеў усю трагедыю жанчыны, і яна мяне ўсхвалявала. Але што рабіць? Пісаць у райана, у райкам? Адштурхнуцца: падумаеш, праблема! Для іх, чыноўнікаў. Для жанчыны жыццё, лёс.

Іду да міністра асветы Міхаіла Мінкевіча, верачы ў яго чалавечнасць. Гэта было сапраўды так: разумнейшы з міністраў (ведаў я многіх), сябра Максіма Танка, прайшоў праз польскія турмы, як наш Піліп Пестрак. Набраў міністр нумар райана, даў загадчыку праборку, і той тут жа паабяцаў уладзіць настаўніцу ў адну са школ райцэнтра — немалога горада.

Але не адну. З мужам. Яна гаворыць, што муж даруе ёй.

Праз колькі дзён Мінкевіч тэлефануе мне:

— Не хоча ваша гераіня ні ў якую іншую школу. Толькі ў сваёй. Што рабіць будзем?

З расповяду сюжэт не з'явіўся. А тут уміг нарадзіўся. Еду ў раён, у школу. Іншая размова. Характар незвычайны: «На ўсё пайду, у калгас, абы бачыць яго». Завуча. Во якое яно, каханне! Прашу райана. Зразумелі.

Падарыла сюжэт. І ў мяне неўзабаве з'явілася аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна...» Не называю прозвішча, бо і дагэтуль, бабуля ўжо, яна шле мне віншавальныя паштоўкі.

Сябра наш Уладзімір Раманаў, дырэктар Белавежы, расказаў анекдатычны выпадак. Прыехалі ў пушчу госці, не самыя высокія, але ж шышкі (у Віскулі, якія пазней набылі ганебную вядомасць, нярэдка збіраліся першыя асобы краін сацыялістычнага лагера, вырашалі міжнародныя пытанні і адпачывалі — палявалі; найлепшым паляўнічым быў Кадар, горшымі Хрушчоў і генерал Ярузельскі). У той раз шышкі прыехалі толькі паляваць. Павячэралі смачна.

Выехалі ў запаведны ўчастак, пад дубы, дзе дзікі «балявалі» рана, калі яшчэ вісеў туман. Аднаго з гасцей пагнала па патрэбе. І хоць жанчын не было, але ж не сядзець побач з машынай, на вачах у людзей: патрэба натуральная, аднак даўняя этыка вымагае адасобленасці; толькі ў армейскіх прыбіральнях сядзяць побач у «арлінай позе».

Нырнуў нябога ў густы ельнік. Прымасціўся. Затрашчаў. І раптам пачуў: збоку нехта гідліва чмыхнуў. Глянуў... і валасы дыбам... За два дзесяткі крокаў стаіць цар пушчы.

Трымаючы штаны ў руках, начальнік, перад якім схілялася нямала людзей, пазелянелы, бег да машыны.

— Зубр!

Рогату хапіла на цэлы дзень. Гаспадар ведаў гэтага звера, які ігнараваў статак, па старасці, пэўна, забіваўся на начлег у гушчар.

Вясёлы расказ нарадзіў у мяне жаданне напісаць гумарыстычную аповесць — «пад Андрэя». Але пазбавіла мяне сну іншая тэма: лёс тых вядомых і добрых кіраўнікоў, герояў вайны, якія «пагарэлі» ці «гарэлі» на супраціўленні хрушчоўскай ідэі ўсюды сеяць кукурузу. Ведаў я такіх і быў іх прыхільнікам (майго сябра, таленавітага празаіка Аляксея Кулакоўскага знялі з пасады галоўнага рэдактара часопіса за добрую аповесць «Дабрасельцы», у якой ён паказаў, як вырасла кукуруза на Старобіншчыне).

Была тэма, характары герояў. Не было сюжэта.

А калі без гумару? Героя (прозвішча — Антанюк), кіраўніка высокага рангу, былога камандзіра партызанскай брыгады, заўчасна адаслалі на пенсію. Крыўдна дзейнаму чалавеку, адзінока, ён шукае занятку. У пушчу прыехаў не забіваць — паблукаць у адзіноце. Сустрэча з зубрам, а пасля з гасцямі-паляўнічымі — завязка. Ёсць завязка! Але не было развязкі. Паступова ў працэсе працы, не так хутка, як у «Сэрцы на далоні», будаваўся яшчэ больш складаны сюжэт. Праца над «Снежнымі зімамі» давала задавальненне. Па-мойму, дынаміка падзей у ім роўная хіба пазнейшаму раману «Вазьму твой боль». Дагэтуль не магу зразумець (і крытыкі не растлумачылі), чаму «Снежныя зімы» не набылі такую вядомасць, як «Глыбокая плынь», «Сэрца на далоні», «Гандлярка і паэт». Кукурузы ў рамане няма. Ёсць складаныя чалавечыя лёсы. Ці не пашкодзіла залішняя драматызацыя

падзей і характараў? Але як яны драматызаваныя ў Дастаеўскага! Між іншым, «Злачынства і пакаранне» (нядаўна перачытаў) не прымаю так, як «Братоў Карамазавых», «Ідыёта». Мастацтва ўвогуле, раман (сапраўдны) — таямніца вялікая. Ці пазнаў я яе ва ўсіх праявах? Наўрад. Сюжэт — аснова, касцяк. А кампазіцыя? Гэта што такое? Музыкальны тэрмін. Яна не падказваецца ні падзеямі, ні характарамі, ні тэмай. Яна быццам бы катэгорыя не матэрыяльная — духоўная. Нябачныя ніткі, якімі сшываецца ўся тканіна твора. Менавіта — нябачныя. Калі яны, ніткі гэтыя, вылазяць звонку — канструкцыя губляе сваю прывабнасць.

Між іншым, быў і ў «Снежных зім» свой чытач — кіраўнікі, партыйныя, савецкія. Чыноўнікі нямнога чытаюць сваю нацыянальную літаратуру. Аднак са смуткам зазначу: тыя, даўнія кіраўнікі ўсіх звенняў эканомікі і культуры, былі значна бліжэй да летапісцаў часу, чым сённяшнія высокаадукаваныя чыны. Што ім перашкаджае? Паездкі па свеце? Тэлевізар? Страта нацыянальнага гонару?

Пасля выхаду «Снежных зім» мой зямляк Старшыня Савета Міністраў Ціхан Кісялёў у даверлівай размове сказаў:

— Хацелі мы зарэзаць твае «Зімы». Пашкадавалі.

— За што?

— За паляванне. Ты хіба паляваў з намі, што так дэтальна распісаў? І паляванне, і вячэру...

— Я не паляўнічы.

Не прызнаўся, што маю кансультанта, які арганізаваў ім гэтыя паляванні і які ўмеў расказаць пра ўсё красамоўна, — Уладзіміра Сяргеевіча. Калі яны, начальнікі, лічаць гэта таямніцай, няхай лічаць, бо вунь як шкрабнула другога чалавека ў іерархіі, калі я трохі падняў заслону іншай сцэны, з іншымі героямі.

Сюжэт Мінскага падполля. Зацятая барацьба гісторыкаў перашкаджала з'яўленню надзвычайных характараў. Подзвіг Осіпавай і Мазанік абслюнявілі іншыя пісьменнікі і кінематаграфісты. Фільм паводле сцэнарыя Кучара і Куляшова «Гадзіннік спыніўся апоўначы» я не прыняў. Івана Кавалёва «затуманілі» гісторыкі, звялі да малазначнай фігуры.

Ды, можа, трыццаць гадоў жыў вобраз жанчыны, пра якую я пісаў, з якой пазнаёміўся на Лагойскім тракце. Вольга (і ў жыцці Вольга) была пляменніцай нашай гаспадыні. У выхадныя, у святы Вольга з дачкой-вучаніцай наведвала цётку. Мая Маша, чалавек выключнай душэўнай шчодрасці, сябравала з гаспадыняй, і тая часта запрашала нас у застолле — праз калідор, дзе шумелі прымусы.

Гаспадыня з гонарам паведаміла, што Вольга — падпольшчыца. Але ад самой весялухі я не выцягнуў нічога такога, што магло стаць сюжэтам хоць бы аповесці.

А потым я ўбачыў яе на Камароўскім рынку, яна бойка гандлявала гароднінай. Гэта мяне расчаравала: падпольшчыца — гандлярка!.. Як мы тады глядзелі на ганляроў! (У навеле «Сябры» я пісаў, як мае «прагрэсіўныя» сябры паставіліся да аповесці: гераіня — гандлярка, жах! «Дапісаўся партыйны аўтар да ручкі».)

А гады праз два, калі я ўжо меў кватэру ў цэнтры і забыўся на былых гаспадароў, аднойчы адвячоркам сустрэў Вольгу на вуліцы з партфельчыкам. Павіталіся бадай узрадавана.

— Куды вы?

— У школу.
— Бацькоўскі сход?
— Не. Я вучуся ў вячэрняй школе, ужо ў дзесятым...

Падпольшчыца, гандлярка, вучаніца... Вобраз! І доўга-доўга ён жыў, доўга прасіўся галоўнай гераіняй у раман. Была ў сюжэце «Сэрца на далоні». Але з'явілася пакутніца Зося Савіч. У «Снежных зімах» ёй месца не было: там не падполле — партызаны. І раптам... Сяджу ў Саюзе пісьменнікаў. Кірую. Заходзіць жанчына, незнаёмая. Расказвае сумную гісторыю. У пачатку вайны ў лагеры ў Драздах яе сястра выкупіла палоннага раненага чырвонаармейца. Такіх немцы прадавалі міласэрным жанчынам. Гады два хлопец жыў у яе, рваўся ў бой, пісаў вершы. Памёр. А сшытачак застаўся. І жанчына вырашыла прынесці яго нам, у Саюз пісьменнікаў, можа, надрукуем.

Вершы былі пачаткоўскія, хоць глыбока патрыятычныя, гнеўна антыфашысцкія. Але не ўчынак жанчыны — столькі берагла сшытак! — не вершы мяне ўразілі. Адразу, уміг, як бліскавіцай, высвяціўся сюжэт з Вольгай: во што яна робіць — выкупляе палоннага, паэта. Яго пакахала, з ім уключылася ў барацьбу. За ім ідзе на смерць.

Так з'явілася «Гандлярка і паэт». Надрукаваная ў часопісе «Молодая гвардия» аповесць так захапіла вядомага кінарэжысёра Самсона Самсонава, што ён сам прыехаў у Мінск і не выехаў, пакуль мы разам не сачынілі кінасцэнарый. І ў той жа год уключыўся ў план «Мосфильма». Але фільм зрабіў пасрэдны, фінал сапсаваў. Я пісаў ужо, можа, неаднойчы, як цяжка працаваць з рэжысёрамі, якія лічаць сябе класікамі кіно. Дзвюх фраз у дыялогу звязаць не можа, а лезе ў тэкст. З павагай успамінаю Міхаіла Пташука (вечная яму памяць!): ён шанаваў аўтарскі тэкст, а калі штосьці ўносіў сваё, то дарэчы і, як правіла, узгадніўшы са мной. І яго кінастужка «Вазьму твой боль» — лепшая экранізацыя маіх твораў.

Сустракаю рэдактара «Звязды» Мікалая Тоўсціка. Гуляем па парку. Абмяркоўваем усе навіны жыцця. І між іншых, сваіх, рэдакцыйных, ён расказвае. У іх вёску праз дваццаць пяць гадоў сібірскіх лагераў вярнуўся паліцай: адбыў пакаранне, набыў правы грамадзяніна. Не стары яшчэ, у паліцыі служыў маладым. Уладзіўся лесарубам. Але праз некаторы час, праз месяц-два, яго знайшлі ў лесе павешаным на суку дуба. Пракуратура вяла дазнанне і зрабіла заключэнне: самагубства. Не паверылі вяскоўцы: такі сам не павесіцца! У лагеры мог бы гэта зрабіць. Пакаралі былыя партызаны і дзеці тых, каго ён выдаў СД, а ў знішчэнні некаторых сем'яў сам удзельнічаў.

Новым, нечаканым бокам павярнулася мая даўняя тэма — партызанская. Я там жа, пад паркавымі ліпамі, выгукнуў:

— Дык гэта ж сюжэт, Мікалай Панасавіч!

— Вам і пяро ў рукі. Напішыце. Пра дэталі я распытаю ў сваіх, раскажу вам.

Але дапамога журналіста не спатрэбілася. Сюжэт склаўся адразу, за колькі бяссонных начэй. Можна было сказаць: лёгка. Не! Такія сюжэты не даюцца лёгка. Ды і што ў творчасці лёгкае? Персанажы — што шахматныя фігуры, іх трэба правільна расставіць і па правілах гульні рухаць: кароль, каралева, афіцэр, конь. З'явіўся галоўны персанаж Іван Батрак. Шафёр, камбайнер. А я ўжо даўно не пісаў пра вёску. Паехаў у камандзіроўку ў знаёмы калгас Урыцкага Гомельскага раёна, у якім быў раней, — ездзілі з

групай пісьменнікаў. Ішло жніво. Пазнаёміўся з камбайнерамі. Навучыўся вадзіць камбайн. Працу сельскага фельчара добра ведаў — медыкі амаль у кожным рамане, з першага вучнёўскага апавядання. Свайго хатняга кансультанта меў — жонку.

Хутка пісаўся раман «Вазьму твой боль». Маша ледзьве паспявала перадрукоўваць на машынцы. (Я ўсё пісаў ад рукі, «дзвюма рукамі» — жартавалі сябры, Андрэй асабліва: сапраўды, правую руку, у якой пяро, чарнільнае, шарыкавыя ручкі не люблю, я падштурхоўваю пальцамі левай з школьных гадоў да старасці, калі пішу «Начныя ўспаміны». Праўда, і дзве рукі не ратуюць мой добры почырк — ён усё больш і больш псуецца, робіцца неразборлівым, сам часам не магу разабраць, што «накалякаў». Бязлітасная старасць! Не шкадуе ні сэрца, ні галавы, ні суставаў!)

Самыя цяжкаёмістыя сюжэты на гістарычныя тэмы. Парадаксальна. Здавалася б, самі гісторыкі даюць тэму, развіццё падзей, характары. Карацей кажучы, усе дэталі складанага механізму, які называецца сюжэтам. Але не так усё проста! Мастацтва — творчая фантазія. Гісторыя, факты яе, дзеянні асоб асаблівай прасторы фантазіі не даюць. Трымайся за іх, як сляпы за плот. Многім сучасным раманам, асабліва пра далёкую мінуўшчыну, я не веру, хоць напісаны яны таленавіта. Але сюжэт у іх рухае аўтарская фантазія, а не гістарычныя факты. Чытаю «Пушкіна» А. Аляксандрава. Усё праўдай здаецца, бо цікава, але выяўляю мноства няпраўды, хоць я і не пушкіназнаўца. Клубнічка для чытача. Нельга так!

Я напісаў два гістарычныя раманы: «Петраград — Брэст» — аб блізкай гісторыі, і «Вялікую княгіню» — аб сівой, пяцісотгадовай, даўніне. Ох, як цяжка яны даліся!

У гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі мяне зацікавіў эпізод не галоўны — Брэсцкі мір. Чаму? Драматызмам барацьбы Леніна з левымі камуністамі, якіх узначальваў Бухарын, і якія, ап'янелыя ад перамогі, верылі ў сусветную рэвалюцыю: яна, маўляў, як і ў Расіі, адбудзецца ў Германіі і Францыі ў выніку вайны. Жыццё мільёнаў салдат гэтых рэвалюцыянераў не хвалявала, галоўнае — Рэвалюцыя.

Ленін быў рэаліст. Руская армія па сутнасці распалася пасля лютаўскай рэвалюцыі. Наступленне немцаў, здача Петраграда, Масквы — смерць рэвалюцыі. А жыцці людзей? Гінуць сотні тысяч, мільёны.

У наш антыгістарычны час некаторыя «занадта мудрыя» гісторыкі, страціўшы аб'ектыўную гістарычнасць, карамзінскую, аплёўваюць Леніна. За што? Забыліся, што, акрамя практыкі (арганізаваць такую партыю, падрыхтаваць захоп улады, кіраваць актыўна чатыры гады дзяржавай ва ўмовах бязлітаснай грамадзянскай вайны і перамагчы ў ёй), Ленін быў вучоны-тэарэтык, роўны Марксу, — палітолаг, эканаміст, філосаф. Хто з сучасных аспрэчыў яго тэорыю? Асновы сацыялізму — у вучэнні Ісуса Хрыста. Аплёўваючы Кастрычніцкую рэвалюцыю, забываюць, што яна ўскалыхнула свет, змяніла яго — разбурыла каланіяльную сістэму, капіталістаў навучыла па-іншаму будаваць свае адносіны з рабочым класам, зрабіць яго ўдзельнікам эканамічнага прагрэсу, не шкадаваць затрат на навуку, культуру.

Цяжка мне даўся «Петраград — Брэст»! Перагаворы вёў Троцкі. Але што я ведаў пра Троцкага? Пісалі толькі пра яго антыленінізм. Аднак гэта — не для рамана. Трэба чалавек, характар! Тое ж адносна Бухарына, Іофе, членаў дэлегацыі. Дзе ўзяць? Ні ў адной нашай бібліятэцы не было (ці

мне, члену ЦК, не далі?) падшыўкі «Правды» за студзень-люты 1918 года, калі друкавалася вострая палеміка паміж Леніным і «левымі». Ведаў, што ёсць мемуары Троцкага. Але ў нашых бібліятэках не было.

Паехаў у Маскву ў Інстытут марксізму-ленінізму з адпаведным лістом. Ёсць. Але чытаць толькі з 10 да 13 гадзін без права выпісак. Колькі дзён трэба, каб прачытаць 600 старонак?! (Чытаў я ўвогуле павольна, такую літаратуру — асабліва. Ды і што застанецца ў галаве, калі не выпісваць?)

Урачыстае пасяджэнне, не помню, з нагоды якога свята. Сяджу ў прэзідыуме побач са старшынёй КДБ Нікулкіным.

— Якаў Пракопавіч! Дайце мне кнігу Троцкага «Моя жизнь».

Ажно адхіснуўся чэкіст (у 70-я гады!)

— А навошта вам?

— Пішу раман пра Брэсцкі мір. А перамовы вёў Троцкі.

Тлумачу падрабязна асаблівасці нашай працы. Заківаў галавой.

— А дзе я вазьму яе?

— Можа быць у Брэсце ў пагранічнікаў ці ў мытні.

Перад тым яго супрацоўнікі прывезлі нам з Андрэем «Біблію» на рускай мове, іх канфіскоўвалі там і... палілі. «Біблію» палілі! А ў Ленінцы меліся толькі скарынаўскія ды іншыя выданні Сярэднявечча.

Не паабяцаў Нікулкін, але і не адмовіў катэгарычна. Мінуў месяц, а можа, і больш. Я страціў надзею. І раптам званок з КДБ. Не Нікулкін — памочнік яго:

— Троцкага мы вам знайшлі. Але на нямецкай мове.

А па-нямецку ніхто з маіх маладых не чытае. Што рабіць? Адмовіцца? Не!

— Давайце нямецкую. Прачытаю!

Прывёз маёр. Аддаў пад распіску. Са зваротам. Папярэдзіў:

— Нікому не перадаваць! Вы чытаеце па-нямецку?

— Дачка чытае.

— Папярэдзьце яе, каб нікому не перадавала прачытанае.

Не чыталі ні Ліна, ні Таня.

Хто можа прачытаць — вырашыў загадзя. Званю Вользе Аляксандраўне Няхай, жонцы нашага паэта. Яна выкладала ў Інстытуце замежных моў.

— Вольга! Дай мне немца, які мог бы перакладаць з ліста.

— А што трэба перакладаць?

— Кнігу Троцкага.

— Ого! Ён жа пісаў па-руску.

Мушу тлумачыць ёй.

Яна звязвае мяне з кандыдатам навук Анатолем Мірскім. Ён штовечар прыходзіць і чытае. Старонак дваццаць за вечар, не больш. Спыняемся ж. Каб я патрэбнае запісаў. Папрацаваўшы, узнагароджваем сябе каньяком, добрай вячэрай, якую рыхтуе Маша з уласцівай ёй гасціннасцю.

Раздзелы з Троцкім я пісаў не даўжэй, чым вывучаў яго біяграфію.

Пра тое, якія «хаджэнні па пакутах» я перанёс, друкуючы другую і трэцюю часткі рамана, я ўжо пісаў, паўтарацца не стану. Вельмі ж баязлівы быў рэдактар «Полымя» Кастусь Кірэенка. Ён сябраваў з Кузьміным, разам ездзілі на рыбалку, і сябра мой падгаворваў сакратара ЦК «зарубіць» раман. Навошта рызыкаваць? Але загадчык аддзела Іван Антановіч разумеў, што не надрукаваць раман пра Леніна — не меншая рызыка. Ён жа, Іван, стаў рэдактарам — інкогніта. Ні Пташнікаў, ні Кірэенка не казалі мне, хто выкрэсліваў цэлыя абзацы.

— Калі хочаш, каб надрукавалі, згаджайся з усімі папраўкамі.

— А чые яны?

— Якая табе розніца?

— Твае? Ты вярхоўны суддзя?

— Не я, — мусіў прызнацца Кастусь, што ёсць рэдактар вышэйшы.

А дабрак Кузьмін, з якім я завёў гутарку пра раман, здзівіў сваёй прастатой, сказаўшы:

— На хрэна табе гэта трэба?

Вось так! А гэта ж гісторыя! Выходзіць, не трэба яна! Цяпер многія мудрыя гісторыкі дапісваюцца да таго, што Брэсцкім мірам Ленін аддаў немцам Беларусь. Лухта! Не мір, а зрыў Троцкім перамоў даў магчымасць немцам дайсці да Оршы і Новазыбкава. Мір спыніў наступленне на Маскву. Ратаваў маладую дзяржаву, а галоўнае — сотні тысяч чалавечых жыццяў салдат — беларусаў, рускіх, украінцаў... Плацілі кантрыбуцыю, так. Але Ленін добра разумеў, што гэта ненадоўга: Германія вось-вось будзе разгромлена Антантай. Але ад вясны да лістапада — час некароткі. Колькі за гэты час магло асірацець дзяцей!

Васіля Быкава за «Мёртвым не баліць» павадзілі па «чысцілішчы». Але пазней «замалілі грахі»: прысудзілі вышэйшую ўзнагароду — Ленінскую прэмію (за «Знак бяды»). Мне ж была адна ўзнагарода: у 1986 годзе «Раман-газета» надрукавала «Петраград — Брэст» тыражом два мільёны экземпляраў — у перакладзе дачкі маёй Таццяны Шамякінай.

Яшчэ ў школе гісторыя была любімым прадметам. Дабраўшыся да кніг (у Мінску), я чытаў і даўгія гістарычныя раманы (Вальтэр Скот, Дзюма), і працы вучоных. Карамзіна, здаецца, праштудзіраваў усяго. Салаўёва, Кастамарава, Ключэўскага, Тарле, Ермаловіча... І даўно мне хацелася напісаць на гістарычную тэму. Але пра што? У маіх украінскіх калег, кнігі якіх я рэцэнзаваў для «Советского писателя», было нямала гістарычных раманаў. І ў грузінаў. У нас такіх кніг не было. У нас на мінулае як бы вета было накладзена. Ды і хапала тэм блізкай гісторыі — Айчыннай вайны. Але калі адбыўся «прарыў» і ўзнікла мода на гістарычныя тэмы, я не мог застацца абыякавым. А чаму не паспрабаваць і мне? Даўно, калі чытаў Карамзіна, усхваляваў мяне адзін жаночы вобраз, незвычайны лёс дачкі маскоўскага князя Івана III Алены. Каб спыніць частыя войны з Вялікім княствам Літоўскім, бацька выдаў яе замуж за вялікага князя Аляксандра, але з адной жорсткай умовай: ні ў якім разе не пераходзіць з праваслаўнай веры ў каталіцкую, да якой належаў муж. У канцы XV — пачатку XVI стагоддзя — якое нялёгкае гэта было настаўленне! Але Алена яго выканала. Як ціснулі на яе родныя Аляксандра, епіскап Віленскі і ўсё каталіцкае акружэнне — пра гэта чытач прачытае ў рамане.

Скажу адно: пісаць на гістарычную тэму вельмі і вельмі складана. Прынамсі, мне было. Тут патрэбна зусім іншая «тэхналогія». Калі пісаў «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», усё іншае, акрамя «Петраграда — Брэста», мне патрэбна была папера, ручка, чарніла; усе сюжэтныя хады, падзеі, характары, аўтарскія рэмаркі, дыялогі — у галаве. Яна была багатая ў мяне, фантазія. Усе дэталі жыцця герояў — перада мной, ва ўласнай кватэры, на сходах, пленумах, гутарках з сябрамі. У гісторыі ўсё трэба было вывучаць: дзяржаўны лад, межы, войны, быт — у што апраналіся, што елі, пілі... Знаходзіў гэта ў кнігах розных аўтараў. Але не ўмеў, відаць, карыстацца. Не меў картатэкі. Рабіў закладкі. Колькі адбірала часу, каб знайсці, удакладніць даўно прачытанае.

І ўсё ж раман атрымаўся. «Вялікая княгіня», лічу я, аўтар, адзін з лепшых маіх раманаў. За апошнія 15 гадоў «Раман-газета» дала толькі адзін беларускі раман — «Вялікую княгіню», праўда, ужо не двухмільённым накладам, а ўсяго — 25 тысяч. Збяднела і Расія. Ці збяднелі чытачы? Катастрафічнае падзенне тыражоў мастацкай літаратуры на ўсёй постсавецкай прасторы — з'ява, якую я не магу зразумець і вытлумачыць. Як самая чытаючая краіна ператварылася ў нечытаючую? Не думаю, што ад беднасці. Ідзе ж паток шэрых дэтэктываў, бульваршчыны. Матэрыяльнае перамагло духоўнае? Застаўся адзін бог — долар? На набыццё яго траціцца ўся энергія людзей. А які росквіт літаратуры быў у савецкія часы!

Сюжэт можа ўзнікнуць з характару канкрэтнага чалавека, які жыве, працуе побач з табой. Сюжэт «Глыбокай плыні» «трымала» Таццяна Маеўская, а яна — мая жонка Маша. Пра гэта сказаў на памінальным абедзе, калі пахавалі дарагога мне чалавека, маці маіх дзяцей, Іван Навуменка... Марыя Філатаўна была не толькі памочнікам у творчай працы, але і прататыпам гераінь многіх маіх раманаў, аповесцей. І гэта так, я зрабіў такое прызнанне ў біяграфічнай аповесці «Слаўся, Марыя!»

Побач са мной быў другі чалавек з адметным, асаблівым характарам — мой сябра Андрэй Макаёнак. Вельмі хацелася напісаць героя з такім характарам. Але не на вайне, на вайне ён мог бы паўтарыць рысы Яраша, Антанюка. У мірны час! У час спакойнага, але напружанага будаўніцтва усіх сфер жыцця — эканамічных, сацыяльных, культурных.

Давала сюжэтную лінію і драматычная сямейная сітуацыя Андрэевага жыцця — развод з Аленай (хоць прызнаюся, што мы з Машай абаранялі Лену, але, ведаючы ўзрыўны характар Андрэя, баючыся страціць такога сябра, я ні разу перад ім не заступіўся за Лену. Думаю, што Андрэй такую ганебную баязлівасць не праявіў бы).

Ёсць характар! Але каб ён праявіў усе свае якасці, трэба даць яму пасаду. Якую? Сакратара парткама, райкама, абкама? Многа пра іх пісалі. Дырэктара завода? Але якую вытворчасць я ведаў? Цэментную? Даўно забыўся. Пісьменніцкую? Сфера вядомая, канфліктаў процьма. Але этыка не дазваляла так раскрываць прататыпаў: адразу б пазналі хто ёсць хто. І канфлікты героя шмат каму б не спадабаліся. Мастак — жывапісец, скульптар? Тыя ж канфлікты. І дзейнасць абмежаваная: большую частку актыўнай дзейнасці Савіцкі ці Азгур сядзяць у сваіх майстэрнях і «варожаць» над фарбамі ці глінай. Не! Не тое.

І раптам трапляю на пасяджэнне бюро ЦК КПБ, стаяла нейкае пытанне, наша, здаецца, выдавецкае, але я не ўпершыню вырашыў паслухаць усю павестку. Пытанне: аб забудове Паркавай магістралі Мінска (зараз праспект Машэрава). Даклад — галоўнага архітэктара.

Пасля выступае Пятро Міронавіч Машэраў, разносіць архітэктурнае ўпраўленне, жорстка крытыкуе тое, што ўжо збудавана — дамы-тычкі, асабліва гасцініцу «Юбілейную», Палац спорту, развівае генеральны план забудовы Паркавай магістралі: дамы да кальцавой дарогі з аднаго боку — левага, правы, па беразе Свіслачы, ажно да Ждановіч — парк для адпачынку мінчан (шкада, што ідэі Машэрава не ўвасобілі ў жыццё). Але менавіта тады, у час выступлення першага сакратара, мяне, як кажуць, азарыла: во хто ён, мой Максім Карнач — галоўны архітэктар абласнога горада. На такой пасадзе яму было б дзе разгарнуцца! Чалавек тыпу Макаёнка не дасць драмаць у кабінетах ні чыноўнікам Дзяржбуда, ні сваім гарадскім — гар-

камаўскім, гарсаветаўскім! Дзе будаваць хімкамбінат? Палац культуры? Якія дамы павінны ўпрыгожваць цэнтральныя магістралі? А як можна сплясці сваяцкія, сяброўскія адносіны! І шырачэннае поле дзейнасці, не толькі адміністрацыйнай — творчай: сам праектуе, выкладае ў інстытуце, рыхтуе маладыя кадры творцаў.

Ужо там, на бюро, у галаве спляліся многія сюжэтныя лініі. Але галоўным чынам сямейныя. Архітэктурных праблем я не ведаў. Трэба вывучыць іх! Пачаў знаёміцца з архітэктарамі. У Мінску. У Магілёве. У Гомелі. Маім кансультантам стаў новы галоўны архітэктар Мінска Юры Грыгор'еў.

Бадай, наводзін іншы раман не пісаўся так хутка і весела, як «Атланты і карыятыды».

Не адразу адважыўся даць рукапіс Андрэю перад здачай у «Полымя». Амаль усе папярэднія раманы даваў — і меў ад яго канструктыўныя заўвагі, з якімі згаджаўся, раздзелы тыя перапісваў.

Даў Карнача і колькі дзён баяўся ісці да сябра на дачу, а звычайна мы страчаліся штовечар каля міліцэйскіх дач; часта нас перахопліваў начальнік гарадской міліцыі Мікалай Чаргінец — і зацягваў да сябе — на чай.

Андрэй з'явіўся сам з папкамі. Гаварыў з Машай пра бытавыя дробязі і нічога — пра раман. А я не спускаў вачэй з папак.

«Ну, як?» — уголас спытаць баяўся, але настрой яго мне падабаўся. І нарэшце:

— Ну, сабака, распісаў ты мяне, як Бог... каго? А ўвогуле гэта ўдача. Такога рамана ў нас яшчэ не было. Выстаўляй каньяк! За ўдачу!

«Атланты і карыятыды» чыталіся так, як «Глыбокая плынь», «Сэрца на далоні»; пра гэта сведчылі пісьмы, якіх асабліва многа было пасля мільённага тыражу «Раман-газеты». Праўда, два ці тры архітэктары крытыкавалі, але не злосна — «злавілі блох».

Рэжысёр Аляксандр Гутковіч паставіў чатырохсерыйны тэлевізійны фільм. Набраў лепшых маскоўскіх акцёраў, фільм атрымаўся. Мне, пасля працы з Нікіфаравым і Самсонавым, падабалася, што Гутковіч вельмі беражліва ставіўся да аўтарскага тэксту, ніводнага дыялога без маёй згоды не змяніў. Шкадую, што Беларускае тэлебачанне так рэдка паказвае фільм «Атланты і карыятыды». Думаю, сучасны глядач, апоены наркатычнымі баявікамі, паглядзеў бы не без цікавасці, як людзі жылі, працавалі, кахалі, жаніліся, разводзіліся, якія праблемы іх хвалявалі.

Але жыццё падкідвала не толькі праблемы, якія вырашаў Максім Карнач, яго кіраўнікі і паплечнікі, не толькі радасці гэтага жыцця, — а ў мірны час народ умее радавацца, няхай сабе і не з багатым сталом. Нечакана грымнула катастрофа, роўная вайне, — выбух атамнага рэактара на Чарнобыльскай АЭС: радыяцыя накрыла амаль трэць Беларусі, многія раёны Украіны, Расіі. Хто вінаваты? Дырэктара, інжынераў станцыі пасадзілі. Але толькі цяпер называюць Гарбачова, Слюнькова і многіх «вярхоўных», якія таілі ад народа маштабы катастрофы. А сапраўды, таілі. Мне яшчэ тады расказваў наш атамшчык Васіль Несцярэнка, як ён тры дні дамагаўся прыёму ў Слюнькова і як той кароткі даклад яго назваў «чушью».

Я ў гэты час быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР ад раёнаў, якія прымыкалі да Чарнобыля, — Хойніцкага, Брагінскага, Лоеўскага, Рэчыцкага. Меў намер адразу ж паехаць туды, хоць Машу спалохала маё жаданне. Не ведаю, чаму звязаўся па тэлефоне з першым сакратаром Гомельскага абкама, раней я ехаў да выбаршчыкаў без папярэджання. Камай адгаварыў мяне, на радасць Машы: маўляў, нічога я не ўбачу, і людзям, выбар-

шчыкам, кіраўнікам раёна, не да мяне. Паехаў першы раз у канцы мая. Пасля ездзілі з хойніцкімі хлопцамі, маімі маладымі сябрамі — Міколам Мятліцкім і Барысам Сачанкам. Трапілі на другое адсяленне: галасіла родная вёска Міколы Бабчын. І мы плакалі разам з жанчынамі, якія ўжо ведалі, што пакідаюць родныя хаты назаўсёды; у першых адсяленцаў жылі яшчэ ілюзіі: вернемся. Не помню, з якога факта завязаўся сюжэт. Ці не з рэплікі некага з кіраўнікоў, што жаніў сына ў той страшны красавіцкі дзень. А другі вельмі хваляваўся, што сына-афіцэра з Грузіі паслалі ў Афганістан.

Звязаў у адно. Пісаў ліхаманкава, як, можа, некалі ў маладосці «Глыбокую плынь». Ажно сэрца забалела. Напісаў хутка. Назву ўзяў з Бібліі, з «Адкрыцця Святога Іаана Багаслова»: «Третий ангел вострубил и упала большая звезда... Имя той звезды Полынь...» Па-украінску палын — чарнобыль.

Не хвалюся. Але другога такога рамана, як «Злая зорка», дагэтуль не чытаў у нашай літаратуры: знаёміцца з рускай, украінскай, як знаёміўся раней, магчымасцей мала.

У маі 2003 года Беларускае тэлебачанне паказала фільм «Эпілог» (рэжысёр Ігар Дабралюбаў). Сцэнарый мой па дзвюх кароткіх аповесцях, сюжэтна звязаных. Адразу пасля прагляду мне пазваніў наш добры паэт Раман Тармола і выказаў гарачую пахвалу:

— Прызнаюся, я не сентыментальны чалавек, але плакаў. Якая праўда пра жыццё інтэлігенцыі ў наш дэмакратычны час!

Фільм зняты гадоў сем таму і пасля прэм'еры ў кінатэатрах не дэманстраваўся. І на ТВ! Нехта з начальства сказаў, што фільм упадніцкі (жывём без цэнзуры!). Безумоўна, весялосці ў ім няма. Мастак, які прадае за мяжу свае карціны, у пустой майстэрні робіць вернісаж і, застаўшыся адзін, канчае жыццё самагубствам. А хто з нас не перажыў драму развалу Вялікай Дзяржавы, яўнай здрады кіраўнікоў, якія прадалі гэтую Дзяржаву?! Калі такое было ў гісторыі? Дзяржаўную маёмасць — бяры хто хочаш: прыватызацыя! Адкуль у былых партыйных, савецкіх служачых грошы, каб купіць цэлыя камбінаты, нафтапромыслы, руднікі, самалёты з аэрапортамі? А крамы пусцелі, ляснулі зберажэнні, якія людзі збіралі, можа, усё жыццё, у мяне 180 тысяч савецкіх рублёў — ганарары ад многіх выданняў у Саюзе, у іншых краінах. Што я павінен быў рабіць — танцаваць ад радасці? Я стаяў на праспекце (тады Леніна) перад магазінам-салонам, дзе мастакі прадавалі свае працы. Быў халодны дзень, сыпаў снег. Ніколі там не прадавалі кніг. Але на гэты раз нехта прадаваў і кнігі — тамы сусветнай літаратуры. Праўда, не пісьменнік, сваіх я ведаў. Але падумаў, што і сам мог апынуцца на яго месцы. І з калег маіх не адзін можа быць тут.

Першая з'ява новага жыцця. І вось такія першыя назіранні, новыя героі. Бачыў я пасляваенныя «талкучкі» і ў Польшчы, і дома, у Гомелі, у Чарнігаве, але «героі» іх не сталі героямі твораў літаратуры, кіно — адзіныя эпізоды, фон. А тут з'явіліся новыя героі, не, антыгероі, яны вызначалі ход жыцця. І адпаведна — новыя сюжэты. Былі, праўда, раманы пра Астапа Бэндэра. Але гэта смехатворчасць першых паслярэвалюцыйных гадоў. Пасля Вялікай Айчыннай вайны такія тыпы ў раманах не з'яўляліся. У жыцці пайшлі злодзеі іншыя — кралі мільёны.

Пасля назірання, як прадаюцца мастацкія карціны, кнігі, зацярушаныя снегам, і ніхто іх не купляе, я напісаў першыя аповесці «Paradies auf

Erden» і «Вернісаж», не ўласцівыя маёй творчасці. Яны спадабаліся не толькі кінарэжысёру Дабралюбаву, а і многім маім калегам. Не ведаю, як чытачам: тыражы адразу рэзка ўпалі, пісем не было. Не да нашых фантазій людзям!

Пачалося новае жыццё, цікавае. Па-рознаму здабывалі славу і мастакі, і палітыкі.

Пачаўся новы этап маёй творчасці. За дзесяць гадоў я выдаў чатыры кнігі (адна для дзяцей — успаміны майго маленства). «Сатанінскі тур», «Палеская мадона», «Пошукі прытулку» — для дарослага чытача накладам 3-4 тысячы (пасля стотысячных і мільённых).

На новым этапе творчасці на раман замахнуцца не маю сілы, баюся, што не скончу, хоць сюжэт ёсць; не дазваляе старасць. Новыя сюжэты не шукаю — яны прыходзяць самі.

Нядаўна тры дацэнты БДУ (Вольга Казлова, Ніна Рашэтнікава, Таццяна Шамякіна) прыйшлі да мяне дадому з доўгім спісам пытанняў і з кінаапаратарам: рабіць вучэбны фільм для сярэдняй школы. Перад асобнымі пытаннямі стаялі прозвішчы іх аўтараў — вядомых літаратуразнаўцаў: Алега Лойкі, Міхася Тычыны, Алеся Бельскага, Рагойшы-малодшага. Некаторыя пытанні аказаліся парадаксальнымі. Напрыклад: ці можна мае творы аднесці да мадэрнізму ці нават постмадэрнізму?

Не! Я ўсё доўгае творчае жыццё быў рэалістам. Ім і застаўся на новым этапе! (Не мая віна, што сённяшняе жыццё — суцэльны постмадэрнізм, а хутчэй абсурдызм.) Рэалістам памру! Ва ўсялякім разе, думаю пра завяршэнне свайго шляху цвяроза і рэальна. Слаўлю Бога, што Ён даў мне гэтае жыццё і нейкі талент.

*3.06.2003.*



## МІКОЛА ШАБОВІЧ

* * *

Бацькоўская зямля! Я сын тваіх абшараў.
Табе мой ціхі верш, сыноўні мой паклон.
Я тут прыйшоў на свет, я тут кахаў і марыў.
Бацькоўская зямля, ты сноў маіх палон.

Тут мой нясмелы крок і першае прызнанне,
Тут лёгка мне заўжды пад маміным крылом.
Спяшаюся сюды на шчырае спатканне
І ў ранні лістабой, і ў позні крыгалом.

Тут кожнаю вясной — буслоў шчаслівы клёкат,
На ўсе свае лады заводзяць спеў шпакі.
Бацькоўская зямля, твой чую кліч далёкі
І ў марах да цябе імчуся напраскі...

Прымі мой ціхі верш, сыноўняе вітанне,
Мой Нарачанскі край — калыска дабрыні.
Хай мірна над табой ружовіцца світанне,
Пяшчотай і цяплом твае хай промняць дні!

* * *

Тут наш апошні парог, як і першая сцежка,
Тут нам страчаць жаўрукоў, тут унукаў люляць.
Нас не ўратуе ў гульні ні арол і ні рэшка,
Так што, мой дружа, відаць, і не варта гуляць.

Дзе наш спачын — ці на ўзлеску, ці ў полі шырокім?—
Ведае, мабыць, пра гэта адзін толькі Бог.
Хай зберажэ нас на свеце, Святы і Высокі,
Хай не пашле ані горкай бяды, ні трывог.

* * *

Сутоніцца. Навокал ні душы.
І гэта ўжо становіцца прывычкай.
Якія ты «шэдэўры» ні пішы,
Ці ўспомніць хто? — пытанне з рытарычных.

Ты не нажыў ні славы, ні пасад,
Ты да людзей імкнуўся, як да Бога.
Глядзіш адзін на апусцелы сад,
І прад табой — шырокая дарога.

Куды ісці? І дзе шукаць свой дом?
Ты шчасце нёс ці, можа, нёс ты гора?
Направа глянь — Гамора і Садом,
Налева глянь — і там Садом, Гамора...

Сутоніцца. У лёсу на плячы
Мы ўсе заснём, нібыта кацяняты,
І не заўважым, як мільгне ўначы
Суровы надпіс: «Хутка час расплаты».

* * *

Другімі сказана даўно
Усё, што я прамовіць меўся,
І мой радок застыў, сумеўся,
Згубіў чарговае звяно.

Шчэ не народжаны, ды ўжо
Чакае зручную хвіліну,
Як перарэжуць пупавіну,
Цярпення скінуўшы лаўжо.

Бягуць свавольныя радкі
І не пытаюцца дазволу,
Пакору несці ці крамолу
На белы свет ва ўсе бакі.

Бягуць радкі,
Жывуць радкі.
Іх лёс, як сэрца, — трапяткі.
Сягоння.
І ва ўсе вякі.

* * *

За лета я радка не напісаў.
Я восені чакаў — і вось нарэшце:
«Дзень добры, мой шчымлівы вершасплаў,
Жаданае і мілае нашэсце!»

Мне хочацца свавольна рыфмаваць,
Свае разгойдваць мары-летуценні
І, як калісь, наноў перажываць
Пяшчотна-непаўторныя імгненні.

Камусьці прызнавацца, што люблю, —
Без гэтага — панурая самота! —
І зноў ступаць нясмела на зямлю,
Як немаўля, як птушаня без лёту.

Зноў нараджацца з маладым радком,
Здзіўляцца сонцу, небу і травінцы...
Якое шчасце, што ў мяне ёсць «Дом»,
Што не пражыў няздарам-бесхацінцам!

І што «Яшчэ пакуль не лістапад» —
Танюткі зборнік лірыкі інтымнай —
Кагось затуліць ад жыццёвых звад,
Сагрэе ў час журботлівы і зімны...

За лета я радка не напісаў?
Такой бяды! Я ж не стары, нарэшце,
Калі страчаю новы вершасплаў
Як самае чаканае нашэсце.

* * *

Наш раман — ён амаль не пачаўся,
Хоць і доўжыцца досыць даўно.
Так бывае. Кароткім па часе
Можа быць толькі ў клубе кіно.

Мы няспешна гартаем старонкі
Развітанняў, паглядаў, сустрэч.
Наш раман — ён зусім не кароткі,
Ён на некалькі кніг, насамрэч.

Мы мінулі пралог яшчэ толькі.
Шмат наперадзе светлых падзей!
Мы — дзве яблыка роўныя долькі,
Што не хутка на дол упадзе.

* * *

Ёсць два словы, займеннікі два,
Што ратоўча гучаць з нематы
І якім падуладна трава,
Лесу гонкага шолах густы.
Ёсць два словы, займеннікі два —
Я і Ты.

Тыя словы абудзяць сінеч,
Тыя словы разбудзяць зару,
Разарвуць цемру ночы, як меч,
Сонца ўздымуць увысь-угару.

І тады заблішчыць сінява,
Загарацца ад промняў лісты...
Ёсць два словы, займеннікі два —
Я і Ты.

* * *

Паволі сшытак разгарну —
І зразумею нечакана,
Што я чакаў цябе адну,
Што я табою быў чаканы.

Чаму між гэтулькіх дарог
Я на тваю адразу збочыў?..
Магчыма, знае толькі Бог,
Хто нашу стрэчу напрарочыў,

Злучыў і яву, й міражы
І зніташаў адной ніцінай.
А ты ці радая, скажы,
Каханай быць і быць адзінай,

Што ўжо шляхоў назад няма,
Што мы адны перад іконай?
Скажы, ці верыш ты сама,
Што ты мая, я твой да скону?..

Няспешна сшытак загарну,
Надзеяй той закалыханы,
Што я кахаў цябе адну,
Што я табою быў каханы,

* * *

Дзень адгарыць непрыкметна, як ты ні старайся,
Лямпы настольнай святло не заменіць яго.
Колькі шчэ сілы стае, — за надзею трымайся,
Можа, яна й не пакіне цябе аднаго.

Час, што ніяк не спыніць, — наш суддзя і ратоўца, —
Ведае ўсё: ён ад Бога найпершы вястун.
Што ж мы шкадуем для родных спагаднага слоўца,
Бачым бяду — абыходзім яе за вярсту?..

Хіліцца дзень, спакваля прарастаючы ў вечар.
Дзе ты, надзеі святло, што заве з нематы?
Хтосьці мяне абдымае нябачна за плечы.
Ты або вечнасць? Мне хочацца верыць, што ты.

* * *

Поўня заснуць не дае.
Мроі счакаліся лёту.
Што спавядаюць мне вочы твае:
Радасць? Надзею? Пяшчоту?

Сэрца нячутна пяе.
Ткуцца ўспаміны да рання.
Што спавядаюць мне вочы твае:
Шчырасць? Лагоду? Каханне?

Ноч паўнамоцтвы здае.
Скажа мне хто, акром ночы,
Што спавядаюць мне вочы твае —
Шэра-зялёныя вочы?

* * *

Са мною ты і ўдзень, і ўноч,
Хоць мы страчаемся так рэдка.
Глянь на мяне, ды не суроч,
Салодкіх сноў маіх суседка.

Ляцяць-бягуць імкліва дні,
Сустрэч кароцячы гадзіны.
Скажы мне ўсё, ды не змані:
Лепш ніякі, чым не адзіны.

Са мною ты і ўдзень, і ўноч.
Ці я з табой удзень, начамі?
Глянь на мяне, ды не суроч
Сваімі дзіўнымі вачамі.

* * *

Здасца на хвілю,
што зможам пражыць па адным.
Здасца на хвілю,
што зможам пражыць без пяшчоты.
Здасца на хвілю,
што наша каханне, як дым,
хутка сплыве,
нам пакінуўшы сум і гаркоту.
Здасца на хвілю...
Як добра,
што толькі
на хвілю...

* * *

Мне сягоння здалося, што хутка я страчу цябе,
Што Ён вернецца зноў, назаўсёды — былы і жаданы.
Мо таму так на сэрцы прасторна і вольна журбе,
Мо таму абуджаюцца даўнія й новыя раны.

Мне сягоння здалося, што хутка закончыцца год
І пачнецца наступны, але не для нас — для кагосьці.
І не станем шукаць для званкоў і спатканняў нагод,
Зразумеўшы, што мы на Зямлі — беспрытульныя госці.

Мне сягоння здалося, што выпіта шчасце да дна
І на дне — анічога, хоць соладка быццам пілося.
І кружляе над намі былых неспатканняў віна...
Мне сягоння здалося...Чаму мне такое здалося?

* * *

Не цурайся майго даверу,
Не ганіся за ўяўнай марай.
Нават птушцы й лясному зверу
Так нялёгка, калі без пары.

Нас з табой разлучыць — што неба
Адарваць ад міготкіх зорак.
Ты пяшчотай маёй не грэбуй,
Не прыспешвай маўклівы морак.

Паасобку мы што́ на свеце? —
Ліхтары ў незямной цямрэчы,
Што так цьмяна, бяспромна свецяць,
Асыпаючы золь на плечы.

Будзьма ж разам, пакуль спадзеўна
Месяц росны глядзіць у вочы.
Ты й сама разумееш, пэўна,
Мо таму і не спіцца ўночы...

Не цурайся майго даверу,
Не ганіся за ўяўнай марай.
Нават птушцы й лясному зверу
Так нялёгка, калі без пары.

* * *

Ведаюць вуліцы вусцішнасць крокаў тваіх,
Ведае вечар узвышанасць мараў высокіх.
Ты нараджаеш спагадлівых струн ускалых —
Музыка льецца і кліча з сабой за аблокі.

Як ты сягоння чароўнаю кветкай цвіцеш!
Мне б любавацца адно на абновы-прыўкрасы.
Цеш хоць надзеяй, хоць мрояй салодкаю цеш,
Покуль не ноч. Ноч схавае падману грымасы.

Потым раскажаш пра сум і сумненні свае.
Рук не прымай — хай яны спаталяюць самоту.
Самы багаты, хто іншым найбольш аддае.
Дык не шкадуй ані вуснаў, ні грэшнай пяшчоты.

Покуль не Заўтра. Бо Заўтра ці злучыць шляхі?
Сённяшні дзень не паўторыцца болей ніколі.
Месяц з-за хмар пазірае, сляпы і глухі,
Нібы акцёр, што галоўнай не вывучыў ролі.

* * *

Будзь недасяжнай галінкай пяшчоты,
Той, што вясной саграваецца промнем.
Я на цябе наглядзеўся употай,
Кожную рыску тваю я запомніў.

Лепшай, чым ты, уявіць немагчыма.
Колькі ў сабе ты хаваеш спагады!
Трызню я ноччу тваімі вачыма, —
Самыя светлыя мрояцца згады.

Божа, як добра, што доўжыцца споведзь
Нашых паглядаў, што дораць пяшчоту.
Новае ранне надзеяй напоіць,
Дзень беласнежны развее самоту.

* * *

Як мітусня гасцюе дзень пры дні,
Змяняе вэрхал даўкія турботы, —
Захочацца хоць хвілю цішыні,
Захочацца хоць хвілю адзіноты.

Захочацца заснуць пад клёнаў шум,
Уткнуўшыся ў падушку травяную,
І спавядаць уласную душу,
І піць да дна сімфонію лясную.

Не шкадаваць, што мклівяцца гады,
А шкадаваць, што вёсны за гарою
І што не я, а нехта мालады
Не спіць да рання летняю парою

І прысвячае дзіўныя радкі
Дзяўчынцы той, якой не знаць ніколі
Тых шчырых слоў, шчымліва-трапяткіх,
Таго пякуча-радаснага болю...

Гады, гады... Не вернуцца яны,
Хіба прысняцца толькі на хвіліну
Пад клёнаў шум, гаючы шум лясны,
Пад ветру спеў, пад посвіст салаўіны.

* * *

Згубіўшыся ў вірушлівых завеях
Свайго жыцця, дзе спрэс адны пытанні,
Мы, як калісь, паходзім па алеях,
Не здолеўшы прызначыць развітання.

Усё тут родна, блізка і знаёма:
І смех дзятвы, і пошум вербаў ніцых,
І школьнікаў бадай што легіёны
З бантамі «выпускнік» і «выпускніца»...

Сядзім на лаўцы. Ходзім па алеях.
Гартаем хвілі стрэч і развітанняў,
Згубіўшыся ў вірушлівых завеях
Свайго жыцця, дзе спрэс адны пытанні.

* * *

Колькі світанкаў спаткаць,
вечароў і начэй,
колькі шчэ рэк пачуцця
мы адолець маглі
ўшыр і ўглыб,
колькі пяшчоты
дарылі б пагляды вачэй,
колькі шчэ вершаў і песень
магло нарадзіцца,
калі б...

* * *

Лагодны вецер з поўдня павявае,
Нібыта гоніць прэч адчай-самоту,
Ды на душы не радасць веснавая,
А горкі спеў асенняй пазалоты.

Чаму гадзіны поўняцца трывогай,
Што ўсё калісьці скончыцца павінна?
Куды ні йдзі — не доўжацца дарогі,
А карацеюць з кожнаю хвілінай.

І дзе прытул? Дзе сноў салодкіх вырай?..
Калі ж мой крок супыніцца аднойчы,
У мінчукоў патоку шумнавірым
Мяне пазнай і паглядзі мне ў вочы.



ЗІНАІДА ДУДЗЮК

# КОЛА СВАРОГА

***Раман-рэканструкцыя (паводле язычнічкай міфалогіі)***

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

### БАГІ І ЛЮДЗІ

#### 1

Вялес з Ярылам свой загон вялікі штодня, як і належыць, абраблялі, аралі, засявалі, збіралі ўраджай, касілі сена ўдосталь. Сачылі, як сяляне поле даглядаюць. Крый Божа стрэнецца які лайдак. Яго Вялес падхопіць ды як кіне, мала хто не станецца калекам.

Дажбогу людзі скардзіцца пайшлі на самаўпраўства грознага Вялеса, плакалі, клялі асілка-бога, што родзічаў са свету зводзіць часам, патрабавалі жорсткае расправы. Дажбог паклікаў да сябе Вялеса, спытаў:

— Навошта крыўдзіш ты маіх унукаў?

— Я іх, лянівых, розуму вучу.

— Вучыць вучы, але не зарывайся, рукам магутным волі не давай. Будзь роўны сярод роўных. Не ўставай гарою над малымі, нікога не палохай сілай. Бог барані кагосьці забіваць! Нікчэмны прыклад!.. Думаю, табе з людзьмі патрэбна памірыцца.

— Мірыцца дык мірыцца. Я гатовы...

Сабраў Вялес дружыннікаў сваіх, лесавікоў ды ваўкалакаў, і да людзей пайшоў. Квасура наладзіў баль. Каб памірыцца, з брацiны аднае пілі ўсе мёд, калі ж сп'янелі, бойку пачалі. Не разбярэш, дзе людзі, дзе багі.

Зноў раззлаваўся на людзей Вялес, пачаў іх малаціць па чым папала, каб паважалі бога, адчувалі розніцу паміж сабой і ім. Але й яму самому дасталося, нехта дубінай даў па галаве, кроў палілася па лбе Вялеса.

Над ім схілілася краса-дзяўчына, яна абмыла твар Вялесу, перавязала хусткай галаву, паклала адпачыць на траўцы роснай.

— Скажы імя сваё, — Вялес прамовіў.

— Завуць мяне Расой.

— Вялікі дзякуй, мілае дзяўчо, за дапамогу, ласку і цяпло.

— Была я рада памагчы табе.

— Будзь маёй жонкаю.

— Хіба гэта магчыма?

---

Заканчэнне. Пачатак у № 8, 2003 г.

— Ты да душы мне, мілая красуня.

Пабеглі людзі зноўку да Дажбога са скаргаю, што ім няма жыцця ад грознага і дужага Вялеса, зацяжкая ягоная навука.

Дажбог паслаў сваю дружыну, якая бойку хутка развяла. Квасура ўсім наліў па чарцы пахмяліцца. Вялес з Расою ў лес падаўся, звяры яго ўсё ж лепей разумелі, чымся людзі. Бо кожны чалавек ледзь розум свой адчуе, адразу сябе богам уяўляе.

## 2

Квасура борці меў у пушчы, абвязваў іх чырвоным матузком, штогод шмат мёду выбіраў, пакуль не ўнадзіўся якісьці пчаладзёр, спрэс вынішчаў усе калоды. Квасуру нават на ахвяраванні мёду не ставала. Паскардзіўся Вялесу ён:

— Няма парадку ў пушчы. Злодзей ходзіць... А ты не заўважаеш анічога.

— Хіба за ўсім угледзіш, — адказаў лясны ўладар. — Але, як трэба, прасачу за борцямі тваімі.

Мінуў мо тыдзень — пчаладзёр з'явіўся. Нячутна да яго Вялес наблізіўся, спытаў:

— Нашто бярэш чужое?

— Гэта маё, — прамовіў пчаладзёр.

— Дык ты яшчэ хлусіць мне будзеш? — Вялес тут узлаваўся не на жарт.

— Агульны лес з усім яго дабром, таму і карыстаюся калодай.

— Але ж яна пазначана Квасурам.

— Я знаку не заўважыў...

— Квасура, дзе ты ёсць? Ау! Хадзі сюды! Злавіў твайго я пчаладзёра, — гукнуў Вялес на пушчу ўсю, ды так, што жалуды і шышкі пасыпаліся з голля градам.

— Іду, — здалёку, ці не з-за ракі, пачуўся водгук голасу Квасуры.

Хвілін праз колькі ён з'явіўся сам, здзівіўся:

— Такі малы, а столькі шкоды робіць.

— Як пакараем? — запытаў Вялес.

Заенчыў чалавек:

— На аднаго — аж два багі! Несправядліва гэта! Дзе ваша літасць і высакароднасць?

— Нашто, Вялес, яго мы зачапілі? — пашкадаваў Квасура.

— Ты папрасіў, а я злавіў злачынцу! Цяпер карай яго, як хочаш сам.

Квасура паглядзеў на чалавека, што ля калоды на калені ўпаў і літасці прасіў, прамовіў:

— Калі ўжо даспадобы табе мёд і пчолы, дык ты і ўсе твае нашчадкі займацца будуць гэтай справай. А каб не мерз ты, жывучы ў лясах, вось футра табе цёплае.

Ператварыў Квасура пчаладзёра ў мядзведзя. Калі на заднія ён стане лапы, паставаю нібыта чалавек. З тае пары мядзведзі завяліся ў нашых пушчах, ласункі любяць, асабліва мёд.

## 3

Ішоў Вялес сялом, убачыў, што пляце нядбайны чалавек з саломы плот, спытаў яго з дакорам і здзіўленнем:

— Што робіш ты? Такое марнай працы ніколі не даводзілася бачыць.

— Я сёлета памру. На мой век хопіць.

— Чаму ты думаеш адно пра смерць? А як жа твае жонка, дзеці, унукі? Хіба не трэба ім надзейны плот?

— Бабыль я... Няма мне для каго старацца.

Вялес задумаўся, пасля сказаў старому:

— Рабі плот добры, як належыць. Падоўжу век табе на шмат гадоў.

— Хто ты такі? — здзівіўся селянін.

— Я бог твой.

— Колькі ж пражыву я?

— Стаў гэткі плот, каб перажыць яго.

— А калі я зраблю яго дубовым?

— Запомні, смерць твая ў тваіх руках, — з усмешкаю сказаў Вялес. — Твой прыклад будзе мне навукай, цяпер я так зраблю: ніхто з людзей не будзе ведаць дзень, калі памрэ.

З тае пары пайшло так на зямлі: ніхто не ведае пра момант сваёй смерці. Учынкамі і звычкамі сваімі часам людзі аддаляюць смерць ці набліжаюць. Ад мудрасці найбольш гэта залежыць, якую чалавек за век прыдбаў.

## 4

— Нарэшце, бацька, я знайшоў цябе, — сказаў Ярыла стомлена Вялесу. — Блукаў паўдня, каб сцежку адшукаць...

— Ад поля ты, бываеш мала ў лесе. Тут асаблівы дух і лад жыцця. З Расою нам вядомыя ўсе сцежкі. Нямала іх пратоптана, заўважыў?

— Лес сам сабой жыве, сам сябе плодзіць, а полю трэба дагляд мой штодня...

— Ва ўсякім разе бачыць цябе рады. Сядай на пень. Папі мядочку ў смак.

— Прыйшоў я па занадта важнай справе.

— Я слухаю цябе, — сказаў Вялес.

— Бяда ў нас, бацька: Дый абклаў данінаю людзей, якую мы ніяк сплаціць не можам. Парай, што нам рабіць?

— Мо мала вы працуеце, Ярыла, што не хапае зерня на падаткі?

— Працуем, бацька, болей, чым калі, але падатак гэткі непасільны, што нават я цяпер ужо не ў стане разлічвацца ўраджаем з Дыем. За хмары, дождж, за вецер і за сонца — за ўсё падаткі з нас цяпер бяруць!

— Ярыла, не бядуй, я з ім пагавару. Дамоў вяртайся, супакой людзей...

Сабраў Вялес магутную дружыну, з Расою любай развітаўся, пайшоў на неба з Дыем ваяваць. Пад ранне, калі варта Дыя спала, Вялес зрабіў напад на непрыступны палац, варту сонную паразганяў, палац амаль што напалову разбурыў. Разгубленага Дыя падняў з пасцелі, крыкнуў:

— Разбэсціўся ты, Дый, тут, на нябёсах. Замест таго каб вартаваць зямлю, ты спіш. Наставіў соннай варты, якая, пэўна, з вечара яшчэ сурою абпілася. Падаткі падвышаеш год ад года, каб хеўру гіцляў, лайдакоў карміць?

— Як ты пасмеў, Вялес нікчэмны, з гною ў мае харомы заявіцца? Ахова! Дзе ахова? Усе сюды!

— Ніхто не прыйдзе, і не спадзявайся. Я разагнаў ахову ўсю тваю!

За меч схапіўся Дый, пачаў размахваць.

— Ты атлусцеў і пастарэў, а зброяй не валодаеш зусім! Я зараз пакажу табе, як гэта робяць людзі, не тое што вялікія багі.

Пачаў Вяляс махаць сваім мячом, пагнаў ён Дыя. Зваліўся той з нябёсаў у прадонне да Чарнабога, сябрука свайго. Вось гэта Дыя мо і ўратавала...

Вялікі Чорны Змей сустрэў яго з пашанай, як госця дарагога, раны залячыў. А іх яднала даўняе знаёмства.

— Як жа ты, Дый, дазволіў, што Вялес цябе з дамоўкі выгнаў? — пасміхнуўся Чарнабог.

— Падкраўся подла сярод ночы ён.

— За подласць трэба подласцю плаціць!

— Хачу адпомсціць, ды не прыдумаў, як гэта зрабіць.

— Я падкажу табе. Надзейны сродак ёсць, — Змей Чорны Дыю падміргнуў і нешта прашаптаў на вуха.

## 5

З усіх дачок сваіх найболей Святагор любіў найменшую, якую звалі Марай. Свавольніца, пястушка, прыгажуня! Ёй даравāў дзіцячыя правіны, ніколі не караў, а болей спагадным словам выхоўваць багіньку імкнуўся. Аберагаў ад смутку і нягодаў, але перад каханнем бяссільныя нават багі бываюць.

З вячорак занадта запазнілася аднойчы Мара. Святагор спытаў:

— Няўжо табе, дачка, сярод людзей так добра, што ты старога бацьку забываеш?

— Там весела! Цікава гэтак, тата! Там не магу наслухацца я гусляў і песень тых, што ў сэрца западаюць!

— Багіня ты! А людзі ўсе смяротныя! Яны памруць, пражыўшы век кароткі. Ты будзеш вечна жыць. Ці разумееш гэта?

— Навошта ведаць мне, калі і хто памрэ! Ледзь Усяміл на гусельках заграе, я забываю, што смяротны ён. Гляджу, нібы на бога, на яго. Сваім мастацтвам ён вышэйшы за мяне, багіню!

— Закон жыцця няўмольны!

— Ці ж вінаваты ён, што нарадзіўся проста чалавекам? А я? У чым мая віна, што мушу неўміручай быць? Хацела б я з ім памяняцца доляй!..

— Што кажаш, неразумнае дзіця? Жыццё людзей — у вечнасці імгненне!

— Я без яго і момант не хачу...

— Ты закахалася, наіўная багінька, у гусляра! Што музыка такое? Толькі гук! Тут быў — і ўжо няма! Не захаваеш і з сабой не возьмеш.

— Яна ў маёй душы гучыць, гучыць!.. Яе я чую, быццам бы наяве.

— Мая ты Мара, Марачка, Марушка, пустыя думкі выкінь з галавы. У Сварзе ёсць багі прыгожыя і маладыя, і вартыя цябе...

— Не, не! Ні ў якім разе! Жадаю толькі з Усямілам быць, — упарта запярэчыла дачка.

— Не разумею, чым звычайны хлопец прычараваў цябе, багіню?

— Ах, тата, калі ты яго пачуеш, таксама...

— Не смяшы, дачка. І ў маладосці не любіў я гулі, жыў паміж гор, нёс службу, а цяпер... Ты прывядзі яго, я пагляджу, на што ён здатны!

— Вялікі дзякуй, татка! Ты самы лепшы ў свеце, — дачка шчаслівā ў вочы зазірнула Святагору, але знайшла там толькі змрочны холад, таму спытала: — Што задумаў ты?

— На кемлівасць яго праверу...

— Ён кемлівы, не сумнявайся!

— Хацеў бы сам упэўніцца... Вось дзіва! Гусляр прычараваў багіню! Калі майстэрствам велічы такой дасягаюць людзі, ім хутка не спатрэбяцца багі!

## 6

Стамлёны Святагор драмаў пасля абеду. Яго раптоўна абудзілі крокі. Расплюшчыў вочы і пабачыў Мару з незнаёмым хлопцам.

— Вось і мы, — гарэзліва прамовіла дачка.

— Жаніх прыйшоў... Худы і белабрысы... Гусляр... За грэх які Усявышні пакараў? — бурчаў стары сабе.

— Што Усямілу ты сказаць хацеў ? — спытала Мара.

— Вы, моладзь, гульні любіце, таму я прапаную жаніху твайму ў хованкі са мною пагуляць...

— Ну і прыдумаў, тата, ты занятак — смяялася дачка. — Табе хавацца? Не смяшы мяне. Ты за гару вышэй! Цябе скрозь бачна!

— Хавацца будзе ён, а я шукаць! І пачынаем, годзе зубы загаворваць.

Пашыбавалі Мара з Усямілам у лес. Яна яго ператварыла ў дуб. Здалёку бацьку крыкнула:

— Ну, адкажы, дзе Усяміл?

— Дубок, што на ўзлеску новы вырас, — прамовіў Святагор.

— Чакай жа, татка! — Мара прашаптала.

Яна схапіла хлопца за руку, вясёлку разгарнула аж на неба, пабегла ўгору з ім, а там хлапца ператварыла ў зорку, нябачную на дзённым небе. Вярнулася да бацькі і спытала:

— Скажы цяпер, дзе Усяміл схаваўся?

— Мігціць ён зоркай у сузор'і Шаляў... Вось-вось стуль зваліцца, не для такіх нябёсы, — сказаў ёй Святагор і задрамаў, прыгрэў душу на сонцы.

Задумалася Мара, як жа ёй перамудрыць старога бацьку. Падкралася яна і выкрала ў яго адгадак кнігу, якою карыстаўся Святагор. Пасля ператварыла жаніха ў пярсцёнак на сваім сярэднім пальцы, дакладна ў гэткі самы, які ёй бацькам быў падораны калісь.

— Гэй, татка, годзе ўжо драмаць, — сказала Мара і Святагора пабудзіла. — Шукай, куды схаваўся Усяміл.

— Чакай, скажу...

Агледзеўся навокал Святагор, заўважыў, што няма ратоўнай кнігі.

— Навошта кнігу ты маю забрала?

— Хацела пачытаць...

— Дачка, хітруеш... Пераняла навуку гэтую ў людзей?

— Але згадзіся, татка, што несправядліва: ты з кнігаю, а я...

— Ну, добра... Добра... Я здаюся...

— Не знойдзеш Усяміла? Так?

— Заглыбака яго схавала, ажно ў сэрцы... Я ведаю: ты здольная, а ён...

— Не абражай яго, бо мы адно з ім!

— Ах, Мара, Мара! Ён жа чалавек! Яму не дадзена ніколі зразумець той боскай сутнасці, якая вядзе цябе...

— Яго без словаў, тата, разумею. Адзіны позірк, уздых, усмешка, нібыта свет шырока расчыняюць. А без яго няма жыцця і шчасця.

— Шчаслівая вар'ятка! Будзь такой, пакуль жыве ён. А пасля мне абяцай быць разумнейшай.

— Калі памрэ ён, разам з ім памру!

— З табою сёння гаварыць дарэмна. Ідзі з маіх вачэй!

Пабеглі Мара з жаніхом склікаць гасцей на ўласнае вяселле.

Сустрэўся ім Квасура па дарозе, яму сказала Мара:

— Шаноўны бог суры, цябе ўрачыста запрашаем на вяселле!

— Вялікі дзякуй! Рады я за вас! Звару вам піва, медавухі, квасу нараблю...

Вянчалі маладых у капішчы, дзе Род усемагутны і Лада ўшаноўваліся вечна. Звязалі рукі Мары і Усяміла вясельным ручніком, пярсцёнкі залатыя ім надзелі. Шлюб іхні асвяціў жрэц Салавей, празваны так за пранікнёныя прамовы, гімны ўзнёслыя і шчырыя малітвы. Сівенькі быў стары, але магутны дух ягоны сягаў далёка. З-за свету прыходзілі яго паслухаць, набрацца сілы, акрыяць душой, ачысціцца ад немачы і смутку. Ён людзям словам мудрым памагаў, святой вадой, чыстым агнём, купальскай зёлкай...

Тры дні, тры ночы весяліліся багі і людзі на вяселлі тым, і не палічыш, колькі песняў праспявалі, але адна найбольш запала ў душу:

Хадзіў-пахадзіў ясны месяц,
Лічыў-палічыў зорачкі ў нябёсах,
Ды не далічыўся зоркі вечаровай.
Дзе яна прапала. Ці жыва-здарова?
Дзе яна апоўначы па свеце хадзіла?
Каму яна поначы весела свяціла?
Хадзіў-пахадзіў Усяміл па хаце,
Лічыў-палічыў ён сваё багацце.
Прападаюць скарбы дарагія марна,
Калі няма побач любай жонкі Мары...

## 7

Зненавідзеў зяця Святагор і знішчыў бы яго, напэўна, ды не хацеў дачцэ азмрочваць лёс. Яна жыла шчаслівa, бесклапотна, вясёлае бяздумнае дзіця. Цярпліва далучаў яе да працы муж малады. Вучылася яна ў сялянак прасці, ткаць, сваім уменнем любіла бацьку пахваліцца. А ён незадаволена бурчаў:

— Хіба жыццё такое для багіні? Павінна ты ўладарыць, а не быць рабыняю турбот будзённых.

— Хапае ўладароў і без мяне, — смяялася дачка ў адказ. — Мне дастаткова, што душой маёю муж закаханы валадарыць. А хутка нараджу сабе дзіця, яшчэ адзін маленькі ўладар маю душу ў палон захопіць.

— Была ў маленстве ты ласкавай, паслухмянай, разбэсціў дабрынёй сабе на гора.

— Па-рознаму мы разумеем гора. Па-рознаму ўяўляем, бацька, шчасце. Дазволь мне лёс свой выпіць, нібы келіх, з чым ён ні будзе — з мёдам ці атрутай.

— Рабі, што хочаш, толькі ведай: праляжа шлях твой праз расчараванні. А муж твой... Ён звычайны чалавек, смяротны і слабы... Уратаваць цябе не здолее ніколі.

— Навошта ты мяне палохаеш?

— Варункі могуць знішчыць чалавека, яны і для багоў — выпрабаванне!

— Я тут шчаслівая, у гэтым часе, пра іншы нават думаць не хачу.

— Жадаю ў шчасці жыць, як найдаўжэй, — прамовіў Святагор і развітаўся з Мараю, а крыўда стрэмкаю засела ў сэрцы.

Падумаў Святагор: «Як правучыць мне маладых, каб мудрасць бацькі паважалі і словам яго кожным даражылі. Шкада дачкі... Але ж непаслухмяная... За ўсё трэба плаціць, калі на тое... Мо зразумее? Пачакаю трохі...»

## 8

Сын нарадзіўся ў Мары і Усяміла. Над немаўлём бацькі схіляліся турботна, ці не пара карміць, ці піць не хоча, ці не час малое пакупаць... Пялюшкі паласкалі па чарзе, варылі кашку, печ тапілі, сачылі, каб вуголле не згасала, пасля ідзі і пазычай агню.

Імя сумесна выбіралі сыну.

— Ён будзе слаўны, Славай назавём, — прамовіў бацька.

— Баюся, Усяміл: багіня Слава яго ў нас забярэ, прымусіць подзвігі здзяйсняць, жыць у пакутах, чужыя сплочваць жорсткія грахі. Не для яе, а для сябе дзіця мы нарадзілі.

— Няхай не Слава будзе ён, а Слаўка. Для нас адно ён будзе слаўны сын, каб старасць нашую дагледзець мог.

— Мой Слаўка, мой маленькі жаваранак, — малога Мара ў лоб пацалавала, — расці вялікі, мужны і вясёлы, як бацька твой, якога я кахаю.

Хадзіла Мара па ваду да рэчкі, спяшалася, калі адзін сынок у хаце заставаўся, ляцела, што не бачыла дарогі. А неяк трапілася ёй на вочы ў кустоўі кветачка, нібы агеньчык ззяла.

«Сарву, — падумала яна, — і занясу сынку. Ніколі гэткай кветкі я раней не сустракала...»

Ледзь дакранулася багіня да сцяблiны —ператварылася ў дзіўную істоту з тулавам магутнае ваўчыцы. Пабегла Мара да сваёй хаціны, ды схамянулася, што напалохае дзіця. Тады да Усяміла кінулася ў поле, дзе ён араў ад ранку свой загон. Ды зразумела, што і ён пазнаць не здолее яе такую.

Заплакала, загаласіла Мара:

— За што мяне бяда апанавала? За грэх які? А можа, хто знарок?.. Але чаму?.. Ці гэта бацька мой?.. Ён быў незадаволены маім шлюбам... Пайсці па дапамогу да яго? Не, не, ніколі... У легкадумнасці мяне абвінаваціць ён... Не так жыла, як трэба жыць багіні, таму і мушу я ў звярынай шкуры пакутаваць свой век.

Магутны бор прытулак Мары даў, а зграя воўчая ў сваю ўзяла сям'ю. Яга, на ступе пралятаючы, аднойчы крыкнула ёй весела з нябёсаў:

— Каханне розныя аблiччы мае! Павер, тваё адно з найпрыгажэйшых.

— На што ты намякаеш? — Мара запытала.

— На тое, што аблуды скрозь на свеце, ім падуладны людзі і багі!

— Багі сабе належаць...

— А ты належыш мне...

— Дык гэта ты мяне зрабіла зверам?

— Старалася я для тваёй карысці!

— Я не прасіла, чуеш! Адчаруй!

— Яшчэ не час...

— Дзіцятка ж у мяне. Я выплакала вочы ад сумоты!

— Праведаеш дзіця купальскай ноччу, але вяртайся неадкладна зноў!

Яга за лесам знікла, пакінула багіню ў задуменні. Ніяк спасцігнуць Мара не магла, хто кару гэтакую ёй прыдумаў. Да самага Купалля была яна ваўчыцай. Толькі, калі папараць-кветка закрасавала, зноў абярнулася яна багіняй, пайшла да мужа і яму ўсё расказала.

Заплакаў Усяміл:

— Цябе шукаў, не ведаў, што і думаць. Хадзіў да Святагора. Сварыўся ён, што я няўдалы муж, таму прагледзеў жонку. Ды быў ён здзекліва спакойны, таму я зразумеў, што ты жывая, але цябе схавалі ад мяне.

— Маю здагадку вымавіць баюся. Няўжо мой бацька, мудры Святагор, прыдумаў мне такую кару, падгаварыў Ягу? — спытала Мара мужа.

— Не маем права дрэнна думаць мы пра Святагора. Аднак з Ягой сустрэцца мушу я і вымаліць цябе з палону.

— Яна такая варажбітка, што ты яе не перамудруеш... Які прыгожы ў нас з табой сынок... Разлука з вамі — горшая за смерць. Бо мёртваму ўжо не баліць нічога.

— Застанься з намі, будзь ваўчыцай нават... кахаць буду цябе заўжды ўсё роўна, — прамовіў Усяміл.

— Не магу, світанкам мушу да Ягі вярнуцца.

Праз сон заплакала дзіця. Да сэрца яго матуля прытуліла, схілілася, пацалавала ў лоб, казала словы, поўныя пяшчоты. Дзіця яе за шыю абняло і ў сне шаптала:

— Мама, мама, мама...

Ноч прамільгнула, як адно імгненне. Убачыў Усяміл ваўчыцу, якая над калыскаю дзіцяці завыла, лапай слёзы сцерла, зірнула ад парога раз апошні і паспяшала да Ягі ў свой лес.

— Чакай! — ён крыкнуў.

А яна не чула, ляцела цераз поле да кустоўя, а хтось з сялян за ёю гнаўся ўжо. Не любіць вёска гэтакіх гасцей...

## 9

Ледзь свой палац зноў Дый адбудаваў, ён запрасіў Вялеса да сябе на пачастунак.

— Хачу, Вялес, з табою памірыцца. Нашто варагаваць? Будзем братамі, — прапанаваў гасцінна Дый. — Заходзь у мой палац і будзь, як дома...

Вялес з дружынаю ўвайшоў, падзякаваў за запрашэнне.

Зайгралі гусляры, Квасура мёд разліў па чарках.

— За еднасць і братэства, — тост першы паднялі Вялес і Дый.

— Прыгожы ты палац адбудаваў, — заўважыў госць.

— Так, прыгажэйшы, чым ён быў раней.

— І сам ты быццам стаў дужэйшы!

— Дужэйшы, чым ты думаеш, Вялес!

— У чым жа твая сіла, раскажы!

— У хітрасці!...

— Цікава... Дзе ты набраўся гэткае заразы? Чуў я пра розум, чуў пра мудрасць нават, а хітрасць між багамі не вялася...

— Яе падараваў мне Чорны Змей.

— Дык пакажы мне, што гэта за штука? — Вялес сказаў.

— Давай па чарцы вып'ем, а пасля...

— Я згодны, можна выпіць.

— За хітрасць вып'ем! — Дый прапанаваў.

— За мудрасць п'ю, — сказаў Вялес і выпіў.

— Дарма, не варта яна хітрасці маёй...

— У чым яна?

— У тым, што выпіў ты атруту...

Толькі цяпер адчуў Вялес знянацку: прыйшла пара развітвацца з жыццём. Паспеў яшчэ сказаць на развітанне дружыннікам сваім:

— Расе скажыце, што яе кахаю...

Душа яго зляцела ва ўладу Чарнабога.

## 10

Сумная вестка на зямлю прыйшла: людзей пакінуў назаўжды Вялес. Аплаквала яго ўдава Раса і бедавала, што цяпер адной ёй векаваць. Губляла сэнс такое існаванне. Яна пайшла да Святагора, папрасіла:

— Магутны Святагор, дапамажы мне на Той свет сысці. Ты ж ведаеш усе свае пячоры.

— Навошта ты спяшаешся туды, калі і палавіны жыцця яшчэ не пражыла?

— Мой муж Вялес у царстве Чарнабога, а без яго я не жадаю жыць.

— Ты пачакай крыху, мо вернецца Вялес...

— Не вернецца, заснуў ён вечным сном ад Дыевай атруты. І толькі я магу яго збудзіць і да жыцця вярнуць.

Падумаў Святагор, сказаў панура:

— Смяротныя стуль не прыходзяць.

— Я ведаю... Але калі яшчэ раз сустрэну там Вялеса, дык за гэта гатова і жыццём я заплаціць. Як разбуджу яго, ён вернецца сюды.

— Ён вернецца, але цябе не будзе.

— Вялікі Святагор, мне не кажы пра гэта. Такая мая доля — услед за ім ісці, што б там наперадзе ні пагражала мне.

— Трымай паходню, пойдзем, завяду, — прамовіў Святагор, пайшоў наперад.

Раса за ім не паспявала бегчы, ён часам прыпыняўся і чакаў, а іншы раз на рукі яе браў і цераз горы пераносіў.

— Праз гэтую пячору далей адна ідзі. Вазьмі клубок, размотвай нітку, каб не заблудзіцца, а потым з дапамогаю яе, назад вярнуцца паспрабуеш, — сказаў ёй Святагор, вялізны камень адваліў, якім зачыненены быў уваход.

Пайшла Раса ў глыбокую пячору. Там ад зямлі раслі, нібы дрэвы, сталагміты, як ледзяшы са столі, звісалі сталактыты. У святле паходні, што калыхала цені, былі яны, быццам жывыя, і пагражалі ёй. Раса сама ледзьледзь не скамянела, калі насустрач выпаўзла змяя, спытала:

— Ты нашто сюды прыйшла?

— Шукаю мужа.

— Смерць сваю тут знойдзеш...

— Я згодная на смерць, калі яна — мой муж.

— Кахаеш так яго?

— Жыцця ўявіць не ў стане, калі яго няма са мною побач.

— Вар'яткі смертныя! Жыцця таго і так, бы кот наплакаў, яны яго падкараціць гатовы... Нашто табе каханне? Жыві сабе і радуйся жыццю, зноў некага сустрэнеш, пакахаеш, дзяцей народзіш, гэта ж лепш, чым смерць. Я некалі Дажбога пакахала, а ён мяне пакінуў назаўсёды. Я ж не памерла з гора... Бач, жывая...

— Але ў вачах тваіх няма жыцця...

— Задоўгі век мой. Ні жыццё, ні смерць — нішто мяне ўжо болей не хвалюе. Хто муж твой, адкажы?

— Вялес... Яго кахаю, — прызналася Раса.

— Вялес заснуў смяротным сном, атрута яго скавала розум. Я завяду цябе.

Яны ізноў пайшлі па падзямеллі, праз пераходы, ямы, галерэі, пячоры, ды страх пакінуў палахлівую Расу. Жыла яна ў чаканні новай стрэчы з мужам.

## 11

Ляжаў Вялес, нібы гара. Вакол яго кішэлі змеі.

— Халера чорная на вас! Кыш, кыш адсюль! — Раса іх разагнала, прыпала да Вялесавых грудзей і зашаптала, нібыта замову: — Каханы і адзіны мой Вялес. Я да цябе прыйшла, каб разбудзіць. Вазьмі маё жыццё, але прачніся. Хачу цябе я зноў жывога бачыць!

Раса яго пацалавала ў вусны, жыццё ў грудзі ягоныя ўдыхнула. І варухнуўся ён, спытаў праз сон:

— Хто тут?

— Раса твая...

— Расінка... Чаму так цяжка мне? Скавала мяне стома, не варухнуць рукою і нагой.

Раса яго ізноў пацалавала, свой дух з тым пацалункам аддала. Вялес расплюшчыў вочы, запытаў:

— Дзе я?

— Ты ў падзямеллі Чарнабога. Я па цябе прыйшла.

— Не выйсці нам адсюль. Занадта сілы мала маю, каб развярнуць праклятый гэты свет...

— Я ніткаю пазначыла дарогу. Клубок падараваў мне Святагор. Па нітцы той мы выйдзем на паверхню, — Раса Вялесу прашаптала, каб ніхто не чуў.

— Раса, Расінка... Любая мая, не ведаю, ці здолею падняцца...

— Душу табе аддам усю сваю...

— Не трэба ўсю. Яшчэ адзін хоць пацалунак...

Схілілася Раса зноў над Вялесам, пацалавала доўгім пацалункам, усё каханне і пяшчоту ўклала ў яго.

— Цяпер, здаецца, я зусім ажыў, — сказаў Вялес, падняўся. — Што ж, пайшлі памалу... А мо і атрымаецца прайсці...

І рушылі яны ў зваротны шлях. Не ведалі, што хітрая Марана, якая прывяла Расу да мёртвага Вялеса, нітку зблытала, паклала іншым шляхам і цікавала з радасцю за імі.

З'явіўся з цемры ясны сокал, спытаў іх:

— Куды вы ідзяце?

— Ты заблудзіўся ў падзямеллі, сокал? — спытаў Вялес.

— Блудзіць мне не да твару.

— Табе прывычна пад зямлёю лётаць? — здзівілася Раса.

— Вы заблудзіліся там, дзе ўладару я.

— Выходзіць, госці мы твае. Ты Чарнабог? — удакладніў Вялес.

— Не госці, а палоннікі мае.

— Ты хочаш у палоне нас трымаць, бо служыш злу?

— Я ісціне служу. Вас не трымаю, ды па законах Сваргі смяротным з-пад зямлі назад няма вяртання. Не я, вас Усявышні затрымае.

— А гэта ўжо мая праблема, — спакойна адказаў Вялес.

— Шмат што нас звязвае пад небам Сваргі, але далёка не заўсёды разумеем, калі губляем, а калі знаходзім мы, — глыбакадумна Чорны Змей

сказаў. — Ідзіце гэтым калідорам і паварочвайце толькі направа, да мэты прывядзе вас гэты шлях.

— Так, цесны свет для Праўды і для Крыўды.

Вялес павёў Расу па галерэі. Ісці ім доўга давялося, перш чым святло з'явілася ў канцы тунеля. Яны пабеглі з усіх ног туды, дзе іх чакаў ратунак.

Праз шчыліну прабраўся Вялес на паверхню, для гэтага ён у кратаператварыўся і стаў раскопваць вузкую нару, каб выцягнуць Расу. Ды ў гэты момант задрыжэлі горы, зямля хіснулася, абвал раптоўна рухнуў і пахаваў Расу ў падзямеллі.

Вялес з рыканнем гроб зямлю, гару перавярнуў, але Расу знайсці не здолеў. Нарэшце, марнасць зразумеў свайго старання, заплакаў ад бездапаможнасці, бяссілля.

## 12

На мяжы між Яваю і Наўю спыніўся стомлена Вялес, ды азірнуўся і дзяўчыну ўбачыў, была яна падобнай на Расу, ён здзіўлена спытаў:

— Расінка, ты?

— Я Сіда, — адказала яна ціха. — Ахоўваю шляхі з Явы ў Наў. Цяпер наўцоў зашмат... Кароткі чалавечы век... Адны яшчэ ледзь толькі нарадзіліся, а ўжо спяшаюцца ў іншы свет. Шкада іх, але чым тут дапаможаш, апроч таго, што шлях пакажаш? Адна я тут і дзень і ноч...

— Адной, напэўна, цяжка?

— Каб быў такі, як ты... Ды дзе вазьму?

Вялес глядзеў уважліва на Сіду, на валасы, на твар, у таямніцу зрэнак.

— Скажы, ці не было ў цябе сястры?

— Сясцёр не маю, ды на ўсіх жанчын, якіх ты памятаеш, буду я падобнай, бо ты мяне ствараеш памяццю сваёю. Я слухаю не словы, а душу... Наўцоў я гэтак звыкла слухаць...

— Я тройчы ўжо навец, ды неўміручы...

— Куды ж ідзеш ты, неўміручы бог? Зноў да людзей? Іх розуму вучыць? Дарэмна... За кароткі век не здатныя яны спасцігнуць нешта. Ці да багоў? Дык ім не трэба ты. На небе ўжо даўно няма вакансій...

— Не ведаю пакуль, — сказаў Вялес. — Не аддзяляю неба ад зямлі, яны — адзінае. Смяротныя надзелены душою вечнай, вось іх перавага...

— Можа, і так. Я да чаго хілю... Вялес, са мною лепш застанься, я буду берагчы і шанаваць цябе... Таю ў сабе я душы тых жанчын, якіх кахаў ты. За іх цябе я буду шанаваць. Калі не здолееў ашчаслівіць свет, зрабі шчаслівай хоць адну жанчыну.

— Угаварыла, застаюся тут, каб крыху агледзецца, бадай...

— Пайшлі, памыеш твар з дарогі, — прапанавала Сіда.

Вялес пайшоў услед за ёю, памыўся, на сябе ў люстэрка глянуў і ўпершыню заўважыў: сівізна пасерабрыла скроні, бараду, падумаў сам сабе: «Прыходзіць старасць, даволі гойсаць па лясах і гонях, можа, пара прыстаць да берага таго, дзе берагіняю чакала Сіда...»

## 13

Дзіця пакінуў на суседку Усяміл, а сам з сякеркай і кавалкам хлеба ў лес падаўся. Блукаў ён доўга, ды на трэці дзень дайшоў, нарэшце, да старой хацінкі, што на назе курынай сярод пушчы стаяла непрытульна і самотна.

У дзверы грукнуў, з хаткі адказалі:

— Заходзь, чаго стаіш, як сірата?

Цераз парог ступіў хлапчына, Ягу пабачыў, што грэлася на нізкай печы, сказаў ёй:

— Добры дзень у хату.

— Здароў, праходзь. Будзь госцем.

— Вялікі дзякуй, цётка, — сеў Усяміл насупраць печы, сачыў, як скачуць языкі агню.

— Чаго прыйшоў?

— У парабкі наняцца.

— А што рабіць умееш?

— Што заўгодна...

— Якую ж плату просіш за работу?

— Стаміўся чалавекам жыць, хачу пабыць ваўком на волі.

— Ты думаеш воўк вольны? — скрывіла вусны тонкія Яга. — Ніхто не вольны ў гэтым свеце цесным, нябачна звязваюць на свеце нас любоў, нянавісць, праўда, крыўда, зайздрасць, жаданне ўладарыць і валодаць...

— Хацеў бы гэта на сабе праверыць.

— Праверыш, а пакуль дроў насячы, каб на зіму хапіла, і нанасі вады, печ вытапі.

Усяміл узяўся спрытна за сякерку, гуляючы ён сек калоды, ажно Яга залюбавалася ягоным спрытам і сказала:

— Умееш працаваць! Люблю такіх! Жыві ў мяне за сына! Ваўкоў на свеце ўдосталь без цябе. Сама ад адзіноты часам вою.

— Хачу спасцігнуць сэнс выцця. Чаму, калі яго пачуеш, мурашкі па спіне паўзуць?

— Хітруеш ты, хлапчына.

— Жыццё такое, цётачка, даруй.

— Кароткае жыццё ў людзей занадта.

— Але імгненне часам доўжыцца, як вечнасць.

— Ты меней думай, пражывеш лягчэй.

— Цяжарам лёгкасць можа абярнуцца.

— Ды ты і на язык такі дасціпны! Не варта на гаворку сілу траціць, працуй, пабачу, як ты справішся з работай, — сказала гаспадыня, села ў ступу і знікла за вершалінамі дрэў.

Правёў паглядам чараўніцу хлопец і ўзяўся дровы зноў секчы, раздумваючы, як яму вярнуць дадому Мару. У гэты час да ног ягоных жабка прыскакала, трымаючы дубец лазовы.

— Ква-ква! Ква-ква! — яна сказала.

— Чаго табе, зялёная, тут трэба. Глядзі, каб часам не прыбіў паленам.

Заквакала адчайна жаба зноў, быццам прасіла нешта, ажно дубец свой упусціла.

— Не разумею мовы я тваёй, — прамовіў Усяміл са шкадаваннем, узяў дубец і торкнуў ім рапуху, яна ў той жа момант абярнулася ў ката, які ўдзячна замурлыкаў:

— Ты вызваліў мяне, нарэшце. Шчыры дзякуй, чалавеча!

— Хто ты?

— Я Кот-Баюн. Мяне Яга зачаравала, не тое ненаўмысна ёй сказаў. Хіба жанчыну зразумееш, што ёй трэба? А для мяне маўчанне горш за смерць!

— Цяпер Яга мяне за тое мо пакарае, што чары зняў з цябе? — Усяміл спытаў.

— Ёй не скажу нічога, — Баюн паабяцаў. — Ты дубчык мне аддай.

— Баюн, ты гэткі балбатлівы, што я гатовы цябе ператварыць у жабу зноў.

— Не балбатлівы я, а гаваркі.

Далоні лодачкаю Усяміл злучыў, да вуснаў іх прыставіў і завыў па-воўчы. На покліч той сабраліся ваўкі, а сярод іх — ваўчыца маладая з прыгожым тварам юнае багіні. Яе крануў дубцом чароўным Усяміл. Яна ператварылася ў Мару. Абняў хлапчына любую сваю і прашаптаў:

— Заўсёды разам будзем, нікому не аддам цябе!

Абнюхала Усяміла з Марай зграя воўчая і прэч пайшла.

Баюну аддаў дубец хлапчына і з Мараю дадому паспяшаў, дзе нецярпліва іх чакаў сынок.

## 14

Дажбог наняў на лета конюха Вазілу, яму даверыў коней. Само сабою здарылася неяк, што пакахаў Славуню хлопец. Што б ні рабіў Вазіла: касіў траву ці коней даглядаў, заўжды багіняй любаваўся. Ды часу шмат мінула, перш чым у каханні ён адважыўся прызнацца.

Вяршылі стог яны ў той дзень. Вазіла сена сахарамі падаваў, Славуня ўтоптвала стажок. Усмешкамі, паглядамі гарачымі абменьваліся маладыя. Калі работа скончана была, Славуня саслізнула ўніз са стога, нібы з высокай хмары і, трапіўшы ў абдымкі да Вазілы, замерла ад любоўнай млосці.

— Злавіў цябе, мая сінічка, — сказаў ён з хваляваннем.

— Не ведаю, хто і каго злавіў, — Славуня адказала і абняла яго за шыю трапяткой рукой.

— Кахаю я цябе, няма душы ратунку.

— А я цябе чакаю ўсё жыццё. У нагаворанай вадзе твой воблік бачыла аднойчы.

— Ты ведала, што суджаны я твой, і столькі дзён маўчала!

— Чакала, калі сам ты пакахаеш.

— Ды я ж кахаў! Кахаю!

— Спачатку я ў тваіх вачах чытала здзіўленасць, пасля — замілаванне, толькі цяпер мне бачна закаханасць.

— Славуня, любая мая багіня, тваe я расцалую вочы, каб ты кахала аднаго мяне.

— У вусны пацалую я цябе, каб чуць пяшчоту голасу твайго.

Духмяны, п'янкі водар сена атуліў і залюляў іх, як арэлі.

Пайшлі яны да мудрага Дажбога, каб папрасіць яго благаславення.

Дажбог з адказам памарудзіў, абдумваючы пачутае, пасля ў Вазілы запытаў:

— Куды ты павядзеш маю Славуню? Ані двара ў цябе, ані кала...

— Дай мне, Дажбог, зямлі кавалак, я адпрацую, адслужу табе...

— Якую ж хочаш ты зямлю прыдбаць?

— Узгорак той пясчаны, дзе аніщто не родзіць...

— Вазьмі... Пабачым, што за гаспадар з цябе...

— Вялікі дзякуй. Ніякай справы не баюся!

Вазіла млын пабудаваў на ўзгорку, адкрыты чатыром вятрам. Ні ў дзень ні ў ноч вятрак крылаты не спыняўся, мелючы зерне. Паколькі іншых побач не было, дык зерне везлі толькі да Вазілы.

Паставіў хутка новы млын Вазіла, які прыносіў добрыя прыбыткі.

Настаў той дзень, калі жаніх шчаслівы прыйшоў сказаць Дажбогу, што мае ён і дом, і гаспадарку, ёсць куды жонку любую прывесці.

Дажбога не цікавіла маёмасць, ён бачыў чалавека з добраю, сумленнаю душою, якому мог даверыць лёс сваёй дачкі, таму і блаславіў на шлюб яе.

## 15

Перш чым згуляць вяселле, Вазіла ў шлях сабраўся праведаць родных. Ён цэлы месяц не пасылаў ніякіх вестак. Славуня сумавала, плакала ад крыўды і сумнявацца пачала ўжо нават, ці вернецца каханы да яе. Пайшла яна ў храм да святога Салаўя паваражыць, апранутая ў белую кашулю. Яе вядун апаясаў зеллем святым, надзеў вяночак з кветак, паставіў міску гаваркой вады. Яна ў яе глядзела, бы ў люстэрка, і ўбачыла, што едзе яе любы з раднёю ўсёй сваёю на вяселле.

Вазіла вярнуўся да каханае з бацькамі, сястрой Лябёдкай і гурмой сяброў. Тры дні былі ўсе справаю заняты, каб лепшае вяселле зладзіць. А Багумір найболей мо стараўся, такога мёду наварыў: адзін вазьмі глыток — і заспявае сэрца, засмяецца, напоўніцца і сілай, і адвагай.

Паклікаў ён Лябёдку, прыгажуню, сястрыцу жаніха, пакаштаваць пітво. Наліў ёй келіх, папрасіў:

— Падсаладзі, прыгожая дзяўчына, пітво маё, прыгубі і выпіць дай...

Здзівілася Лябёдка прапанове, але пітво пакаштавала і сказала:

— Вялікі дзякуй, вельмі смачна.

Узяў з рук ейных келіх медавар, да дна ўсё выпіў, стаў на калені і прызнаўся шчыра:

— Хацеў бы вечна мёд такі я з вуснаў тваіх піць...

Зніякавела сціплая Лябёдка. А Багумір не сунімаўся:

— Да бацькі пойдзем. Два вяселлі разам мы згуляем... У хаце шчасця будзе болей удвая...

— Мне і ў маіх бацькоў трэба спытаць, — прамовіла нясмелая дзяўчына.

— Усё зраблю, што пажадаеш ты, мая Лябёдка, сонечная радасць... Твае льняныя валасы мне завязалі свет, апроч вачэй тваіх, нічога я не бачу, ад вуснаў вар'яцею... Дык пайшлі хутчэй, папросім блаславення...

— Мне боязна бацькоў маіх трывожыць.

— Сам на каленях буду іх прасіць. Лябёдка, без цябе няма жыцця!

## 16

Адначасова два вяселлі спраўляў Дажбог. На стол насіла пачастункі Маці Жыва. Схмялела госці весяліліся, спявалі і вадзілі карагоды.

Як на небе дзве вясёлачкі,
А ў гаспадара два вяселлейкі,
Дзве шчаслівыя радасці
З блаславення Рода й Ладачкі.
Радасць першая —
Дачку за мужа аддаў.
Радасць іншая —
Нявестку прыдбаў.

З замілаваннем глядзеў Дажбог на маладых, прадбачыў: будзе шмат унукаў. Сказаў ён Жыве:

— Сніў я сёння, што кліча Усявышні нас. Цяжкою стала праца мне здавацца, пастарэў, напэўна, неўпрыкмет. Няхай сыны тут упраўляюцца, гадуюць нам унукаў.

— Дакладна гэткі сон прысніла я. Напэўна, скончыўся наш час зямны. Палёў, лугоў удосталь скрозь багатых. Сцяной ахоўнай паўстаюць лясы. Дзічыны шмат і птаства ў нашых пушчах, у рэках рыба аж кішыць... Мы абжылі зямлю, ніштo нас не трымае болей тут.

— Нашчадкам даў я розум, каб лёс маглі свядома выбіраць. Лад, згода будуць на зямлі да той пары, пакуль плямёны не захочуць міжусобіц... Тады спазнаюць кошт дабра і ліха.

— Але няхай пасля ўжо на сябе крыўдуюць, — адказала Жыва. — Пойдзем жа, Дажбог. Няхай красуе і цвіце зямля, нашчадкам нашым тут не будзе пераводу...

— Перш трэба развітацца.

Сабралі Жыва і Дажбог дзяцей. Сказаў Дажбог:

— Пара нам з Маці Жываю на неба. Ды перш чым развітацца з вамі, пакінуць хочам запавет.

Напоўніліся смуткам вочы маладых багоў, яны спыталі, чаму ў такі шчаслівы дзень бацькі іх пакідаюць.

— Нас кліча Усявышні, — адказала Жыва.

— Вучыў я вас жыццю даволі, хачу на развітанне казку расказаць. Уважліва паслухайце мяне, а потым растлумачце, што яна значыць, — прапанаваў Дажбог.

Усе сталі слухаць. Дажбог пачаў аповед:

— Вялізны дуб у лесе вырас. З галін яго магутных жалуды даспелыя дажджом дадолу асыпаліся. Вяршыню дрэва цалавалі хмары, а карані ледзь не да сэрца даставалі Матухны-Зямлі. Абрынваліся жорстка ўраганы, ды не баяўся дуб стары вятроў, здавалася, ніхто не мог яго падужаць. Цясляр аднойчы ў лес прыйшоў з сякерай, з усіх бакоў агледзеў дуб у тры абхваты, прысвіснуў, нібы ўласнае пабойваўся задумы. Аднак жа закасаў ён рукавы і, папляваўшы на далоні, пачаў дуб ссякаць. Да вечара зваліў усё-ткі дрэва. Абсек галіны, камель распілаваў і дамоў завёз. З драўніны дошак нарабіў, з якіх нарэзаў клёпак і бочку змайстраваў. У ёй захоўваў мёд, які пілі ў час святаў, ці вяселляў, ці памінак. Так карыстаўся бочкай, покуль моцнаю яна была. Але абручык лопнуў нечакана, разліўся мёд. Рассохлася пустая бочка хутка, распалася дарэшты. Гулялі дзеці з абручамі. Спаліла жонка клёпкі, дно і века. Дык растлумачце казачку маю.

Ніхто не ўзяўся адгадаць загадку. Усе маўчалі, апусціўшы вочы. Тады сказаў Дажбог:

— Яшчэ вы маладыя надта, каб зразумець сэнс гэтай казкі. Я растлумачу: лес, што цягнецца да неба, — гэта наш род; то бочачка — сям'я; а клёпкі — гэта мы; ды абручы — то згода паміж намі; мёд — радасці жыцця. Пакуль жыве сямейка ў добрай згодзе, ёй будзе шчасце спадарожнічаць заўсёды. Той дом, дзе згода не ўжылася, лічыць можна прапашчым. Дык беражыце абручы, прашу вас. Гэта апошні мой вам запавет.

Бацькам любімым дзеці пакланіліся, пацалавалі іх на развітанне. З пашанаю іх госці правялі да весніц. Дажбог і Жыва пайшлі ў святы гаёк, ніхто іх болей на зямлі не бачыў.

У Багуміра шмат было сыноў. Дай Божа палічыць: Рус, Сеў, Славен, Кімер, Хазар і Скіф, ад іх пайшлі шматлікія плямёны.

Славуня нарадзіла тры дачкі прыгожых: Крэву, Дрэву і Палеву, яны далі пачатак крывічам, драўлянам і палянам.

## 17

— Авёс пасейце з першым камаром, пшаніцу — як чаромха закрасуе, ячмень — калі каліна заквітнее. Запомніце: сяўбе спрыяюць поўня, усходні і заходні вецер, цёплы і пахмурны дзень, — не стамляўся паўтараць Вялес.

Перадаваў ён людзям веды пра зямлю і зоркі, ствараў календары, вучыў жыць па законах Сваргі, якія азначалі справядлівасць. Але мог часам і пажартаваць...

Аднойчы абярнуўся ён старым, нямоглым і папрасіўся начаваць да Асцюка скупога, які нават сабе паесці шкадаваў, а больш мякінаю перабіваўся, за што яго Мякіннікам назвалі. Той — у адказ:

— Ці мала тут бадзягаў розных ходзіць! Начуй... На малацьбе мне адпрацуеш.

Вялес згадзіўся, лёг на лаве спаць, хроп моцна. І гаспадар ужо не рады быў, што ўпусціў начлежніка такога. Сямейнікі на момант не заснулі.

— Ці выспаўся? — спытаў на досвітку ў Вялеса гаспадар.

— Вялікі дзякуй, добра спалася ў цябе.

Паснедалі і да гумна пайшлі, каб малаціць снапы.

Сказаў Вялес Мякінніку:

— Люблю я працу. І рукі ёсць тут да чаго прыкласці. Столькі снапоў, што, пэўна, за зіму ўсё не змалоціш, а болей мышы пагрызуць.

— Так, урадлівы год даў Усявышні. Аднак было б што малаціць...

— Я памагу табе. Складзі на ток снапоў паболей, я за імгненне змалачу.

Асцюк зірнуў на старца з недаверам:

— У чым душа трымаецца, а пахваліцца любіш.

— На вецер словы не кідаю. Час за справу брацца...

Насмешліва накідаў гаспадар на ток снапоў з паўсотні. Вялес салому падпаліў, і ўраз яна згарэла, а на таку чысцюткія зярняты засталіся.

— Што гэта? Што было? Ты чараўнік? — здзівіўся гаспадар.

— Я падарожнік, мудрасць па шляхах збіраю, — госць яму сказаў. — Вучыся малаціць!

Закінуў торбачку Вялес за плечы, пайшоў з двара. Мякіннік вырашыў праверыць той спосаб малацьбы, што падарожны паказаў яму. Ён падпаліў снапы, але яны згарэлі да апошняга зярняці разам з гумном. Заплакаў гаспадар з дакукі:

— Хіба гэта багацце, калі яго агонь з'ядае лёгка, ператварае ў попел?...

З-за страты гэтай захварэў ён моцна, ледзьве да лета дацягнуў.

## 18

На Купалле адвячоркам Мякіннік у лес накіраваўся, каб кветку шчасця адшукаць і стаць багатым чалавекам, бо зразумеў: з уласных мазалёў не надта разжывешся. Такая хцівасць ім запанавала, што нават страх і сорам страціў ён.

Скацілася паволі сонца ў нізіннае балота і захад акрываве́ў, на небе зоркі, нібы рабацінне, без ліку высыпалі. Хараство!

«Багацця колькі існуе на свеце, — зайздросліва падумаў чалавек. — Мо гэтаксама папараць цвіце? Я б чорту душу запрадаў, абы разбагацець!»

Падумаў так, як нешта загуло, трывожна захістаўся лес. З'явіўся перад ім дзяцюк і кажа:

— Прыклікаў ты мяне. Багацця хочаш?
— Хто ты такі?
— Кадук, ці не пазнаў?
— Ды як? Адкуль? — прамармытаў Мякіннік, са страху ўвесь закалаціўся.
— Я дам усё табе, што пажадаеш. Але і ты мне мусіш заплаціць.
— Чым? — запытаў спалохана Мякіннік. — Я ж бедны...
— Дай сваю душу, табе яна даўно ўжо без патрэбы, адно што горычы мо дадае.
— А колькі буду спажываць тое багацце? Бывае, ледзь разжыўся чалавек, а ўжо яму пара ў магілу.
— Тваё багацце будзе век з табой, цябе ніколі людзі не забудуць.
— Я згодны заплаціць табе душой, але за гэта скарбы свету ўсе збяры, мне аднаму аддай. Аднак багацце мець хачу такое, якое б не магло ў агні згарэць.
— Складаную задачу ты задаў мне. Каб пазбіраць багацце ўсё на свеце, мне трэба час, — сказаў Кадук. — Ты мусіш пачакаць...
— Абы ўсё ж дачакацца.
— Ідзі дамоў. Багацце свету плыве ўжо да цябе памалу.
Пачаў збіраць Кадук людскія кроў і пот, пасля варыў іх, так золата фурманку наварыў, прывёз Мякінніку, сказаў:
— Вось гэты скарб не можа гарэць, усіх перажыве.
Мякіннік толькі золата пабачыў, закалаціўся, нібы ў ліхаманцы:
— Яшчэ, яшчэ давай такога скарбу.
Кадук сказаў:
— Кавалак гэты падзялю на мноства залатовак, пушчу па людзях. А залатоўкі самі будуць пасля вяртацца да цябе. Усё, што пажадаеш, зможаш ты набыць за золата і мецьмеш яго шмат. Рыхтуй засекі, краты стаў, наймай ахову.
Усё зрабіў Мякіннік, як сказаў яму нячысцік. Вось так узніклі грошы на зямлі. Шмат золата займеў Мякіннік, але прыйшла пара, калі адчуў: канчаецца жыццё. Купіў ён дактароў, але яны не здолелі яму дапамагчы. Хацеў у смерці адкупіцца, а яна сказала:
— Твая душа таму належыць, каму яе прадаў.
Паспрабаваў багацце раздаваць, каб літасць зарабіць у Бога, ды з-за таго, што дрэнна бачыў, абы-каго адорваў ён грашыма.
І зразумеў Мякіннік, што няма яму ратунку:
— Праклятае будзь золата, калі табою карыстацца не магу! — ён злосна закрычаў.
У той жа момант ператварылася багацце ў пот і кроў, у іх Мякіннік захлынуўся і праваліўся скрозь зямлю.

## 19

Пярун угледзеў на краі балота нячысцікаў, стралу шпурнуў у іх. Яны схаваліся пад трапяткой асінай. Тады Пярун асінку падпаліў. Нячысцікі ў балота сіганулі. Агонь з асінкі скокнуў на яліну, пасля дабег да соснаў па траве, пажар пачаўся і пагнаў звяроў уроссып па лясах.
Вялес пачуў пах дыму, прыбег тушыць агонь і бачыць: паўзуць гадзюкі. Процьма іх навокал!
— Колькі ж вас, коўзкіх, развяла Яга! Паскудства! Ну, чакайце! Мала вам не будзе!

Вялес дубы з карэннем вырываў, пажар абкопваў, каб агонь далей не рухаўся ў лясы. Далонямі паўрэчкі зачарпнуў і плюхнуў на агонь, той злосна зашкварчэў, стаў гаснуць ён паволі.

— Вось гэтак лепш, — сказаў сабе Вялес. — Цяпер пара мне вычысціць лясы.

Сабраў ён жаб, гадзюк і розны гнюс, склаў у мяшок, панёс да мора. Глядзіць: ізноў узяўся лес гарэць. Пабег да вёскі хуценька Вялес, сустрэў на полі чалавека, сказаў яму:

— Нясі мяшок, хутчэй укінь у мора. Крый Божа, не развязвай яго толькі...

— Я б рады, але ж праца не чакае, — сказаў мужык.

— Як вернешся, дапамагу табе. Не ўправімся — далучыцца Ярыла...

Пайшоў дадому селянін, пачаў збірацца хуценька ў дарогу. Надзеў кашулю белую ды лапці новыя абуў, бо шлях няблізкі, ускінуў світку чорную на плечы.

Пытае жонка:

— Ты куды сабраўся?

— Паслаў Вялес мяне да мора мяшок занесці.

— А што ў мяшку?

— Не ведаю.

— Дык паглядзі, — прапанавала жонка, яе цікаўнасць ахапіла раптам.

— Забараніў Вялес мяшок развязваць.

— Забараніў? А скуль ён будзе ведаць, што мы з табою развязалі мех?

— Ён бог, усё яму вядома.

— Шкада цябе, — сказала ціха жонка. — Ідзеш адзін ты супраць ночы, яшчэ ліхія людзі перастрэнуць, мех адбяруць, што богу тады скажаш? Пераначуй, а заўтра з ранку рушыш.

— Вялес казаў, каб неадкладна я ішоў.

— Табе абы мяне адну пакінуць. Зусім-зусім мяне ты не кахаеш, — загаласіла жонка на ўсю хату. — Застанься, я прашу цябе, мой любы!

Стаміўся слухаць селянін папрокі, паклаў мяшок у сенцах, скінуў світку.

— Ну, добра, заўтра раніцай пайду. Няхай на гэты раз па-твойму будзе.

Умомант слёзы высахлі ў жонкі. Яна яечню смажыць пачала і медавуxай, нібы госця, стала мужа частаваць. Калі падпіў, пасцель яму паслала, запрыспала мужа. І толькі ён заснуў, пабегла маладзіца ў сенцы, лучыну запаліла ды развязала хуценька той мех. Палезла з меха розная брыдота: гадзюкі, павукі і жабы. Спалохалася маладзіца, заверашчала, выскачыла ў двор ды праз акно ўжо мужа пабудзіла.

А той спрасоння аніяк не сцяміць, што здарылася з беднаю кабетай. Накінуў світку, выскачыў у сенцы і зразумеў усё... Пачаў збіраць ён тую нечысць, якая распаўзацца стала шпарка.

Вялес убачыў, што паўзуць ізноў да лесу змеі, яшчаркі і жабы, са злосцю крыкнуў селяніну:

— Павыпускалі гадаў, дык збірайце.

Ператварыў ён мужа з жонкаю ў буслоў. Да гэтае пары яны па паплавах, балотах збіраюць нечысць, не збяруць ніяк.

## 20

Пярун з Вялесам хоць і сябраваў, ды ладу паміж імі не было, заўжды яны маглі знайсці зачэпку, каб паспрачацца. Калі Пярун пашле палеткам дождж, Вялес злуе, крычыць на хмары:

— Што робіце вы, злыдні? Цяпер жа людзі сена косяць!
— Нам загадаў Пярун! — апраўдваюцца хмары.
— Пярун на небе! Ён не разумее нічога ў земляробчай справе.
Разгубленыя хмары не ведаюць, каго ім слухаць, ад крыўды на багоў бясконца плачуць. Маркотны дождж расцягнецца на тыдзень.
Вялес мятлой паразганяе хмары, чысцютка неба падмяце. Ажно раптоўна ўверсе загрыміць, гэта Пярун прытарахцеў на возе, вакол усё дрыжыць ад страху. Таўкуцца хмары, сутыкаюцца лбамі, маланка асвятляе небакрай, і зноўку шпарыць лівень.
Вялес крычыць з зямелькі Перуну:
— Спыніся, годзе стрэлы ўжо шпурляць. Не замінай сялянскай працы!
— Нячысцікаў занадта развялося, панішчу ўсіх, тады спынюся, — Пярун адказвае і знай маланку за маланкаю шпурляе, нацешыцца, тады толькі сунімецца і іншаю справай зоймецца, зусім забудзе палівацъ зямлю.
Тады ўжо людзі пачынаюць дажджу прасіць, але яго няма. Вялес падняцца мусіць на нябёсы і папрасіць ласкава Перуна, каб ён паліў зямельку ўдосталь.

Аднойчы паспрачаліся яны паміж сабой, каго больш любяць людзі, пайшлі да селяніна папытаць, які араў на полі.
— Бог памагай, — Вялес прамовіў.
— На добрым слове дзякуй, чалавеча, ды Бог казаў, каб ты памог, — араты пасміхнуўся.
— Скажы нам, чалавек, вы болей любіце Вялеса ці Перуна?
Спыніў каня араты, патыліцу пачухрыў і памяркоўна адказаў:
— Не ведаю, каго мы болей любім: мо Перуна, а мо Вялеса?
— Кажы, як ёсць і не круці хвастом, — пачаў злаваць Пярун.
— Вялес ахоўвае наш статак, удзячныя яму за гэта. Пярун нам дожджык пасылае, а без яго не родзіцца ў нас хлеб. Мяркуйце самі, як нам не любіць багоў вялікіх...
— Скажы, аднак, хто ласкавейшы, хто болей любіць вас? — спытаў Вялес.
— Пэўна, Вялес. Не мае ён маланак страшных, якімі можа і забіць, калі патрапіць.
Ад злосці Перуна перакасіла, затрэсся ўвесь, ледзьве стрымаў сябе. Паспешна рушыў ён далей, але сказаў Вялесу:
— На ніву гэтую ні кропелькі дажджу не дам! Нічога тут не ўродзіць!
— А я з ракі сюды вады падкіну, стаяць сцяною будзе жыта, — Вялес паабяцаў.
— Тады я зачарую гэты хлеб, хто першы ўкусіць, той няхай падавіцца!
Вялес не адказаў нічога, а толькі пасміхнуўся.
Надарылася лецейка такое, што сонца грэла ўдзень, а ноччу ціхі дождж пырскаў. Усё расло, нібыта на дражджах. Такое жыцейка ўдалося, высокае, у чалавечы рост. У кожным каласку зярнят па сотні. Напоўніў гаспадар гумно сваё снапамі. Напякла жонка хлеба з першага ўмалоту. Сям'я за стол пасела.
Пярун з Вялесам у гэты самы час пастукалі да іх у хату, былі яны здарожаныя вельмі. Іх гаспадар за стол гасцінна запрасіў:
— Сядайце, людзі добрыя, вячэраць. Дзякаваць Богу, жыта ўрадзіла, дык пакаштуйце першы свежы хлеб.
Пярун так у дарозе згаладаўся, як укусіў ад лусты, дык адразу і падавіўся, насілу беднага адратавалі. Тады толькі згадаў, што сам пракляў калісьці гэты хлеб. Пачаў прасіць ён даравання ў селяніна і Вялеса. Вядома, лепш нікому не жадай бяды, бо сам яе сустрэнеш.

## 21

Наняў аднойчы пастуха Вялес, пачаў распытваць, хто ён і адкуль.

— Жыву ў паселішчы — дні тры мо будзе ходу. Яшчэ я маю двух братоў, — сказаў хлапчына. — Пайшлі мы ўтрох шукаць заробак. У розныя дарогі разышліся, праз год дамовіліся зноў сустрэцца.

— Не малады ўжо я, — сказаў Вялес. — Мне статак цяжка даглядаць. Табе яго даверу, за працу добра заплачу.

Старанна хлопец працаваў, з любою і ахвотай ставіўся да кожнай справы. Ды год мінуў, прыйшоў работнік да гаспадара, каб плату атрымаць.

— Удзячны я табе за працу. Ты можаш з гаспадаркі ўзяць, што хочаш. Ды плату гэтую даю не ад душы. Даць ад душы магу я тры арэхі. Сам выбірай, што хочаш атрымаць.

Падумаў хлопец, шчыра адказаў:

— Вазьму арэхі, бо даеш іх ад душы.

Паклаў хлапец заробак у кішэню і паспяшаў на скрыжаванне, дзе стрэў сваіх братоў.

Старэйшы пахваліўся брат:

— Я ў горадзе пёк булкі, за гэта воз мукі даў гаспадар.

Сярэдні брат сказаў:

— Я гандляваў і бочку мёду зарабіў.

— Мне гаспадар даў тры арэхі, — паведаміў малодшы, які ў Вялеса працаваў.

— І гэта ўсё, што атрымаў за год? Ты, можа, дрэнна працаваў? — спытаў старэйшы брат.

— Быў надта гаспадар мной задаволены, як бацька ставіўся ён да мяне. Прапанаваў узяць, што захачу. Я ўзяў арэхі, якія даў ён ад душы.

— Пабачыў дурняў шмат на свеце, але такіх, як ты, упершыню страчаю, — сярэдні засмяяўся брат. — Вяртайся зараз жа назад і патрабуй, няхай як след табе заплоцяць!

Пайшоў хлапец назад, хоць непрыемна на душы было, міжвольна ён падумаў: «Здавалася, няма дарунка лепш, чым той, што ад душы, а вунь як дрэнна атрымалася».

Ішоў хлапец, ішоў, стаміўся вельмі. А ежы аніякае з сабой. Рашыў арэх ён раскалоць, усё-ткі ежа.

Як толькі раскалоў арэх хлапчына — адбыўся цуд. З'явіўся ніадкуль раптоўна авечы статак. Ад радасці падскочыў хлопец, пагнаў дарунак дарагі дамоў.

Аднак ізноўку есці захацелася, яшчэ адзін арэх ён раскалоў. І два валы з'явіліся прад ім, запрэжаныя ў воз. Шчаслівы хлопец зусім на голад свой забыўся, але цікаўнасць разабрала. І вырашыў ён паглядзець, што дасць яму арэх апошні. Яго ён раскалоў і ўбачыў дзеўчыну — такую прыгажуню, ад нечаканасці знямеў. Калі ачомаўся спытаўся:

— Хто ты?

— Няўжо не здагадаўся? Нявеста я твая. Вязі мяне знаёміць да бацькоў, — дзяўчына адказала.

Пастух нявесту пасадзіў на воз, дамоў паехаў, услед за імі ішоў авечы статак. Цяпер браты, напэўна, зразумеюць, што азначае падарунак ад душы.

## 22

Сыны Дажбога Араты і Касец, умельства пераняўшы ў Ярылы, аралі, сеялі, спраўляліся з любою працаю ўдала. Ды бракавала ў доме гаспадыні.

Сказаў Араты стоена Касцу:

— Надумаў, братка, я жаніцца. Патрэбна гаспадыня ў хаце нам. Набрыдла бразкаць мне гаршкамі.

— Каго ж сабе прыгледзеў за нявесту?

— Мілуню, дачку аратага Кахана. Люблю яе паставу, смелы позірк.

— Нішто сабе дзяўчына. Калі ж вяселле?

— Напэўна, па жніве.

— Я рады за цябе. У хаце будзе маладзіца, дык мо парадку будзе больш у нас.

— А ты сабе нікога не прыгледзеў?

— Пакуль душа мая яшчэ маўчыць. Прызнаюся: я рады за цябе. Пагаварылі, а цяпер за працу! Збіраюся па дровы ў лес.

Няспешна воз цягнуўся па дарозе, куродыміў за ім сівы пылок. Усё цвіло і красавала спрэс. Лістота калыхалася пад ветрам, лісток з лісточкам ціхенька шаптаўся пра цеплыню і дожджык учарашні. Імклівым выраем ластаўкі ў паветры пралятвалі вольна. Гучала неба шчэбетам заўзятым.

Лес, што сінеў здалёку, абяцаў усім спакой і прахалоду, нібы ва ўтульнай велічнай святліцы там можна адпачыць. Але перш чым даехаў да ляска, Касец нагледзеўся удосталь на лугі, ружова-залацістыя ад кветак (збіраўся заўтра пачынаць касіць); на маладое жыта, што зялёнаю сцяною каласілася на полі; на лён, што сіняю палоскай лёг, нібы кавалак неба нехта кінуў.

Мінуў Касец бярозавы гаёк, які святым у Сварзе называлі, тут старац мудры жыў, свяцілішча ахоўваў, збіраў купальскаю парою зёлкі, каб ратаваць ад немачы нямоглых, шаптаў малітвы, дагаджаў багам. Нарэшце лес свае раскінуў шаты, нібыта запрашаў Касца: «Хадзі! Я шчодра адару цябе, чым хочаш. Ёсць ягады, грыбы і мёд... Арэхі спеюць, пачастую ў жніўні. Дубы гадую для цябе на хату, бярозак шмат на дровы падрасло».

Касец аддзячыў лесу, валоў пакінуў на палянцы, а сам падаўся ў самую гушчэчу, дзе выбраў колькі дрэў, пачаў ссякаць. Разносілася рэха з краю ў край, але яго нібы не чуў Касец, быў так заняты справай. Бярвенняў колькі прыцягнуў да воза, і толькі цяпер убачыў, што мядзведзь загрыз вала, скрываўленую пысу лапай выцірае.

— Ах ты, пачвара, ненажэрны звер! Майго вала загрыз! Табе адпомшчу я за гэта, дзесятаму закажаш!

Як узлаваўся малады Касец, схапіў мядзведзя дужага за шыю, упрог у воз, хоць той і вырываўся, роў, пашчу разяўляў, ашчэрваў зубы, рваў кіпцюрамі дзецюку адзенне.

Касец бярвенняў некалькі ўзваліў на воз, мядзведзя пугаю балюча сперазаў, трохі й валу той пугі дасталося. Воз рушыў з месца. Тузаўся мядзведзь, роў на вала, Касца і цэлы свет, але куды падзецца ад ярма, калі яно цябе за шыю абдымае і волі аніякай не дае.

Сустрэў Касца ў двары Араты, спытаў:

— Навошта звера мучыш? Хіба ж для гэтага ён існуе на свеце?

— Ён з'еў майго вала. Дык як інакш я мог прывезці дровы з лесу?

Касец мядзведзя на ланцуг узяў і загадаў:

— Ахоўвай хату ад такіх, як сам, калі не ўмееш мірна існаваць у лесе.

З тае пары няцяжка людзям мядзведзяў прыручаць, навуку скокаў і паклонаў яны нядрэнна спасцігаюць і служаць блазнамі з задавальненнем. За працу плату патрабуюць невялікую — кавалак цукру ці цукерку.

## 23

Праз колькі тыдняў юная Мілуня да мужа ў хату пераехала. Маланкаю мільгаў яе андарачок стракаты, гарэла справа кожная ў руках, скрозь маладзіца паспявала: ля печы, у полі і на агародзе. Касец з Аратым спакойна хату пакідалі, а па вяртанні заўсёды іх чакаў абед. Адно з мядзведзем не было ў Мілуні ладу.

Аднойчы мужа папрасіла жонка:

— Араты, прагані з двара мядзведзя, ён замінае мне. Яшчэ адна турбота: яго павінна я карміць. Ён за вала ўжо нам адпрацаваў. Няхай сам корміцца, дзе хоча.

— Не ведаю, што адказаць табе... Касец яго прывёў, скажы яму...

Звярнулася Мілуня да Касца:

— Прашу цябе, мядзведзя прагані. Няма жыцця мне побач з ім!

— Як хочаш... Калі табе ён надта замінае, дык, калі ласка, зараз адпушчу.

Касец ашыйнік зняў з мядзведзя, сказаў яму на развітанне:

— Ідзі, лайдак, харчуйся сам, даволі ўжо сядзець на нашым хлебе.

Мядзведзь сышоў з двара з аглядкаю і без ахвоты, нібыта нешта тут пакідаў ён такое, што вярэдзіла душу, з чым не хацеў ён разлучацца.

— Ідзі, ідзі адсюль! Не азірайся! — прыкрыкнула Мілуня на яго.

Вярнуліся браты аднойчы з працы, глядзяць: няма нідзе Мілуні.

— Дзе ж наша гаспадыня? — сам у сябе спытаў Араты.

— Ці мала дзе! Пайшла, можа, бялізну паласкаць на рэчку, мо ў лесе ягады збірае, мо ў полі затрымалася крыху. Ці мала спраў у маладзіцы! — адказаў яму Касец.

Ужо і статак пастушкі прыгналі. Пайшоў араты сам даіць карову. Ноч надышла, зусім сцямнела.

— Нядобра на душы ў мяне, — сказаў Араты. — Баюся за сваю Мілуню. Не ведаю, што з здарыцца магло...

— Дык дзіва што, — Касец прамовіў. — Магла ўтапіцца ў рэчцы, магла і ў лесе заблудзіцца, ці, можа, ў полі ўджаліла гадзюка...

— Да рання пачакаем, а пасля пошукі нам варта распачаць.

## 24

Ноч летняя цягнулася, як вечнасць, ні на імгненне не заснуў Араты, усё Мілуню любую чакаў. Калі ж трохі неба пасвятлела, пайшлі браты шукаць жанчыну. Агледзелі спачатку бераг рэчкі, але і знаку не знайшлі нідзе. Травою роснай напрасткі да лесу пашыбавалі потым дзецюкі. Касец раптоўна прыпыніў хаду, спыніўся і падняў белую латку, пасля — яшчэ адну, пасля — яшчэ.

— Глядзі, Араты, здаецца мне, што гэта латкі з фартуха Мілуні. Дакладна быў ён вышыты такімі кветкамі.

Брат тыя латкі ўважліва агледзеў, сказаў:

— Так, сапраўды... Мо гэтак пакідала яна знак? Нехта сілком украў яе! Бяжым! Вядуць да лесу латкі!

Пайшлі яны па лесе. Там-сям на голлі латачкі бялелі. Араты і Касец іх падымалі і шыбавалі напрасткі далей, праз нетры прабіваліся такія, дзе чалавек ніколі не ступаў.

На трэці дзень убачылі каснік Мілунін, ён трапятаўся, нібы сіні сцяг. Сказаў Араты:

— Недзе жонка блізка. Я пагукаю! Гэй! Ау! Мілуня!

— Ау! Я тут! — яна ім адказала, насустрач выбегла, заплакала ад шчасця.

Абняў яе Араты і спытаў:

— Што робіш тут адна?

— Мяне мядзведзь украў! Цішэй! Ён недзе блізка...

І ў гэты момант паляцелі ў бок братоў бярвенні, карані, каменне! Касец бярвенні лёгка адбіваў, Араты карані лавіў, каменне адскоквала ад грудзей ягоных. Пайшлі яны ў наступ на мядзведзя. Дарэмна спрабаваў ён адбівацца. І ў рэшце рэшт пусціўся наўцёкі.

Араты падхапіў сваю Мілуню, да сэрца прытуліў, панёс дамоў.

— Я думала, што ўжо загіну тут, — ад радасці заплакала жанчына.

— А як жа ён украў цябе, скажы? — спытаў Касец.

— Палола грады я, а ён падкраўся, сетку на мяне накінуў, згарнуў, закінуў за спіну і павалок. Я рвалася, крычала... Ды ніхто не чуў мяне. Так выбраў ён дарогу, што і душы жывой не стрэлі мы.

— Ну, годзе плакаць, любая мая! Усё мінула ўжо!

— Цяпер пасадзім на ланцуг сабак, — сказаў Касец. — Яны сапраўдныя вартаўнікі, спакойна з імі будзе. Яны нам гаспадарку павартуюць, ад злодзеяў маёмасць абароняць.

## 25

Араты згодна жыў з Мілуняй любай. Яна сыноў шасцёра нарадзіла. Сямейка шумная і дружная была. Касцу дзятва спакою не давала:

— Зрабі свісток нам, дзядзька! Дай арэхаў! Дастань з галіны яблык сакаўны!

— Свісток зраблю! Вучыцеся і самі вы нажом валодаць. Арэхі на арэшніку вісяць, а яблыкі — на яблыні, вядома.

Ледзь паспяваў адбіцца ад адных, як іншая малота насядала:

— Пайшлі ў грыбы, іх хоць касой касі. Ці лепш на рыбу!

— У лес самім пара дарогу ведаць. А рыбу распалохаеце ўсю. Галганы! — Касец малым адказваў.

На рыбу ён пляменнікаў не браў. Любіў самотна пасядзець на беражку, у паплавок маўкліва паўзірацца, падумаць пра сваё, паразважаць. Але цяпер было не да рыбалкі. Прыйшла пара луг малады касіць.

Да сонейка ўставаў Касец, касу мянташыў, касіў з расою мяккую траву. Каса спявала ў маладых руках. Любіў ён працаваць да стомы, да поту, што струменіў па спіне. Апоўдні, як паліла сонца, садзіўся папалуднаваць Касец і адпачыць пад дрэвамі ў цяньку на беразе ракі Няслухі.

Толькі адпіў ён малака з гладышкі, як да яго дзяўчына падышла.

— Вітаю цябе, добры чалавек.

— Дзень добры! Прыгажуня! Папалуднуй са мной.

— Вялікі дзякуй... Спажывай, а я лепш пагляджу...

— На што глядзець? — Касец здзівіўся.

— Вядома, на цябе...

— І што ты хочаш выглядзець? Не, так не пойдзе... Хлеб стане мне ўпоперак горла, калі адзін яго буду жаваць... Сядзь побач, малака хоць прыгубі. Мне будзе саладзей з табою есці.

Дзяўчына села, стала каштаваць хлеб, малако, пасля сказала:

— Смачна, ды саладзей за ўсё на свеце мне глядзець у вочы цёмныя твае і бачыць там сваё адлюстраванне...

— Адкуль? Чыя ты? Як цябе завуць? — пытаннямі яе Касец засыпаў.

— Завуся Хваляй... Ды няма чаго мне пра сябе расказваць, я пра цябе лепш раскажу табе. Я назірала, як працуеш ты! Такая моц і дужасць у руках тваіх, што я хачу адчуць абдымкі іх, пяшчоту.

Касец, нібы зачараваны, слухаў, забыўся на касу і касавіцу, да вечара ён гаманіў з дзяўчынай. У мораку цяпельца распаліў, заначавалі разам каля рэчкі. Ці сон, ці ява тая ноч была, пасля ніяк дзяцюк не мог уцяміць. Калі ж пад ранне абудзіўся, дык пабачыў, што мілай дзеўчыны няма, а толькі пасак вытканы з узорам застаўся на траве яму на згадку.

— Навошта ты пакінула мяне, тады, калі я быў з табой шчаслівы? — з гаркотаю спытаў Касец.

Ніхто яму не адказаў. Маўчала рэчка, плыў туман над ёю, маўчалі лозы, дрэвы, неба, нават птушкі, яшчэ прачнуцца не паспелі. Касец пакрыўджана заплакаў, бо зразумеў: не ведае, на жаль, дзе Хвалю любую шукаць, якая сэрца выкрала яго.

## 26

Насталі дні самоты і тугі. Касец цікаўнасць страціў да жыцця. Адна яму ў вачах стаяла Хваля, якая нечакана гэтак з'явілася і знікла назаўжды. Яго Араты суцяшаў дарэмна, разважвала Мілуня спакваля, пляменнікі патрабавлі ўвагі. Касец гэтага тлуму пазбягаў, хадзіў да рэчкі на лужок, дзе калісь стрэўся з Хваляю аднойчы. Закідваў вуду, паплаўка не бачыў, адно дзяўчыну згадваў. Іншы раз здавалася: яна з вады ласкава ўсміхалася яму. А ветрык набягаў — усё знікала.

У задуменні гэтакім Касца аклікнулі аднойчы двое дзетак. Два хлопчыкі, падобных, нібы блізняты, сказалі:

— Добры дзень, наш тата!

Касец здзівіўся:

— Вы адкуль, дзятва.

— З ракі Няслухі, наша мама — Хваля. Яна сказала нам, што ты наш бацька.

Абняў дзяцей Касец, расцалаваў, спытаў:

— Чаму ж не прывялі вы маму Хвалю?

— Яна цябе ў рацэ чакае.

— Ну, калі так, вядзіце да яе...

## 27

Пакуль жыла ваўчыцай Мара ў лесе, яе сынок падрос, стаў юнаком. У той далёкі час было асілкаў на зямлі ўдосталь, а Слаўка паміж імі не апошні! Ды так вядзецца, што сыны нярэдка долю бацькі паўтараюць. Быў Слаўка, як і бацька, гусляром. Хто яго слухаў, плакаў ці скакаў...

Убачыла яго на кірмашы дачка Вялеса, смуглявая Чарняўка, з усмешкай падплыла, сказала:

— Слаўка, чароўныя ты гуслі маеш, гатова дзень і ноч цябе я слухаць!
— Чыя дачка смуглявая такая?
— Вялес — мой бацька, маці — Сіда, жыву я на мяжы жыцця і смерці.
— Далёка, — усміхнуўся Слаўка спачувальна.
— Хто дзе прывык... Прыедзь калі мо ў госці?
— Шукаць прыгод у дальняй старане?
— Чаму б і не? Ты малады... Дык, можа, якраз пара і свету паглядзець.
— Паехаў бы з цікавасці, але мая нявеста Ружа, напэўна, не дазволіць.
— Супернiц у мяне не можа быць... Я знішчу кожную, якая хоць зірне ў твой бок, — са злосцю мовіла Чарняўка.
— А ці не варта і ў мяне спярша спытаць, што я хачу?
— Пытаюся: што хочаш?
— Заручаныя ўчора з Ружай мы. Яе хачу сваёю бачыць жонкай, — ёй Слаўка адказаў.
— Цябе кахаю я, Чарняўка! Вялесава дачка! І не дарую, калі каханне ты маё адпрэчыш!
— Чарняўка, ты цудоўная дзяўчына, ды сэрцу не магу я загадаць, яно да Ружы любае хінецца.
— Забудзь яе!
— Супроць кахання я слабы зусім!
— Чакай жа, Слаўка, ты мяне згадаеш! Ды позна будзе!
Дачка Вялеса з пагардаю на хлопца паглядзела і прэч пайшла. А ён, зніякавеўшы, не ведаў, што рабіць. Ці клікнуць дзеўку і прабачэння папрасіць яшчэ раз, ці найхутчэй забыць гэту сустрэчу.

## 28

— Вітаю, Слаўка! Ты куды сабраўся? — спытала Ружа, ззяючы румянкам, усмешкай, тварам юным і прыгожым.
— Па дровы. Што табе прывезці з лесу?
— Сябе... Толькі цябе хачу я бачыць, — з пяшчотаю дзяўчына адказала.
— А ты куды? Бялізну паласкаць?
— Так, нешта маці прыхварэла і гаспадарка наша ўся на мне.
— Вучыся, бо як пойдзеш замуж, я вельмі строгім буду мужам, — са смехам Слаўка ёй паабяцаў.
— Табе б толькі смяяцца!
— Дзіва што! Цябе сустрэну — і душа спявае, смяецца, шчасцем поўніцца без межаў!
— Ах, Слаўка, я й сама да вечара ледзь дажываю, бо без цябе няма жыцця, дый годзе.
— Пасля жніва маёй ты станеш жонкай...
— Пасля жніва, — яна ўздыхнула ціха. — Да вечара, каханы мой, бывай... Заграюць гуслі — прылячу, як птушка.
— Чакаю стрэчы, любая мая!
На возе стоячы паехаў Слаўка ў лес. Вятрыска свістаў насмешліва ў вушах, пылілася падсохлая дарога. У лесе толькі ўзяўся за сякеру і замахнуўся, як раптоўна рукі ператварыліся ў воўчыя лапы, а сам пакрыўся хлопец шэрай поўсцю. У роспачы ён кінуўся да коней, яны спалохана рванулiся да вёскі, дабеглі да ракі, нарэшце, сталі. Ваўка заўважылі сяляне, пагналіся з калкамі, ледзьве дабег да лесу, каб схавацца, скуголячы ад болю, крыўды і неразумення, за што яму паслана гэта кара.

Дарма чакала Слаўку Ружа, бацькі дарэмна з лесу выглядалі. Калі ж вярнуліся дадому коні, пайшлі шукаць у лесе сына, але нікога не сустрэлі.

Пабегла Мара раніцай да бацькі параіцца, заплакала на ганку:

— Што здарылася, Мара? — ён спытаў.

— Прапаў унук твой, Слаўка.

— Як здарылася гэта? — здзівіўся Святагор.

Раскрыў ён кнігу Вешчую, чытаў штось доўга, а пасля сказаў:

— Яго ў ваўка пературарыла чараўніца.

— Хто яна?

— Дачка Вялесава, Чарняўка. Каб не звязала лёс ты з чалавекам, не ведала б ніякае бяды.

— Ці трэба зараз згадваць нам былое?

— Цяперашняе на былым стаіць, як на падмурку. І ад яго сучаснае залежыць.

— Дапамажы вярнуць мне сына, бацька... Няўжо дазволіш, каб унучак твой пакутаваў у воўчай шкуры век...

— Знайсці яго спярша патрэбна, а потым паглядзім.

— Я ўсе лясы і пушчы абыду, але знайду паміж ваўкамі Слаўку!

— Ты будзеш па лясах хадзіць адна? А муж навошта?

— І муж са мною!

— Ідзіце! Блаславяю!

## 29

Ваўка шукаць не давялося доўга. У пушчы выбег ён бацькам насустрач, магутны сінявокі воўк, да бацькі і да маці прытуліўся, завыў самотна.

— Наш Слаўка! — сказала Мара радасна, ваўка цалуючы ў кудлаты лоб.

— Як ты пазнала? — Усяміл спытаў.

— Воўк сінявокі! Пагледзі!

Пазнаў і бацька па вачах сынка. Заплакалі яны ўсе трое, абняліся.

— Чаму ты сам дадому не вярнуўся? — спытала Мара.

Воўк завыў, але ніхто яго не зразумеў.

— Ну, добра! Нам пасля пра ўсё раскажаш, — суцешыла сынка багіня. — Пайшлі да дзеда, адчаруе ён цябе. І зноўку будзеш чалавекам!

Сустрэў на прызбе Святагор дзяцей і ветла ўсміхнуўся:

— З'явіўся ўнук! Ягня ды ў воўчай скуры!

— Тут не да жартаў, бацька, — Мара папракнула.

— Знайшоўся хлопец, дык і добра. Чаго занадта хваляваца?

— Ратуй хутчэй яго.

— Не варта нервавацца... Вось ваш сын!

Умомант Слаўку ён адчараваў, абняў унука, па спіне паляпаў:

— Нічога, разумнейшы будзеш. Багінь чужых не падпускай да сэрца. Ты чалавек, таму і падуладны чарам нават нікчэмнай самай дзеўкі. Яна, нібы багіня для цябе! Хоць мы, багі, слабыя, як і людзі. Багіні нам галовы тлумяць, трывожаць душы, не даюць спакою...

— Ажэнім хлопца, адпадуць турботы, — заўважыў Усяміл.

— Чарняўка не адступіцца так проста, — прамовіў Святагор. — Яна будзе шукаць магчымасці ізноў напомніць пра сябе, адпомсціць можа нават.

— Як жа нам, бацька, Слаўку ўратаваць ад гэтае змяі?

— На кожны яд сваё ёсць супрацьяддзе...

## 30

Як і прадказваў Святагор, Чарняўка пра сябе зноў нагадала. Яна абрынулася на зямлю дажджом, тры дні ліліся з неба слёзы крыўды, кахання і нянавісці яе. Рачулкі ўсе, равы і ручаі зліліся ў мора цэлае вады, раку ўтварылі мутную Чарняўку. Яна палеткі заліла, пасевы змыла, пагнаіла сена. У адчаі людзі пазіралі на ваду, якая плёскалася ў хатах, гатовая заліць агонь у печах.

— Паводка ёсць, не доўга да патопу, — прамовіў Усяміл.

— Зноў трэба йсці да бацькі, няхай ратуе нас ад гэтае Чарняўкі, — сказала Мара. — За Слаўку страшна мне... А раптам паглыне яго вада...

— Ты думаеш, з вялікага кахання яго Чарняўка здатная ўтапіць?

— З адчаю што багінька не ўтворыць!

У човен селі Мара з Усямілам, да Святагора паплылі ізноў. Ён іх сустрэў усмешкаю лагоднай:

— Казалі мне, у вас паводка. Чарняўка стала рэчкаю бязмежнай. Каб у каханага пад ложкам спаць халоднай хваляй.

— Ты ведаў і нічога не рабіў?

— Надоечы дазнаўся ад сініц. Спачатку ім я не паверыў. Падумаў, мо пустое што цвыркочуць...

— Баюся, татка, я за Слаўку. Чарняўка з рэўнасці яго не паглынула б.

— Вяртайцеся дамоў спакойна, дзеці. Прыпну Чарняўку, пасаджу на прывязь, не будзе вольна больш яна гуляць.

— Што зробіш ты?

— Знайду разумны спосаб. А будзе ўпарціцца — гарою завалю!

— Вялікі дзякуй, толькі асцярожней, бо яшчэ ўчыніш раптам землятрус! Паводкі ўдосталь нам!

Вярнуліся дамоў Усяміл і Мара, а ўжо вада апала, адступіла, Чарняўка ў берагах спакойнай стала, нібыта й не сваволіла ніколі. Паміж балот з'явіліся гранітныя пласты, якія не давалі рэчцы размыць каменны бераг.

— Прыпнуў Чарняўку бацька мой удала, — сказала Мара.

— Перамяніла нораў, ці надоўга? — заўважыў Усяміл.

— Дамо ёй назву іншую. Чарняўка няхай сатрэцца з памяці людской.

— А як жа назавём? Прыпнутай рэчкай?

— Ды проста Прыпяць...

— Прыпяць?.. Добра, Мара! Мне падабаецца.

— А дзе ж наш Слаўка?

— Вунь з Ружаю ідуць ад рэчкі...

— Пара жаніць яго, пакуль Чарняўка зноў не прыдумала што-небудзь на бяду.

## 31

Пабраліся ў хуткім часе Ружа й Слаўка. Хоць вёска смуткавала, што хлеб загінуў ад вады шалёнай, але вяселле ўсё ж было вясёлым. Дажбог унукаў не пакінуў паміраць, паслаў другі ім ураджай.

А потым нарадзіла Ружа сына. Яму імя далі Валхвіт з надзеяю, што праўнук Святагора супроцьстаяць будзе ўсялякім чарам.

Хлапчук рос хутка, кемлівы і спрытны, памочнікам бацькам стаў добрым, бабулі з дзедам пасабляў, чым мог. Меў сэрца чулае, спагаднае да болю.

— Занадта добры ён, — казала часам Мара. — Такіх падманваюць і абіраюць.

— Нічога, побач мы. Падкажам і навучым, — адказваў Усяміл.

Прыкметна пастарэў ён і выглядаў, як дзед, а Мара, маладою як была, такою засталася з цягам часу. Хоць сіліліся дзед і баба ўнука зберагчы, але хіба магчыма ўсё прадбачыць.

Валхвіт аднойчы ехаў з поля, яму бабулька стрэлася чужая, счарнелая, засохлая, як глеба ў спёку.

— Дзень добры, хлопча, — ціха прашаптала і скурчылася ўся, нібы ад болю.

— Што цётачка, з табой, — Валхвіт спытаў прачула.

— Іду здалёку, стомленая надта.

— Сядай на воз, дык падвязу, як хочаш.

Яна хіснулася і ўпала на зямлю.

— Прыйшла пара мая... Памру я зараз...

— Навошта, цётачка? Жывіце!

— Трымай, — яна сказала і руку хлапцу сухую падала.

Узяў яе дапонь — адчуў цяжар. Яна зарагатала і праваліласяў прадонне. Зямля на момант толькі разышлася і сaступілася ізноў, як быццам не было нічога.

— Што гэта? — сам сябе спытаў хлапец, але адказ знайсці не здолеў.

Не ведаў ён: бабулька тая Чарняўкаю была, што высахла з няўдалага кахання, а здольнасць чараваць і злосць сваю яна Валхвіту аддала, унуку Усяміла.

## 32

Валхвіт адчуў, што разумее птушак галасы і шолах лісця, што здатны бачыць душы мёртвых. Чытаючы па тварах думкі буднія людзей, пакутаваў душой. Хацелася падняцца да існавання высокага, таму пайшоў ён у святы гаёк да Бармы. Здалёк пабачыў агароджу, за ёю вогнішча палала, шлейф дыму падымаўся ў неба. Багоў выявы ўзвышаліся над агароджай, па тварах іхніх блікі ад агню гулялі, здаваліся яны жывымі.

Валхвіт зайшоў за агароджу, убачыў камень Алатыр — прастол сусвету. Над ім слуп уздымаўся, што служыў увасабленнем Творцы-Рода.

«Пустое цела без душы і сэрца, а капішча без каменя святога мёртвым будзе, — Валхвіт падумаў і вогнішчу да долу пакланіўся. — Той славу не ўзнясе багам, хто сэрца верай не напоўніў».

Яму насустрач выйшаў Барма, спытаў:

— Што прывяло цябе сюды?

— Святы вядун, хачу багам служыць, — сказаў Валхвіт.

— Багам святым — навекі слава, а нам — хвала за нашы справы. Не той вялікі, хто салодка кажа, а той, хто дровы носіць да агню.

— На працу згодны я ўсялякую, абы багам вялікім дагадзіць.

— Важней за розныя абрады праца шчырая ў гонар багоў, бо праз яе не словам ты, а справаю Праўду Боскую сцвярджаеш. Меў мноства вучняў я, адзінкі сталі ведунамі. Яны пры мне дагэтуль служаць. Будзь роўным сярод іх. Нават мой сын любімы Ман жыве сярод людзей, адметнага не дасягнуў нічога, але ён задаволены жыццём.

Застаўся жыць пры капішчы Валхвіт, ва ўсіх свяшчэннадзействах памагаў і спасцігаў таемнасць мудрых Ведаў, якія адкрываюцца абраным.

Святы агонь ён бласлаўляў і асвячаў зернем і зеллем нагаворным, малітву прамаўляючы, што звернута была да продкаў:

Чур-чурыла,
Дай нам сілы.
Сядзі-паглядай
Ды зло праганяй.

Валхвіт пры гэтым пырскаў на людзей крынічнаю вадой, каб продкі ім далі здароўя і душэўнай моцы.

Будзьце здаровы
Ад веку да веку.
Слава Роду і чалавеку.

За ім астнія йшлі ведуны, званочкамі званілі, казалі словы богаўгодныя:

Кола-абярог
З вамі назаўжды,
Тысячу дарог
Пройдзем без бяды.
Над Святым Агнём
Молім за радню.
Паклонімся багам,
Паклонімся Агню.

Пасля малітваў Барма звяртаўся да Агню Святога, выказваючы ўдзячнасць і пашану:

Вогненны Божа,
Няхай нам паможа,
Ачысціць, агорне,
Жыццё дасць спакойнае,
Дастатак і справу.
Сварогу слава!

Містэрыя цягнулася задоўга, пакуль людзей над мітуснёй не ўзвышала, не ачышчала душы ад нявер'я, зайздрасці, хлусні. Да неба падымалася душа Валхвіта ў час гэтай Боскае ўрачыстасці.

## 33

Быў Барма задаволены Валхвітам і захапляўся памяццю яго. Жрэц малады малітваў безліч ведаў, абрады ўсе выконваў бездакорна. Для сябе настаўнік адзначаў, што вучня здольнага такога ніколі ён да гэтага не меў.

Валхвіт самаахвярна служыў багам, з пашанаю вялікаю прыносіў ім ахвяры. Захоплена сачылі людзі за новым ведуном, кожнае слова слухалі ўважліва, гатовыя былі за ім пайсці ў агонь, ваду, на подзвіг і на смерць.

Няшмат мінула часу, і Валхвіт займеў уласных вучняў. Як і настаўніка, іх сталі называць валхвамі. Яны захоўвалі легенды даўніх дзён, лічылі дні, гады, эпохі, складаючы календары; за зорным небам назіралі і ведалі прыкметы, якія абяцалі недарод ці ўраджай. Адны валхвы ўмелі аблокі разагнаць і забяспечыць яснае надвор'е, а іншыя лячылі зеллем хворых. Валхвы-ахоўнікі стваралі выявы велічных багоў, рабілі абярэгі, што бераглі людзей у цяжкую часіну.

Спакойна стала Барму на душы, упершыню адчуў ён, што наступнік у яго з'явіўся варты, якому можа капішча аддаць, таму сказаў аднойчы ён Валхвіту:

— Табе вядома богаслужэнняў таямніца, адданых маеш вучняў дастаткова, таму хачу я перадаць свяцілішча табе. Агонь святы аберагай, служы багам, а людзі славу будуць табе ўзносіць, адданаму багам.

— Ці не зарана, настаўнік, ускладаеш ты на мяне такі цяжар?

— Мяне Усявышні кліча да сябе. Мая эпоха скончылася сёння.

Усхваляваны Валхвіт укленчыў, рукі настаўніку пацалаваў, узрушана сказаў:

— Палохае мяне адказнасць, святы настаўнік Барма.

— Дарма баішся. Глядзі, колькі багоў цябе блаславўляюць!

— Удзячны за давер, служыць буду аддана і старанна.

Валхвіта Барма благаславіў і адышоў у цень святога гаю. Над постаццю прыгорбленай ягонай сышліся па-заступніцку галіны. З тае пары ніхто яго не бачыў. Пакінуў Барма Яву, каб да Усявышняга з'явіцца.

## 34

Уразіла людзей жалобна вестка, што Бармы больш няма на гэтым свеце. Сумненні сталі іх адольваць. Ці ўласнай воляю настаўнік адышоў? Можа, Валхвіт яго прыбраў з дарогі?

Хоць да свяцілішча збіраліся па звычцы людзі, ды меней з кожным днём прыносілі дароў. Настаў, нарэшце, час, калі Валхвіт убачыў, няма чым ведунам карміцца. Звярнуўся да людзей, заклікаў паслужыць багам, інакш спасцігне страшная іх кара. Ды людзі толькі пасмяяліся з яго, развенчанага пагалоскаю куміра.

Сабраў Валхвіт дружыну з ведуноў, стаў ездзіць селішчамі і збіраць даніну, быў жорсткі, бо не для сябе, а для багоў стараўся.

Ды не заўжды добраахвотна плацілі людзі Боскую даніну, распачыналі часам бойку. Але з Валхвітам біцца бессэнсоўна. Ён войска мог памножыць праз чараўніцтва ў шмат разоў. Ягоная дружына двоілася, троілася ўмомант, а воі дужыя былі адвагай, не ведалі ні страху, ні болю. На целах іхніх раны загойваліся адразу, ніводзін з іх не паміраў у бойцы.

Казалі пра яго, што ён нячыстых заручыў у сваё войска, і нават сам не можа ўжо адрозніць, дзе чалавек, дзе набрыдзь з таго свету. Нячысцікі бяруць сваю даніну не хлебам і маёмасцю, а душамі людзей.

Зрэдчас наведваў капішча Валхвіт, але, заняты справай, не прасачыў як след, таму Святы Агонь патух. Свяцілішча памерла паступова, і толькі птушкі прылятаці, каб адпачыць на камені прастольным.

## 35

У селішчы лясным сустрэў Валхвіт дзяўчыну, прыгожую той рэдкаю красою, якой аздоба лішняя заўсёды. Яна, як перлінка, зіхцела залатой касой да самых пят, вачамі чыстымі, усмешкай белазубай, душою светлаю, да якой, нібы да сонца, цягнуўся кожны позірк. Яе Крупенькай звалі.

Ён гвалтам яе узяў за жонку, прывёз дамоў. Краса дзяўчыны паблякла раптам, вочы ад плачу пачырванелі, твар змарнеў, каса зрадзела. З Валхвіта пачала пасмейвацца дружына:

— Навошта жонку ўзяў сабе такую, што брыдка глянуць... Ці мала ў нас дзяўчат-палонніц гожых?

— А вам якая справа? — ён агрызаўся, але думаў, што кветачка лясная засохла ў яго доме, таму пара яе інакшай замяніць.

— Чаго ты плачаш? — запытаў Валхвіт.

— Забіў маіх братоў ты і бацькоў, яны, як прывіды, стаяць між намі. Прабач, ды пакахаць цябе я не магу, хоць чараўнік ты і быццам бы душой маёй валодаеш. Душа мая належыць родным людзям, таму я паміраю з дакорам іхнім і сваёй віной.

— Чым лёс аблегчыць я магу табе, каб і сваю віну паменшыць?

— Ты знішчыў род мой, мне няма ўжо да каго вярнуцца, але ёсць родны кут, які люблю. Ты чараўнік. Зрабі мяне зярняткам, і дай старцам яго, дамоў з імі вярнуся.

Валхвіт ператварыў яе ў зярнятка і кінуў жабраку ў кішэню. Зярнятка выпала на родную зямлю і прарасло на полі грэчкай. Даспела на ёй новых шмат зярнят, вятры разнеслі грэчку, з той пары яна вядзецца ў нас на Беларусі.

## 36

Валхвіт з дружынай баляваў. Сура і мёд ракой ліліся. Квасура шчодра кухлі наліваў, вясёлы, хмельны, балбатлівы. Яму дапамагаў і Багумір. Палонніцы падносілі закуску. Была між іх з зялёнымі вачамі і меднаю касой дзяўчына, якая соладка ўсміхалася Валхвіту.

— Хадзі сюды, — яе Валхвіт паклікаў. — Скажы сваё імя.

— Лагода...

— Будзь жонкаю маёй... Мне сумна нешта...

— Валхвіт, мой князь, навошта сумаваць... Давай паскачам, паспяваем, можа?

— Ты паскачы, я збоку пагляджу...

Пайшла Лагода ў скокі. Мільгаў яе танюткі стан, нібы маланка на паляне, каса змяёй-мядзянкай вілася за спіной... І нават рабацінне на руках і твары Валхвіту здалося залатой аздобай. Ён крыкнуў:

— Красуня залатая! Даволі спакушаць! Душа мая спакушана даўно! Цябе я зацалую да паўсмерці! Я сёння добры, мілая Лагода...

— Яна мая, — сказаў адзін дружыннік і агаліў свой востры меч.

— Твая? Ты хто такі? — насмешліва спытаў Валхвіт. — Ты мой дружыннік, толькі і ўсяго! А я твой князь!

— Зямны князёк, ты й не заўважыў нават: уся твая дружына — дзеці цемры! Я — іхні князь! І твой таксама!

Маланкі бліснулі ў вачах нячысціка. Валхвіт раптоўна сэрцам скалануўся, нібы чакаў, што здарыцца далей.

— Я добры. Можаш выкупіць Лагоду за дзве душы жывых сваіх бацькоў, — сказаў нячысты дух.

— Яшчэ чаго! Прадаць бацькоў за дзеўку! — пагардліва Валхвіт адпрэчыў прапанову.

— Ну, добра, добра! Мо і сапраўды тваіх бацькоў не варта дзеўка. Ты можаш памяняць яе, напрыклад, на дзеда з бабай. Яны старыя! Ім так ці гэтак трэба паміраць!

— Пакінь, прашу, радню маю ў спакоі! — Я не гандляр, а ты не пакупнік! Заб'ю цябе за гэтакія словы!

З мячом Валхвіт пайшоў супроць нячысцікаў і біўся люта, не адчуваў ні страху ён, ні болю. Квасура з Багумірам пабеглі клікаць люд на дапамогу. Прыбеглі людзі ратаваць Валхвіта, ды ўжо ляжаў ён мёртвы на паляне, над ім схілілася Лагода, аплаквала заўчасную пагібель.

Насыпалі курган высокі людзі там, дзе пахаваны быў Валхвіт. Курган за ноч у бездань праваліўся, узнікла возера замест яго.

Аплаквалі Валхвіта бацькі Слаўка і Ружа, дзед Усяміл і бабуля Мара, а яшчэ Лагода, дзяўчына-паланянка. Няшчасце Усяміл не здолеў перажыць, стары быў надта. Смерць двойчы ўжо наведвала яго, але яму свайго жыцця давала Мара, часова гэтым ратавала мужа. А трэці раз Смерць ноччу завітала, забрала Усяміла незаўважна ў сне, а Мара засталася гараваць самотніцай. З тае пары яна жыве на свеце, селіцца ў юначых чыстых душах і будзіць мары розныя няўзнак.

А на Палессі рэчкі і цяпер ёсць, што маюць назвы Валхва, Славечна, Прыпяць, Чарняўка і Ружанка.

## 37

Сын нарадзіўся ў аратага Русіна, назвалі хлапчука Усяславам. Ён сем гадоў пражыў, не ўстаючы на ногі, ні слова не казаў сваім бацькам. На восьмым годзе цуд адбыўся. Падняўся Усяслаў з пасцелі, загаварыў з бацькамі гэтак, быццам ніколі не хварэў. Расказваць стаў малы пра тое, як Усявышнім створаны быў свет, як нарадзіўся Род і Маці Лада, як Вялес пасе нябесны статак, як Пярун нясе зямлі ўрадлівасць.

Бацькі сваім вушам не вераць, дзівуюцца і слухаюць Усяслава, а ён гатовы паўтараць бясконца:

— Бог магутны Род, што стварыў наш свет,
Блаславенне шле з неба яснага.
Дорыць сэрцам лад Лада-Матухна,
Цешыць душы нам дзіўнай радасцю.
Бог Сварог для нас беражэ агонь,
Каб у сэрцах ён і вачах не згас.
Птушка Маці Сва вучыць мудрасці,
Каб нам слаўна жыць між плямёнамі...

— Адкуль ты ведаеш, дзіця, пра гэта? — спытала здзіўлена матуля. — Хто веды гэтыя табе адкрыў?

— Сем год з'яўляўся да мяне стары вядун і мудрасці мяне вучыў у сне.

— Хто ён? Скажы імя, — прамовіў бацька.

— Ён не дазволіў называць сябе.

— Чаму ж ён навучыў цябе?

— Вядомыя мне мовы ўсіх плямёнаў, звяроў і птушак. Магу я ў звера абярнуцца і вылечыць цяжкую немач.

— Нікому, сынку, не кажы пра здольнасці свае, — прасіла маці. — Старайся быць, як людзі, тады не пазайздросцяць, не пакрыўдзяць.

Але не здолеў Усяслаў свой талент утаіць. Прыкмецілі сябры, як у ваўка ён абярнуўся; а маладзіцы, што бялізну мылі, заўважылі, як качарам ён плаваў і пад ваду нырца даваў.

## 38

Пайшла пра Усяслава пагалоска, што чараўнік, пярэварацень ён. І людзі пачалі яго цурацца. Хоць і стараўся ён рабіць дабро, не верылі яму.

Калі ж ён паўналецця дасягнуў, самотна пасяліўся ў гаі і капішча старое аднавіў. Зноў запалаў Святы Агонь нязгасна. Ахвяру Усяслаў прынёс багам, а перш Вялесу, які яму ў маленстве Веды перадаў:

Прыміце, багі,
Ахвяру нашу
На жыта буйное,
На добрую пашу,
На мяккую зямельку,
На поўную сявеньку.
Слава! Слава! Слава!

Панёс ён каравай на камень-Алатыр, нізка пакланіўся і зноў малітву прачытаў з глыбокаю пашанай:

Вечная Слава Усявышняму Богу!
Вечная слава Сварогу!
Слава вялікаму Роду,
За мір і згоду!
Святая трэба
З агню і хлеба
Зямлі і небу.
Ад веку да веку
Было так і будзе.
Моляцца людзі.
Багам родным слава!

З паклонам Усяслаў пацалаваўшы каравай, кавалак адламіў, аддаў агню, гаворачы малітву:

Агмень буйны,
Агмень ясны,
Гары вечна,
Не пагасні.
Будзе з намі
Шчодры Божа.
Абагрэе і паможа!
Слава! Слава! Слава!

Ён схамянуўся, як пачуў раптоўна галасы. За ім малітвы нехта паўтараў. Вядун агледзеўся — кругом стаялі людзі і разам з ім маліліся багам. Такая радасць ахапіла сэрца, нібыта сокалам душа ягоная ўзнялася ў неба. Сказаў ён ціха вернікам сваім:

— Грахі нашы багі нам даравалі, ахвяру прынялі. Свяцілішча заўсёды будзе жыць! Вазьміце трэбы частку прычасціцца і пакланіцеся багам. Вярнуўся дух святы на капішча забытае, жыццё ў яго ўдыхнуў.

## 39

Дачкой прыёмнаю Лагода стала Слаўку з Ружай, дзяўчына спраўная, скрозь паспявала, але заўважыў нехта, што схуднела надта, а па начах гаворыць ціха з кімсьці.

— Скажы, дачка? Што дзеецца з табою, — спытала Ружа.

— Нічагуські, мама! Усё цудоўна...

— Схуднела вельмі ты... Мо лекарку якую запрасіць, няхай нашэпча на ваду святую...

— Не трэба, мама, лішнія турботы. Мне добра, праўда.

— З кім ты гаворыш па начах?

— Малюся, толькі і ўсяго...

— Нашто маліцца столькі? Зусім ты заняпала!

— Не буду болей, мама, — паабяцала весела Лагода.

— Прабач, дачка, мо пакахала ты? Не супраць мы, выходзь, як хочаш, замуж. Ты маладая...

— Валхвіта я кахаю, апроч яго, нікога мне не трэба.

— Дзіця маё, памёр наш сокал ясны... Як ні балюча, ды змірыцца трэба...

— Змірылася я, мама, а кахаю... Ніхто яго не можа замяніць... Таму я мушу жыць заўжды адна...

Яна маніла Ружы, бо прызнацца баялася, што па начах Валхвіт ёй пачаў з'яўляцца. Шаптаў такія словы, такі ласкавы быў, што прырасла Лагода душою да яго, хоць разумела: толькі ягоны дух наведвае яе.

«Няхай ён дух, яго кахаю, — сабе дзяўчына ўпарта паўтарала. — І ні адзін мужчына ў наваколлі не зможа замяніць яго ніколі».

Яна чакала ночы нецярпліва, акно сваё шырока расчыняла. Валхвіт з'яўляўся ўсмешлівы, юрлівы. На рукі ён Лагоду браў, люляў, нібы дзіця, шаптаў пяшчотна словы. Ад іх палала сэрца любасцю і ласкай, пасля язмін пасцелі іх прымаў, ахутваў беласцю пялёсткаў. І не было на свеце шчаслівейшых, чым дух Валхвіта і смяротная Лагода.

Ноч пралятала, як адна хвіліна, дзень пачынаўся. Сілы не было ў Лагоды ўжо на працу. За ткацтвам ці за прадзівам яна хіліла сонна галаву. А згадкі з марамі былі да ночы звернуты пражытай і той, што хутка зноў настане...

## 40

Сумненнямі сваімі Ружа падзялілася са Слаўкам:

— Не ведаю, што думаць. Па начах я чую галасы, быццам Лагода з кімсьці размаўляе. Пыталася ў яе, яна маўчыць, ды адчуваю, нешта ўтойвае ад нас.

— Мне сёння гэтаксама падалося, падумаў: недзе моладзь весяліцца. Якія таямніцы ў яе ад нас быць могуць?

І вырашыў падгледзець Слаўка, хто ж да Лагоды ходзіць па начах. Залез пад ложак ён дачкі прыёмнай яшчэ загодзь, далёка да цямна. Аж задрамаў, чакаючы начы, храпеннем ледзь сябе не выдаў. Ды дзверы рыпнулі, калі ўвайшла Лагода, і гэта пабудзіла ў час яго.

Дзяўчына села да люстэрка, расчэсвала густыя валасы, што адлівалі меддзю, чарніла бровы сажай, а вусны падбарвіла бураком. Свяціўся твар каханнем і чаканнем. Яна акенца расчыніла і ціха заспявала:

— Пакаціўся пярсцёнак, пакаціўся,
Усю ночку каханы мне сніўся.
За пярсцёнкам услед я пайду
І каханага ў садзе знайду,
Адзінага, нарачонага...

Раптоўна за акном з'явіўся хлопец. Стрымаў сябе ледзь Слаўка, каб не ўскрыкнуць, калі пабачыў твар Валхвіта.

Яны з замілаваннем абняліся і горача шапталі нешта, пасля дзяцюк Лагоду падхапіў, панёс да ложка. А гаспадар ад сораму ажно заліўся потам, ён слухаў словы жарсці, якія прамаўляў Лагодзе хлопец:

— Каханая, адзіная мая! Я ледзьве прычакаў хвіліну гэтую, каб зноў цябе абняць, пацалаваць, тваё дыханне адчуваць ля сэрца! Ты свеціш мне, як зоркі ўсе з нябёсаў! Твой голас цешыць слых мне! Пяшчотай вабіць це-

ла, мне невыносна больш трываць, павер... Пайшлі са мной у іншы дзіўны свет, дзе будзеш ты царыцаю маёю...

— На ўсё я згодна, любы мой. Што скажаш, тое і зраблю... Ты самы блізкі чалавек... Адзіны... Але скажы, чаму не хочаш, Валхвіт, ты да бацькоў вярнуцца?

— Люблю я волю, любая Лагода... Яшчэ не час вяртацца мне дамоў...

Цяпер толькі разгледзеў Слаўка, што замест ног у гэтага Валхвіта казліныя два капыты...

«Нячысцік! — здагадаўся гаспадар. — Ён падмануў Лагоду... З'яўляецца пад выглядам Валхвіта! Ну, пачакай жа! Разлічуся зараз...»

Пакуль яны на ложку мілаваліся, паціху выпаўз Слаўка, акрэсліў вапнай круг вакол сябе і прыхадня рассек мячом. Рассыпаліся іскры, Валхвіт прапаў. Лагода ўскрыкнула ад жаху.

— Маўчы, — сказаў ёй Слаўка. — Я цябе ад злога духа ўратаваў, ад нячыстай сілы!

— Ах, тата, ты забіў маё каханне, — заплакала яна няўцешна.

— Гэта ж нячысцік, зразумей, нарэшце.

— Не ведаю! Кахаю я Валхвіта! Яго дзіця нашу пад сэрцам!

— Даруйце нам, багі! Дзіцёнак ад нячыстай сілы! — абурана прамовіў гаспадар, але раптам сумненне ўзнікла: а можа, гэта, сапраўды, Валхвіт? — Не плач. Такая твая доля. Слязамі гору не паможаш. Цябе мы ў крыўду не дамо.

## 41

Дзіця Лагода хутка нарадзіла, дала імя яму Траян і спадзявалася, што будзе яно дужым і разумным. Дзіця ж расло слабым і хваравітым. Якіх хвароб толькі яно не мела: адзёр і коклюш, залатуха і вятранка...

Памалу перарос Траян хваробы, стаў дужым і разумным дзецюком, работнік спраўны і танцор заўзяты, адно што слепнуць пачынаў на сонцы і раставаць. Таму начамі працаваў за трох, а ўдзень адпачываў.

Каханую прыгледзеў на вячорках. Красуня Любка хінулася таксама да яго. Страчаліся пасля заходу сонца, да першых пеўняў не маглі нацешыцца гаворкамі. Пасля Траян дамоў спяшаўся, каб да сонца схавацца ў памяшканні.

Сустрэчы тыя тайныя былі, ды брат малодшы Любкі прасачыў, што зачасціў Траян на хутар іхні. Калі ж убачыў, што сястра з Траянам у лазні любіцца, спакой ён страціў.

Аднойчы ноччу Любчын брат скруціў галовы пеўням, а маладыя, што мілаваліся ізноў у лазні, не зглядзелі, як сонейка ўзышло. Тады ўжо схамянуліся, як промні прабіліся ў акенца цёмнай лазні.

— Накрыйся хусткаю, — сказала Любка. — Мо захіне цябе яна ад сонца?.. Бывай, каханы...

— Да сустрэчы, Любка.

Пабег Траян дадому напрасткі... А сонца працінала аж да сэрца кожным промнем... І ён залез у стог, што з'едзены быў статкам за зіму, ды нават рэшты гэтае хапіла, каб захінуцца сенам. Скуль ні вазьміся падышлі каровы, разгрэблі сена ды знайшлі Траяна.

Дабег хлапец да лозаў і зашыўся ў іх, ахутаў хусткай галаву, аціх і задрамаў пасля бяссоннай ночы. Ішоў паўз тыя лозы рыбак Гаразд, спыніўся побач, запытаўся:

— Што робіш, чалавеча, тут?

Траян яго пачуў не адразу.

— Памёр ты мо, ці што? — спытаў Гаразд, сарваў з хлапчыны хустку, на сонца павалок, якое млела ў саменькім зеніце, неміласэрна, горача пякло. Траян яшчэ прачнуцца не паспеў, а ўжо растаў пад промнямі яго, расцёкся воскам на пяску гарачым.

Спалоханы рыбак пабег у вёску з крыкам:

— Траян, нячысты дух, растаў у лозах. Мяне ён ледзь з сабою не забраў!

Сышліся людзі, меркавалі, што гэта за праява быць магла. Выказвалі здагадкі. Лагода як пачула пра прыгоду рыбакову, загаласіла:

— Мой сынок Траян! Не ўберагла цябе! Не ўратавала! Вазьмі мяне з сабой, маё дзіця!..

— З зямлі прыйшло, туды і адышло, — паспрабаваў яе суцешыць хтосьці.

Яна нікога ўжо не чула, пабегла да лазовага кустоўя, сляды Траяна на пяску знайшла і ўпала нерухома на зямлю... Яе праз дзень таксама пахавалі.

## 42

Вяскоўцы знелюбілі рыбака за тое, што ён стаў прычынай смерці Траяна і Лагоды. Віну сваю ён адчуваў таксама, і пад яе прыгнётам усё не так рабілася ў ягонай гаспадарцы. Ці вымакне, ці высахне ячмень, ці град паб'е неміласэрна грады, ці тхор курэй падушыць... Гаразд стаміўся беды ўжо лічыць, прымаў усё, бы кару. І нават жонка рыбака ніяк не здолела дзіцятка нарадзіць. А гэта мо найболей дапякала... Стаў пазбягаць сустрэчных. Найболей бавіў час ён на рацэ ці ў лесе, дзе нагледзеў борці. Вярнуўся ён аднойчы апаўночы, паблытаўшы ўсе дні, а жонка кажа:

— Дзе ж цябе нячысцік, дурня, носіць? Карова наша, збродлівая, недзе адбілася ад статку. Ідзі шукаць!

— Мо заўтра? Ноч цяпер...

— Табе, што дзень, што ноч, усё адно! Карысці аніякае з цябе. Ваўкі з'ядуць адзіную кароўку, — загаласіла жонка. — Тады дадому лепей не прыходзь... Няроба, пустадомак, пустабрэх, каб трасца табе ў бок! Як ты набрыд мне!

Ад тых праклёнаў выбег з хаты ён, падаўся ў лес шукаць сваю карову. Убачыў вогнішча на лузе, карагод вясёлы. Было Купалле. Здалёк лілася песня галасістая:

А на Купалу
Рана сонца йграла
На добрыя годы,
На цёплыя росы,
На хлеба ўраджаі!

Ён бокам абышоў крыклівы гурт, пашыбаваў да лесу. Было сумотна на душы і пуста, да сну хіліла так, што быў гатовы ён пад першым жа кустом заснуць. Ішоў, пад ногі не глядзеў зусім, амаль драмаў... Ды раптам пасвятлела ў вачах, праз колькі крокаў і кароўку ўбачыў.

— Ах ты, паганка, бач ажно куды завалаклася! Стаілася пры дубе! Дамоў марш, валацуга!

Карова паслухмяна падалася туды, куды загадваў гаспадар. Гаразд не разумеў, што з ім такое. Пабачыў зёлку нейкую, падумаў:

«Дык то ж расце плакун-трава сівая, якая скарбы пад зямлёй знаходзіць. Сарву яе... Адкуль вядома мне пра гэта? — здзівіўся ён. — Не ведаю і сам...»

Сарваў Гаразд плакун-траву, пайшоў да вёскі, а на пагорку заіскрылася трава, нібы расінкамі заззяла, ён здагадаўся: «Схаваны скарб тут. Пайду дамоў, вазьму рыдлёўку, адкапаю...»

Далей ён рушыў і здзіўлена заўважыў, што над зямлёй ляціць лятунтрава, гарыць вясёлкаю ў паўночным небе.

«Трэба паспець жаданне загадаць, дык збудзецца ўсё, што пажадаю... Няхай народзіць жонка сына мне...» — паспеў падумаць ён, перш чым трава пагасла.

— Якая ночка выдалася сёння! Што ладзіцца ў мяне ўсё, як ніколі! Ці скончыліся ўжо мае няўдачы? Ці я нядолю ў рэшце рэшт згубіў...

Пагнаў Гаразд дамоў сваю кароўку, яго сустрэла жонка на двары, пахмурная, здарожаная, прыпол спадніцы мокры ад расы.

— Зноў на Святое возера хадзіла? — спытаў ён. — Чаравала, каб дзіцятка нарадзіць?

— Хадзіла... Што табе?

— Не ведаю чаму, ды ўсё магу прадбачыць... Народзіш сына ты, я ведаю напэўна...

— Каб жа Бог даў... Кароўка дзе была?

— У лесе... Заганяй у хлеў. А я вазьму рыдлёўку, пайду адкопваць скарб.

— Што зноў прыдумаў?

— Я ведаю, дзе скарб ляжыць, павер!

— Шмат ведаюць хіба адны вар'яты, — сказала жонка здзекліва яму.

Гаразд не стаў жанчыну болей слухаць, узяў рыдлёўку, рушыў да кургана. І ледзь мінуў апошнюю сядзібу, яму сустрэўся чалавек нямоглы і стаў прасіць:

— Прадай мне свае лапці... Старыя мае ножачкі баляць...

— Спяшаюся я надта, у іншага купі...

— Я не тутэйшы, ногі збіў зусім... А зараз ноч, каго я дзе сустрэну?

— Вось прычапіўся! Зайдзі да маёй жонкі, у сёмай хаце, дзе агонь гарыць... Яна табе дасць лапці хоць якія...

— Хіба яна адчыніць дзверы мне пасярод ночы? Ратуй, браток... Вось залатоўка, паспрабуй на зуб!

Гаразд аж вочы вырачыў. Ён быў ужо гатовы падараваць чужынцу свае лапці, а ён такую плату прапануе! Разуўся ён, аддаў чужынцу лапці ды й анучы.

— Насі, — сказаў, — на шчасце.

Цяпер толькі рыбак заўважыў: гарыць у правым лапці штосьці і свеціцца чырвоным, бы жарынка, спытаў:

— А што гэта ў маіх гарыць лапцях?

— Было тваё, цяпер — маё, рыбак! Папараць-кветка! — гукнуў чужынец, зарагатаў і ўраз прапаў з вачэй.

— Нячысцік! Цьфу! Каб на цябе халера!

Гаразд забыўся, для чаго ішоў з рыдлёўкай, разгублена патыліцу пачухрыў, пасунуўся дамоў неўразумела.

— Ну, што? — спытала жонка. — Дзе твой скарб?

— Што маеш ты на ўвазе?

— Вар'ят і баламут!

— За што мяне ты зараз абражаеш?

— Чаму ты босы?

— Нейкі чалавек купіў за залатоўку мае лапці.

— І дзе яна?

— Хто?

— Залатоўка! Хачу на яе вельмі паглядзець...

Гаразд дастаў з кішэні ліст асіны, ніякай залатоўкі не было.

— Нячысцік пасмяяўся! Я ўсё аддаў яму... Затое сам жывы! — сказаў ён жонцы сумна.

## 43

Прадбачыць чалавеку цяжка лёс. Прыпынішся — бяда дагоніць, а пабяжыш — сам на яе наскочыш. Гаразд палуднаваў на полі, не заўважыў, як хлеба крошка ўпала на раллю. Не ведаў ён, што павука прызначыў Бог сачыць за хлебам.

Павук схапіў у лапы тую крошку, залез на дрэва, выцяг павуціну. Тым часам крошка значна падрасла, заплеснявела нават. Як толькі вецер побач пралятаў, павук напяў, як ветразь павуціну, з ім паляцеў угору, да аблокаў. Адтуль ужо рукой падаць да неба. Прыйшоў да Бога крошку паказаць:

— Нашто, Усявышні, хлеба ажно столькі ты людзям даеш? Яны яго няздатныя паесці. Параскіданы ён пад нагамі скрозь!

Здзівіўся Бог з такой праявы:

— Яны штодня ўсё нешта просяць. Я і даю... Ці хлеба мне шкада?

— Няўдзячныя яны, дарунак Боскі глумяць!

— Ну, добра, буду меней ім даваць і хлеба, і ўсяго, можа, ашчадней будуць... Выконваеш старанна абавязкі, за гэта дзякую табе.

— Іх навучу, — павук паабяцаў, — як берагчы свой хлеб надзённы.

З тае пары глядзяць усе, каб ані крошкі не знайшоў павук, яго самога з хаты вымятаюць, а хлеб шануюць, каб не награшыць.

## 44

Сустрэла Хваля ветліва Касца, а ён, калі пабачыў родны тварык, расхваляваўся, ад шчасця сэрца так затрапятала, што ледзь з грудзей не выскачыла раптам.

— Заходзь, каханы, у мае палаты. Цябе з зямлі я не хацела браць, хоць вельмі сумавала па табе. Ды згледзела, што й ты зажураны штодня, таму дзяцей паслала па цябе.

— Чаму не развіталася са мною, пайшла, нічога не сказала? Пакутаваў я ў згадках і здагадках: мо чым пакрыўдзіў, мо не зразумеў...

— Жывём з табою ў розных мы стыхіях. Ты — на зямлі, я — у вадзе. Была мне доля — пакахаць цябе, не мела долі пры табе застацца.

— Што я магу зрабіць? — спытаў Касец.

— Нічога. Пабудзь са мною, колькі зможаш... Цябе судзіць за выбар твой не буду.

Касец застаўся ў Хвалінымъ палацы, дзе ціхія музыкі нешта гралі, снавалі рыбы, што служылі ёй. З Касцом шчаслівa дзеці шчабяталі. Але праз колькі дзён адчуў ён, нібы памірае у гэтым ціхім і лянотным царстве. Яму патрэбная была цяжкая праца: касіць, зграбаць, стагі вяршыць усмак. Сказаў ён Хвалі:

— Хутка я памру.

— Я не дазволю, будзеш жыць ты вечна.

— Не, не жадаю вечнасці такой. Без працы сэнсу я ў жыцці не бачу, засумаваў па лесе і лугах.

— Я адпушчу цябе, але падумай, ці варта зноў табе назад вяртацца... Нішто цябе цяпер там не чакае.

— Чакаю я сустрэчы з тым, што меў...

Сыны падбеглі на Касца, спыталі:

— Стаміўся ў нас?

— Сумую па зямлі, яе люблю! Кахаю вашу маці, мілую вас. Душа мая дваіцца...

— Як будзеш адыходзіць, наша мама захоча нешта даць табе на памяць. Ты папрасі ў яе гладышку з мёдам.

Касец крадком слязу змахнуў з вачэй, шкада было развітвацца з сынамі. Спытаўся ў іх:

— Ці не хацелі б жыць са мною на зямлі?

— Там горача і суха, нас сонца асляпляе, нас вецер працінае скразняком. Мы там загінем. У вадзе нам добра гуляць і цешыцца з вясёлай рыбай.

І вось трывожны момант развітання. Сказала Хваля задуменна хлопцу:

— Шчаслівая была цябе пабачыць, затрымліваць не буду, не хачу... І думаю, што даць табе на памяць?

— Дай мне гладышку з мёдам, каб на зямлі я здолеў гаркавы смутак мой падсаладзіць...

— Ты просіш дарагую рэч, ды для цябе нічога не шкада. Хачу хоць нечым лёс твой упрыгожыць. Жыві шчасліва, згадвай пра мяне.

Дарунак Хваля падала Касцу. Ён з ёю развітаўся са слязамі, дзяцей абняў і ў той жа момант на беразе знаёмым апынуўся. Агледзеўся, а тут усё не так. Няма хаціны роднае, лес адступіў далёка, ледзь-ледзь на даляглядзе паласой сінее. Касец здзівіўся гэтакай праяве. Старога згледзеў, запытаў яго:

— Што стала з нашым селішчам, скажы. Мяне завуць Касец, я жыў тут з братам.

— Так, быў такі дзяцюк калісьці ў вёсцы, гадоў мо сто таму, але ўтапіўся некалі ў рацэ, на беразе знайшлася толькі вуда. Ягоны я пляменнік самы меншы...

— А дзе ж твае бацькі?

— Памерла маці, смяротная яна была жанчына. За ёю бацька следам паспяшаў, кахаў яе занадта. Браты мае старэйшыя таксама ўсе адышлі, адзін застаўся я.

Касец вушам не можа веры даць, наблізіўся ён да калодзежа, зірнуў на ўласнае адлюстраванне, убачыў, што стары ён гэткі самы, як і пляменнік.

— О, літасцівы Божа, дык гэта сто гадоў ажно мінула! А мне здалося, што дзён пяць прайшло. Пляменнічак, я дзядзька родны твой. Давай глытнём па кроплі мёду з чароўнае гладышкі. Не згледзеў я, калі жыццё мінула, нібыта і не жыў зусім на свеце.

Патроху адпілі яны мядку. Касец пабачыў, што памаладзеў пляменнік. Той у сваю чаргу пачаў здзіўляцца:

— Што гэта, дзядзечка, з табою? Ты быў стары, а зараз быццам малады мужчына!

— Ты такі ж самы! — адказаў Касец. — Чароўны мёд! Яшчэ глытні.

Пляменнік выпіў, услед за ім — і дзядзька, і ўсе адразу сталі юнакамі.

— Можна жыць цяпер, — сказаў Касец. — Адно шкада, што пуста ўжо ў гладышцы. А старасць зноў падкрадзецца няўзнак.

Гладышку ён патрос і раптам чуе, што плёхаецца зноў на дне мядок.

— Жывём, пляменнік, вечна маладымі!

— Дзе, дзядзька, узяў ты гэтую гладышку?

— З русалкай Хваляй пакахаўся калісь, яна сыноў двух нарадзіла мне і запрасіла ў госці. Дзён колькі пад вадою я пражыў, занудзіўся па родных краявідах, адчуў, што лягу і памру. А на зямлі тым часам сто гадоў мінула...

— Дзівосы! — адказаў пляменнік. — Каб не твой чароўны мёд, напэўна б, гэтай казцы не паверыў...

## 45

Пайшлі Касец з пляменнікам па свеце. Старога стрэнуць — зробяць маладым, а хворага — здаровым. Усе ім рады, частуюць і даюць прытулак, з усёй ваколіцы збіраюцца нямоглыя з надзеяю на цуд.

Параілі ім неяк людзі не сноўдацца па селішчах без ладу, пабудавалі хату талакой, прапанавалі жыць на адным месцы. Касец з пляменнікам нямоглых ратавалі дзень пры з дні.

Аднойчы так Касец стаміўся, што зваліўся ледзь жывы, заснуў. Пасярод ночы пачуўся стук у акно і дзверы.

— Касец, хутчэй! Мы хворага прывезлі! Адчыняй, ці мы развалім хату!

Прачнуўся гаспадар, сказаў праз сілу:

— Няма спакою мне ні ўдзень, ні ўночы. Колькі дабра я людзям ні раблю, яны мяне ўсё лічаць даўжнікам. Ды прападзі, гладыш той ненавісны, які турботы столькі мне прынёс, колькі за ўсё сваё жыццё не ведаў.

І толькі ён прамовіў тыя словы, гладыш раптоўна раскалоўся напалам. Аскепкі яго кнігаўкамі сталі і паляцелі на лужок, туды, дзе некалі Касец сустрэўся з Хваляй.

А тыя, хто паспеў амаладзіцца, у момант пастарэлі. Гэтая доля не мінула і Касца з пляменнікам ягоным. Хто вылечаны быў мядком цудоўным, зноў захварэў. Шмат хто памёр. Іншакшы час пачаўся на зямлі ўнукаў і дзяцей божых, смяротных...

## 46

Вялес задумаў паглядзець, як людзі святы адзначаюць. Быў задаволены, калі, праходзячы па вёсцы, убачыў, што жанчыны пярыны сушаць і бялізну мыюць, каб добра стрэць святы дзянёк. Пастукаў ён у дом заможны. Багачка Злата выйшла і спытала:

— Чаго блукаеш ты, стары, па свеце? Сядзеў бы дома і не турбаваў людзей.

— Пусціце пераначаваць, — нясмела папрасіў Вялес.

— Я толькі што прыбрала дом, гасцей чакаю. Нашто ты мне? Ідзі лепш вунь у тую хатку, там жабракоў усіх прымаюць, — жанчына злосна адказала.

Стары ўздыхнуў і скіраваў да беднае хаціны, там, дзе жыла ўдава Людміла з дзеткамі малымі. Яна гасцінна прыняла Вялеса:

— Заходзь, дзядуля, калі ласка! Сядай бліжэй да печы ды пагрэйся. Вячэраць хутка будзем. Пачастунак хоць і не багаты, але аладак з малаком на ўсіх нас хопіць.

Сагрэўся ля агню стамлёны госць, сеў да стала. Што і казаць, была вячэра беднай, але вясёлаю затое. Стары расказваў дзецям казкі, рычэў, бы звер, гудзеў жуком, насвістваў салаўём. Калі дзяцей да сну схіліла, Вялес таксама спаць на лаўцы лёг.

Людміла рана-рана паднялася, муку апошнюю сабрала, аладак напякла і госця правяла, як след. Падзякаваў стары ўдаве за дабрыню, гасціннасць, сказаў на развітанне:

— За што б ты ні ўзялася, гаспадыня, да вечара не пераробіш.

Здзівілася Людміла, ды змаўчала.

— Зайду я да цябе праз год, але нікому не расказвай пра мяне.

Стары ледзь за парог ступіў, нібы растаў раптоўна. Людміла цяжанька ўздыхнула:

— Аладкаў зараз дзеці наядуцца, а на абед няма ніякай ежы. Прадаць бы хоць што-небудзь, ды ўжо нічога і не засталося.

Але яна згадала нечакана, што ў куфры ёсць сувойчык палатна з пасагу. Даўно яго купіць хацела Злата. Людміла берагла пасаг, як памяць пра час мінулы і шчаслівы.

«Памераць трэба палатно», — падумала яна.

Сувой дастала, мераць пачала, ажно стамілася, а палатну канца не бачна. Паклікала дзяцей на дапамогу, а потым і суседзяў, ды не канчаецца сувой. Спачатку палатно запоўніла ўсю хату, што сесці няма дзе, пасля ўвесь двор і ўсё цякло, цякло, нібы бясконцая рака. Толькі ўжо ў поцемках сувой сышоў за сонцам, скончыўся сувой. Людміла века куфра апусціла і стомлена прысела.

Сабралі ранкам палатно суседзі, паклалі на вазы, павезлі на кірмаш. Людміла прадала тавар, бо быў ён якасці выдатнай. Што і казаць, такога палатна даўно ніхто не бачыў, нібыта Мокаш яго наткала з незвычайнай пражы.

Паставіла Людміла хату, худобы накупляла і зажыла шчаслівa, суседзям пры нагодзе памагала, прытулак жабракам давала.

## 47

Цікаўнасць разбірала Злату, ад зайздрасці яна спакой згубіла і колькі раз дарэмна спрабавала ў суседкі распытаць сакрэт яе багацця. Маўчала, помнячы старога запавет, Людміла..

Даўмелася аднойчы Злата купіць у знахара чароўны парашок, які развязвае язык. Вярнулася дамоў, у мёд насыпала атруты, паставіла на стол ласункаў розных, дзяцей паслала ў госці клікаць удаву.

Прыйшла Людміла, павіталася. Гасціннаю прыкінулася Злата, за стол суседку запрасіла, частуе мёдам, ліслівыя гаворыць словы. Ад парашку атрутнага язык Людмілін развязаўся, усё яна суседцы расказала.

Пашкадавала Злата вельмі, што не прызнала ў жабраку чараўніка, які суседцы даў багацце. Зарок сабе дала, што ўжо яна сваё не ўпусціць шчасце.

Праз год на свята дзяцей паслала Злата вартаваць, ці не з'явіцца зноў чараўнік стары. Прыбеглі дзеці па абедзе, крычучы:

— Ідзе! Ідзе жабрак ад лесу!

Дзяцей за стол жанчына пасадзіла, дала ім па кавалку хлеба, сказала, каб чакалі, сама пабегла сустракаць старога. Дадому прывяла дзядка, гасцінна запрасіла:

— Будзь госцем, калі ласка, сагрэйся, адпачні, паеш, што Бог паслаў.

Здзівіўся чараўнік:

— Як ты магла за год гэтак змяніцца?

— Тады была зусім не я, напэўна, а мая сястра. Блізняты з ёю мы, падобныя абліччам, ды вельмі розныя ў нас сэрцы. Я добрая, сястрыца злая.

— Якое сэрца, гэткая падзяка, — сказаў стары і сеў за стол.

Забрала Злата хлеб у дзетак і аддала старому. Паеў Вялес, падзякаваў, лёг спаць. А на світанку выбраўся ў дарогу. У Златы вочкі бегаюць, чакае, што скажа ёй на развітанне госць.

— Што возьмешся рабіць ад ранку, да вечара не перарабіш.

Ледзь за парог ступіў — прапаў з вачэй.

«Сказаў мне тое ж, што Людміле! Багацце, пэўна, падаруе мне», — і тут жа грошы палічыць пабегла, ды спатыкнулася і разліла ваду. Ад грукату ўсе дзеці ўраз прачнуліся, піць пачалі прасіць.

«Вады спачатку прынясу, а потым грошы палічу», — падумала яна і паляцела да калодзежа. Прынесла поўнае вядро, ды аб парог знянацку спатыкнулася — і разліла. А дзеці плачуць. Зноў па ваду пабегла. Так і хадзіла цэлы дзень да вечара, аж покуль сонца не зайшло.

## 48

За далягляд шлях клікаў Радзегоста, Дажбогавага праўнука. Плыты сплаўляў ракой да мора ён, дзе прадаваў сасну на караблі, назад прывозіў амфары з віном, бялюткі шоўк, барвовы аксаміт, каштоўнае і рэдкае каменне, каб жонку мілую Любляну радаваць, а чатыром сынам, Радзіму, Ратару, Руяну і Обру, вёз ласункі.

Любляна сумавала ля акенца, чакала мужа з дальняе дарогі, выходзіла на стромы бераг з дзецьмі, глядзела за раку і плакала крадком, малілася, каб паспрыяў Сварог яго вяртанню.

Паехаў Радзегост на лета, а тры гады дадому не вяртаўся. Любляна выбегла на бераг неяк, убачыла: плыве ракою плыт. Здалося ёй, што быццам Радзегост, такі ж прыгожы малады мужчына, вітаў здалёк яе. Пабегла сустракаць яго на прыстань. Прыгледзелася да купца, аж не, чужы, толькі пастава, як у Радзегоста.

Яна сустрэла ветліва купца са слугамі ягонымі, у дом свой запрасіла, каб распытаць, ці Радзегоста дзе не сустракалі. Паставіла на стол мёд і закуску, здароўя добрага ўсім пажадала. Купец, якога звалі Міланегам, і слугі частавацца пачалі ды згадваць пра ранейшыя паходы.

— Ішлі мы морам па гандлёвых справах, — распачаў аповед Міланег. — Занесла бурай нас няведама куды. Знячэўку бачым: востраў зялёнее. Здзівіліся мы і прысталі да яго. На бераг выйшлі, расклалі вогнішча, варыць хацелі кашу. Вада яшчэ не закіпела, як мы заўважылі, што востраў зрушыўся і стаў у мора апускацца. Спалохаліся ўсе, пабеглі на ладдзю і ўратаваліся, бо хутка адплылі. Калі ж агледзеліся, зразумелі, што гэта рыба-кіт агромністых памераў, якую вогнішчам мы апяклі.

— Вядома, рыба-кіт у птушку можа абярнуцца, вялізную, якая крыламі паўнеба закрывае, — адзін слуга заўважыў. — Калі плыве ён з Поўначы на Поўдзень, цячэнні акіян мяняе. Калі ён птушкай пралятае, здараюцца тайфуны і крый Божа з ім сустрэцца на той час.

— Расказваў бацька мне, — другі слуга прамовіў, — што ў паўднёвым моры ёсць людзі-рыбы, яны, як мы кахаць умеюць, смяяцца, плакаць. Ператвараюцца іх слёзы ў пярліны.

Калі ж пад'елі госці, спытала ў іх Любляна:

— Ці вы не чулі, госці, дзе пра майго мужа Радзегоста? Пагнаў плыты ён па рацэ да мора.

— Расказвалі купцы, што стаў твой муж палоннікам Вадзяніка, — прамовіў Міланег. — Даруй, што вестку чорную прынёс.

Заплакала Любляна несуцешна ад весткі, што ўдавой яе зрабіла. Стаў суцяшаць яе купец заезджы, ягоны голас, як у Радзегоста быў, а рукі ласкавыя цешылі Любляну, гатовыя абараніць ад бедаў.

Купец загасцяваўся не на жарты, праз месяц закаханая Любляна згадзілася ягонай жонкай стаць. Жыць разам без вяселля пачалі. Нашто яно? Калі ў душы жалоба, а новае каханне, нібы кветка, зацвітала.

## 49

Мінула колькі часу. Любляна з новым мужам у садку сядзела, смяялася шчаслівa. Ёй Міланег расказваў пра паходы:

— Шмат дзе я пабываў. Аднойчы плывучыя сустрэў у акіяне горы. На іх стаяць палацы з залата і срэбра, а дрэвы — з перлін і нефрыту. Людзі кажуць, што хто пладоў з іх паспытае, набудзе неўміручасць. Але ўсчаўся шторм неміласэрдны, мне не ўдалося да гары прыстаць.

— Нам бы такіх пладоў! Жылі б мы і кахалі вечна! — прамовіла захоплена Любляна.

— Як стрэну зноў гару такую, табе пладоў дзівосных прывязу. А перлінамі і цяпер магу абсыпаць. Глядзі!

Купец падаў Любляне пацеркі дзівосныя з перлінаў чорных.

— Цудоўныя каралі! Вялікі дзякуй, Міланег, за шчодрасць. Толькі ты ў мора болей не хадзі. Баюся, прападзеш, як Радзегост.

— Ты памыляешся, Любляна, я не прапаў, — пачуўся голас Радзегоста, які нячутна ў сад прыйшоў.

— Жывы ты? Дзе ж ты быў столькі гадоў? — зніякавела ўражаная жанчына.

— Я трапіў у палон да Уладара ракі, ды выслужыцца здолеў. Іграў на гуслях тры гады яму. Ён слухаў і наслухацца не мог... Нарэшце адпусціў мяне... А ты?...

— Прабач, мой любы, гэты вось купец прынёс мне вестку, што загінуў ты. Ён шкадаваў мяне, аберагаў! Уважлівы быў да дзяцей... Сыны твае яго таксама паважалі. Паверыла яму. Цяпер абодвух вас кахаю... І сэрца маё рвецца на кавалкі! Як мне цяпер?.. Не, я сябе заб'ю...

— Любляна, сэрца не падзеліш, няхай жа доля вырашыць за нас, каму з табою быць, — прамовіў Радзегост і загадаў купцу. — Страляцца будзем з лукаў. На бераг той плыві, я застануся тут. Хто выжыве, з тым будзе векаваць Любляна.

Супернікі на берагах пасталі і выпусцілі па адной страле, ды не патрапілі. Другі раз стрэлілі — зноў міма. А стрэлы трэцця ўсё ж дасягнулі мэты, упалі мёртвыя стралкі абодва. Загаласіла ў горычы Любляна, на грудзі ўпала Радзегосту, прамовіла:

— Вярніся, муж мой любы! Цябе кахаю, як у маладосці!

Пачула голас змрочны Смерці:

— Цяпер ён мой, яго не ажывіць! Яму сюды ніколі не вярнуцца!

— Хачу быць з ім!

— Далёка ён... Табе ўжо не дагнаць!

— Не разлучай, зрабі што-небудзь!

Ды Смерць, занятая сваёй турботай, нічога ёй не адказала. Любляна ў роспачы рванула пацеркі на грудзях, рассыпаўся наўкола чорны жэмчуг. Падбеглі да яе сыны, схіліліся над бацькам з плачам.

## 50

Мінула колькі год, сыны Любляны падраслі. Пайшлі яны ў далёкі край у пошуку заробкаў. Даўно ж вядома, там лепш, дзе нас няма. Дарогаю Ратар, Руян, Обр і Радзім спявалі песні, пацвельвалі адзін з другога. Сустрэўся ім сівы дзядок з кайстрай на плячы, прыязна павітаўся, спытаў:

— Куды сабраліся гурмою?

— Па шчасце, — адказаў старэйшы брат.

— Хоць мо стары я, каб пра шчасце марыць, але вазьміце і мяне з сабой!

— Пайшлі. Дарога будзе весялейшай з бывалым чалавекам.

Як сонца паднялося і пякло неміласэрна, прыселі падарожнікі ў цяньку каля крынічкі адпачыць. Дасталі хлопцы па акрайцу хлеба, а іншай ежы ў іх і не было. Стары цыбуліну знайшоў у каністры і падзяліў на ўсіх. Паелі хлопцы ўсмак, вадою запілі і ўжо збіраліся ў дарогу рушыць, але Ратар прамовіў летуценна:

— Калі б з крыніцы гэтай цёк мёд, а не вада, пабудаваў бы я заезджы двор. Ні аднаго не прапусціў бы бедака, каб не пачаставаць салодкай медавухай і не накарміць.

— Няхай жа будзе так, як ты жадаеш, — сказаў стары.

І раптам з крыніцы мёд пацёк. Не верачы такому цуду, браты яго пакаштавалі.

— Ты чараўнік? — спытаў Руян старога.

— Я той, каго Усявышні чуе.

— Ці трэба наша дапамога табе, Ратар, — браты спыталі. — Гатовы мы з табой застацца.

— Сваё сустрэў я шчасце, а вы сваё шукайце. З такой крыніцаю ўпраўлюся і сам.

Пайшлі далей з дзядком Руян, Обр і Радзім. Дарога хутка прывяла да трох узгоркаў з валунамі. Руян спыніўся і сказаў:

— Каб гэтыя ўзгоркі раптам маглі ператварыцца ў сцірты жыта, а валуны ў валоў, зрабіў бы я сабе саху, пераараў бы поле, напоўніў бы засекі зернем. Найшчаслівейшым стаўся б чалавекам, жабрака ўсялякага карміў бы!

— Няхай жа будзе так, як ты жадаеш, — сказаў стары.

Узгоркі ўмомант сталі сціртамі, а валуны — валамі.

Руян застаўся са сваім дабром, а два малодшыя браты пайшлі з дзядком далей. Сустрэлася ім па дарозе поле, на ім варон сядзела процьма. Обр замахаў рукамі, закрычаў — вароны хмараю ўзляцелі, сабой паўнеба засланілі.

— Кароў хачу гэткі статак. Меў бы я сыру, масла ўдосталь, — сказаў з надзеяй прыхаванай Обр.

— Няхай жа будзе так! — стары згадзіўся.

Вароны зноў на поле апусціліся, ператварыліся ў вялізны статак, які на пашу гнаў шчаслівы Обр.

Радзім пайшоў з дзядком далей. Ім стрэлася прыгожая дзяўчына, ішла яна сцяжынаю да хутара. Заглядзеўся міжволі хлопец на яе.

— Што? Спадабалася? — спытаў стары.

— Ніколі прыгажэйшае не бачыў, — прызнаўся хлопец.

— Падумаў я, мо гэта тваё шчасце?

— Хацеў бы жонкай гэтакую ўзяць!

— Бадай, сасватаю дзяўчыну за цябе.

Пайшлі яны на хутар следам за дзяўчынай. А гаспадар іх ветліва сустрэў, ды папярэдзіў, што ў Віданы, так клікалі дзяўчыну, ёсць жаніх.

— Ды гэты хлопец суджаны яе, а той, павер мне, непатрэбны, выпадковы, — запярэчыў чараўнік.

— Дзе доказы?

— Давай з табою возьмем па галінцы вішні, пасадзім у зямлю і паглядзім, чыя галінка зацвіце адразу, той праўду кажа.

— Хіба ж магчыма, — гаспадар спытаў, — каб вішня тут жа зацвіла?

— Вялікі цуд можа Усявышні здейсніць дзеля шчасця маладых.

Дзядок з гаспадаром галінкі ўткнулі ў глебу, вадою палілі ды селі паабедаць. З-за стала яшчэ не ўсталі, калі заўважылі, што госцева галінка заквітнела. Здзівіўся бацька дзеўчыны прыгожай, сказаў:

— Калі такая воля Бога, дык я яму пярэчыць не магу. Вяселле будзем рыхтаваць.

Гасцей сабралі дні праз два, вяселле справілі. Дзядок з Радзімам развітаўся, паабяцаў праведаць пры выпадку.

— Хто гэта быў? — спытаў Радзіма цесць.

— Не ведаю. Можа, сам Бог. Ён цудаў шмат нам паказаў, пакуль з братамі шчасця я шукаў.

Радзім застаўся ў доме цесця, араў, касіў і сеяў, хоць не разбагацеў, аднак Відану шанаваў ды дзетак гадаваў.

## 51

Завейным днём аднойчы нехта пастукаў у акно Радзімавае хаты. Радзім у хату жабрака пусціў. Відана памагла старому світку скінуць, павесіла яе сушыцца і запрасіла павячэраць, чым Бог паслаў. Пад'еў стары і запытаў Радзіма:

— Ці помніш ты мяне?

Цяпер толькі пазнаў Радзім таго чараўніка, які яму сасватаў жонку.

— Вялікі дзякуй, бацька, за дарунак. Пашчасціла мне з жонкай з лёгкае тваё рукі.

— Гэта твая заслуга. Умееш ты шчаслівым быць. Але скажы, чаму такая ў вас хацінка? Я памятаю хутар колішні быў моцны, з новаю і вялікай хатай.

— Згарэла наша хата ад маланкі, таму і тулімся ў халупе гэтай.

— Здараецца зрэдчас такое, ды не бядуй, а лепш зірні ў акно.

Радзім з Віданаю праз шыбу паглядзелі, убачылі, што хлопцы маладыя ў завеі мітусяцца, нешта робяць.

— Што гэта? — маладзіца запытала.

— Будуецца вам хата, — сказаў дзядок і задаволена пацёр далоні.

Радзім з Віданаю разгублена казалі, што надта ж падарунак дарагі.

— Вы сэрцамі яго пабудавалі, — стары ім запярэчыў. — Скажы, Радзім, а як твае браты?

— Праведваў неяк іх. Усё там добра. Заезджы дом трымае Ратар, Руян вырошчвае хлеб і прадае, Обр зарабляе, прадаючы сыр, масла, малако. Багатыя яны, за іх табе вялікі дзякуй.

Да раніцы была пабудавана хата на шэсць акон. Радзім з Віданай увайшлі ў святліцу, заплакалі ад шчасця, былі гатовы госцю рукі цалаваць.

— Гэта не хата, а каханне ваша, — стары шчасліва засмяяўся.

— Скажы нам, бацька, хто ты? — спытаў Радзім.

— Дажбог. А ты мой праўнук. Як роднаму не паспрыяць?!

— А кажуць, што на неба ты пайшоў? — нясмела запытала маладзіца.

— І кажуць праўду. Часамі ўсё ж спускаюся з нябёсаў, каб паглядзець, як тут жывуць нашчадкі.

## 52

Дажбог накіраваўся да Ратара. Ужо сцямнела, калі зайшоў ён у заезджы дом, тут прывітаўся, кавеньку у куток паставіў і кайстру зняў з пляча.

Не адказаў яму нічога гаспадар, як быццам не пачуў.

— Замёрз я і стаміўся, — госць сказаў. — Налі мне мёду, каб сагрэцца.

— Ці маеш чым плаціць?

— Якія грошы ў жабрака?

— Без грошай не частую!

— Не трэба мёду, вып'ю і вады. Дазволь хаць пераначаваць пад дахам, на вуліцы страшэнная завея.

— Тут не прытулак для бяздомных! Прэч! — закрычаў у гневе гаспадар і выштурхаў старога за парог, а ўслед за ім шпурнуў кавеньку з кайстрай.

Дажбог падняўся, снег абтрос, падняў кавеньку, кайстру на плячо ўскінуў і прамовіў:

— Няхай жа будзе, як раней было.

І ў той жа момант разнёс буран заезджы дом, што нават трэскі ад яго не засталося. У роспачы заплакаў гаспадар, стаў валасы рваць на сабе, але слязамі гору не паможаш. Хацеў дагнаць дзядка і даравання папрасіць, але таго і след прастыў.

Пайшоў Дажбог у госці да Руяна, застаў яго ў гумне, дзе той сачыў, як парабкі малоцяць жыта.

— Дай жабраку акраец хлеба. Тры дні і крошкі ў роце не было, — папрасіў стары.

— Ідзі адсюль! Не маю хлеба для розных лайдакоў! — са злосцю закрычаў Руян. — Хто не заявіцца, усе адразу просяць есці. А я не Бог, каб увесь свет карміць.

— Так, ты не Бог! Ты толькі чалавек няўдзячны, — сказаў стары. — Няхай жа будзе ўсё, як і было.

І ў той жа момант сцірты збожжа ператварыліся ва ўзгоркі, валы зноў сталі валунамі, рассыпаўся на трэскі дом багаты.

Нарэшце прыйшоў Дажбог да Обра, зазірнуў праз плот высокі ў двор, пастукаў у вароты, пачуў раз'юшаны сабачы брэх. На ганак выйшаў гаспадар, спытаў:

— Хто там?

— Дай, добры чалавек, напіцца малака. Стаміўся вельмі я ў дарозе.

— Папі вады вунь каля студні. Калі пачну бадзяг усіх малаком паіць, дык застануся сам ні з чым.

— Дай хлеба хоць акраец.

— Ідзі па-добраму, бо як спушчу сабак, дык мала ўжо табе не будзе!

Дзед уздыхнуў, з дакукай галавою паківаў, сказаў:

— Няхай жа будзе, як раней было.

Каровы, што ў хлявах стаялі, ператварыліся ў варон і вылецелі з карканнем на волю. Дарэмна бег за імі Обр, крычаў і плакаў:

— Спыніцеся! Куды вы? Я пасвіў вас, карміў, бярог! А вы!..

Дажбог па сцежцы задуменна крочыў і думаў, што дарэмна хацеў ён праўнукаў шчаслівымі зрабіць. Дабро ўспрымаюць людзі як належнае, удзячнасці дарма ад іх чакаць. Ім цуды мудрасці не дадаюць. А калі так, дык кожны чалавек няхай уласнымі рукамі, розумам і сілай здабывае шчасце.

## 53

З тае пары, як Святагор пачаў ахоўваць горы, шмат што змянілася на свеце. Зямля часамі высыхала так, што трэскалася ад вялікай смагі, або паводкаю без жалю яе ўсю залівала спрэс. Спачатку людзі ад разводдзя ратаваліся ў гарах, а потым пасяліліся і сталі жыць там. Святагор не крыўдзіў іх ніколі. Няхай жывуць, хапае месца ўсім. Ну а свае багацці так глыбока хаваў, што потым адшукаць і сам не мог.

Каб зайздрасць не будзіць, пабудаваў сабе палац ён з самацветаў глыбока пад гарой высокай, якая голымі тапырылася скаламі, здавалася страшэнна непрыступнай. Абыходзілі яе звяры і людзі.

Заняты рознымі турботамі, Святагор не заўважаў гадоў, стагоддзяў і тысячагоддзяў. А пры патрэбе мог выглядаць старым ці юнаком. Прыходзіў час ад часу ў даліны, дзе людзі пасяліліся. Паколькі быў ён справядлівы, дык добрых шчодра ўзнагароджваў, благіх знаходзіў сродак правучыць.

Прыкмеціў хлопца Святагор у селішчы. Быў працавіты, дбайны Любамір, ніякай справы не цураўся, але колькі ні стараўся, ледзьве канцы з канцамі зводзіў. Дапамагчы яму сабраўся Святагор, ды доўга думаў, як бы ўсё зрабіць, каб не нашкодзіць, бо мае два бакі дабро.

Сказаў аднойчы маці Любамір:

— Так болей нельга жыць! Зямелька наша бедная занадта, не можам пракарміцца мы на ёй. Пайду я ў горад, можа, навучуся якому рамяству.

Сабраўся хлопец у дарогу на світанні. Далёка за сялом знайшоў у пыле каліту з грашыма. Узрадаваўся Любамір спачатку, пасля яго сумненні ахапілі. Гавораць не дарма: знайшоў — не радуйся, а як згубіў — не плач.

А хутка ўбачыў на дарозе чалавека, апранутага ў аксаміт і шоўк, які быццам шукаў штосьці пад нагамі.

— Ці ты згубіў што, добры чалавек? — хлапчына запытаў.

— Згубіў я каліту з грашыма.

— А ці не гэтую?

— Якое шчасце! Знайшлася каліта! Чым жа табе аддзячыць?

— Нічым. Хацеў бы зарабляць сумленнай працай, а не выпадковасцю шчаслівай.

— Сумленны ты і бескарыслівы. Бадай, гэта важней, чым грошы. Куды ідзеш?

— У горад, каб авалодаць рамяством якім.

— Нам па дарозе, пойдзем разам.

Ішлі яны і разважалі пра жыццё, а Любамір паскардзіўся:

— Жывецца цяжка аратаму ў гарах. Не родзіць камяністая зямля, колькі яе ні даглядай. Пакінуў маці я адну, шкада, але не бачу выйсця, мо ў горадзе сустрэну ўдачу.

— Удача не заўжды прыносіць шчасце.

— Я згодны, ды жыву надзеяй.

— Што б ты хацеў займець для шчасця? — спадарожнік запытаў.

— Хачу, каб тое, што знайду ў дарозе, належала адзіна мне.

— Няхай жа будзе так, як ты жадаеш, — прамовіў незнаёмец і знік з вачэй раптоўна.

Здагадка Любаміра працяла, што незвычайны гэты спадарожнік, мо нават Святагор. Услед яму хлапец ускрыкнуў:

— Вялікі дзякуй, пане шчодры!

Ды толькі горы рэхам адгукнуліся ў адказ.

Пайшоў сваёй дарогай Любамір, але заўважыў хутка, што на дарозе ляжыць зноў тая ж каліта. Падняў знаходку ён і, задаволены, схаваў яе ў кішэню, бо помніў пра дамову: усё, што б ні знайшоў, цяпер яму належыць.

Хутка сустрэў хлапец авечак статак, які пайшоў за ім як быццам за гаспадаром. Далей пабачыў шмат вазоў нагружаных снапамі. Павезлі ўслед за ім вазы коні буланыя, а хутка да абозу прыстала чарада кароў.

«Вось дык пашанцавала! — падумаў Любамір. — Апошнім бедняком я выйшаў з хаты, дамоў вярнуся першым багачом».

Ён з радасцю багацце азіраў, ужо хацеў дамоў вяртацца, але падумаў: «Да горада яшчэ далёка. Хто ведае, што там мяне чакае. Колькі сабраць магу яшчэ багацця!»

Пайшоў далей хлапчына і каля гарадскіх варот знайшоў пярсцёнак з вялікім каменем каштоўным. Ён зіхацеў вячэрняй зоркай.

— Якая прыгажосць! — прамовіў Любамір. — Але, напэўна, гэта ўжо апошні падарунак, які я атрымаю сёння.

У гэты момант падбегла да яго дзяўчына, схапіла за руку, сказала:

— Мяне Багданаю завуць. А ты мой нарачоны. Мы мусім пажаніцца.

Зірнуў на нарачоную хлапец і ажно адхіснуўся. Такою непрыгожаю яна яму здалася: твар — у бародаўках, нос, як у чаплі, а валасы, бы прэлая салома.

— Пусці! Не буду я жаніцца, — ускрыкнуў Любамір.

Але дзяўчына ўчапілася ў руку, як абцугамі. Толькі цяпер заўважыў хлопец у яе на пальцы такі ж пярсцёнак, які знайшоў і сам ля гарадскіх варот. Цяпер і здагадаўся Любамір, што пакараны ён за сквапнасць, таму скарыўся.

Павёз дамоў засмучаны хлапец вялікае багацце і нявесту непрыгожую такую, што і самому брыдка паглядзець, не тое што, каб людзям паказаць.

Аднак Багдана стала добрай гаспадыняй, пра мужа і свякроўку клапацілася, чысцютка ззяла хата і двор заўсёды быў прыбраны. Звык паступова Любамір да жонкі і болей не ўздыхаў з дакукай, гледзячы на ейны твар, як то было раней. Калі ж яна яшчэ і сына нарадзіла, здаровага і моцнага, зусім, здавалася, муж пакахаў яе.

Мільгалі дзень за днём у працы да цямна, ды муж і жонка маладыя задаволены былі жыццём сумесным. Аднак трывожылася ўпотайкі Багдана з набліжэннем гадавіны іх вяселля. Муж не распытваў, думаў сам сабе: наспее час — сама раскажа.

**54**

Пад вечар, напярэдні ўгодкаў, калі сямейка села павячэраць, хтосьці пастукаў у акно. У хату госця запрасілі. У хату увайшоў той самы чараўнік, які год таму так шчодра Любаміра надзяліў.

— Калі ласка, просім да стала, — замітусілася Багдана.
— Ці задаволены дарункамі маімі? — госць запытаў.
— Вялікі дзякуй! Усё ў нас ёсць: хлеб і да хлеба, — прамовіў Любамір.
— А жонкай задаволены сваёю?
Багдана ў гэты момант якраз дзіця карміла. Свяціўся твар яе пяшчотай і любоўю. Яна нават прыгожаю здалася Любаміру. Абняў ён жонку і сказаў:
— Багдана — жонка добрая і маці! Якога сына нарадзіла мне! Не быў ніколі шчаслівейшы!
— Сардэчна рады я за вас. Цяпер, Багдана, ты можаш усё мужу расказаць, — госць усміхнуўся і прапаў з вачэй.
Не разумеючы нічога, Любамір на жонку паглядзеў і не пазнаў яе. Стаяла перад ім такая прыгажуня, якая, можа, толькі ў сне прысніцца.
— Што гэта з табой, Багдана? — ён здзіўлена спытаў. — Хто падмяніў цябе? Навошта? Прывык я да цябе ранейшай. Такая прыгажуня ты цяпер, што я баюся нават побач стаць!
— Заўсёды я была такой, якой мяне ты бачыш. Лічылася прыгожай самай у мясцовасці сваёй, зазнайства стрэмкай у душу засела, — сказала маладзіца. — І пачала пасмейвацца я з іншых, і адмаўляла ўсім, хто сватацца прыходзіў. Нікому я не спачувала: ні бедным, ні выродлівым, ні хворым. Пайшла за горад неяк, каб на вяночак кветак назбіраць, залюбавалася сабою, гледзячы ў ваду. І тут заўважыла, што нейкі чалавек здзекліва за мною назірае. Я крыкнула яму:
— Ідзі адсюль! Чаго глядзіш?
— Якая ты пустая і злосная! — ён адказаў.
— Нічога ты не разумееш! Я самая прыгожая на свеце!
— Прыгожая? Ха-ха! — ён засмяяўся. — Зірні на ўласнае адлюстраванне! Пачварней за цябе ва ўсёй ваколіцы не адшукаеш! Такой і застанешся, пакуль характар свой не зменіш. Вазьмі пярсцёнак, ён прывядзе цябе да хлопца, які пярсцёнак гэткі ж будзе мець. Стань добрай жонкаю яму. Праз год наведаю я вас. Калі пагодзіцца твой муж, каб ты з ім засталася, дык хараство тваё вярну табе. А калі не, дык застанешся такою назаўжды. Нікому не расказвай пра мяне.
Багдана выцерла слязу, што мімаволі пабегла па шчацэ, расказвала далей:
— Ён знік раптоўна. А я зірнула на сябе і не паверыла вачам, калі пабачыла свой твар. Заплакала я з гора, хацела нават утапіцца. Куды пайду такая? Мяне ж і маці не пазнае. Але падумала, паразважала і вырашыла ўсё зрабіць, як незнаёмец загадаў. Так і сустрэлася з табою. Астатняе ты ведаеш і сам.
— Якое шчасце, мілая Багдана, што вытрымалі мы выпрабаванне! — Любамір з усмешкаю сказаў. — Мяне таксама сквапнасць падвяла, за што і быў я Святагорам пакараны. Нам трэба сціпла жыць, каб болей не гнявіць багоў.

## 55

Багдана з Любамірам стрымалі слова, жылі без звадак і без сварак, сына гадавалі Барыміра. Калі ён паўналецця дасягнуў, стаў думаць, якое б рамяство яму засвоіць. Сказаў ён бацьку:
— Дазволь пайсці мне ў горад. Хачу займець якую справу.
— Сынок, адзін ты ў нас, дык на каго ж пакінем гаспадарку?
— Хачу прызнацца, бацька, што земляробства мне не да душы.

— Шкадую, сынку, што не здолеў навучыць цябе любіць зямлю, ды, пэўна, позна. Ідзі, няхай табе спрыяе лёс!

Сабралі бацька з маці сына ў шлях, за селішча далёка правялі, глядзелі ўслед, пакуль ён відзен быў.

Наняўся Барымір да карчмара, дзе гаспадар вучыў яго:

— Вадою трэба медавуху разбаўляць, інакш прыбытку не чакай.

Падумаў хлопец: «Ці ж гэта рамяство. Падманам грошы зарабляць я не жадаю».

Пакінуў службу ён, наняўся ў краму, дзе тканінай гандлявалі. Вучыў яго гандляр:

— Як мераеш пакупніку тканіну, паболей палатно нацягвай, тады не мецьмеш страты.

— Мне сорамна людзей падманваць.

— То не падман зусім. Ты ведаеш, якія страты даводзіцца трываць і мне. Падмокла і фарбы страціла тканіна. Ніхто такой не купіць. За ўсё плачу!

Пакінуў Барымір і гэту службу і вырашыў стаць лесарубам, упэўнены, што толькі з гэтым рамяством ён будзе працаваць сумленна.

## 56

Сабраўся Барымір у лес далёкі, каб лесаруба адшукаць і ў вучні да яго пайсці. Праз поле йшоў, праз луг шырокі. Лес высіўся зубчастаю сцяной. Балота трапілася на яго шляху. Узяў ён жэрдку і асцярожна стаў рухацца дрыгвою. Раптам чуе, што нехта кліча, просіць дапамогі:

— Гэй, хлопец! Памажы!

На голас азірнуўся Барымір. Аж бачыць: бабулька тоне. Падаў ёй жэрдку, выцягнуў з дрыгвы. Яна, абтрэсваючы твань, сказала:

— Вялікі дзякуй, што выцягнуў мяне. Зусім я выбілася з сілы.

Барымір прысеў каля старой, падаў ёй хлеба і кавалак сала.

Рукой кашчаваю кабета адмахнулася:

— Такая ежа мне не па зубах. Аднак за тое, што ты добры хлопец, хачу табе аддзячыць. Стань маім вучнем, дык не пашкадуеш.

— Чаму навучыш ты мяне, бабуля?

— Вядомым лекарам ты зможаш стаць.

— А колькі будзе каштаваць вучэнне.

— Як для цябе, дык нічагуські. Дык згодны?

— Бадай што паспрабую.

І рушылі яны ў дарогу. Старая быццам над зямлёй ляцела, толькі адзенне чорнае яе на ветры трапятала. Імчаўся подбегам за ёю Барымір, стаміўся так, што ледзь не падаў з ног. Тады бабуля схапіла за руку яго і ў неба паднялася. І зразумеў хлапчына, што ляціць. У змроку лес шумеў, свяцілі ў небе зоркі. Світанкам прыляцелі на гару. Іх голая вяршыня прыняла, адкуль, здавалася, усю зямлю відаць.

— Вось мы і дома, Барымір. Пайшлі ў пячору. Навучу цябе я шмат чаму, не бойся толькі ты нічога і не здзіўляйся.

— Адкуль табе маё імя вядома?

— Не цяжка гэта мне. Ці ведаеш — маё?

— Адкуль жа ведаць мне?

— Я — Смерць. Адны мяне баяцца, а той-сёй рады мне, як суцяшэнню і пазбаўленню ад пакут.

Спалохаўся дзяцюк, ды позна, цяпер назад не павярнуць. Пайшоў ён за старою ў цёмную пячору.

Застаўся Барымір у Смерці. Яна яго вучыла зёлкі пазнаваць, вучыла, як лячыць хваробы. Разумны, памятлівы вучань быў, запамінаў пачутае адразу. Не заўважаў, колькі мінула дзён, нібыта час спыніўся на гары. Аднак сказала Смерць яму аднойчы:

— Вучоба скончана, вяртайся да людзей, дапамагай ім бараніцца ад хваробаў. Запомні, што скажу на развітанне. Мяне ніхто не бачыць, апроч цябе. Калі пабачыш, што стаю у хворага ў нагах, лячы яго і ачуняе ён. Калі ж пабачыш, што ля галавы стаю, лячыць і не спрабуй, ён мой, яму нічым не дапаможаш. Парушыш запавет, дык сам памрэш. Таму хачу, каб ты мне прысягнуў, што будзеш так рабіць, як я цябе вучыла.

Прысягнуў, нізка Смерці пакланіўся і да людзей пайшоў. Шмат гарадоў аб'ехаў ён, лячыў людзей у гарадках маленькіх і сталіцах, вядомы стаў сваім умельствам. Дамоў вярнуўся сталым і багатым чалавекам праз шмат гадоў. Заплакала, загаласіла маці, калі пабачыла яго:

— Дзе ж быў, сынок, ты, што ніякай весткі ні разу не даслаў. Мы з бацькам думалі, што ты загінуў!

— Не згледзеў я, калі гады мінулі. Заняты быў.

— Чым жа займаўся ты?

— Лячыў людзей.

— Цябе я ледзь пазнала. Ты высах целам, зморшчаны твой твар, толькі гараць агеньчыкі ў вачах.

— А бацька дзе?

— Цябе не дачакаўся. Памёр ад працы цяжкай і сумоты па табе. Адна я засталася.

Заплакаў Барымір з дакукі: чужых людзей лячыў, а бацьку не збярог. Ды ўжо нічога не паправіш.

— Сыночак, не бядуй. Я радая, што ты вярнуўся маю суцешыць старасць.

Дзён колькі адпачыў вядомы лекар і зноў за справу ўзяўся, людзей ад смерці ратаваў. Любілі Барыміра, паважалі, віталіся пачціва пры сустрэчы, калі па вуліцы праходзіў ён, прыгорблены пад цяжарам чужых няшчасцяў.

## 57

Паклікалі аднойчы Барыміра да хворае ўдавы. На печы сядзелі яе дзеці, ля галавы стаяла Смерць. З дакорам лекар на яе зірнуў. Яна адмоўна галавой хітнула.

«Як выратаваць бедную жанчыну, каб дзеці не асірацелі?» — Барымір шукаў адказ пакутліва.

Хрыпела хворая. І час ляцеў няўмольна. Яшчэ імгненне. Смерць пакладзе руку на лоб жанчыны, тады ніхто яе не выратуе!

Адважна Барымір узяў пакутніцу на рукі і нагамі паклаў яе да Смерці. Зніякавела Смерць ад нечаканасці і вылецела з хаты, моцна грукнуўшы дзвярыма.

Жанчына вочы стомлена расплюшчыла, вярнулася прытомнасць да яе. Даў Барымір ёй лекі, сказаў, што хутка ачуняе і адыходзячы пакінуў грошай на ежу для дзяцей.

Пагрозліва Смерць стрэла лекара на вуліцы, спытала:

— Як ты пасмеліўся парушыць мой наказ?

— Не мог пакінуць я сірот. Дзяцей пакуты мне бачыць невыносна.

— Не бачыш ты далей за ўласны нос! Не даражыш святымі ведамі,

якія давераны табе! Ты зведаў таямніцы смерці і жыцця і можаш тысячам дапамагчы. Але не даражыш сваім жыццём, загінуць за кагось гатовы бессэнсоўна. На першы раз дарую я табе, бо ратаваў дзяцей. Наступны раз мне не пярэч!

Дамоў вярнуўся Барымір, убачыў, што гарачка ў маці. Стаяла смерць ля галавы яе. Упаў сын на калені, ад бездапаможнасці заплакаў. Ледзь чутна прашаптала маці:

— Сыночак, памажы! Я паміраю, не паспеўшы паняньчыць унучанятак!

З маленнем лекар паглядзеў на Смерць. Каб мела сэрца, яна, напэўна б, саступіла. Ды Смерць адмоўна паківала галавой, бы папярэджвала, што больш свавольства не даруе.

Не мог змірыцца сын, што памагчы не можа маці. Пераклаў яе нагамі да няўмольнай. Раз'юшаная Смерць стралою праляцела ў акно, адно пасыпалася шкло.

— Ты будзеш жыць, — сказаў сын маці. — Вось лекі. Выпі, хутка ачуняеш.

З палёгкай маці ўздыхнула і нават усміхнулася:

— І сапраўды, палепшала мне быццам!

Сеў каля маці Барымір, развітваючыся з ёю ў думках, бо ведаў Смерць яго чакае за парогам, каб пакараць за самавольства.

Гатовы несці пакаранне, на вуліцу ён выйшаў.

— Ты зноў парушыў мой наказ! — Смерць Барыміра за рукаў схапіла і гнеўна трэсці пачала. — Ты дрэнным вучнем аказаўся! Дарма я час патраціла з табой!

— Не можаш зразумець мяне ты, бо не было ў цябе ніколі родных! — сказаў ёй Барымір. — За маці я жыццё аддам, калі ты мне не хочаш дараваць.

— Ты забываеш доўг святы: належыш не сабе, а хворым!

— Я вінаваты! Прызнаю, але любоў да маці мацней, чым доўг і сэнс жыцця!

— Апошні раз дарую я табе! Запомні раз і назаўсёды: не маеш права ўмешвацца ты ў тое, у чым не разумееш анічога!

## 58

Няшмат мінула часу, але зноў парушыў Барымір наказ. Напалі ворагі на родны край. Зямля стагнала ад крывавых бітваў. Жанчын палонных і дзяцей з сабой чужынцы забіралі ў здзеклівы палон. Але знайшоўся між людзей адважны, сабраў ён войска і павёў на ворагаў праклятых. Ляцелі хмары стрэл, жалеза грукатала і людзі гінулі. Упаў стралой прабіты правадыр, дружына была гатовая ўжо адступіць. На дапамогу віцязю з'явіўся Барымір, але пабачыў, што ля галавы героя Смерць стаіць, чакае, каб забраць ягоную душу.

Падумаў лекар: «Памрэ герой — не будзе і краіны. Лепш я адзін загіну, чым народ увесь! Мне ж усё роўна давядзецца некалі памерці!»

Ён хутка павярнуў героя нагамі да няўмольнай Смерці. Яна гняўліва закрычала і адляцела прэч. А Барымір даў лекі віцязю і кроў спыніў, перавязаўшы раны. Падняўся правадыр, а разам з ім — дружына, гатовая ісці на бой. І ворагаў яны перамаглі.

Калі заціхла бітва, лекар параненым дапамагаў і не заўважыў, што Смерць наблізілася да яго. Убачыў Барымір яе суровы позірк, зніякавеў.

— Не будзе даравання больш табе, — яна сказала.

Пайшоў пакорліва за Смерцю. Вядома, ад яе нікуда не ўцячэш. Пад ранне падняліся на вяршыню.

— Пара плаціць за самаўпраўства! Цябе вялікая чакала слава і багатае жыццё! Адмовіўся ты ад найлепшага, што можа чалавек займець, — прамовіла сярдзіта Смерць.

— Я толькі свой выконваў абавязак. Калі б не выратаваў я героя, загінула б краіна. Народ мой трапіў бы ў няволю. Няма ў цябе ні племені, ні роду, не можаш зразумець, чаму гатовыя людзі жыццём ахвяраваць дзеля астатніх!

— Пра ўсё мы ўжо з табой пагаварылі. Няма пра што спрачацца. Ідзі за мной! — Смерць загадала.

Яны пайшлі ў бясконцую пячору. Стаялі там скрозь сподкі, у якіх гарэў алей, дзе ясна, дзе ледзь-ледзь, а іншыя зусім патухлі.

— Гэта гараць людскія жыцці, — Смерць патлумачыла. — Тым, у каго агеньчык ясны, яшчэ належыць доўга жыць, а тыя, чые агеньчыкі ледзь тлеюць, хутка памруць.

— А дзе жыццё маё? — спытаў усхвалявана лекар.

— Глядзі сюды.

Смерць паказала рукой, дзе дагараў агеньчык.

— Вось сподак маці тваёй, тут удавы, а тут героя. Сабе ты не пакінуў анічога, аддаў ім сілу ўласную дарэшты. Аднак гатовая я табе ўсё дараваць за тое, што аднойчы дапамог мне. Вазьмі са сподачкаў чужых, далі сабе алею і будзеш доўга жыць.

— Што стане з тымі, каму належаць сподкі?

— Яны памруць.

Падумаў Барымір і цвёрда адказаў:

— Не трэба мне жыццё такой цаной. Ці мне да твару чужыя жыцці красці, якія сам я ратаваў? Хіба гэта сумленна? Ці мець хацела ты такога вучня?

Сказала раздражнёна Смерць:

— Не разумею, што гэта — сумленнасць? Адно відно мне: вельмі хочаш жыць! І я даю табе магчымасць!

— Ёсць нешта, што мы, людзі, лічым даражэйшым за жыццё. Але не здолееш ты гэта зразумець, паколькі ты не чалавек. Аднак жа вялікі табе дзякуй за навуку. Я людзям дапамагаў, няма пра што мне шкадаваць. Каб нарадзіцца яшчэ раз, гэтым жа пайшоў бы шляхам.

— Ты непапраўны, Барымір! Шкада цябе. Але тут нават я нічым табе дапамагчы не здатна, — сказала Смерць і на чало яго руку паклала.

Навек заплюшчыў вочы Барымір.

## 59

Не жыў, а бедаваў Гаразд. Зусім не ладзілася гаспадарка, адна была ў ягонай хаце радасць, што жонка зацяжарала, хадзіла асцярожна, прытрымлівала свой жывот, хоць ён яшчэ не вельмі вытыркаўся. Яна дзіця чакала, а таму не лаяла больш мужа, а сачыла, каб лад у хаце быў, і дзякавала возеру Святому, якое ёй дзіця падаравала. Яшчэ старалася хатняму духу Хуту дагадзіць. Яечню ставіла яму на вышкі часцей, чым мужу на абед.

Рыбак плёў сетку у двары, пачуў, як жонка кліча духа:

— Хут, даражэнькі, ідзі яечню есці!

— Дурніца, хіба страўнік мае ён? — Гаразд падумаў. — Хопіць духу пары, яечню я і сам люблю.

Як толькі жонка выйшла да суседкі, рыбак залез на вышкі, з'еў яечню, яшчэ й патэльню вылізаў дачыста.

— Прыблудны дух жыве лепш, чым я сам! Хто з нас тут гаспадар, яшчэ пабачым, — сказаў Гаразд.

Вярнуўся Хут галодны з поля, дзе з пустазеллем ваяваў паўдня, каля пустой патэльні пахадзіў, падумаў: гаспадыня кпіць з мяне. Успалыхнуў шалёным гневам. І запалала хата рыбакова. Агнём спачатку абхапіла дах, пасля і сцены дружна заняліся. Сам Хут ледзь ногі вынес, зліўся з колам, што каля плоту ў рыбака ляжала.

Прыбег сусед Пястун тушыць пажар, ажно глядзіць, а хата дагарае. І толькі кола цэлае ляжыць ля плота.

— Чаго яму гарэць? — сказаў і перакінуў рэч сабе на двор.

Прыжыўся ў Пестуна на вышках Хут, пачаў збіраць сноп да снапа, зрабіў яго заможным і багатым.

## 60

Гаразд пытаўся часам у суседа:

— Вядзецца ўсё ў двары тваім шчасліва, маё ўсё гіне. У чым, скажы, прычына?

— Пра гэта папытай лепей у Бога.

— А што? Пайду, калі на тое, і спытаю! Несправядліва гэта! Сам падумай! Згарэла хата. Я вымушаны ў прымах жыць...

Гаразд ідэяй гэтак загарэўся, не папярэдзіў нават жонку і выправіўся ў Бога папытацца, чаму жывецца цяжка так яму.

Пайшоў на рэчку ён, а вечарам туманным, калі зліліся неба і зямля, падняўся ў Сваргу да Дажбога, сказаў:

— Мне дрэнна, божа! Прапраўнук твой, жыву, нібы жабрак праз тое, што град ці сухавей, макрэча ці буран знішчаюць хлеб мой. Усё не гэтак робіцца на небе. Калі мы косім, лівень гноіць сена, калі патрэбны полю спорны дожджык, дык смаліць сонца... Вось бяда якая!

Дажбог сказаў:

— Разумею, унучак, па недаглядзе нашым здараецца такое. Стары я ўжо, як бачыш... Застанься тут і пакіруй, як след, каб свет быў задаволены табою.

— І застануся! Я ўжо прасачу, каб дождж ішоў заўжды своечасова, каб сонейка свяціла, не паліла, каб красавала родная зямля.

Гаразд застаўся, шчыраваў, як трэба. На хмарках лётаў з неба на зямлю, глядзеў, як зерне прарасло на полі, як узышло, як цягнецца ўжо ў трубку, як колас зацвітае малады.

Стараўся ён, забыў пра сон і ежу. Калі палеткі адкаласавалі, убачыў ён, што каласы пустыя. Жахнуўся, думаў ночку ўсю, а ранкам прыйшоў да бога і сказаў яму:

— Мяне Нядоля, пэўна, нарадзіла. Не еў, не піў, сачыў я за палямі, а каласы пустыя ў збажыны. Даруй мне, божа, ды прычын няўдачы не ведаю пакуль...

Зірнуў Дажбог на сумную зямлю, дзе ўжо чакаў людзей страшэнны голад і галавою скрушна паківаў:

— Забыўся ты, як даспявала жыта, яго вятрамі злёгку калыхаць, таму яно і не ўрадзіла. Нікчэмны гаспадар, прэч з неба! І болей не турбуй мяне ніколі! Ад гэтае пары забараняю людзям на неба падымацца!

## 61

Зляцеў Гаразд на сумную зямлю, так грымнуўся спінаю, што прытомнасць страціў. Прачнуўся, сеў, адчуў: штось вісне на спіне, спытаў:

— Хто там?

— Я тваё Ліха, — прамовіў той, што карак рыбакоў утульна асядлаў.

— Чаго ты хочаш?

— На табе паездзіць...

— Мне й без цябе на свеце цяжка жыць...

— Ты быў ля бога, пры вялікай уладзе. Да жонкі зараз пойдзеш. Ну, а мне, падумай сам, няма куды ісці! Дык я з табою! Па-сваяцку... Ты прабач... Прывыкнеш, нават адчуваць не будзеш. Я верны сябар, да смерці не пакіну ўжо цябе.

Рыбак падняўся і пайшоў дадому. Сустрэла жонка злосная яго:

— Дзе валачыўся ты цалюткі год? Дзіця адна я нарадзіла! І думала ніколі яно ўжо не пабачыць бацьку...

— Дзіця, — ускрыкнуў радасна Гаразд. — Шчаслівы я... Найшчаслівейшы ў свеце!

Падбег ён да калыскі, убачыў сына, ледзь дакрануўся, абарваўся крук. Калыска ўпала на падлогу.

— Забіў дзіця, — загаласіла жонка. — Мой Васілёчак, любенькі сынок!

Дзіця заплакала таксама са спалоху. Такі галас усчаўся. Прыбегла цешча з поля, пачала няшчадна лаяць рыбака. Уцёк ён з хаты, рынуўся ў свет, аднак рака яго спыніла. Сеў ён на беразе, заплакаў горка:

— Ты, Ліха, вінаватае ва ўсім. Няма мне паратунку ад цябе.

— Чаго расплакаўся? Усё не так і блага.

— Маўчы і не хлусі! Табе, вядома, добра ездзіць на маёй спіне!

— Рыбак ты, а зусім не ловіш рыбу. Глядзі, віруе вунь яна ў рацэ...

— Навошта мне яна? Куды я з ёю...

— З'ясі ці прадасі...

— Хацеў бы я цябе прадаць, не купяць!

— Я лепшы сябар твой! Няўжо не зразумеў!

Ад крыўды і хлусні такая злосць апанавала хлопца, ён рынуўся ў раку, каб ліха утапіць. Нырнуў. Яго русалкі акружылі, на дно пацеглі да Вадзяніка. А Ліха выплыла, апратку прасушыла, пайшло ахвяру новую шукаць.

## 62

Стары Вадзянік бараду разгладзіў, агледзеў рыбака, спытаў цікаўна:

— Па ўласнай волі да мяне прыйшоў?

— Загнала Ліха ў чорны вір мяне.

— Тады ты мой! Слабак! Не здолеў выжыць!

— Пусці мяне ты на зямлю. Там у мяне сыночак падрастае. Ён застанецца сіратой навек.

— Але ж яму ты ліха адваліў! Цябе ён добрым словам і не ўспомніць. І жонка твая злосная, нашто табе вяртацца? Глядзі, русалак колькі тут пры-гожых! Яны цябе кахаць будуць аддана! Ні ў чым не мецьмеш ты цяпер патрэбы!

— Пакуль адну патрэбу маю — жыць. Ды, пэўна, і яе не будзе хутка. Мне цяжка дыхаць у цягучай твані... Не прыжывуся і памру ад смутку...

— Дзівак, ты ўжо даўно памёр! Адно душа твая яшчэ жывая.

— Памёр? Мяне зусім, зусім няма?

— Зірні наверх.

Гаразд падняў пагляд, убачыў сваё цела на вадзе, якое ўжо да берага прыбіла. Сабраўся гурт людзей, тапельца ўраз пазналі. Нехта пабег, паклікаў жонку.

Убачыла яна, загаласіла, ёй падвываць тужліва стала цешча. Малы сынок зайшоўся горкім плачам, і сам Гаразд пашкадаваў сябе, заплакаў так, што паднялася вада ў рацэ. Сказаў рыбак з дакорам Вадзяному:

— А ты казаў: мяне ніхто не любіць!

— Дзівак, гэта ж яны сябе шкадуюць! Каб з гэткай радасцю яны цябе страчалі з далёкай ці малой дарогі, тады б...

Задумаўся Гаразд. І сапраўды, яго страчалі лаянкай і злосцю, а з любасцю, бадай, ніколі. Пакуль ён разважаў і думаў, суседзі цела паднялі яго, панеслі ў селішча. Аціхлі галасы на беразе, толькі русалкі да рук ягоных пяшчотна лашчыліся, быццам яго толькі чакалі цэлы век.

Забыўся хутка ён, хто і адкуль, пра сына Васілька нават не згадваў, як быццам не было яго ніколі.

## 63

У Пестуна дачушка падрастала, было ёй усяго гадоў пятнаццаць, яна яшчэ і на вячоркі нават не хадзіла. Ды раптам стала заўважаць: штовечар прыходзіць стаў пад яе вокны дзяцюк чужы. Саромелася Ласка, баялася, каб гэтага хлапца бацькі не згледзелі. Ды паступова каханне завалодала і ёю, аднойчы на змярканні яна адважылася папытаць:

— Навошта ты сюды штодня прыходзіш?

— Адзін разок ўсяго цябе пабачыў, а вобраз твой з тае пары стаіць перад вачамі.

— Адкуль ты? Ці здалёку?

— Не блізка, не далёка я жыву. Хапае ночы, каб цябе пабачыць ці хоць пад вокнамі тваімі пахадзіць.

— А хто твае бацькі?

— Бацькоў сваіх даўно я перажыў.

— Ці маеш ты братоў?

— Іх безліч, — адказаў дзяцюк.

— Жартуеш ты! Не веру я табе, — пакрыўдзілася Ласка. — Калі не будзеш пра сябе расказваць, я больш не выйду да цябе ніколі.

Але міналі ноч за ночкай, дзяўчо да любага штовечар выбягала, словы пяшчоты слухала шчаслівa, адказвала ўзаемнасцю яму, душою прырасла, здаецца. Аднак, як ні дапытвалася Ласка, нічога хлопец не хацеў расказваць пра сябе. А ёй гэтак хацелася дазнацца, з якой ён вёскі, што за чалавек... Даўмелася яна ўваткнуць іголку ў ягонае адзенне з доўгай-доўгай ніткай. А раніцаю нітка прывяла яе да клёна, што рос за селішчам каля дарогі. Іголка з ніткаю была ўваткнута ў ягоную кару.

Глядзела Ласка і вачам не верыла. Выходзіла, яе каханы быў душою клёна. Пабегла са слязьмі яна да бацькі і расказала пра сваю бяду. Спалохаліся людзі ў тым сяле і вырашылі клён стары ссячы.

Сабраліся дужэйшыя мужчыны і пачалі сячы, але сякеры шчарбаціліся толькі і адскоквалі, нібыта ад жалеза, ад камля. Калі ўдавалася якую трэску адкалоць, яна за ноч зноў прырастала. Дадумаліся людзі трэскі й голле спальваць. Мо з тыдзень з клёнам ваявалі, але звалілі ўсё ж яго. Хацелі і

камель спаліць, ды музыка Гласка сказаў, што зробіць скрыпку з гэтае драўніны. Цудоўны выйшаў інструмент! Кране струну — пявуча адгукнецца. Як выйдзе Гласка ў свята надвячоркам, на прызбе сядзе і пацягне смыкам — усё сяло збяжыцца да яго. Чым больш збіралася людзей, тым прыгажэй спявала скрыпка. Аднак толькі тужлівыя мелодыі ўдавалася музыку выцінаць. Як гурт папросіць «крыжачок» вясёлы, глухнуць струны, не хочуць граць і рвуцца. Наслухаюцца людзі сумных песень, зажурацца, пра беды свае ўспомняць, разыдуцца прыціхлыя па хатах. Пра Ласку ўжо няма чаго казаць, яна слязьмі заўсёды залівалася, хавала тварык мілы ад людзей.

Музыка доўга граў на скрыпцы той, але набрыдла яму толькі журбу людскую бачыць, каторы раз паспрабаваў зайграць вясёлую мелодыю. А скрыпка ўсё плакала ды галасіла. Ад злосці Гласка стукнуў ёю аб вугал хаты, рассыпалася скрыпка ўраз на трэскі. І войкнула гурма.

Музыка глянуў на ашчэпкі тыя, пашкадаваў загубленую скрыпку. Нахіліўся і пачаў збіраць ён трэскі, ды адчувае: рукі, бы дранцвеюць. Зірнуў: а рукі сохнуць на вачах, зрабіліся, бы голле клёна. Застаўся Гласка назаўжды бязрукі.

## 64

Сын рыбака, названы Васільком, рос, гледзячы на лес. Быў хлопец-волат, толькі сарамлівы і ціхі надта. Прыходзіў часта да ракі, каб пасядзець ды бацьку ўспомніць, што ўтапіўся тут калісьці.

На Граным тыдні ён прывёў каня на луг, сам жа пайшоў да рэчкі, на камень сеў, глядзеў на хвалі, думаў, што несправядлівы лёс, бо сіратою цяжка жыць, без бацькавай парады, дапамогі...

Прыклаў да вуснаў дудку, а яна заплакала, загаравала, расказваючы пра яго журбу. Знячэўку позірк Васілька ўпаў на бераг. Заўважыў ён, што нешта там блішчыць, падняўся, падышоў, каб паглядзець. Убачыў, што ляжыць гара буйной лускі і зырка залаціцца ў промнях сонца.

— З якое рыбы гэткая луска? Ці не з русалчынага хваста? Прыгожа надта... Нібыта чырвонцы...

Узяў дзяцюк жменю лускі, падумаў: «Матулі занясу, мо дзіва гэтага яна не бачыла ніколі».

Дамоў вярнуўся хлопец, а матуля занятая была ў той час, кароў даіла. Сыпнуў луску на стол ён і жахнуўся, пасыпаліся, забрынчалі залатоўкі.

— Ды гэта ж чараўніцтва, — ён сказаў спалохана, сабраў свой скарб, пабег на рэчку, каб вярнуць багацце таму, каму яно належыць.

## 65

На бераг Васілёк рассыпаў залатоўкі, хоць і карцела іх сабе пакінуць (гэта ж і хату можна новую купіць, і гаспадаркай добраю разжыцца). Свавольна хваля грошы падхапіла і змыла з берагу, бы іх і не было.

— Спакуса, зман! Падманны скарб, і годзе... Далей адсюль! Нячысцік тут чаруе!

Хацеў ён бегчы ўжо назад дамоў, як раптам нехта са спіны падкраўся і вочы затуліў халоднымі рукамі. Жаночы голас весела спытаў:

— Ну, адгадай, хто я?

— Мо Рута?

— Не, не яна... Яшчэ падумай...

— Вяснянка, можа?

— Не, не адгадаў, — дзяўчына засмяялася ў адказ.

— Заранка, ты?

— Які ж ты нездагадлівы...

— Здаюся, бо не ведаю ўжо на каго і думаць...

Дзяўчына рукі прыняла. Ён азірнуўся, убачыў вочы колеру травы і валасы, як сена маладое.

— Хто ты? — ён здзіўлена спытаў.

— Твой лёс, — яна сказала. — Цябе даўно заўважыла, але саромелася зачапіць.

— Дарма, я сарамлівы, пэўна, гэткі ж... А як цябе завуць?

— Ручайна...

— Дзіўнае імя.

— Звычайнае... Нашу, якое ёсць... Імя ж не памяняеш, як адзенне... А ты па бацьку ўсё сумуеш, пэўна?

— Так, не хапае мне заўжды яго.

— Што ж зробіш, гэткі кон, змірыцца трэба.

— А ты чыя?

— Гасцюю тут у цёткі Леткі...

— Прабудзеш доўга?

— Як захочаш ты...

— Я?

— Шмат ад цябе залежыць... Імкнулася сустрэць цябе...

— Чаму ж цябе ніколі я раней не сустракаў?

— Ты сустракаў, але не ўмеў разгледзець... Цяпер я скрозь з табою буду...

Здзівіўся Васілёк: як лёгка з ёю гаварыць, маўчаць і думаць. Звычайна з дзеўкамі ён адчуваў сябе скаваным. А гэтая быццам чытала думкі.

— Ты заўтра зноў да каменя прыйдзі. Я буду рады бачыць...

— Я таксама... Люблю блакіт вачэй тваіх, здаецца, з іх неба пазірае на мяне. А валасы пад колер каласоў нагадваюць палетак урадлівы. Зямля і неба, сонца і вада з твайго аблічча свецяць мне шчасліва.

Глядзеў дзяцюк, нібы зачараваны, у зелянкавы бляск вачэй гарачых, пяшчотны голас слухаў і ніколі не быў яшчэ такі шчаслівы. Не мог згадаць, як сам абняў яе, пацалаваў, і не здзівіўся сам адважнасці сваёй...

Дамоў прыйшоў пад ранне. Маці чула, ды хлопца папракаць не стала. Вядома, справа маладая. Пара яму нявесту выбіраць... Напэўна, ўжо якуюсь і прыгледзеў...

## 66

Штовечар наведваўся да рэчкі Васілёк, дзе ўжо Ручайна мілая чакала, яму вянкі пляла, каранавала, кахала і шаптала словы гэткія, што сэрца хлопца раставала, быццам воск. Жыў, нібы сніў шчасны сон. Здавалася такою лёгкай праца, не адчуваў зусім ён стомы, хоць мала спаў і еў, яго жывілі слодыч і каханне.

Калі ўжо жыта выспела ў палях пад колер Васільковых валасоў, яго Ручайна сумная сустрэла.

— Што здарылася? — ён спытаў трывожна.

— Час мне дамоў вяртацца.

— Прасватаю цябе пасля жніва, — прамовіў Васілёк.

— Каханы мой, ты і не зразумеў: русалка я...
— Русалка? Ты? Не веру!
— Луску, якую ты на беразе знайшоў, я некалі табе падаравала. Але адпрэчыў ты дарунак мой.
— Даруй, ці ж ведаў я?
— Дык мо цяпер хоць возьмеш на ўспамін, усё лягчэй жыць будзеш між вяскоўцаў?
— Не трэба мне нічога, акрамя цябе. Прашу, са мной застанься назаўсёды...
— Можа, калісь сустрэнемся яшчэ... На свеце тым, куды вярнуцца мушу...
— Я не хачу развітвацца з табою, — абняў Ручайну Васілёк, нібыта гэтак мог яе ўтрымаць.
— І мне балюча пакідаць цябе, памерла б лепш... Не дадзена мне гэта.
— Не пакідай мяне, малю, Ручайна. Памру, пайду з табою на той свет...
— Каханы, любы, стуль няма вяртання. Жыві, я буду там чакаць цябе...
— Чакаць? Чаго?
— Калі ты пражывеш век чалавечы.
— Не трэба мне і моманту, які я буду існаваць без вуснаў, валасоў, вачэй тваіх!
— Ах, Васілёк мой любы! Трывала доўга я сваё каханне. Сама яго хавала ад сябе. І не было патолі мне ні ў чым. Таму сама пайшла табе насустрач. Падумала: ён толькі чалавек, звычайны... Хутка расчаруе... А ты мяне прычараваў каханнем!
— Душою да цябе прырос, я без цябе памру ад адзіноты... Прыдумай што, каб нам не разлучацца...
— Каханы, іншаму належу свету. Раней, калі зямля не мела межаў, нямеранай яшчэ была, русалкі круглы год маглі жыць на зямлі. Цяпер жа людзі землі падзялілі, а межы нібы пасткі ловяць нас. Не можам мы пераступіць мяжу, а робімся травою, пустазеллем...
— Тады й мяне зрабі травою, каб неразлучна побач быць з табой!
— Травой? З такімі сінімі вачамі?
— Чым хочаш... Толькі вечна побач будзь!
Ручайна абвіла за шыю Васілька, развітвалася доўга і пяшчотна, ляжала побач на траве духмянай, падатлівая дасканалым целам... І Васілёк не згледзеў нават, як сталася яна мурожнаю травой, а ён — на ўзмежку сіняй кветкай палявой, якая і цяпер завецца васільком.

## 67

На свеце цяжка сіраціне жыць. Каб зарабіць на хлеб, да князя Веліміра жаць жыта нанялася Млада. З дзесятак жнеек працавалі побач з ёю, але заўважыў Младу гаспадар. Надта ж старанная і ўвішная была. Падумаў: «Мець бы гэткую нявестку! Яна за трох, напэўна, паспявала б... Мо варта з ёю сына ажаніць?»

Сабраў на раду Велімір радню, паведаміў ёй пра свае намеры. Сказала жонка:
— Як гэта магчыма, каб сын твой княскае крыві браў замуж простую сялянку?
— Багацця ў нас хапае, а старанных і працавітых рук не так і шмат.
— Ты ганьбіш нас, — заўважыў Веліміраў брат. — Тады й маім сынам сялянак давядзецца сватаць.

— Занадта распанелі ўсе! А ў гэтае сіроткі рукі залатыя і сэрца добрае ў адрозненне ад шмат каго з прысутных, — раптоўна раззлаваўся князь. — Ёй загадаю, каб нямеранае поле зжала за дзень. Як справіцца, маёй нявесткай будзе.

Калі сказалі дзеўчыне пра гэта, здзівілася яна, занепакоілася, але згадзілася свой выпрабаваць лёс. Не ўспалася, яшчэ да ўсходу сонца прыбегла на нямеранае поле. Як глянула, ажно ёй страшна стала: канца і краю полю не відно.

«Баяцца вочы, але рукі зробяць, — так Млада падбадзёрыла сябе. — Спешка-Спарышка, памажы мне ў працы».

Серп, нібы месячык між хмар, мільгаў, дзяўчына жала і за цэлы дзень спіны не разагнула, не прысела, не папіла і не паела, імгненнем кожным даражыла. Круціла перавясельцы тугія, снапы вязала, ставіла ў бабкі.

Бясконцы дзень да вечара хінуўся. Шмат люду ўжо сабралася на полі, падхвальваюць ды падбадзёрваюць жняю:

— Хутчэй! Хутчэй, бо не паспееш!

А сонца ўжо скацілася да лесу, вось-вось нырне ў гушчэчу адпачыць. Кладуцца цені доўгія ад бабак. Толькі краёчак сонейка відаць. Дзяўчыне яшчэ мо снапоў з дзясятак патрэбна зжаць, ды ці паспее?

Прасіла Млада:

— Сонейка, спыніся! Малю цябе! На хвілю толькі затрымайся!

І раптам Сонца паднялося зноў над лесам, спынілася, чакае.

Яшчэ хутчэй стала дзяўчына жаць, мільгаюць рукі так, што і не згледзіш. Толькі, калі яна апошні сноп звязала, скацілася за лес раптоўна сонца.

На момант людзі быццам скамянелі, калі заўважылі той цуд. Як схамянуліся пабачылі, што Млада ляжыць каля апошняга снапка. Наблізіліся, паднялі яе ўжо нежывую.

Назаўтра пахавалі Младу, усё сяло аплаквала яе.

Праз колькі дзён прыехаў Велімір на поле, паглядзець, як жнеі жнуць, ці хутка ўжо дажынкі? Яшчэ здалёк пачуў ён песню жнеек:

Жніце, жнеечкі, жніце,
Ды на сонейка глядзіце.
Села сонейка даўно,
А мы ўсё жнём...

Князь раззлаваўся за такую песню, яна нагадвала яму пра Младу. Пад'ехаў ён да жнеек, закрычаў:

— На галаву сваю ў мяне вы наспяваеце.

— Маўчалі мы ўвесь час, — жанчыны адказалі. — За працаю не надта паспяваеш...

Прыслухаўся князь Велімір. А песня ўжо чуваць аднекуль з гаю. Туды паехаў. Там шумяць бярозы. А песня ўжо над рэчкаю ляціць. Паслаў сваіх дружыннікаў, шукаць нахабных спевакоў.

Паездзілі дружыннікі дарма. Усё гамоніць, шэпча і спявае. Не могуць вінаватых адшукаць. Прыклаў адзін з іх вуха да зямлі і здзіўлена прамовіў:

— Паслухайце, браткі, гэта ж зямля спявае!..

## 68

Гасцей паклікаў Велімір, прыехалі князі і ваяводы, красунь-дачок з сабой прывезлі. Свяціліся святочна вокны, гучалі смех, і музыка, і спевы. Цудоўныя князёўны вадзілі карагоды. З захапленнем на княжыча Радміра паглядалі, а ён аднолькава з усімі быў прыветны.

Апаноўчы, калі стамлёна госці па спальнях разышліся, Радмір пайшоў у лес, каб адпачыць душой пад зорным небам. Быў ён прыгожы і багаты, здавалася, што меў усё, каб адчуваць сябе шчаслівым, ды сэрца смылела дзіўным прадчуваннем.

Ноч ціхая і зорная была. Струменіўся ад ліп, якія толькі зацвілі, салодкі водар. Насвістваў салавейка на ўсю моц на макаўцы старой бярозы. Радмір глядзеў на зоркі скрозь лістоту, зачараваны прыгажосцю дзіўнай. Раптоўна зорачка адна сарвалася і паляцела ўніз. Яе палёт імгненны княжыч прасачыў, заўважыў, што яна мільгнула паміж дрэў і ўпала на суседнюю паляну.

— Летавіца ўпала! — узрадавана крыкнуў ён і ёй пабег насустрач.

Калючкі рвалі аксаміт адзення, хвастала голле па руках і твары, а княжыч не зважаў на гэта. Летавіцу пабачыў на паляне. Яна была зусім-зусім маленькай. Кружылася ў сукенцы лёгкай, як смуга, каштоўнаю каронаю зіхцела. Радмір, нібы зачараваны, за ёю назіраў. Яна заўважыла яго, з усмешкаю сказала:

— Вітаю! Як баль прайшоў? Нявесту выбраў ты? Заглядвала ў акно тваё з нябёсаў. Ды там такая мітульга была — нічога не ўдалося мне разгледзець.

— Так, госці весяліліся ўдосталь, ды сумна мне было, быццам я трапіў на чужое свята, — Радмір прамовіў шчыра.

— Хацелася мне вельмі паглядзець, ці сапраўды ты гэтакі прыгожы, як кажуць людзі, але саромелася паказацца між самавітых паннаў, маленькая ж я вельмі, баялася, што абсмяюць.

— Дарэмна! Няма на свеце прыгажэйшай за цябе. Хацеў бы я з табою пакружыцца ў танцы, калі дазволіш, — княжыч адказаў і за руку Летавіцу схапіў.

Яна раптоўна ўскрыкнула, руку рванула і растала, нібыта прывід. Толькі пальчатка засталася ў яго руцэ. Яна была маленькая такая, што княжыч на мезенец надзеў яе і сумны пайшоў дамоў.

Назаўтра госці зноўку весяліліся, толькі Радмір усхвалявана чакаў, калі ж, нарэшце, ноч настане. Як толькі госці пачалі па спальнях разыходзіцца, у лес пайшоў. Дарэмна ён блукаў у цемры. Летавіца насустрач не выходзіла. Самотна сціснулася сэрца юнака, пальчатку ён пацалаваў, нібы развітваўся з чароўнай марай. І ў гэты момант Летавіца з'явілася раптоўна. Радмір узрадавана папрасіў:

— Даруй, чароўная, што ўчора я без дазволу дакрануўся да тваёй рукі. Дазволь прайсціся мне з табою поруч.

— Пайшлі, — яна сказала і сама вяла яго па лесе за руку.

— Я сумаваў і спадзяваўся на сустрэчу. Якое шчасце, што ты зноў прыйшла!

Такія словы кажучы, ён на Летавіцу зірнуў і здзіўлена заўважыў, што яна прыкметна падрасла.

— Пальчатку я хацеў табе аддаць.

— Пальчатку? А навошта? Яна малая мне! — гулліва засмяялася. — Пакінь сабе яе на памяць.

— Ты вырасла прыкметна! Сапраўды! Калі сустрэнемся яшчэ, табе я падару пальчаткі новыя!

— А калі вырасту я зноў? — яна ўсмешліва спытала.

— Што б з табой ні здарылася, помні, я заўжды буду кахаць цябе!

Ім светлячкі дарогу асвятлялі, Дадола ўсміхалася з нябёсаў, вадзілі

зоркі карагод, спявалі салаўі на кожным дрэве. Ды нечакана світанак неба прасвятліў, Летавіца растала ў промнях сонца.

На трэці дзень палац звінеў ізноў. Запоўнач зацягнуўся баль, чакалі госці нецярпліва, калі абвесціць Велімір, якую выбраў сын яго нявесту. Радмір жа, як толькі зоркі загарэліся, пайшоў Летавіцу шукаць. Сустрэў яе пад ліпаю старою, дзе песню салавейка ёй спяваў.

— Выходзіць буду я табе насустрач, як толькі зоркі высыплюць на неба, — прамовіла Летавіца шчасліва.

— Цябе адну кахаю, маёю жонкай будзь.

— Была б шчаслівая з табой застацца. Баюся толькі, што надта зменлівыя людзі ў каханні. Калі ты прысягнеш адну мяне кахаць, дам згоду стаць тваёю жонкай.

— Клянуся вернасць захаваць навечна! — усклікнуў княжыч. — Адну цябе кахаю!

Пакуль яны так размаўлялі, Летавіца прыкметна падрасла, бадай, цяпер яна не саступала ростам паненкам тым, што балявалі ў палацы Веліміра, ды хараством ніхто не мог бы з ёю зраўняцца.

Дамоў нявесту на руках панёс Радмір. Яна здалася лёгкай, як пушынка.

— Ты зорачка мая! Сняжынка! Радасць! Як мог на свеце жыць я без цябе.

Калі яны ўвайшлі ў палац, дык госці быццам бы аслупянелі — такой дзівоснай прыгажуні ніколі і ніхто не бачыў.

— Благаславіце нас, бацька і маці! Невесту я прывёў. Толькі яна маёю жонкай можа стаць! — сказаў Радмір, шчасліва ўсміхнуўся, абдымаючы Летавіцу сваю.

— Адкуль яна? Чыя? — спытала маці.

— Яна мая! Вы абяцалі, каго я выберу, з той ажанюся!

— Так, абяцаў! Стрымаць гатовы слова, — прамовіў Велімір. — Вяселле трэба, маці, рыхтаваць. Благаслаўляю маладых на шлюб. У любасці і шчасці век жывіце.

## 69

Вяселле княжыча Радміра з Летавіцаю доўжылася месяц. Калі раз'ехаліся госці, у згодзе зажыла сям'я.

Але ўжо так уладкаваны свет, што не бывае тут бязвоблачнага шчасця. Памерла раптам жонка Веліміра. На пахаванне зноўку з'ехаліся госці. Жалоба пазначала твары, толька адна прыгожая паненка насоўкаю не выцірала слёз. Агеньчыкі ў яе вачах гарэлі, а валасы былі пад колер медзі. Яна гарэзліва Радміру падміргнула, калі сустрэлася з ім позіркам, а ён, хоць і засмучаны быў смерцю маці, адзначыў для сябе, што вельмі сімпатычная дзяўчына.

Летавіца ў той момант спатыкнулася, заблыталася ў прыполе доўгім і ледзь не ўпала, муж падтрымаў яе. Прысутныя заўважылі пры гэтым:

— Якая сукня доўгая ў княгіні! Як дзіўна гэта і як непрыгожа!

Прыезджая красуня ў зручны момант зноў усміхнулася Радміру.

«Яна мне падабаецца. Дзівота! Даўно са мной такога не было!» — Радмір падумаў.

Калі вярнуліся ўсе з пахавання на памінкі, красуня рыжая з Радмірам побач села. Ніхто не сцяміў, як ёй гэта і ўдалося, а Радмір задаволены быў надта, крадком яе руку пацісну ў пад сталом.

Калі да жонкі павярнуўся, каб нешта ёй сказаць, толькі цяпер заўважыў: Летавіцы няма. Пабеглі слугі скрозь яе шукаць, але знайсці не здолелі нідзе. І толькі хтось з гасцей згадаў, што жонка Радміра раптам змізарнела, а потым і зусім з вачэй прапала. І зразумеў князь малады: Летавіца растала, як яго каханне. Парушыў ён прысягу.

У хуткім часе пабраліся Радмір і рыжая паненка, ды і трох дзён не пражылі ў згодзе. Капрызіла яна, патрабавала таго, чаго нікому і не снілася: то ложак залаты, то з самацветаў сукню, дываны, сатканыя са срэбра. Сёння дай адно, другое — заўтра, няма канца яе патрабаванням. Паспрабуй не выканаць жаданне, дык продыху не дасць Радміру, бясконца будзе папракаць:

— Які ты князь! Які ты муж? Не можаш анічога жонцы ты купіць! Нашто замужжа мне такое? Ты сапсаваў маё жыццё!

Радмір стаміўся ад яе папрокаў, ад лаянкі, неразумення і жонку невыносную прагнаў.

Цяпер толькі і зразумеў Радмір: з Летавіцаю разам пакінула яго навекі шчасце. Ды колькі ў неба ні глядзеў, колькі ні клікаў, каханую вярнуць не здолеў.

## 70

Каваль Вяршыла вядомы людзям быў майстэрствам адмысловым. «Ён можа выкаваць сонца і месяц», — казалі пра яго. Ад узыходу і да ціхага змяркання звінелі молаты і малаточкі ў той кузні, дзе Вяршыла чараваў.

Прыйшла аднойчы да яго старая, кашчавая, захутаная ў хустку, што ні вачэй, ні твару не відно. Каваль, заняты справай, не адразу заўважыў госцю, а яна стаяла, ягоным спрытам любавалася маўкліва, пасля сказала:

— Добры дзень, Вяршыла. Працуеш спрытна, люба паглядзець...

— Здарова будзь, на добрым слове, бабця.

— Касу мне выкуй гэткую, хлапчына, каб не тупілася яна ніколі.

— Цяжкую задаеш задачу!

— А я аддзячу, што не пашкадуеш.

Вяршыла глянуў моўчкі на старую, сустрэўся з позіркам пустых вачніц і зразумеў, што гэта Смерць сама прыйшла з такою прапановай.

— Прыходзь праз тыдзень, бабця, паспрабую я выкаваць касу, якую хочаш.

— Зайду, зайду... Ніколі не пазнюся... Наадварот мне кажуць, што зарана заўсёды я прыходжу да людзей.

Пайшла старая, а Вяршыла сеў, задумаўся, як выкаваць касу, якую папрасіла Смерць сабе. Раптоўна нейкай думцы пасміхнуўся, за справу ўзяўся зноў. Сярпы, падковы, завушніцы дзеўкам каваў Вяршыла тыдзень, як звычайна. Калі ж наведалася Смерць забраць касу, сказаў ёй весела:

— Усё зрабіў я, бабця, як хацела ты. Загартаваў касу я воляю і сілай, вадою і агнём, не будзе ў свеце за яе мацнейшай. Касою тою вечнасць можна касіць пад корань, што ні пападзе!

— Годзе сябе нахвальваць, пакажы свой выраб, — сказала нецярпліва Смерць.

— Ды тут яна, ляжыць у скрыні.

Вяршыла века скрыні адчыніў і запрасіў старую ўзяць касу. Цікаўна Смерць схілілася над скрыняй. Каваль схапіў яе, у скрыню ўкінуў і хуценька жалезам акаваў.

— Пусці мяне! Нягоднік! Праглыну! — крычала Смерць раз'юшана і біла кулакамі ў века.

— Цішэй, бабуля, адпачні крыху! Стамілася ты ад цяжкое працы. Ніхто цябе так не шкадуе і не любіць, як я, каваль Вяршыла.

— Ты толькі пападзіся мне яшчэ! Раструшчу! І касцей не сабярэш!

— За што, бабулька! За маю любоў? Няўдзячная ты... Хіба ж гэтак можна.

Павёз каваль да мора тую скрыню, скінуў са скалы ў бяздонне і дамоў вярнуўся ноччу і зажыў шчасліва, бо трыста год, пакуль іржа не з'ела жалеза, сядзела Смерць у скрыні і не касіла анікога са смяротных.

## 71

Зайшоў стары аднойчы да Вяршылы, агледзеўся, прамовіў шапялява:

— Выкуй, хлопча, мне адну драбніцу?

— Якую, дзеду?

— Зубы, бачыш з'еў...

— Дык трэба мерку зняць.

— Я і без меркі пакажу табе. Мне трэба трыццаць два зубы, як гэтая рыдлёўка...

— Жартуеш, дзед? — каваль яго спытаў.

— Не думаў нават, — адказаў стары.

— Гэта ж які трэба роцік мець, каб зубкі па рыдлёўцы устаўляць?

— Звычайны рот! Як Кадуку належыць! — злосна сказаў стары іператварыўся ў змея з бяззубай галавой, з якое дым з агнём праз ноздры выляталі.

— Дык ты Кадук? Прабач, я не пазнаў, — Вяршыла адказаў. — Дык выкую табе я зубы. Рот разяўляй і на кавадла галаву ты пакладзі. Вось так! Цудоўна! Такія зубкі выкуем табе, што хопіць іх, каб мо мільён гадоў арэхі ў пекле грызці!

— Я грыз людзей, аб косці паламаў свае ўсе зубы! Цябе таксама з'еў бы неадкладна, ды трэба ты пакуль мне, бачыш сам.

— Ну, дзякую, Кадук, што ашчаслівіў! Не зразу з'еў! Зрабіў адтэрміноўку! Я адслужу табе!

— Ну годзе балбатаць! Стаміў мяне зусім!

Паклаў Кадук пакорна галаву, заплюшчыў вочы і чакаў, калі Вяршыла зубы ўставіць. Каваль схапіў свой меч і сакануў па Кадуковай шыі — галава ў імгненне адляцела, а тулава звівалася і трушчыла ўсё навокал, таму каваль сабраўся з сілай, змея схапіў і выкінуў на двор. Раптоўна расступілася зямля, забрала Кадука ў прадонне.

Вярнуўся ў кузню стомлена Вяршыла, убачыў галаву змяіную, сам у сябе спытаў:

— Што з ёю мне рабіць? Мо закапаць?

— Пакінь мяне, — сказала галава. — Я буду табе песенькі спяваць, расказваць казкі, праўду гаварыць, а мо й хлусіць, як раптам засумуеш... Падман, як лекі, для наіўных душ.

— А ты хіба не паміраеш?

— Не! А нашто? Цікава вельмі жыць!

— Не вернецца Кадук цябе забраць?

— Сюды дарогу без мяне не знойдзе.

Пакінуў галаву сабе Вяршыла. Яна яму спявала гожа песні, расказвала навіны, хлусіла шмат, але хто не прыхлусіць, калі вядзе аповед ад сябе.

## 72

Даведаўся пра слаўнага Вяршылу князь Радзіслаў, прыехаў з прапановай:

— Мне выкуй, хлопец, княжацкае крэсла. Каб, седзячы на ім, я заставаўся князем, колькі жыццё прадоўжыцца маё.

— Цяжкую, князь, мне задаеш задачу.

— Дык ганарыся, што табе даверыў, не іншаму каму.

— Я паспрабую.

— Не зробіш, дык няшчадна пакараю! — паабяцаў неміласэрдны князь.

Агеньчык злосны ўспалыхнуў у вачах Вяршылы, ды згодна ён прамовіў:

— Праз месяц прыязджай па крэсла, князь.

Правёў каваль няпрошанага госця, задумаўся, натомлена прысеў. Заўважыў матыля, што біўся ў шыбу, магутнаю рукою ўзяў яго пяшчотна і выпусціў на волю.

— Бядак, ляці! Агонь у маёй кузні дае жыццё жалезу, ды здатны загубіць цябе.

Матыль кружыўся над Вяршылам, нібыта дзякаваў, а мо і не зважаў на гэткага асілка.

— Ды ты адважны сілай духу, магчыма, нават за мяне дужэйшы, — каваль прыгладзіў молада чупрыну, пайшоў у кузню, працу распачаў.

Каваў ён месяц княжацкае крэсла, укладваў у яго зямную сілу, трываласць неба, прыгажосць лугоў, сам любаваўся гэткаю аздобай. Калі ж завершана была работа, сеў на крэсла і адчуў такую сілу, якой не меў дагэтуль, нібы ўладарыць светам і людзьмі.

Пачуўся тупат капытоў за кузняй, людскія галасы: князь Радзіслаў з дружынаю прыехаў. Вяршыла вынес крэсла на падворак, паставіў перад князем і спытаў:

— Ну як яно табе, прасветлы княжа?

— Нядрэнны выгляд... Але ці мае якасць тую, пра якую я прасіў...

— Прымерай да сябе, — каваль прапанаваў.

Глядзела зацікаўлена дружына, як мерыцца князь сесці. А крэсла раптам вырасла ды так, што стала большае за князя. Здзівіўся ён. Агледзеў крэсла. Не. Як быццам самае такое трэба, памкнуўся сесці — зноўку міма. Зарагаталі ваяры:

— Трымайся, князь! Паносіць крэсла, нібыта наравісты конь!

Разгублена спыніўся Радзіслаў, агледзеў крэсла, яшчэ раз паімкнуўся сесці, ды крэсла так яго ўбрыкнула, што паваліўся князь дадолу. Зарагатала весела дружына, ажно лістота з ясеня апала.

— Нашто нам гэткі нездаляшчы князь? Ні ўстаць ні сесці ён ужо не здатны! Пара яму на прызбе плечы грэць ды ўнукаў нянчыць! — крыкнула дружына.

— Зачараваў каваль гэтае крэсла! — заверашчаў раз'ятрана і злосна князь. — Няхай Вяршыла паспрабуе сесці.

— І сяду, — адказаў Вяршыла годна. — Яго я пад сябе каваў...

Каваль на крэсла сеў і пасміхнуўся. Дружына паўзіралася маўкліва, пасля загаманіла між сабою і выгукнала дружна:

— Слава князю! Слава!

Наперад выйшаў малады дружыннік, сказаў Вяршылу:

— Ты наш князь цяпер. Кіруй і ўладар. З табой на смерць і на жыццё мы пойдзем!

—Я ж усяго каваль!

— Куй нашу долю!

— А як жа я? Браточкі! Як? Чаму? — узняўся выпацканы Радзіслаў.

— Зышоў твой час, — яму сказалі воі.

Так стаў Вяршыла князем, ды штодня наведваўся ён у старую кузню, што засталася некалі ад бацькі. Каваў падковы добраму каню ці тое, што душа жадала часам.

## 73

Вяршыла княжыў мудра, справядліва. Вакол сябе ён згуртаваў людзей разумных, моцных духам. Нікога не хадзіў ён заваёўваць, адно сваю зямельку бараніў. Час бавіў ён з дружынаю на паляванні, страляў цецерукоў і дзікіх вепраў. Тады былі багатыя лясы на птаства і дзічыну, вяртаўся князь з вялікаю здабычай, якою шчодра ён дзяліўся з простым людам.

Чарговы раз папаляваўшы добра, ужо загад Вяршыла даў, каб збор трубілі, і ў гэты момант згледзеў раптам ён вялізнага, старога тура, не змог супроцьстаяць спакусе, ускочыў на каня і паляцеў услед за зверам. Хоць стрэлы княскія і насцігалі тура, але ён не зважаў на іх укусы, а шыбаваў далей. Прышпорыў князь свайго каня, баяўся, каб здабычу не ўпусціць. Ужо амаль дагнаў ён звера. Раптоўна тур спыніўся, павярнуўся галавой рагатай, пашыбаваў проста на князя. З разгону конь на рогі напароўся, зваліўся, вершніка сабой прыціснуў. Вяршылу з месца не скрануцца, а засталося смерці прычакаць ад звера.

У гэты момант малады загоншчык туру на вочы ўскінуў світку, у сэрца зверу нож свой усадзіў. Зваліўся тур забіты. А Вяршыла, што выбавіўся з-пад каня, загоншчыку сказаў:

— Са мною едзь, хачу аддзячыць я табе, Рамонак, за выратаванне.

Прыехалі на княскі двор. Слуга Вяршылы вынес і паставіў перад загоншчыкам са скарбам скрыню. Сказаў Вяршыла:

— Шмат золата ў мяне, але жыццё даражэйшае за ўсё. Бяры сабе багацця, колькі хочаш...

Загоншчык нож свой апусціў у скрыню, упёрся ў дно і князю адказаў:

— Шмат золата, але мой нож да дна дастаў, дык, пэўна, не вечнае багацце, аднойчы прыйдзе і яму канец. Я ж, княжа, гэткае багацце маю, што дна яму няма.

— Няўжо ты багацейшы за мяне?

Загоншчык засмяяўся і сказаў:

— Я зараз пакажу сваё багацце.

Узяў ён нож лавецкі, уваткнуў яго ў зямлю, прамовіў:

— Вось гэтае багацце дна не мае. Яго ніхто не ўкрадзе, яно надзейна чалавеку служыць...

— Разумны хлопец! Праўду кажаш. Дам я табе зямлі надзел, жыві, працуй. На дзесяць пакаленняў хопіць...

Ніхто не злічыць, колькі тысяч год мінула з таго часу, а дасюль зямелька тая родзіць. Укінеш зерне ў цёплую раллю, яна табе ўзгадуе новы колас, дзе зернетка размножыцца шматкроць. Зямля ўздымае лес, з якога хаты мы будуем і майструем рознае начынне. Дае нам з нетраў чыстую ваду, ствараe на патрэбы чалавека гліну і руду. Яна найбагацейшая багачка. І пакуль сонца свеціць над зямлёю, датуль багі, што прашчураў любілі, апекавацца будуць намі, калі па-людску будзем жыць на свеце, служыць Дабру і Праўдзе, любіць і шанаваць усё, што змалку акаляе нас.

## 74

Паехаў на свяцілішча Вяршыла падзякаваць багам, ахвяру несучы шчодра за выратаванне. Дружыннікі яго суправаджалі вясёлаю гурмой. Хіліўся дзень да вечара. Спакоем вечаровым дыхала зямля. І толькі тупат капытоў парушаў яго.

Святы вядун з пашанай стрэў дружыну, спытаў, з якой патрэбаю прыйшлі.

— Багам ахвяру хочам мы прынесці, — сказаў Вяршыла. — За турам я пагнаўся сёння і ледзьве не загінуў, ды лоўчы мне прыйшоў на дапамогу. Вось кроў табе і мяса тура.

Дарункі той прыняў і мовіў:

— Дажбога ўнукі, вас ахоўваюць багі і доўжаць ваша жыццё, бо вамі задаволены, бо жывяце вы адпаведна боскім запаветам. Асвеціць вечар нам Кола Агню і вобразы багоў, якім ад веку і да веку ўзносім славу. Так было і будзе! Слава Роду!

Ён гаварыў узвышана і светла, славячы багоў і свет, які яны стварылі. Ягоны голас душы абуджаў і хваляваў:

Цемра, разыдзіся!
Агмень, разгарыся!
Абагрэй нас ласкаю,
Як сонца яснае!
Зоркі запалі,
Плоднасць дай зямлі!
Полю — ураджаю!
Так Род жадае!
Слава! Слава! Слава!

Нібыта ціха словы прамаўляў, але яны душу кранalі, дорачы надзею на спрыянне ў працы і жыцці.

Вядун пачаставаў усіх ахвярным хлебам, шэпчучы ўжо новую малітву:

Каравай Божы
Ва ўсім нам паможа,
Багацце на полі,
Добрую долю
І рознае дабро
Пашле нам Сварог!
Слава! Слава! Слава!

Вяршыла і дружыннікі яго далонямі кранулі каравай, жадаючы дабра сабе і свету. Калі замкнулася кола сяброў, падняў вядун высока каравай на вышываным ручніку і разам тройчы Сонцу памаліліся.

Пасля панёс вядун ахвяру кожнаму з багоў, выявы іх на капішчы сталі, і кожнаму прапанаваў ад сэрца прычасціцца, нарэшце, спыніўся ля Вялеса, каб асабліва падзякаваць яму, што выратаваў ён Вяршылу:

Прымі, Вялесе,
Ад поля і лесу
Ахвяру шчырую
Ад продкаў з выраю,
Ад нашага роду.
Дай нам згоду,
За любоў і надзею,
Дзякуй табе,
Вялес-дабрадзею!
Слава! Слава! Слава!

Ля каменя спыніўся вяшчун і нізка пакланіўся, пасля аддаў ахвяру Агню Святому. Сноп іскраў узляцеў да неба.

Вядун за полымем уважліва сачыў, нарэшце задаволена прамовіў:

— Багі ахвяру нашу прынялі! Слава! Слава! Слава!

Ён браціну малітвай асвяціў і перадаў Вяршылу. Пілі дружыннікі за славу Неба і Зямлі, перадаючы сасуд святы з рукі ў руку ад сэрца і да сэрца.

— Цяпер усіх склікае карагод! — вяшчун усклікнуў.

Дружыннікі пайшлі па крузе, хутчэй, хутчэй, так Сонца ходзіць па нябёсах, даючы жыццё Зямлі.

Калі стаміў дружыну карагод, пайшлі ў гаёк асілкі на паляну, каб сілаю памерацца заўзята.

Сцямнела неба паступова, і велічныя зоркі загарэліся. Дадола круглатвара ўсміхалася, увесь свет на адпачынак бласлаўляючы.

Вяршыла на каня стамлёна сеў, дамоў паехаў, узважваючы лёс свой зменлівы. Ён сёння быў і на кані, і пад канём, ды за імгненне да пагібелі прыйшло выратаванне.

«Тур не хацеў таксама паміраць! Абараняўся! Не спалохаўся, а ў лоб пайшоў! А можа, гэта пакаранне мне за сквапнасць? Было ўжо дастаткова ў нас дзічыны. Дзе тая рыса, якую пераступаць не варта? Як жыць належыць мне сярод людзей і слабасці свае пераадольваць?»

Яму раптоўна падалося, што нехта на пытанне адказаў:

— Рабі дабро!

— Не, толькі зло дасць добры вынік! Дабро разбэшчвае людзей, — нябачны нехта іншы запярэчыў.

— Зло вынішчае душы!

— Я жыць вучу і выжываць, ты вучыш паміраць з пакорай.

— Я праведнасці патрабую!

— І ведаеш наперад, што праведнасцю шчасця не здабудзеш!

Вяршыла слухаў і не разумеў, адкуль ён чуе галасы. Не вытрымаў, нарэшце, папрасіў:

— Дзе вы? Прашу вас, адгукніцеся! Хачу спасцігнуць, пад чыёй уладаю жыву на свеце!

Вяршылу на імгненне асляпіла яркае святло — два незнаёмцы ўзніклі перад ім. Адзін быў апрануты ў белае адзенне, другі — у чорнае.

— Хто вы? — спытаў спалохана Вяршыла.

— Я Белабог, — той адсказаў, што быў у белым.

— Я Чарнабог, — другі прамовіў.

З каня саскочыў уражаны Вяршыла і на каленях папрасіў:

— Злітуйцеся, багі! Чым правініўся перад вамі?

— Ты чалавек! Змагаемся мы за тваю душу, — сказаў з усмешкай Белабог.

— Навошта? — здзіўлена спытаў Вяршыла.

— Спрачаемся мы, з кім ты будзеш! — сказаў упарта Чарнабог. — Перакананы я: са мною!

— Не! Людзі створаны дзеля дабра! Ён мой! — усклікнуў Белабог.

— Дабро слабое! Зло магутнае!

— Зло разбурае, а дабро стварае!

— Ствараючы адно, міжвольна нешта разбураеш!

Князь на каленях доўга прастаяў, багоў упартых слухаючы спрэчку, аднак перапыніць асмеліўся нарэшце:

— Даруйце грэшнаму, магутныя багі. З вас кожны як быццам праўду

кажа. Душа мая дваіцца. Не ведаю, каму служыць, ці Белабогу, ці мо Чарнабогу. Дазвольце разабрацца мне самому, дзе зло, а дзе дабро.

З адказам памарудзілі багі.

— Свабодны ты. Жыві па праўдзе, суддзёй табе даю тваё сумленне, — прамовіў Белабог і адышоў убок.

— Зло абароніць цябе, мне даверся, — тут падміргнуў Вяршыле Чарнабог.

Багі паспешна ад Вяршылы адышлі, але гаворку не спынілі.

— Далі мы волю чалавецтву. Цяпер няма пра што спрачацца, людзі самі выберуць свой лёс, — заўважыў Белабог.

— Канец змаганню нашаму адвечнаму. Даруй мне ўсё. Давай абдымемся па-брацку!

Убачыў з жудасцю Вяршыла: прастора выгнулася нечакана, багі ператварыліся ў грамады і абняліся. Ад тых абдымкаў разбураўся свет, раўла вада і рушыліся горы! Грымела неба, а зямля крышылася і вывяргала вогненную лаву.

Віхура князя падхапіла, панесла з пылам, трэскамі, каменнем, не мог ён зразумець, дзе неба, дзе зямля, адно крычаў штосілы, просячы ратунку:

— Ратуй і злітуйся, Дажбог!

Багі злучыліся ў адно — і разбурыўся свет. Спыніўся час. Прапала ўсё: святло і цень, цяпло і холад, дабро і зло. Не стала ні людзей і ні багоў! Сусвет зноў стаў хаосам...

Прачнуўся князь, з палёгкай зразумеў, што гэта сон. І толькі! З палёгкай уздыхнуў, агледзеўся. Яго конь у цемры скуб траву. Дадола хмаркаю накрылася, драмала. Над лесам запалала Зараніца. Недзе далёка грукатаў Пярун. Пачуліся з гаёчка галасы дружыннікаў, яны гарлалі разам:

Вой, ты круглая, наша чарачка,
Дзе была адна, будзе парачка!
А на што цябе нам паставіці,
А чым цябе нам праславіці?
А паставім цябе на дубавы стол,
А праславіць цябе залаты прастол...

«Маёй дружыне мора па калена. На дождж збіраецца. Трэба спяшацца, — сказаў Вяршыла, повад пацягнуў, пагнаў каня. — І атрымае кожны па заслугах. Ратуй, Дажбог, і памажы».

Стрыбог няўзнак дыхнуў парыўна — і дрэвы захісталіся, зашамацелі чуйнаю лістотай. Яна спакой усё-ткі больш любіла, чым бессэнсоўнае хістанне ў прасторы.

Схапіў бярэмя хмар Стрыбог, панёс іх на край неба, там спаць залёг. Дадола ўдзячна ўслед яму зірнула і асвяціла сонную зямлю. Зацішак ахінуў абсяг. Зямля спакойна засынала, каб маладою зноў прачнуцца заўтра.

Так было, ёсць і будзе ад веку і да веку.
Усявышняму і Роду слава!

## ВАЛЕРЫЯ КУСТАВА

* * *

Супыніся, родны косю, адпачні
ды ярмо, сівы, на хвілю скінь, здымі,
папрасіся, адмаліся ад гмузды*
і зрабі салодкі, доўгі ўздых.
Ты сваё, старэнькі, узарэш .
Здольны будзеш — капытамі сонцы рэж!
Покуль стрэмя не ўпілося у бакі —
чыстую вадзіцу пі з ракі.
Покуль вочы не зацягнуты слязьмі —
жытняй волі ў полі тым вазьмі!
Калі ж ты знясілішся ў журбе,
людцы кінуць аднаго цябе
на няспыннай і адвечнай баразне.
Скончыцца жыццё, нібыта ў сне...
Бесспадзеўна, безнадзейна сінь нябёс —
і *таму* не ставяць крыж, хто крыж пранёс.

16 лістапада 1999

### ЗАМОВА АД ЗЛЫДУХАЎ

Сыдзі, сыдзі, Злыдух, з камянёў,
сыдзі, сыдзі з рамёнаў і клецяў!
І мы а трэцяй дзядоў
памянём,
і а чацвертай — бацькоў
прывецім,
а ўжо а пятай — дзяцей
асвенцім,
як хлеб і лёс,
як Хрыстос з нябёс.

Мы маем мову сваіх дзядоў
і ёю мовім да вас, Злыдухі:
сваіх імёнаў, капцоў, гадоў
мы не дамо вам,
мы — Белаўнукі!

Мы не аслепім сваіх вачніц,
мы беладушаў сваіх не знішчым,
вас заклінайма вужакай ніц
паўзці па роспачы папялішчу!

---

* Гмузда (*дыял.*) — вуздэчка, аброць.

Мы — Белаўнукі!
Злыдухі, ў нас
ёсць боль і горыч — мы гэтым жывы!
А што, Злыдухі, да вас — то ў вас
няма нічога без боскай сілы!
Вы толькі здатны цягнуці жылы, —
без боскай сілы...
Без боскай сілы няма нічога!—
вы ля парога
пёркі на крылы
цягнулі ў Бога...

Сыдзі, сыдзі, Злыдух, з камянёў,
сыдзі, сыдзі з рамёнаў і клецяў!
І мы а трэцяй дзядоў памянём,
і а чацвертай — бацькоў прывецім,
а ўжо а пятай — дзяцей асвецім
зіхотным днём.

А вы ўсе прэч, прэч адсюль, Злыдухі,
Вас заклінайма мы, Белаўнукі!

Сыдзі, сыдзі, Злыдух, з камянёў,
і мы ў спакоі дзядоў памянём.

Сыдзі!
Сыдзі!
Сыдзі!

7 мая 2003
(а 3-й гадзіне ночы апасля Радаўніцы).

* * *

*Паэту, які ляціць да зор.*

Я хачу, каб Максім уваскрос,
каб прайшоў па травіцы роснай,
каб валошкай ручнік прарос,
калі зорны гукае россып.

Прагну ўбачыць, як вучыць сына,
з ім гуляючы ў светлых гаях,
скажа: «Сынку, твая Радзіма —
шматпакутная гэта зямля».

У расстанні зірне на Венеру—
юнай зоркай уздымецца ўслед.
А зямлю маладою верай
ён надзеліць, пакінуўшы след.

Хай па гонях нясуцца коні...
Страцім-лебедзь — як здань
вышыні...
Багдановіч — вершнік Пагоні —
мы нашчадкаў тваіх абаронім,
бо нашчадкі твае — гэта мы.

19 мая 2001

* * *

Рыжым купалам ўздымаецца зара,
туманы ўліваюцца у разоры,
хустку досвітку накідвае гара,
маналог апошні шэпчуць зоры.
Напаўзае цёплы ранак на крыжы.
У траве з дрыготкаю расою
ловіць лугавыя міражы
светлы хлопчык з бацькавай касою.

22 чэрвеня 2001

* * *

Я магу чакаць без сканчэння,
покуль знікнуць словы і ноты.
Абмяжоўвае летазлічэнне
маладосць маёй адзіноты.

24 ліпеня 2001

## МАНАЛОГ ДАНІЛЫ ВЕЖЫ-ЗАГОРСКАГА НА СМЕРЦЬ КСЕНІ

**Чытаючы раман Ул. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».**

Бедная мая, белая.
У косах — нажы, у косах.
Не пакідай мяне, верная,
пярлінкай-слязой на пакосах.

У маленні прад Спасам
вернікам
укленчу й няверным нароўні
скажу абразу:
«Пернікам
мяне ты ніколі-ніколі
не частаваў, не ласаваў,
дык помні ж адзінае, помні —
яна ў цябе верыла
і ўдзень, і ў час княжання поўні,
дзяліла са мной, блюзнерыла.
Помні аб гэтым, помні!»

А Спаса Вачніцы Цёмныя
маўчалі—
пакорліва змоўклі!
І валасоў залатыя хвалі
на плячах кананаваных моклі
ад дняпроўскай глыбіннасці болю,
што ў вачніцах хацеў я спатоліць.

І сякера-гізаўра раптам
у драўляных грудзях заціхла...
А Вачніцы глядзелі з сумам...
А Вачніцы глядзелі сціпла...

2 красавіка 2002

* * *

*Я замёрзну ў калядных сцюжах...*
А.Сыс. «Алаіза».

Калі замёрзнуць — ад каляднай сцюжы!
Калі натхнёным быць — сваёй зямлёй!
Калі кахаць — наросхрыст, да парожняй,
да дна, да шчасця быць заўжды з табой,
мая зямля, мой вырай вечны!..

Я адлятаю да цябе ізноў.
У снах, Славяншчына мая, гарыш сланечнікам,
аскепкам сонца, глыбінёю зор!..
Калі паверыць — то купальскай ночы!
Калі ўваскрэснуць — побач з Ім, з Хрыстом,
і шлях абраць самотны і прарочы,
жагнуцца тройчы — выпусціць боль-стогн —
ў нябёсах Дух малітваю натоліць,
як каласы спатольваюць свой сум;
і права Духа гэтага адстойваць
ў бяздушшы і ў выгнанні спраў і дум.

3 красавіка 2002

* * *

Ува мне твая кроў, Максім,
ува мне твая кроў, Янка.
Я ваш ненароджаны сын,
Я вашым сынам калыханка,

залоза і стрэмка ў руках,
нагах, жыватах і ў бельмах,
адчуў вашай смагі смак,
як колас цяжарны — зерне.

Як камень належыць вежы,
як веры належыць памяць,

Я вам, паэты, належу —
вачніцы мае не зманяць,

не змоляць маёй патолі,
маёй глыбіні жывёльнай,
маёй чалавечай волі,
да чалавечнасці здольнай,

з якой у касцёле свечку
Я стаўлю і плачу бяздумна —
Я дакранаюся, Вечнасць,
душой да бяздольнага суму.

29 чэрвеня 2002

* * *

Нашто дазволіў прыйсці сюды —
тут толькі слёзы, слёзы, слёзы...
Я веру, забярэш тагды,
калі залозы сточаць лёзы,
калі рака укленчыць піць,
і акіян у ёй засмягне,
і дух памерлых будзе віць
туманам і аблокі сцягне
з блакіту, каб чысцейшым быць.

Я памятаю — быў я мніхам,
і валацугам быў, і вокам
трохкутным, быў калісьці ўздыхам
найпершым і апошнім богам...
...Быў енкам, хрыпам, крыкам, рыкам...

«У час, вядзьмак, у час, растрыга!»
Крок у прастору, крок з планеты,
крок у касмічнасць... Мола-стыга

млынарыць вадаспады Леты,
узбуджанай адзінай крыгай,
што з крылаходу Іпакрэны
на Лету пляц свой нахіліла...
Ўлілася Іпакрэна ў вены,
і надалася Леце сіла.

І спавядала рэчка рэчку,
вада — ваду, а хваля — хвалю...

18 лістапада 2002

* * *

Напружана
ўглядаюся ў люстэрка:
хачу ўбачыць
сваю сутнасць-душу.
А па-за люстэркам
б'ецца аб шкло
мая душа
і імкнецца ўбачыць мяне.

5 кастрычніка 2000

* * *

Зімовым вечарам
сяджу і п'ю гарбату,
гарачую салодкую гарбату.
Мой пакой адлюстроўваецца
па другі бок шыбы,
дзе кружыць вецер,
неўтаймаваны халодны вецер.
Такі ж Я-цень
у фальшывым люстэрку —
на іншым баку паралельнага часу,
чужой рэальнасці —
сядзіць і п'е гарбату
без смаку і паху.

У задуменні адводжу погляд
ад самога сябе.
Мой цень устае
і выходзіць за дзверы,
таксама забыўшыся
на мяне.

7 снежня 2000



## ▸АНАТОЛЬ КІРВЕЛЬ

# НЕПРАДКАЗАЛЬНЫ ПІЦЕР

*Апавяданні*

### МЁРТВЫ ГОРАД

Раніцай, калі яшчэ не споўдаюць машыны, на вуліцах горада пануе нязвыклая цішыня. Нязлосная, напоўненая замірэннем, яна, нібыта добра настоенае віно, нясе з сабой не вірлівы хмель няспыннай пагоні за невядома чым — сіняй птушкай, якую не спаймаеш, грашыма, якіх не зберажэш, лішняй вольнай хвілінай, якая ўсё роўна пойдзе на глумнасць, карысці ад якой ні табе, ні людзям. Нясе зусім іншае: незвычайнае і на дзіва спакойнае і лёгкае суперажыванне гэтай цішыні, якая не раздражняе ані, адно гоіць — і душу, і цела.

Рэдкія зычлілўцы, якім не спіцца такой парой, ніколі не сварацца, не размаўляюць гучней, чым трэба — іх жа й так пачуюць, — адно як супольнікі, што занятыя адной справай, але яшчэ не ведаюць пра гэта, зацікаўлена і трошкі з бояззю — ці не памыліліся яны?! — са шчымлівай надзеяй пазіраюць адно на аднаго, імкнучыся разгадаць на тварах нечаканых стрэчных такую блізкую і такую неабходную ім еднасць, але гэткая аднолькавасць ані не палохае іх, бо яна — іншага кшталту, чым тая, калі ўсе бягуць у адзін бок, каўтаюць адны і тыя недасмажаныя гамбургеры, забаўляюцца адным і тым «хэдэн-шолдэрс» ад перхаці.

Іхняя еднасць — гэта еднасць аднадумцаў, якія спасцігл ўжо, чым пагражае ім тая аднолькавасць, і ўцякаюць ад яе вось у гэтую ранішнюю цішыню, якую зрэдчас парушае нячастае пакуль і прыглушанае вільгаццю восеньскага паветра шаргаценне аўто.

Яны глытаюць гэтую цішыню, як нектар, насычаючыся ім загадзя, — каб хапіла на цэлы дзень, а то й болей, і з дзіцячай непасрэднасцю — нібыта бачаць упершыню — з асалодай злізваюць вокам блішчастыя перлінкі дажджу, што аселі на парэнчах чорнай, як ноч, каванай агароджы ўздоўж усяго канала; лёгенька мацаюць падэшваю — ці трывала?! — шэрыя цаглінкі штучнага каменю, пакладзенага тут замест асфальту, — цывілізацыя няўхільна адваёўвае для сябе новыя плошчы і новыя абсягі.

Позірк міжволі скіроўваецца яшчэ да аднаго сведчання пераменаў — туды, дзе зусім нядаўна разабралі рыштаванні вакол толькі што пазалоча-

нага шпіля палаца, — і, збіраючы ў адно ўсе гэтыя прыкметы, на якія раней не звяртаў увагі — не было калі, — неўспадзеў прыходзіш да высновы, што горад паступова адбудоўвае сябе, робіць сябе казкаю — месцам, дзе збываюцца мары, аднак, цяпер, раніцай, у гэтай нязвыклай цішыні, якая працінае цябе наскрозь, і ты — ужо не ты, а неад'емная частачка гэтай цішыні, горад здаецца чамусьці мёртвым…

І гэта нечаканае адкрыццё аднначасова палохае, здзіўляе і радуе: разам з цывілізацыяй, яе мо і непажаданымі, але непазбежнымі набыткамі, горад зацята, няўхільна і бескампрамісна пазбаўляецца ад усяго, што аджыло сябе, ад таго, што раздражняе і псуе чалавека, і ў горадзе застаецца толькі тое, што мусіць жыць вечна, — застаюцца тыя, хто не рве жылы ў бязмэтнай пагоні за сённяшнім днём, хто ўмее слухаць і назіраць і таму ніколі не памрэ. І хаця іх мала — адзінкі, — гэтая людская парода сузіральнікаў і зычлівцаў — яна вечная, як і само жыццё…

І тады зноў любіць гэты горад, які здаецца ў такія хвіліны самым прыгожым у свеце…

Хай сабе і мёртвым.

## МУЗЕЙ

Даўно адзін госць з Мінска, чалавек даволі навучоны, але майму звычнаму асяродку не надта й блізкі — кола нашых інтарэсаў супадала толькі ў асобных момантах, а тое, як мы вырашалі свае праблемы, і зусім было розным, — дык вось ён, прыехаўшы да мяне і пахадзіўшы ўдосталь па горадзе, спытаў увечары:

— Паслухай, а як ты тут жывеш?

— Як гэта? — не зразумеў я і няўдала пажартаваў: — Моўчкі!

— Я не пра тое, — ледзь не пакрыўджана азваўся ён, сярдуючы, што я не спасціг такой простай, на яго разуменне, думкі: — Хіба можна жыць у музеі?! — і, заўважыўшы маё здзіўленне, патлумачыў: — Гэта ж не горад! Гэта — музей…

…Так-то яно так — горад і сапраўды музей — пад няласкавым паўночным небам, — але толькі нядаўна — праз не адзін дзесятак гадоў — да мяне дайшло, што ж такое, па сутнасці, «музей»… Гэта — найперш! — скопішча рарытэтаў — мёртвых рэчаў пэўнага накірунку і пэўнага кшталту, — рэчаў, якімі не пакарыстаешся ў звычайным жыцці, але пазіраць на іх і прыемна, і цікава… І жыць сярод гэткіх неўжытковых рэчаў сапраўды няпроста. Але… неяк жывуць…

…Прыехаў бы той госць цяпер, адказ меў бы не гэткі, як тады, — больш поўны і, напэўна, больш пераканаўчы:

— У музеі — сярод мёртвых рэчаў — можна ўсё-ткі жыць, але пры адной бясспрэчнай умове — удасканальваючыся.

Але госць чамусьці не едзе — ці то баіцца, што мёртвыя рэчы заняволяць яго — возьмуць у свой палон і не адпусцяць, ці то лічыць, што ўдасканальвацца можна й інакш — адпіхваючы тое, што прыемна твайму хай і не зусім дасканаламу, але — Бог сведка! — усё-ткі цікаўнаму воку…

## АЎТОБУС У ЦЭНТРЫ ГОРАДА

Аўтобус быў паўнюткі — у тым сэнсе, што месцаў, каб сесці, ужо не было, а тых, хто стаяў у праходзе (чалавекі два-тры), можна было не лічыць, і праз тое ўсе, хто сядзеў, бачыліся вельмі добра, і можна было спакойна разглядваць іх.

Гэта ўдзень у транспарце размаўляюць гучна, бо горад перапоўнены гукамі — лязгаценнем трамваяў, несупынным шоргатам машын — хочаш не хочаш загаворыш грамчэй, каб цябе пачулі. А раніцай такія патугі лішнія: тлум і беганіна чакаюць іх трохі пазней. І таму твары ва ўсіх не тое каб засяроджаныя, а быццам бы задуменныя — хочацца яшчэ колькі хвілін пажыць тым, што табе блізка, што мілей за ўсё, што супакойвае і надае сілы вытрымаць напружанне дня.

Але ж на ўсіх тварах — у каго больш, у каго менш, — аднолькавая заклапочанасць: не спазніцца б! Не спазніцца туды, дзе іх ужо чакаюць... і куды самі яны нізавошта не паехалі б... калі б... Калі б не гэты штодзённы клопат, што ўеўся ў іхнія твары як воспа, і які сведчыў толькі пра адно: усе гэтыя людзі ехалі ў норы — кожны ў сваю, якія адшукалі адпаведна схільнасцям і магчымасцям; норы, дзякуючы якім яны маглі наталіць сваю патрэбу... найперш у грошах... каб наладзіць у другой норцы — уласнай хаце — той дабрабыт, які адпавядаў бы іхняму разуменню свайго жыцця, сям'і, будучыні...

І вось гэтак — штодзень з адной нары ў другую, з адной у другую...

...Аўтобус каціўся мякка і спраўна — у яго таксама была свая нара, дзе яго даглядалі: песцілі тавотам, частавалі пахкім цурболістым палівам. І ён быў удзячны людзям, якіх вёз: гэта ж яны сваёй небагатай платай — грашыма — давалі яму магчымасць штодзень ласавацца сваім любімым наедкам — палівам. І ён аддана любіў іх — так, як можа любіць толькі аўтобус, які штодзень праязджаў праз увесь горад, каб адвезці людзей у норы...

## ГАННАЧКА

Маленькая, вёрткая, падстрыжаная пад хлопчыка, яна спачатку не спадабалася мне: штосьці прамалінейнае, занадта простае бачылася ў яе твары: яна не ўсміхалася пакупнікам, многія з якіх прыходзілі ў гэтую краму амаль штодзень і ведалі маладзенькіх прадаўшчыц, якія праходзілі тут практыку, не толькі ў твар, але і тое-сёе пра іхні характар або схільнасці. Яна працавала, як аўтамат, хутка і дзелавіта ўзважваючы пячэнне, цукеркі ды іншыя прысмакі, і кожны раз пыталася: «Што яшчэ?» І, калі ты болей нічога не хацеў, імгненна называла кошт.

Размаўляць з ёй пра штосьці — пра жыццё, напрыклад, не хацелася. Ну што яна магла табе сказаць — просценькае, пэўна, вясковае дзяўчо, што апынулася ў вялікім горадзе і выбілася ў людзі — у прадаўшчыцы?!

Крама працавала з дзевяці раніцы да дзевяці вечара.

Аднаго разу я запазніўся ў гасцях — была ўжо, відаць, адзінаццатая гадзіна, на вуліцы цемень, дзякуй Богу, свяцілі ліхтары, ды хіба яны свецяць цяпер як трэба?! Адна назва, што святло — каб слуп плячом не зачапіў!

Я намерыўся тупаць да тралейбуса кварталы са два, ды раптам бачу — воддаль паказаўся трамвай, і я спыніўся. І якраз у гэты момант крайком вока заўважыў у паўзмроку знаёмую постаць, больш правільна знаёмыя рухі — так мне падалося...

«Няўжо яна?! — падумаў я. — Але што яна так позна робіць у гэтым кутку горада?!»

Прасцей за ўсё — спыніць ды распытаць, але, па-першае, я не быў упэўнены, што гэта яна — прыцемкі хавалі твар, ды і бачыў яе ўсяго

імгненне, а па-другое, проста не паспеў бы: яна ўжо нырнула пад арку, дзе ліхтароў зусім не было, — толькі напалохаеш, як паклічаш, і тады не абярэшся бяды...

Дні неяк праз два, зайшоўшы ў краму, зноў убачыў яе і, калі падышла мая чарга, спытаў раптам:

— А што вы пазаўчора рабілі на Марата (так называлася тая вуліца)?

— А я там жыву.

— А я туды ў госці хадзіў...

І нарэшце яна ўсміхнулася — першы раз за доўгі час, — як чалавеку, якога яна прызнала за свайго, і было ў гэтай усмешцы штосьці, што дапамагло мне зазірнуць у яе няпросты дзявочы свет, і я зразумеў, што заўсёдны і такі несімпатычны для мяне выраз яе твару — толькі маска, якой яна баранілася ад яшчэ чужога для яе гарадскога жыцця, так не падобнага на яе ранейшае.

З той пары мы ўжо віталіся пры сустрэчах, хаця якія гэта сустрэчы — прадаўца і пакупніка, аднак...

А зусім нядаўна, наведаўшы краму, яшчэ ў вузенькім праходзе, што вёў у аддзел, пачуў гучны покліч:

— Ганначка! Да цябе тата прыехаў!

І ў наступны момант паўз мяне куляй слізганула знаёмая постаць з хлапечай прычоскай, а я так і застаўся стаяць у праходзе, уражаны неверагоднай, але цалкам магчымай думкай: а ці не тая гэта булгакаўская Ганначка або, каб ужо да ўсіх дайшло, Аннушка!, што разліла алей на трамвайных рэйках, і бедалага Берліёз нечпадзявана мусіў адправіцца да сваіх, пэўна, даўно шчаслівых бацькоў?!

Як жа яна апынулася тут, у нашым горадзе? Яе ж (ды ўжо болей за паўстагоддзя таму) назаўсёды прапісалі ў Маскве, дзякуючы настойлівым клопатам вялікага знаўцы розных невытлумачальных з'яў і недарэчнасцей — досыць вядомага ўсім Міхаіла Булгакава...

Няўжо за даўнасцю тая прапіска страціла сваю сілу?

Дык што?! Прыціснула і нас — твар у твар сустрэцца з панам Воландам і ўсёй ягонай хеўрай?!

Ганначка ж — ужо тут!

## РЭ-МІ-СОЛЬ

Яна ўжо не саромелася таго, што з ёй адбываецца, ішла разняволена, трошкі задзірыста і трошкі пераможна пазіраючы на стрэчных, цяпер яна была цалкам упэўнена, што мае права пазіраць гэтак на ўсіх: яна ж — ужо жанчына... Ну-у, не зусім так, як гэта разумее большасць... але жаноцкасць, яе прыродныя праявы ўжо абудзіліся ў ёй... і падштурхоўваюць... падштурхоўваюць... усміхнуцца, напрыклад, вунь таму хлопцу... ці вунь гэнаму дзядзьку, які яшчэ больш зацікаўлена, чым хлопец, пазірае на яе, і яна адорвае яго ўсмешкай яшчэ больш шчырай, чым хлопца: дзядзька, па ўсім відаць, добра ведае, што з ёй творыцца, і, напэўна, зусім не супраць памагчы ёй спасцігнуць такія, аказваецца, няпростыя таямніцы жаночага сталення, але ж дзядзька стары... ну, не зусім стары... але для яе дык і стараваты... Смешна будзе, калі яна пойдзе з ім... Хлопец — іншая справа... але ж ці ўсё ён ведае... ці не будзе ёй нецікава з ім... А дзядзька — той адно загадкава ўсміхаецца і маўчыць... Дзіўны нейкі — нібыта на нешта спадзяецца...

— Паненка! — чуе яна голас хлопца і азіраецца.

Але гэта не хлопец — гэта дзядзька.

А хлопец стаіць, разявіўшы рот, і не разумее, чаму яна раптам спынілася і слухае дзядзьку, а той нахіляецца да яе і кажа ёй... пэўна, штось непрыстойнае... бо яна нечакана чырванее, але твар — зусім не злосны: свеціцца невядома ад чаго — ці то ад таго, што ёй сказаў дзядзька, ці то ад таго, што яна падумала пра сябе ў той момант...

І раптам яны, нібыта згаварыўшыся, збочваюць і ідуць разам да сквера на тым баку вуліцы... Не спыняючы хады, дзядзька дастае нешта з партфеля — нейкую сінюю папку... Дзяўчына даволі гжэчна садзіцца на краёк лаўкі, а дзядзька тым часам разгортвае папку і пачынае нешта хутка крэмзаць у ёй, раз-пораз ускідваючы вочы на дзяўчыну... І позірк ягоны ўжо не гэткі, як хвілю таму: не загадкава-спакушальны і не ўсмешлівы, а сухі і востры, як аловак, што несупынна коўзае па паперы...

«Чаму я не такі нахабны?!» — сярдуе хлопец і раптам, уражаны нечым, дастае з кішэні невялічкі блакноцік, разлінаваны неяк па-дзіўнаму — тонкімі суцэльнымі лініямі, злучанымі па пяць штук таўсцейшымі лініямі па краях, — і, мармытнуўшы нешта пад нос, пачынае хутка выкрэмзваць на тых лінейках нейкія кружочкі, рысачкі, значкі... Потым спыняецца і, прабегшы вачыма па напісаным, задаволена ўсміхаецца: нарэшце! знайшоў!

Насмешліва зірнуўшы на дзядзьку, бо на дзяўчыну яму глядзець ужо не хочацца, ён набірае ў лёгкія паветра і чыстым і ясным голасам выводзіць:

— Рэ-мі-соль...

## ГУЧНАГАВАРЫЦЕЛЬ

Мы былі дзіўнай параю, калі паглядзець збоку: яна несупынна хадзіла туды-сюды па шыракаватай пляцоўцы каля выхаду з метро, а я, як прывязаны, тупаў за ёй услед і стараўся не прапусціць ні слоўца: мне было цікава, што яна агучвае:

— Вы што? Думаеце, я дурная?! Гы-гы... Самі вы дурні... Вам жа нічога не зробіцца, хоць вы тут распластайцеся на асфальце... Вовік-прыдурак, якога жонка выгнала, так і робіць... Разляжацца каля кіёска, людзі аб яго спатыкаюцца, клянуць на чым свет, а яму хоць бы што — ляжыць, заплюшчыўшы вочы, нібыта спіць, а сам з-пад павек цішком зазірае дзеўкам пад спадніцы (у каго што апранута), і ўсмешка на твары гэткая, нібыта мёду наеўся... Дурань... Я гэтак ніколі не лягу — што мне ў баб падглядваць?! А ў мужчын — у іх спадніц няма, адны штаны, і ўсё за імі схавана. У мужчын трэба не на штаны глядзець, а на твары — там усё напісана, пра што чалавек думае... Хіба ж я дурная на асфальт класціся?! Я і гэтак усё бачу... Вунь той — метр з шапкай: не галіўся дні два — пад крутога косіць, дык ён усё на маладзенькіх пазірае. У каторай задок таўсцейшы — кумпячкі так і гуляюць пад спаднічкай, за тою і прыстроіцца — вачэй з бясплатнай карцінкі не зводзіць, а тады, нацешыўшыся, у які куток зашчэміцца, і што ён там робіць — ніхто не ведае: не злавілі яго ніводнага разу...

А вунь той высокі — Васька-цыган, той усё на цыцкі пазірае, хто не схаваў добра, ці калі яны занадта спакуслівa з-пад кофтачкі выпіраюць... Падбяжыць, штурхель — быццам бы незнарок, а тады — слова за слова — гаворку пачынае, прапануе прайсціся з ім, але рэдка хто ідзе — толькі мо

якія сікаўкі, якім ён невядома што абяцае, ці гэткія, як Манька-алкашка: ёй усё роўна, з кім ісці — абы глыток прапанавалі...

А вунь той — анцілігенцік — усё акулярыкі на носе папраўляе, бо не трымаюцца, дык ён ані да чаго рук прыкласці не хоча — нават па «фанфурык» збегаць — усяго праз вуліцу... Не дадуць, кажа, яму: выгляд, маўляў, не той... Выгляд і праўда не той: ні бомж, ні гопнік...так — паўчалавека... бо рукі ды ногі мае, а прынесці што ці падаць дык мянта... ай, каб на цябе ташкачкі, — слова гэткае няскладнае, дай Бог успомніць, — мян... мян... ташнасць... не, не гэтак!.. во, датумкала нарэшце: мянтальнасць! Дык яму, бачыце, тая мянташнасць і не дазваляе гэтага рабіць... Няёмка, кажа, яму... А нашыя дашчэнту абгрызеныя аб'едкі падбіраць — гэта ёмка?! Луску ад вобліны і тую пасля нас усю абсмокча... Мы яго гэтак і празвалі — «смактун»... Адно што біцца не лезе, як астатнія... Падстаў, кажа, левую шчочку, калі па правай агрэлі... Вучоны знайшоўся...

... Вось і тапчуся тут, сярод гэтых здыхлякоў, дай ім Бог здароўя... Думаеце, я дурная?! Ага! Так і пацэлілі... Я ж, каб вы ведалі — хаваюся! Ад нявестачкі сваёй ды ад зяцька... Хочуць мяне на той свет... каб хату маю адцяпаць... Так я ім і аддам! Дулю! Хіба я дурная?! Хай яшчэ пабегаюць за мной, хай пашукаюць... сярод гэтых манек ды цыганоў... Яны ж... папраўдзе... нязлосныя зусім, хоць і лаюцца між сабой: і паесці дадуць, і папіць... Толькі й самой прыдурвацца трэба... г-гы-гы... ды цярпенне мець — трываць іх усіх... морды гэтыя памаўзлівыя... А я іх усіх (апроч анцілігента) — да сябе прапішу... калі паабяцаюць мне... дык не на словах, а на крыжы ці на крыві... што зяцька майго... ну-у... дзе-небудзь... прыціснуць-прыдушаць... і з канцамі... Я ж не за так — не задарма! — хіба я дурная... А за прапіску — хто ж адмовіцца... г-гы-гы... хіба ж я... Ой, Васька!.. Ну, лапух!.. Паўзі хуценька сюды: гурочкаў салёненькіх дам!.. Не ўкрала... гы-гы... пачаставалі мяне... Слоікі, праўда, адзін у адзін, як мае... Г-гы-гы! Дулю ім! Не дабяруцца! Ідзі — частуйся...

## НЯЗГОДЛІВЫЯ ВОЧЫ

Яблык, печаны як не тыдзень таму, але без маршчын — напялася скура, — такім быў твар, засяроджаны на нечакана блізкім зыходзе, бо, адчуўшы яго, пачаў загадзя рыхтавацца да смерці. Вочы, аднак, былі супраць — чапляліся за жыццё як маглі, прагна ловячы любыя прыкметы таго, што гэта няпраўда, што яна яшчэ пажыве...

І праз тое пільна ўзіралася ў кожнага, хто ехаў з ёй у тралейбусе, але ўсе ехалі не туды, куды яна, і цётка з крыўдай на іхнюю бесклапотнасць і няўвагу, але адначасова з зайздрасцю, што ім жа яшчэ не скора, а ёй — лічаныя дні ці тыдні — ад гэтага не адкруцішся, як ні ўцякай, зацята пазірала на маладыя твары і хаця й не жадала ім нічога кепскага, але злосць на гэты свет, які не даў ёй таго, на што яна разлічвала, міжволі сціскаў яе амаль безжыццёвыя губы, выцягваючы іх у тоненькую нітачку-шчылінку, якая трохі наўскос разразала жаўтлявы і сапраўды падобны на печаны яблык твар. А ён жыў ужо не сённяшнім і, магчыма, не заўтрашнім днём, а нейкім невядомым ёй часам без дакладна пазначаных межаў і прыкмет.

І хаця яна ведала, што злосць — слабенькі, а то й зусім не памочнік, цэлам ейным распараджалася толькі гэта пачуццё, пазбавіцца ад якога не было ўжо ні сіл, ні жадання.

— Цётачка, хай бы вы селі! — пачула яна раптам малады спачувальны голас — так знячэўку і нібыта ніадкуль — і азірнулася: да яе звярталася невысокага росту пухнаценькая дзяўчына з густымі непакорлівымі валасамі, што, здэцца, сілком былі запхнуты пад беленькую вязаную шапачку, а твар свяціўся непрыхаванай маладой радасцю, якую так проста і не схаваеш, не запхнеш, як валасы, пад шапачку, бо радасць тая была настолькі моцная, што выбівалася вонкі і прымушала тварыць непрадбачанае.

Яна якраз зірнула на цётку і падумала, што ёй кепска, — хай пасядзіць ды аддыхаецца, але цётка не згадзілася:

— Дзякуй! Я яшчэ пастаю... — і адвяла позірк, падумаўшы пра тое, колькі ёй яшчэ стаяць, пакуль яна даедзе да таго месца, куды самі не жадаюць дый не згаджаюцца ехаць па добрай волі... І ці варта стаяць?! Мо лепей згадзіцца?! Усё роўна гэта некалі здарыцца... Раней ці пазней — цяпер ужо не гэтак істотна...

І яна, перасіліўшы раздражненне і злосць, павярнулася да дзяўчыны:

— Дачушка, дзякуй! Адпачні сама...

— Я не стамілася, цётачка!

«Яшчэ стомішся...» — падумала цётка і вочы яе на момант пацяплелі... На момант... На болей — ужо не было сіл...

## ГЕНІЙ

Сусветная слава Іосіфа Бродскага, замацаваная Нобелеўскай прэміяй, не давала гэтаму чалавеку спакою.

«Хіба я горшы за яго?!» — недаўменна пытаўся ён невядома ў каго — ці то ў сябе, ці то ў нейкага нябачнага субяседніка.

Ён нават адпусціў рудаватую, як некалі ў Ёські, бародку і практыкаваўся перад люстэркам, шукаючы адпаведны выраз твару — паэтычна-таемны, загадкавы...

Але як зробішся геніем, калі няма галоўнага — геніяльнасці?

Яе трэба набыць!

Як?

Праз адпаведны выраз твару...

І ён крывіў перад люстэркам розныя грымасы, прыдзірліва вызначаючы, якая з іх найбольш адпавядае задуме...

Якраз у гэтым і выявілася ягоная геніяльнасць.

## ПУСЯ

Гэта быў кот нейкай дзіўнай пароды — светла-шэрага, як попел ад травы, колеру і амаль што без вачэй... Вочы, канечне, былі, але адшукаць іх на кацінай мордачцы было цяжка: па колеры яны амаль не адрозніваліся ад поўсці, і толькі калі Пусік настаўляў галаву праменька на цябе, можна было заўважыць аранжава-чырвоныя паўкруглыя палоскі ў самых куточках ягоных вачэй, але вызначыць, ці гэта ён злуецца на цябе — прыгадайце сіямскіх катоў, вочы якіх наліваюцца чырванню ў гэткіх выпадках, — ці гэтак захацела матухна-прырода, было немагчыма.

Гаспадыня вельмі любіла яго, і мне часам хацелася назваць яе гэтак, як і ката, — Пуся, хаця знешне яна зусім не была падобнай да яго. Чар-

нявая — ніводнага сівога валасочка, хаця гады тры таму яна пахавала мужа, які згарэў ад п'янкі... Добры спец, які любіў сваю справу і любіў працаваць. Нават дома, робячы суседзям то тое, то гэта, а яны, замест грошай, ад якіх ён, канечне, адмаўляўся, частавалі яго гарэлкай, якая паступова зацягнула мужыка ў свае цянёты, а здароўе — яно ж у кожнага рознае: адзін п'е ўсё жыццё і яму нічога, а тут нешта сэрца не вытрымала, і Пуся — хай ужо застаецца гэтак — каторы год удава...

Апроч Пусіка ў яе меўся яшчэ і сын. Ён скончыў інстытут і цяпер, пасля перамогі на адным з міжнародных конкурсаў, удасканальваўся ў Амерыцы як праграміст, і Пуся ледзь не штодзень пасылала яму лісты праз Інтэрнет.

Пазнаёміліся мы з ёй на працы, дзе наша невялічкая фірма рабіла касметычны рамонт некалькіх памяшканняў. Прадпрыемства было сучаснае, хаця будынак, у якім яно месцілася, быў дарэвалюцыйны — з пацямнелай ад часу бурачкова-чырвонай цэглы — тут здавён выраблялі нейкія таблеткі. Па часе перабудовы заняпалае, што ледзь ліпела, прадпрыемства аб'ядналася з шустрай амерыканскай фірмай таго ж накірунку, і ў замшэлых савецка-царскіх сценах пачалі наводзіць замежны марафет.

Фірма ведала сваю справу і патрабавала ад супрацоўнікаў дысцыпліны і адказнасці. Мо таму, што рускі чалавек не прызвычаіўся да парадку, яму мілей знакамітае «авось» або не менш выратавальная інтуіцыя — перамены паўплывалі на нашых работнікаў не так, як разлічвала начальства. Людзі ўспрынялі толькі знешнія праявы парадку, і таму не балелі душой за прадпрыемства, як гэта было раней, калі завод ці фабрыку лічылі сваёй, а стараліся рабіць так, каб іх меней муштравалі за тую ці іншую правіннасць. А ў начальства размова была кароткаю: «Што гэта?!» — задавала яно пытанне і не патрабавала тлумачэнняў, напрыклад, гэткіх: маўляў, Пецька, нягоднік, — дзяжурны слесар, напіўся ўчора і недагледзеў, як адкруцілася гайка... Начальству патрэбен быў вынік, а не тлумачэнні.

Даўней, пры савецкім часе, паклікалі б таго Пецьку, далі б добрую прачуханку, і ён хуценька ўсё паправіў бы, а ў канцы месяца аўрал выратаваў бы і план, і трошкі меншае начальства, якое выгадавала Пецьку... Цяпер жа — план мусіў выконвацца штодзень, а таму тое сярэдняе начальства націскала на яшчэ ніжэйшае і таксама не пыталася пра прычыны — давай вынікі. Так і цягнуўся ланцужок гэтага «Што гэта?!» ад самага верху да самага нізу — да прыбіральшчыцы з анучай, але прадпрыемства перастала быць «сваім» і рабілася месцам, дзе ты аддаваў свае сілы і здароўе, а выгаду мела толькі самае высокае начальства.

З высокім начальствам мы не сутыкаліся — яно толькі падпісвала паперы, а штодзённыя кантакты мелі толькі з намесніцай начальніка цэха. Сам начальнік ужо другі месяц хварэў, і ўсе клопаты леглі на жаночыя плечы. Пагаворвалі, што начальнік, можа, й не вернецца на працу — надта сур'ёзнае захворванне, якое патрабавала доўгага лячэння, і пагаворвалі таксама, што намесніца цэліць на ягонае месца, і таму мне ў нейкай ступені былі зразумелыя яе паводзіны, апроч аднаго: вось гэтай, невытлумачальнай для мяне завядзёнкі задаваць недарэчнае пытанне, якое ні да чаго не вядзе, — пытання «Што гэта?», калі яна бачыла, напрыклад, невядома як узнікшую трэшчынку ў падсохлай шпаклёўцы або «смаркуль» — зацвярдзелы кавалачак той самай шпаклёўкі, бо калі раўняеш столь і націскаеш на шпатэль, з-пад яго вылятаюць рэшткі. Калі яны падаюць на падлогу, то гэта не страшна — яе робяць самай апошняй, а калі трапляюць

на сцяну, то зліваюцца з ёю. А там усё белае, і «смаркуль», бывае, цяжка заўважыць.

Намесніца ці, як мы яе называлі «начальніца», і сама ведала адказ — не дзіцё ж! — аднак пыталася і не ў нас, рабацяг, а ў нашага непасрэднага начальніка, які пабудаваў у горадзе не адзін аб'ект, а цяпер, на пенсіі, кіраваў намі. Пыталася так, нібыта гэта ён сам павесіў на сцяну той «смаркуль». Наш шэф злаваў, але мусіў цярпець: ад гэтай незгаворлівай бабы залежаў цяпер наш заробак, аднак зрабіць з сабой нічога не мог: некампетэнтнасць начальніцы выводзіла яго з сябе, і ён, пагаварыўшы з ёю хвілін пяць, уцякаў куды мог, каб не дайшло да самай звычайнай сваркі, калі адзін чалавек не разумее другога або не хоча лічыцца з абставінамі.

Наколькі было ў маіх сілах, я супакойваў па чарзе то адзін, то другі бок — іхнія сваркі перашкаджалі справе, але вынік не заўсёды быў такі, на які я разлічваў: як толькі яны бачылі адно аднаго, непрымірымасць успыхвала зноў, як сухі порах.

Ад іхніх спрэчак я адпачываў па суботах ці нядзелях — мы не прапускалі нават гэтыя дні, імкнучыся хутчэй здаць аб'ект. Незгаворлівай начальніцы ў такія дні не было, цэх нам адчыняў хто-небудзь з дзяжурных. Якраз тады я і пазнаёміўся з Пусяй.

Яна не пыталася: «А што гэта такое?! А што гэта?» — яна проста адчыняла нам цэх і ішла ў свой кабінецік, дзе займалася сваімі справамі. Я не цікавіўся, якімі, а проста звярнуў увагу на яе ціхі голас і шчырую ўсмешку, што іншы раз з'яўлялася на яе не надта й прыгожым твары. Штосьці было ў ім такое, што выклікала сімпатыю, мо якраз тая шчырая ўсмешка, за якой угадвалася сардэчная душа, — толькі вось з'яўлялася яна на твары даволі рэдка, што тлумачылася хутчэй за ўсё стрыманасцю. Але што стрымлівала Пусю, вызначыць было немагчыма, бо занадта кароткімі былі нашы сустрэчы: «Добры дзень!», «Да пабачэння!» — вось і ўсе размовы.

Аднак пры ўсёй яе шчырасці і стрыманасці было яшчэ штосьці такое, што не дазваляла без аглядкі прызнаць яе за сваю і таксама быць з ёю шчырым і адкрытым... Штосьці не тое каб адштурхоўвала, а менавіта стрымлівала, быццам існавала нейкая мяжа, пераступаць якую не дазвалялася нікому, і я так і не асмеліўся пагаварыць з ёю пра штось іншае, чым праца.

Але яна сама падышла неяк да мяне:

— Скажыце, а дзе вашы дзяўчаты? Ну, тыя, што бялілі столь і сцены?

— А ўсё! Няма іх! Зрабілі сваю справу, а тэлефона іхняга я не ведаю...

— Ой, як шкада...

— А нашто яны вам?

— Ды хацела спытаць, ці не зробяць яны мне невялічкі рамонт...

— Дык навошта вам тыя дзяўчаты? — пачаў я, але яна зірнула на мяне так, нібыта я сказаў несусветнае глупства. Здзіўленне яе было настолькі моцным, што я міжволі падзівіўся той перамене, якая імгненна адбылася з ёю. Яшчэ нядаўна мілая і шчырая жанчына, і раптам нейкі сухі бяздушны параграф — толькі адсюль і дасюль, але я апошнім часам шукаў дадатковы заробак і паспадзяваўся, што гэта нечаканая адметнасць не пашкодзіць мне ў працы, і таму адно ўсміхнуўся і спытаў: — А хіба я не магу гэтага зрабіць?

Яна недаўменна зірнула на мяне і з нерашучасцю ў голасе прамовіла:

— А я думала, што вы толькі пліткай займаецеся... — на той час я і

сапраўды абліцоўваў паліванай керамічнай пліткай адзін з пакояў. — Я вас хацела потым запрасіць — у ваннай плітку пакласці...

— Мы выконваем усе віды рамонтных работ, — супакоіў я яе, і мы дамовіліся, што калі яна перастравіць мэблю, каб было зручней працаваць, то патэлефануе мне...

І вось я націскаю на кнопку дзвярнога званка.

Першым мяне сустрэў Пусік. Ён не спалохаўся — не ўцёк ад незнаёмага, а па-гаспадарску абнюхаў і неяк ленавата адышоў убок, саступаючы дарогу. Відаць, я не вельмі цікавіў яго альбо не ўяўляў для яго аніякай пагрозы. Але сваёй увагай ён мяне ўсё-ткі не абдзяліў — потым, калі я пачаў працаваць, падыходзіў да маіх рэчаў і адзежы, складзенай на зэдліку, прынюхваўся да яе, асабліва да кашулі (пад пахамі), нават зашываўся ў яе і ледзь не лізаў. І я зразумеў, чаго яму не хапае — мужчынскага духу.

— Пусічак! — залапатала Пуся. — Пазнаёміўся? — і з удзячнасцю пазіраючы на мяне, прамовіла, задаволеная не столькі Пусікам, колькі сабой: — Пры-зна-а-ў!

Яшчэ раз зірнула на мяне, і ў вачах яе, пасаджаных глыбока, таму яны здаваліся маленькімі і не вельмі вялікага розуму, — бліснуў на момант жывы агеньчык ці то душы, ці то яшчэ чаго, невядомага мне.

Праца ішла не надта хутка. Пуся жыла далёка. Пакуль праедзеш праз увесь горад з аднаго канца ў другі, амаль цэлая гадзіна вылятала кату пад хвост. Не Пусіку, вядома. Пусіку было са мной весялей, чым аднаму, бо гаспадыня, ідучы на працу, пакідала яго і вартаўніком, і гулякам адначасова. Пусік, відочна, не скардзіўся на свой кацiны лёс: ён браў сваё тады, калі гаспадыня вярталася дахаты.

Ён лашчыўся, цягнуў да яе сваю мордачку, каб яго хутчэй пацалавалі, а ён тады хуценька лізнуў бы яе твар, а апошнім часам стаў нават кусацца, і даволі балюча.

— Ну, што ты, Пусік? Звар'яцеў?! — абуралася яна і жалілася мне: — Вырас коця, у ветлячэбніцу пара... Толькі хто аднясе — не ведаю... Самой, кажуць, нельга, бо тады ён злаваць на мяне будзе. Мо хто... — і раптам замаўчала, пэўна, чакаючы, каб на тое згадзіўся я, але нашто мне было, каб Пусік злаваў на мяне. Калі злуюць людзі, гэта яшчэ можна растлумачыць, а калі на цябе злуецца звер, — апраўдання няма.

Мо Пуся і, праўда, хацела, каб я аднёс яе выхаванца ў лячэбніцу, але я — на ўсякі выпадак зрабіў выгляд, што не зразумеў яе намёку, што мая галава забіта толькі адным — працаю, і Пуся, з відочнай роспаччу, якую яна не тое каб не хавала, а проста ўжо настолькі звыклася з ёю, што не заўважала за сабой, хапала ката на рукі, прыціскала да сябе тонкімі жылістымі рукамі і прыгаворвала:

— Пу-у-сі-чак! Муж-чы-ы-нка ты мой! Хто цябе пашкадуе, як не я...

Але Пусіку, напэўна, такія ласкі былі не па душы, бо ён вырываўся з абдымкаў, шукаючы для сябе чагось больш цікавага, чым жаласлівасць сваёй гаспадыні. Гэтым цікавым была мая праца. Пусік прыладжваўся побач і ўважліва назіраў, як я замешваю раствор, рэжу плітку, прымацоўваю яе потым да сцяны... Карацей, памагаў мне. Так во і працавалі...

Аднаго разу Пусіку давялося не соладка. У той дзень набралася шмат смецця — вымалі старыя дзверы, дый я трохі пастараўся — пааббіваў старую пашкоджаную тынкоўку, якая ашмоццем вісела ля дзвярных праёмаў. На старое месца яе ўжо не замацуеш — трываласці меней. Лепей атынка-

ваць нанава. А па роўнай паверхні, самі разумееце, класці плітку больш зручна — і клею (так званага плітаніту) расходуем меней, ды і за грунтвагу штораз хапацца не трэба — і без яе пальцамі ўсё адчуваеш.

Старую разламаную каробку паставілі ў куток на лесвічнай пляцоўцы, а будаўнічае смецце, што не ўлезла ў поліэтыленавы мех, вымелі пакуль што за дзверы, а там ужо хай сама гаспадыня стараецца. Яна і старалася — падмяла ўсё чысценька, а потым узяла вядзерца і вымыла анучкай пярэдні пакой, а затым, каб не скардзіліся суседзі, памыла і пляцоўку.

Выкруціўшы анучу, яна разагнулася, адкінула ўбок непаслухмяную пасмачку валасоў і з палёгкаю ўздыхнула.

У гэты момант Пусік і скіраваў да расчыненых дзвярэй. Дагэтуль ён адно сядзеў на падаконніку і праз шкло цікаваў за вераб'ямі ці варонамі, або яшчэ з большай цікавасцю — за катамі ды коткамі, што разгульвалі свабодна, як хацелі.

Убачыўшы расчыненыя насцеж дзверы, Пусік хутка скеміў, што якраз праз іх ён можа трапіць на вуліцу, дзе дагэтуль ні разу не быў, і асцярожна, час ад часу пазіркваючы на гаспадыню, нячутна выкаціўся на пляцоўку. Дзе ж тыя коткі?! — і зноў узняў галаву: як паставіцца да ягоных гуляў гаспадыня.

Але тая не заўважала яго... І толькі калі Пусік дабраўся да самай сярэдзіны пляцоўкі, гаспадыня нечакана размахнулася і даволі адчувальна агрэла ката мокрай анучай. Пусік куляй паляцеў назад, у пакой. А Пуся, наставіўшы рукі ў бокі, пераможна стаяла ў дзвярах і з нечаканай злосцю — і куды падзелася яе штодзённае саладжавае сюсюканне «Пусічак ты мой слаўненькі!» — прыгаворвала сухім бабскім голасам:

— Цяпер не пойдзеш! А пойдзеш — і не гэтак заробіш...

Вусны яе зрабіліся тонкімі і нязгодлівымі, пазіраць на іх ані не хацелася.

— І з мужчынамі гэтак? — прытварыўшыся дурнем, але з перакананнем, што яна не стане маніць у гэткі момант, — спытаў я, і яна, не зразумеўшы, чаму я пра гэта пытаюся, кіславата ўсміхнулася і з непрыхаванай пагардай да нашага брата вымавіла:

— А хіба вы лепшыя?! Вам толькі дай волю...

... А якой абаяльнай была яе нясмелая мяккая ўсмешка ў тыя дні, калі яна дзяжурыла ў цэху! Якой мілай і непасрэднай... І ты, заварожаны гэтай непасрэднасцю і шчырасцю, міжволі цешыў сябе думкаю: колькі пачуцця, колькі нерастрачанай душэўнай цеплыні хаваецца за гэтай усмешкай. І колькі радасці чакае цябе ля гэтай ціхай прыстані — жаночай ласкі і жаночай спагады...

Добра цешыць сябе ілюзіямі ці марамі, асабліва тады, калі верыш, што яны спраўдзяцца...

Недзе праз тыдзень я ўжо быў па горла сыты Пусінай пяшчотай і шчырасцю, якія не мелі межаў.

— Пусічак! Мужчынка ты мой! Хадзі сюды — я табе пячоначкі парэзала...

Я ўяўляў сабе, што гэтаксама або прыблізна гэтак, яна будзе клікаць мяне і частаваць пячонкай ці яшчэ чым смачным, а потым шарне анучкай між вушэй, калі я стану на дыбкі — выкажу неяк сваю самастойнасць.

Я ўжо не рады быў, што згадзіўся на гэту працу, але назад не пойдзеш — трэба «дабіваць» пачатае.

Аднойчы я й «дабіў», правільней, разбіў адну плітку ў самым нізе, за трубамі, дзе, як яна казала, будзе стаяць новая ракавіна з новенькай тумбачкай, каб не было відаць сантэхнічнага начыння, і таму я не надта бедаваў, што раскалоў плітку — не ўсю цалкам, усяго адзін ражок... Як яна трэснула — не разумею, бо не стукаў па ёй гумавым малаточкам, каб шчыльней прылягла, проста націснуў пальцамі, і тут ражок адкалоўся: пэўна, трэшчына ўжо была — стукнулі недзе, калі перавозілі, дык ёй хапіла і майго нямоцнага націску.

Я не выкінуў адколаты кавалачак, маўляў, прыладжу потым, і запхнуў яго далей пад ванную, каб гаспадыня не вымела разам з астатнім смеццем... Я мо і ўставіў бы адразу той ражочак, але спяшаўся дахаты — было ўжо даволі позна.

Але калі я назаўтра прыйшоў да сваёй работадацелькі, яна сустрэла мяне не звычайнай шчырай усмешкай, а нейкай нязгодлівай хмурасцю, і выраз яе твару быў амаль гэткі самы, як і тады, калі яна «выхоўвала» свайго Пусіка анучаю.

— Што гэта? — спытала яна так, нібыта бачыла мяне ўпершыню і яшчэ не ведала, хто я такі і чым займаюся.

— Што вы маеце на ўвазе? — наколькі толькі мог спакойна спытаў я, а сам думаў, у чым жа справа? Тых невялічкіх і, шчыра кажучы, непазбежных грашкоў, пра якія я ведаў, Пуся заўважыць не магла — не стане ж яна да міліметрыка вымяраць швы паміж пліткамі, а яны ў любым выпадку не будуць аднолькава роўнымі, бо чым танней каштуе плітка, тым больш неадпаведнасцей у яе памерах — на долі міліметра, а калі сцяна доўгая або высокая, гэтыя долі дадаюцца адна да адной, і, нават не мераўшы, адразу бачыш усе няроўнасці. Таму ў адным месцы швы робіш вузейшымі, а ў другім шырэйшымі, і гэткім чынам выпраўляеш недахопы недасканалай тэхналогіі. Плітка замежнай вытворчасці — зусім іншая справа: там гэткіх праблем не ўзнікае, толькі калі дзе сам схібіш. Але тлумачыць гэта Пусі неабавязкова: яна ж не пыталася, чаму, проста спытала, што гэта?

— Там жа ўсё відаць! — прамовіла яна з абурэннем, калі не сказаць крыўдай, — тая пабітая плітка... А вунь тая, што побач, — яна не дастае да падлогі...

Плітка і сапраўды не даставала — на паўсантыметрыка якога пад самай трубой, але ж там будзе тумбачка. Хто будзе яе адсоўваць, каб паглядзець, як пакладзена плітка? А калі швы замажуцца заціркаю — спецыяльным рэчывам, якое разводзіцца вадою і потым цвярдзее, ад гэткіх хібаў і следу не застанецца.

— Гэта ж кожны прыйдзе і будзе мяне папікаць, — працягвала яна з ранейшым абурэннем, і я зразумеў, што гэты «нехта» ўжо быў.

Але казаць Пусі пра тое, што яна й сама добра ведала, што там будзе стаяць тумбачка, напэўна, не мела сэнсу: у гэты момант яна была як дзве кроплі вады падобная на сваю начальніцу, якая таксама не хацела нічога разумець, якая хацела толькі ведаць «што гэта?» Правільней, не ведаць, а, напэўна, пачуць ад цябе самога знішчальныя словы ў свой адрас, маўляў, які я няўмека, прабачце, я недагледзеў... І калі б ты прамовіў гэтыя словы, усё стала б на сваё месца — начальніцкія амбіцыі былі б задаволены. Але ж Пуся не на працы... Яна — дома... Дык няўжо і дома можна быць гэткай самай, як на працы?! Над табой жа ніхто не стаіць — ніхто не задае недарэчных пытанняў, дык ці абавязкова задаваць іх усюды?!

І я прыгадаў сваё самае першае адчуванне, калі сустрэўся з Пусяй у цэху... Я тады ніяк не мог зразумець, што ў ёй мяне адштурхоўвае... Вабіць і

адначасова адштурхоўвае... Вабіла, зразумела, яе ўсмешка... Але, як я прыгадваю цяпер, яна была не да канца шчырай: нешта стрымлівала яе, насуперак жаданню быць шчырай... Відаць, Пуся і сама не ўсведамляла, што ёй перашкаджае ў гэтым, яна яшчэ не зрабілася начальніцай, але ўспрыняла ад сваёй амаль што сяброўкі (а гэта было прыкметна) усё тое, што так не падабалася майму шэфу, які справядліва абураўся такім стылем паводзін і дзелавых зносін. Я не апраўдваю шэфа — у яго свае хібы, але сутнасць начальніцы ён зразумеў добра. І Пуся, якая штодзень варылася ў гэтым катле, не магла не ўспрыняць спецыфічнага стаўлення да тых, хто ніжэй за цябе... І не заўважыла, як з мілага, шчырага чалавека ператварылася невядома ў каго.

Калі я толькі пачынаў працу, мне хацелася зрабіць для маёй новай знаёмай усё як мага найлепей: чалавечыя адносіны паміж заказчыкам і выканаўцам вельмі істотная рэч, калі ты не бервяно. Але нават і бервяну лацвей плыць у спакойным рэчышчы, чымся абіваць бокі аб камяні. І тады, на самым пачатку, усё гэтак добра і было... Я нават згадзіўся зрабіць усё за не надта вялікія грошы — амаль як свайму чалавеку, хаця гэта быў і не вельмі разумны крок з майго боку, бо працы заўсёды аказваецца больш, чым мяркуеш спачатку. Я збіраўся сказаць ёй пра гэта потым, калі закончу ўсё, і разлічваў, што яна не будзе супраць падкінуць лішнюю пару соцень, але цяпер, пасля гэтых пытанняў і няўцямліва абуральных позіркаў, мне ўжо не хацелася ні гэтых лішніх грошай, ні ўвогуле яе кампаніі.

Я нічога не меў супраць Пусіка — кот, як кот, а Пуся — яна ж не котка, каб насіцца з ёй як са шматком сала: мяне ўжо раздражняла яе прымітыўная пяшчота і гэткая ж чалавечнасць. Пуся проста не ведала, да чаго іх прыладзіць. Так, развітваючыся са мною, яна не казала звычайнае «Да пабачэння!», але лёгенька памахвала рукою і прамаўляла працяжна і пяшчотна: «Бай-бай!» У гэты момант здавалася сабе вельмі сучаснай, бо без цяжкасцей ужывала амерыканскі слэнг — так яна лічыла, — але ў яе вымаўленні гэта сяброўска-фамільярнае ператваралася ў тое, што звычайна кажуць дзецям, калі яны кладуцца спаць. І гэта выглядала так, што яна не развітваецца са мною, а наадварот, запрашае пабыць з ёю яшчэ трошкі... каб палашчыць яе перад сном... Не паспаць з ёю, як спіць нармальны мужчына з нармальнай жанчынай, а менавіта палашчыць — не больш таго... Які дурань палічыць гэта найвышэйшай для сябе ўзнагародай, думаў я сам сабе, але растлумачваць Пусі, які сэнс хаваецца насамрэч за ейным «Бай-бай!», ані не хацеў — калі чалавек не разумее гэтага сам, не памогуць і тлумачэнні.

І вось нарэшце настаў і для мяне шчаслівы і вельмі адказны час: праца была закончана, і я прыдумляў ужо, як лепей сказаць Пусі пра тое, што выдаткаў у сэнсе працы было з майго боку трохі больш, чым прымяркоўвалі спачатку, і каб яна сама здагадалася, што маё старанне трэба нейкім чынам ацаніць, але атрымалася так, што мне і не давялося нічога прыдумляць: Пуся ўсё вылічыла і вызначыла наперад.

Калі я сабраў свае рэчы, яна паклала на стол некалькі соценных паперак і рашучым начальніцкім тонам сказала:

— Вось... я даю вам гэтыя грошы, як дамаўляліся...

— Але ж... — пачуў я, — вы самі бачылі, колькі было працы...

— Але ж мы з самага пачатку дамовіліся, — перапыніла яна мяне, і я зразумеў, што заводзіць спрэчку з-за лішняй капейкі, значыць, псаваць сабе настрой, і не толькі на сёння... І таму проста ўсміхнуўся:

— Ну, хай будзе так...

А сам падумаў: «Але ж табе не будзе ад гэтага лепей: загрызеш ты пяшчотаю свайго Пусіка, альбо ён цябе загрызе пасля ветлячэбніцы...», але не сказаў ёй нічога, бо скажуць ёй і без мяне — не ведаю хто і калі, але гэта не так істотна: кола круціцца ў адным накірунку, і мы не здольныя спыніць гэты рух.

Мая ўсмешка і нечаканая згода падзейнічалі на Пусю неяк дзіўна — з няўступчывай і нават зласнаватай гаспадыні яна ў імгненне вока ператварылася ў тую самую мілую і амаль што вабную жанчыну, якой я ўбачыў яе ў першы раз.

— Вы, пэўна, стаміліся прыязджаць да мяне... так далёка... Ды яшчэ пасля працы... — спагадліва прамовіла яна, і я зразумеў, чаго яна дамагаецца, і вырашыў згуляць з ёю ў тую гульню, якую яна прапаноўвала, але згуляць не па-ейнаму, а па-свойму:

— Я адпачну трохі... А тады, як набяруся сіл, мы закончым рамонт, — шчыра маніў я, пазіраючы ёй у вочы, і ў доказ сваёй шчырасці ківаў на столь. — Ды і той пакойчык яшчэ... — цярпліва пераконваў я Пусю, хаця выдатна ведаў, што ніякага рамонту я тут рабіць болей не буду, і Пуся таксама выдатна гэта ведала, але таксама шчыра маніла мне — у яе не было іншага выйсця:

— Я патэлефаную вам... Праз тыдзень...

— Можна і раней, — усміхнуўся я. — Дні праз два... — і ад гэтай шчырай маны, якую я нават і не хаваў, мне стала раптам незвычайна лёгка, нібыта я спадобіўся на самы высакародны ўчынак у свеце.

Спускаючыся ўніз па лесвіцы, я ўжо не смяяўся, а думаў пра тое, што прымусіла Пусю так нечакана змяніць свой настрой: няўжо тое, што я не стаў спрачацца з ёй за грошы?! Няўжо гэта было галоўным для яе?!

Калі яна зачыняла за мною дзверы, то ўсміхнулася той самай таямнічазагадкавай усмешкай, як і пры першым знаёмстве, і міленька прамуркала «Бай-бай!», зрабіўшы невыразны — ці то прызыўны, ці то развітальны — рух рукой.

Праўду кажуць: кожная жанчына — загадка, якую так і хочацца разгадаць.

А ці варта?! Можа, аніякай загадкі зусім і няма — адно прытворства?!

## ПАДАРУНАК

Сымон Пілітавіч Пакудовіч у свае сталыя гады рабіў начальнікам ніжняга склада. Ніжні склад — гэта тое месца, дзе прывезеную з лесу драўніну — доўгія, без веццяў, хлысты — рэжуць па асартыментах у залежнасці ад таўшчыні і якасці хлыста і адпраўляюць па чыгунцы туды, дзе лесу няма, а тое-сёе апрацоўваюць на месцы: распілоўваюць на дошкі або шпалы, ці — калі што горшае — на дровы.

Жыць яму па тым часе было някепска: начальнік ніжняга склада — фігура не з апошніх. Ведай толькі, як камандаваць, ды май галаву на плячах каб выпісваць каму трэба колькі там кубаметраў лесу ці дошак, а грошы... яны самі асядалі ў ягоных кішэнях, так што Сымон Піліпавіч не скардзіўся на свой лёс, хаця ў маладосці адседзеў два з паловай гады за «хуліганку» — праз тое і трапіў у леспрамгас, бо на якую іншую працу з гэткай адмецінай у біяграфіі тады не прымалі.

З-за гэтай даўняй зэкаўскай школы, ды яшчэ з-за таго, што потым, у леспрамгасе, ён апынуўся сярод «сваіх» — а большасць, апроч мясцовых жыхароў, былі людзі прышлыя, з той ці іншай «гісторыяй», Сымон Піліпавіч адчуваў сябе на новым месцы жыхарства амаль што ўтульна, хаця ўвесь час, як ён сам казаў, быў «начыку» — зэкаўскія законы, прыхаваныя цывільнай вопраткай, панавалі і тут, — і праз усё гэта характар меў рашучы і бескампрамісны: як ён вырашыў — так і павінна быць.

Сталая праца — ужо ў якасці начальніка склада — яшчэ больш замацавала гэту адметнасць.

Яшчэ маладым — у першыя «паслязэкаўскія» часы — Сымон Піліпавіч падлабуніўся да маладзенькай учотчыцы з мясцовых, згуляў вяселле, абжыўся і да пенсіі меў добрую гаспадарку, а таксама дзвюх дарослых дачок, якія павыходзілі зажум ды раз'ехаліся.

Адна бяда — рана памерла жонка, і гаспадарка засталася без нагляду. Месяцы праз два, палётаўшы, як ашалелы, з працы на гарод, Сымон Піліпавіч зразумеў, што без памочніцы яму не абысціся, і ўспомніў пра весялуху Насцю, якая таксама працавала некалі ў леспрамгасе, ды з'ехала ў райцэнтр, выскачыўшы замуж за аднаногага фатографа, які на тыя не надта сытыя часы зарабляў добрыя грошы.

Гады тры таму весялуха Насця таксама засталася адна, хадзіла ў мясцовы ДК спяваць у гарадскім хоры, і якраз там Сымон Піліпавіч і ўбачыў яе на сцэне, калі леспрамгас адзначаў свой чарговы юбілей.

Пасачыўшы за «артыстамі» і вылічыўшы, калі яны будуць выходзіць, Сымон Піліпавіч хуценька купіў кветкі і, як быў — пры гальштуку і ў святочным гарнітуры, падлавіў Насцю, ужо сталую — у гадах, але ў целе жанчыну, звярнуўся да яе так, як некалі ў леспрамгасе:

— Насцюха! А ты памятаеш мяне?

Насцюха, трохі падвыпіўшая — леспрамгасаўцы расшчодрыліся на невялічкі пачастунак «артыстам», — са здзіўленнем зірнула на высокага, яшчэ стройнага мужчыну, страсянула галавой, як яна заўсёды рабіла, калі кагось не разумела, і тады кудзеркі яе матляліся з боку ў бок і казыталі твар, але цяпер яны былі старанна запхнуты пад белую вязаную шапачку, і Насцюха не адразу пазнала аторву Сымона.

Толькі калі ён зняў капялюш, і Насцюха ўбачыла знаёмы, праўда, ссівелы непакорлівы чубок, памяць яе імгненна аднавіла колішнія гады, і яна здзіўлена-радасна выгукнула:

— Сымонка? Ты?!

— А ўжо ж! — стрымліваючы ўзрушэнне, задаволена ўсміхнуўся Сымон Піліпавіч і спытаў:

— Правесці цябе?

— Правядзі! — нечакана згадзілася Насцюха.

— А не зазлуе? — асцярожна спытаў Сымон Піліпавіч.

— Хто? — здзівілася Насцюха, а потым, здагадаўшыся, што Сымонка, напэўна, яшчэ нічога не ведае, на момант пасур'ёзнела. — Я ж цяперака адна, — і ўсміхнулася. — За сабой глядзі!

— Ды я таксама адзін, — уздыхнуў Сымон Піліпавіч, і яны пайшлі.

А праз паўгода Насцюха ўязджала на Сымонавым «Масквічы» ў новае для яе жытло...

...Шэсць гадоў праляцелі як адзін дзень: гарод, раз ці два на тыдзень провады мужа ў лес — Сымон Піліпавіч быў заўзяты паляўнічы, у добры сезон прыносіў дахаты то зайца, то глушца, а аднойчы прывалок вялізны

рукзак, макраваты знізу, хаця дажджу й не было, і, падміргнуўшы жонцы, дастаў з яго загорнутыя ў поліэтылен кумпякі мяса — цёмна-вішнёвыя ад запечанай крыві: яны ўтрох завалілі мядзведзя, але хваліцца гэтым нельга было — у суседзяў языкі доўгія, рызыкаваць стрэльбаю ды паляўнічым білетам не хацелася, і Сымон Піліпавіч, зірнуўшы на ўсякі выпадак у акно — ці не ідзе хто ў госці, хуценька скамандаваў:

— Падсалі і схавай у склеп... Паціху з'ямо...

Паляўнічае шчасце не надта й часта завітвала да Сымона Піліпавіча, бо ён, па сутнасці, быў верхагляд — гойсаў па лесе з сабакам, — а цярпліва высочваць ды падкрадвацца добра не ўмеў, перакладваючы гэту справу на сяброў, а вось свежаваць — на гэта ён быў мастак.

Паласнуўшы па горле добра наточаным паляўнічым нажом, Сымон Піліпавіч з дрыготкім нецярпеннем пазіраў, як на снег ці траву сцякае гарачая тахкая кроў, нават варушыў мёртвае цела, каб паскорыць гэты працэс, а іншы раз, нават не дачакаўшыся, пакуль кроў сцячэ, пачынаў свежаваць, з асалодай запускаючы пальцы пад яшчэ цёплую скуру, даставаў вантробы і кідаў у кусты сабакам, а потым з хрустам ламаў непадатлівую грудную клетку, і рукі яго ў крыві здаваліся не чымся асобным, што належала толькі Сымону Піліпавічу, а былі нібыта часткаю ўжо мёртвага звера, але чамусьці жывой часткай, якая рухалася незалежна ад застылага, распасцёртага на зямлі цела, усталёўваючы ў ім свае, невядомыя зверу законы, і кіраваў гэтымі законамі Сымон Піліпавіч, аднак ніколі не думаў пра іх, бо галава ягоная была занятая іншым клопатам: ці ёсць паблізу якая ручаіна ці балацінка — хіба з'явішся ў пасёлак з акрываўленымі рукамі?!

На паляванне Сымон Піліпавіч хадзіў з сабакам — сучачкай Эльмай, — а нядаўна прыкарміў яшчэ аднаго сабаку, невядома якой пароды, ростам з добрую аўчарку, але зусім не падобную на яе: як смоль, і схуднелага да немагчымасці, відаць, нехта кінуў, і сабака, ведаючы, дзе трэба шукаць ежу, прыбіўся ў пасёлак, але ніхто яго не браў — такога каня не накорміш. Здаралася, й самім есці не хапала.

Сымон Піліпавіч зірнуў на бяздомнага сабаку, ацэньваючы яго як памочніка, але нічога асаблівага ў галаве не меў — проста зірнуў, — але чарнявы ўсё зразумеў і наставіў морду на дзядзьку.

Сабачы і чалавечы позіркі сутыкнуліся, і чалавечы аказаўся слабейшым: Сымон Піліпавіч апусціў вочы — зразумеў, што не здолее адмовіць Чарнышу — так ён адразу ахрысціў знайдыша.

Хто сказаў, што сабака дурнейшы за чалавека?! Чарныш таксама адразу ўсё зразумеў і; нібыта пачынаючы гаворку, лёгенька вільнуў хвастом, але лаянкі ў свой адрас, што здаралася апошнім часам ледзь не кожны раз, не пачуў і, абнадзеены, ціхенька віскнуў — не гаўкнуў, а менавіта віскнуў, маўляў, гэта я, і калі ты, дзядзька, возьмеш мяне і будзеш карміць, я буду служыць табе верай і праўдай.

Сымон Піліпавіч умомант спасціг сабачы намер, і рука яго інстынктыўна зварухнулася — далонь лёгенька ляпнула па сцягну, даючы каманду «Да нагі!» — але Чарныш не скрануўся з месца: мо дзядзька жартуе?!

— Ну, як хочаш, — пакрыўджаны сабачай нязгодай, хмыкнуў Сымон Піліпавіч і рушыў дахаты.

Тут ужо Чарныш не вытрымаў — патрусіў услед. Яго хістала ва ўсе бакі, у хадзе не адчувалася пругкасці — Бог ведае, колькі ён галадаваў, — аднак кідаць новага гаспадара Чарныш не хацеў.

Насцюха сустрэла Чарныша ледзь не ў штыкі: летам яе здароўе неча-

кана пагоршылася — пачала задыхацца, калі схілялася над градкаю ці над місаю для Эльмы, — а тут яшчэ гэты Барбос... Яна не прызнала Сымонавай мянушкі і называла новага сабаку толькі Барбосам з-за яго непамернага ў параўнанні з Эльмаю росту, а Сымон Піліпавіч на сваім:

— Які ж гэта Барбос?! Гэта — Чарныш! Хіба не бачыш?!

— Не, гэта Барбос! — не згаджалася Насцюха. — Яму ж і чыгунка бульбы мала! Усё сажрэ... Кармі яго сам! Я не буду... Мне нагінацца цяжка...

Насцюха ўжо не спрачалася з Сымонам, як раней, даводзячы яму, што не варта рабіць тое ці гэта: пасля нядаўняга інфаркту не хацела высільвацца, бо чым далей, тым цяжэй рабілася дыхаць, нават ноччу. Яна не магла заснуць гадзін да трох-чатырох: брэх Барбоса, які стараўся аддзячыць гаспадару і гаўкаў на кожнага, хто нават проста праходзіў міма іхняй хаты, нерваваў Насцюху.

— Сымонка, — неяк незвычайна ціха, нібыта размаўляючы сама з сабою, звярнулася яна аднойчы да мужа і, з надзеяй паглядзеўшы на яго, нечакана папрасіла: — Зрабі мне падарунак да дня нараджэння...

Сымон прыгладзіў непакорлівы чубок і задаволены, што яго аб нечым просяць, — значыцца, патрэбен, усміхнуўся паблажліва і тужэй — яшчэ на адну дзірачку зацягнуў папругу — ці мала што Насцюха папросіць, мо цэбар са свірна прынесці — з вясны яшчэ абяцаў, дык трэба быць напагатове.

— А які?

Насцюха зноў зірнула на Сымона, вызначаючы, ці дойдзе да мужа яе незвычайная просьба, і, не знайшоўшы адказу, вырашыла не марудзіць: усё роўна гаворка калі-небудзь да гэтага вернецца.

— А зробіш? — на ўсякі выпадак спытала Насцюха.

— Чаму ж не! — пасміхнуўся Сымон. — Кажы ўжо, а то ў хлеў пайду...

— Слухай... адпусці ты гэтага Барбоса.

— Чарныша?! — адразу напяўся Сымон. — А куды я яго адпушчу?! І куды ён пойдзе?!

— Ну... тады застрэль! Навошта табе два сабакі?! Хопіць і Эльмы...

— Застрэліць?! А за што?

Насцюха ўжо зразумела, што просіць дарэмна, але спыніцца не магла:

— А за што ты іншых сабак страляў, калі суседзі прасілі?

— Дык то ж... — і раптам змоўк, не ведаючы, што сказаць. Зірнуў на Насцюху: яна сядзела за сталом, стомленая ўжо зранку — Барбос зноў не даў адпачыць, але за гэтай стомленасцю Сымону ўбачылася нечакана іншае — нейкая памаладзеласць на жончыным твары, быццам яна па невядома якой прычыне не набірала гады, а, наадварот, адсоўвала іх назад, і колішняя дзявочая прыгажосць, прабіваючыся на твар, разгладжвала маршчынкі і напаўняла шчокі лёгкай, але даволі прыкметнай чырванню — нібыта яна чагось саромелася — як у маладыя гады.

«Не можа баба стаць дзеўкаю», — падумаў Сымон, не ведаючы, як растлумачыць тую чырвань, і апусціў вочы.

Нічога не сказаўшы, ён схапіў пустое вядро, зусім забыўшыся, што збіраўся ў хлеў, і пайшоў у сенцы: там яму думалася лепей. Ён меркаваў, што Насцюха пажартавала наконт Чарныша — проста правярала яго, і гэтае дурноцце хутка пройдзе... Вось ачуняе канчаткова і супакоіцца...

Аднак паляпшэння так і не адбылося: ці то віною гэтаму быў інфаркт, што здарыўся летам, ці то цела, стомленае бесперапыннай штогадовай працай, адмаўлялася выконваць тое неабходнае, што патрабавалася, каб жыць далей.

І Насцюха, некалі вясёлая і жвавая, страціла не толькі жвавасць, але і ўпэўненасць у тым, што ачуняе: хваробы адна за адной падступаліся да яе, і ўрачы не ведалі, як падтрымаць здароўе, якога, па сутнасці, ужо не было. Калолі антыбіётыкі ды яшчэ «хімія», але дарэмна: пад самую восень Насцюха згасла.

Сымон Піліпавіч зразумеў, што гэта канец — ягоным гулянкам па лесе ды і ўвогуле ягонаму бесклапотнаму мужчынскаму жыццю: хіба гэта клопат — узараць агарод або выкапаць бульбу?! Так — жартачкі! А сапраўдны клопат гэта тое, што ён так і не зрабіў для Насцюхі таго, што некалі абяцаў — выконваць любую яе просьбу — адкладваў на потым... Цяпер ужо не адкладзеш...

На трэці дзень пасля хаўтур Сымон Піліпавіч забыўся нарэшце кароткім неспакойным сном, круціўся ў ложку, нібыта ўвесь час нешта мукляла, потым усхапіўся і працёр вочы. Ранішняя шэрань памалу адсоўвалася ад яблынь, дзе, каля плота, месціліся дзве будкі — для Чарныша і для Эльмы, — яшчэ раз пацёр вочы і раптам, нібыта ўбачыўшы нешта, без роздуму сашмаргнуў з цвіка стрэльбу, штурхнуў далоняю напалову расчыненыя створкі акна і, не цэлячыся — дуплетам! — стрэліў спачатку ў аднаго сабаку, потым у другога: зрабіў падвойны падарунак — сабе і жонцы...

## БРАДВЕЙ

Прыгожая з твару, яна не сумнявалася, што хлопцы ці мужчыны будуць абавязкова пазіраць ёй услед... Але толькі ўслед... Бо разлічваць на тое, што нехта з іх падыдзе і папросіць дазволу пазнаёміцца з ёй, а мо нават і правесці дахаты, было б з яе боку недаравальнай саманадзейнасцю і яна вельмі добра ведала гэта і таму ніколі не цешылася нязбытнымі марамі. А віною ўсяму была яе паўната.

Ростам трохі вышэй за сярэдні, вабная, калі зірнуць на твар, але не пашанцавала дзеўцы, у добрым такі целе, распаўнелая не сказаць каб да брыдкасці, і талія была прыкметная, і грудзі не звісалі, — усё было нібыта й суразмерным, але трошкі залішнім... І гэткае — у яе няпоўных дваццаць два гады! Тут бы й рабінцы танюткай не грэх задумацца, а ўжо ёй... Вось такія, як кажуць, прыбамбахі...

А ёй жа так хацелася зрабіцца паўнацэннай жанчынай — нарадзіць дзіця, гадаваць яго... Ды...

І яна дадумалася: апранула сваю любімую, нядаўна пашытую цёмнасінюю сукенку з белымі і жоўтымі кветкамі, някідкімі і небуйнымі, фрывольна абвіла шалікам з лёгкага белага шоўку, хай і паўнаватую, але ўсёткі прыгожую шыю і ўзялася была за сваю заўсёдную губную памаду цёплай сакавітай чырвані, але спахапілася, сцяміўшы, што гэткая зараз не падыдзе... Трэба іншую — напрыклад, колеру спелай слівы — каб усім было зразумела, хто яна такая...

Але ж у яе гэткай няма, трэба ісці да суседкі — дворнічыхі Валькі, якую яна не вельмі любіла за ейныя, скажам так, празмерна палкія адносіны да мужчын, якіх у Валькі было-перабыло... Але куды дзявацца. Трэба цярпець...

Валька ані не здзівілася просьбе і памады не пашкадавала. Слівовы колер зусім не пасаваў да Зінчынага твару — мазахістка нейкая, зірнуўшы на сябе ў люстэрка, падумала Зінка, а то й яшчэ горш: невылечная садыст-

ка! — але што зробіш: нечым заўсёды даводзіцца ахвяраваць — большым ці меншым... Пакуль што — толькі меншым...

Валька не ўтрымалася і спытала:

— А куды гэта ты?

— Ды так... На Брадвей... — неспадзявана ляпнула Зіна і пачырванела: што яна вярзе?!

— А-а-а... — здагадліва разявілася Валька і хітравата падміргнула. — Ты не лапухніся, глядзі — не вешайся на першага стрэчнага... Пахадзі, прыкінь... А тады ўжо... — і Валька летуценна закаціла вочкі. — І я з табой пайшла б, ды Федзька-баламут зараз падскочыць...

І Зіна, не даслухаўшы Вальку, адправілася на Брадвей — галоўную вуліцу іхняга горада. А на Брадвеі — чаго і каго там толькі няма! Дагэтуль — не было толькі Зіны... Быць-то яна была, але не ў гэткай якасці і не ў тых месцах, дзе без асаблівага клопату можна было пазнаёміцца з кім заўгодна і нават... прывесці каго-небудзь дахаты...

«Мо пашанцуе, — уздыхнула Зіна. — А то застануся навек старой дзеўкай, а то й зусім памру непацалаванай...»

Зіне пашанцавала: да яе адразу прыліп «чачэн» — так яго абазвала Зіна, хаця, як высветлілася, ён быў зусім не з Чачні, але аднекуль адтуль...

На здзіўленне ўсё склалася як мага лепей для Зіны: абодва зацікаўленыя бакі засталіся задаволенымі. «Чачэн», праўда, хацеў застацца яшчэ на адну ноч, але Зіна заўпарцілася: адзін раз, значыць адзін, а болей — то гэта ўжо не будзем казаць што...

Ужо назаўтра Зіне зрабілася весялей жыць. Сумненні, праўда, закрадваліся да яе, але на такі кароткі момант, што пра іх можна было б і не гаварыць. Зіна чамусьці была ўпэўнена, што ўсё атрымаецца так, як яна задумала. Клопат у яе цяпер быў толькі адзін: нічым не пашкодзіць таму маленькаму камячку, што б'ецца недзе пад сэрцам і праз пэўны час ператворыцца ў дзіцёнка... Хлопчыка ці дзяўчынку — гэта не так істотна: галоўнае — што яна... родзіць! Як усе жанчыны на свеце... А што малое будзе расці без таты, дык каго ты здзівіш гэтым у наш час?!

Цяжарнасць Зіна перанесла надзіва лёгка. І роды таксама... А калі дачушцы споўніліся тры гадочкі, Зіна аддала яе ў дзіцячы садок, і яны няспешна тупалі раніцай разам з дачушкай, чарнявенькай, але не шкілецінай, як той «чачэн», пра якога Зіна амаль і не ўспамінала, — калі мо толькі пры выпадку ды з лёгкім насміхам: Каму — прыгоды, а каму — жыццё...

Зіна не распаўнела пасля родаў — засталася амаль гэткай, як і была, — толькі хада зрабілася нетаропкай, паважлівай: а куды цяпер спяшацца?!

Так і жылося Зіне са сваёй Марусечкай, ды штосьці апошнім часам і без усялякай на тое прычыны, але ўсё часцей і часцей яе пачынала апаноўваць нейкая незадаволенасць, а чым — Зіна не магла ўсвядоміць...

Учора, напрыклад, яна зайшла ў аддзел парфумы і, пацікаваўшы на розныя шампуні ды крэмы, ад нечаканасці нават аслупянела: пад шклом у радочак красаваліся рознакаляровыя цюбікі з памадай — ад светлай серабрыстай да цёмна-вішнёвай... А з самага краю — колеру спелай слівы...

— Колькі? — перасмяглымі ад хвалявання вуснамі ледзь выціснула з сябе Зіна.

— Што «колькі»? — паблажліва пасміхнулася прадаўшчыца.

— Вунь тая... З самага краю...

— Яны ўсе аднолькава каштуюць — зірніце на цэннік!

...Зіна не ведала, куды дзець Марусечку, ды зноў выручыла суседка: паабяцала з'ездзіць з малой у вёску, куды запрасіў Вальку яе чарговы кавалер.

Зіне было трохі сорамна перад дачкой, але змагацца з тым пачуццём, што ахапіла яе, Зіна ўжо не магла: і днём, і ноччу яна ўспаміналі тыя дні, калі была цяжарнай... як гэта ўсё-ткі прыемна насіць у сваім целе чыёсьці новае жыццё... А яно, яшчэ сляпое і неразумнае, то заварушыцца, то штурхане ў чэрава галовачкай або ножкаю... Войкнеш ад неспадзяванкі, але болю не адчуваеш: замест яго — цеплыня, а ў роце — да неймавернасці саладка... Сэрца тахкае мацней, а грудзі наліваюцца чымсьці гэткім, чаго раней не было, і ніяк не дачакацца, калі ж маленечкі бяззубы раток ухопіць за смочку і кусне яе — раз, другі, трэці...

Якое ж яно зводлівае, гэта прыліпчывае слова — Брад-вей!

## СЛЯПЫ

Хіба дваццаць гадоў — малы тэрмін?! Якраз дастатковы, каб зразумець, што пара завязваць... Не на чарговы вузельчык — на тыдзень ці два, а назаўсёды... Бо спасцігнуць, што да дабра гэта не давядзе, дык даўно спасціг: тэрмін жа немалы — гадоў дваццаць як лёду! — зелле гэта праклятае жлукціў! І дурань спасцігне... Ну, будзе табе добра нейкія там паўгадзінкі... ну, трохі болей... а потым? Потым — ужо няма меры ні ў гарэлцы, ні ў брыдкасцях, што, не жадаючы, творыш... бо кантроль страчваеш... Але галоўнае — гэта каб хутчэй забыцца, не бачыць таго, што робіцца наўкол і з табой, і з астатнімі, хоць яны і цвярозыя... Во-во! Цвярозыя! Ім лепей відаць, што добра, а што не, што прыгожа, а што не вельмі, што прыстойна, а што ні ў якія вароты не лезе. Карацей, яны ведаюць, што такое праўда... А што ж гэта такое — праўда? Хто яе мацаў, у руках сваіх патрымаў? Тут як ні круці, а ў мяне — свая праўда, а ў іх свая, зусім не падобная на маю... І жыць па суседстве гэтыя дзве праўды аніяк не могуць... Бо пакуты, у якіх тыя праўды народжаны, не аднолькавыя: у адных — адны, у другіх — другія... Таму й розныя яны...

А чыя ж лепшая? Раптам мая? Ну, а тыя, каго больш, — яны як? Хіба яны не бачаць маёй праўды?! Хіба не згодны, што яна — самая праўдзівая з усіх праўд?!

Бачаць, чэрці! І цалкам з ёй згодныя! Але... маўчаць!!! Пэўна, баяцца, што пасаду адмысловую страцяць ці мо не ўпэўнены, што мая праўда заробак ім большы прынясе... Але і я, і яны — мы амаль аднолькавыя... Ну, паспрабаваў я праўду сваю давесці — раз... другі... З адной працы турнулі, з другой... За некампетэнтнасць, кажуць. З тае пары і маўчу... Хаця праўду сваю як і тады ясненька бачу... Хіба ўжо заплюшчыць вочы ды не глядзець на яе?! Дык, заплюшчыўшы вочы, не толькі лоб расквасіш, а й галаву скруціш... Вось тут і падаспеў той ратунак — хмель той пракляты!

І так добра было мне: быццам і ёсць мая праўда — нікуды не дзелася, і быццам бы не бачу яе, бо вочы заліў, калі ўжо не толькі праўду — самога сябе не бачыш...

І гэтак во — цалюткія дваццаць гадоў! Звар'яцець можна... Ды не звар'яцеў — праўда выручыла: жыла яна, сіротка, у нейкім завуголлі — куточку нябачным. Але ж я ведаў, што не памерла яна — жыве яшчэ! — ды, бедненькая, не дачакаецца, калі ж я нарэшце ў вочы ёй пагляджу... Ну, глянуў быў... Раз, другі... Хіба гэтага не дастаткова, каб зразумець, што раднейшай і больш праўдзівай за яе нічога на свеце няма?!

І кінуў тады сваю палачку-выручалачку — гарэлку тую праклятую...

Лёгка зажыў ды шчасліва — з праўдаю сваёй... Усё ў мяне ёсць: і сям'я, і дзеці, і праца — чаго яшчэ?!

Жыві ды радуйся!

Жыву — ды... не хапае чагось... Не сакрэт: добра жыць з праўдаю і па праўдзе, адно бяда: бачыш занадта многа — чаго нават і не хацеў бы... Ды што зробіш, калі вочы гэткія — прыкмячаюць усё...

Апошнім часам акуляры мусіў купіць — узрост вымагае... Аднаго разу, спяшаючыся, забыў прыхапіць футарал, дык не вяртацца ж па яго...

Еду — і ўсё нібыта ў тумане або паўзмроку: толькі постаці размытыя ды рухі не зусім выразныя... А што на тварах людскіх напісана, якую яны праўду з сабой нясуць, — і не разабраць... Во бяда, думаю...

І раптам — адчуваю! — нешта са мной гэткае, чаго ніколі ў жыцці не было: так добра мне неяк зрабілася, такі спакой на душы — не перадаць! Чаго б гэта?! Зірнуў зноў на людзей — адны толькі плямы! І вось тут да мяне нечакана дайшло: ды я ж не бачу нічога — ні твараў, ні выразу на іх... І таму, што не бачу, ужо не трэба мне ламаць галаву, сябра перада мной ці не, згодзен ён з маёй праўдай ці толькі прытвараецца, што згодзен... Усе, хто побач, у адно імгненне зрабіліся раптоўна маімі сябрамі — ну, проста цуд!

Дык мо гэтак і трэба жыць: не лезці да ўсіх са сваёй невядома якой праўдай, а проста пачакаць, пакуль і іншым спатрэбяцца акуляры, якіх раптам не акажацца пад рукой...



*ПАЛЫМЯНСКІ ДЭБЮТ*

## ВАЛЯНЦІНА ГАРНІСТАВА

***Валянціна Гарністава нарадзілася ў 1982 годзе ў Мазыры. Скончыла мазырскую гімназію № 1. Вучыцца на аддзяленні італьянскай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць».***

### СВЯТЛА ШУКАЮ

Адзіным махам,
Жывёльным жахам,
Акном разбітым,
Ключом забытым,
Сарванай кветкай,
Апошняй меткай,
Адчайным крыкам,
Звярыным рыкам,
Галодным крокам,
Пякучым зрокам,
Спрадвечнай траўмай,
Забытай ранай,
Святым пракляццем,
Чужым распяццем,
Вайны асколкам,
Душы абломкам —
Цябе чакаю,
Святла шукаю...

* * *

Гэй, Ваша Крылатасць, спусціцеся долу!
Абрыдла за Вамі па лёсах ганяць!
Стамілася віснуць між — пуста і поўна!
Хочацца жыць, а іду паміраць...
Вярніце душу мне! Навошта вам цацка?!
Вачэй не сляпіце! Не кідайце ўніз!!
...Адна засталася. Ні маці, ні бацькі.
Душы аскабалкі, пакутлівы брыз.
...Схаваю ў кішэні паўночнае неба,
Злуплю на касуху ўсю скуру з дарог,
Падамся туды, дзе пакутваць не трэба,
Дзе д'ябал, як пастка.
Дзе ўсюднасць, як Бог.

* * *

Самота лістоў засцілае падлогу,
Робіць нябёсы бліжэй.
Іду праз акно і чакаю падмогу.
Паўмесяц глядзіць, быццам кліча ў дарогу,

Раскрытую кнігу гартаю даўжэй...
Вясёлка ў шкле. Нежывыя аблокі.
Аконца ў Сусвет. Магістраль у нябыт.
Аловак у пальцах зацяты, далёкі.
Дванаццаць лістоў. Белы ліст адзінокі.
Апошняе: «Хопіць!» І першы іспыт.

* * *

Слухай: ціха плачуць рэйкі
І жалезны цмок, здаецца,
За сабою цягне сэрца,
Дзе зрабіць баішся крок...
Разбіваюся на шпалах,
Ветрам стыну у падвалах,
Мне чамусьці неба мала.
Шлях заблудзіцца ў палях.
Крочу.
Попел на лістах.

* * *

Горад, што быць стаміўся,
Стаіць у пяску па пояс,
Па горла стаіць у брудзе,
Бачыць наскрозь, што будзе.
Быццам ушчэнт разбіўся
Аб скруху вітрын мой голас.
Шкло дэфармуе рэха,
І слёзы ляцяць у келіх,
Пагляд напаўняе млосцю
Стагоддзяў хрусткія косці,
Што ўсё працінаюць смехам
І дзень мой дошкамі мераць...

* * *

Шоргат прыбою
Сем промняў зялёнага сонца
Полымя зброю
Вада выпівае да донца
Ціша маўчання
Пытанне памерлае мовы
Вера ў спатканне
Ізноў нараджаюцца словы
Блізка вар'яцтва
Бясконцай сталёвае стужкі
Трэба застацца
Паставіць квадратныя дужкі
Белае неба
Пагоня за новаю сілай
Узрошчанасць хлеба
Жыцця непазбежнага крылы
Почырк імклівы
Бадзянне рэальнасці ў масцы
Пошук прыліву
Даніна нясканчанай казцы

* * *

Не тое каб
Не тое быццам
Заўважыць знак
На ўсё забыцца
Застацца тут
Зрабіцца ветрам
Сталёвы спрут
Ідзе праспектам
Услых маўчыць
Парваўшы звязкі
Мой чарнавік
Заключнай часткі.

* * *

Другая дата пад партрэтам.
Другое сонца ў вышыні.
І памінальныя агні
Гараць у вечнай цішыні...
«За што?»
«За што цябе, Паэта?!»

* * *

Гудзе набат...
Хаваюць бога,
Каб ён вярнууўся ў гэты свет
Праз горкі смех чужых планет,
Праз вусцішнасць чужых парогаў!
Вяртанне з вечнасці прымі...
Вяртанне — скрушная прыкмета.
Смяюся шчыра ў твар сусвету.
Другая дата пад партрэтам.
Другое сонца ў вышыні.

* * *

Голае вецце
Драпае сэрца
Думкам балюча
Дождж у кішэні
Смерць на каленях
Дротам калючым

Неба смяецца
Зорка імкнецца
Вочы заплюшчыць
Ноч пазяхае
Безданню краю
Цемрай гаючай

* * *

Блукае неспакойны позірк-цень:
Лёг на сцяну. Пабег па белай столі.
Як цецярук, у снег схаваўся дзень.
Раскрылі вочы лямпы у пакоі.

Паглядам упіваешся ў радкі.
Чытаеш верш, напэўна, раз дзесяты.
Ірвецца аркуш думак на шматкі,
Да «водгука» эпітэт ўсплыў: пракляты.

Сціло зляцела на падлогу з рук —
Уласныя не слухаюцца пальцы...
Спыніўся думак непазбежны рух.
Спыніўся ўжо на слоўцы. На дэтальцы...

* * *

З днём нараджэння, боль мой!
Пальцы садралі столю,
Лесвіца ўверх наўпрост,
Рвецца ніцяны мост!
Вецер крылаты па росце мне!
Вернасць — палёт у сне!
Сонца заміж душы…
Думак абрус не зашыць…

* * *

Да ног вада — нібы сабака.
Дарогі шэрая ралля.
Лягло мінулае на плаху.
Маўчаць заўсёды служкі жаху.
Да пальцаў лашчыцца зямля:
Вось прыгаршчы, каб несці памяць,
Вось рэчаіснасці пагляд,
Стрымай душы звярынай самасць, —
Стрымай усё, што можна ўцяміць…
Згубіўся ў часе шлях назад!

* * *

Кіламетры, кіламетры,
Як стагоддзі, за слатой,
Пад зямлёю, праз паветра,
У Сусвеце,
На планеце
Сустракаюць нематой.
Ёсць яны. Былі. І будуць,
Быццам крылы за спіной.
Не чакаюць і не любяць,
Не запомняць, не забудуць.
Без цябе ўжо… і з табой.



**ВІКТАР АЛЬШЭЎСКІ**

# ПАЧУЦЦЁ РАЎНАВАГІ, АЛЬБО ЧАС УЗЫХОДЗЯЧАГА СОНЦА

*Дыярыуш мастака*

## КНІГА ПЕРШАЯ
## МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ

### Жнівеньскі пленэр у Германіі

***14.08.1996***

8.35. Цягніком Мінск — Брусель выехалі ў Бад-Зальцуфлен. На нямецкай мяжы ўзнікла праблема. На жаль, у Мінску мы не зрабілі копіі запрашэння, і таму паўстала пытанне аб правозе нашых карцін. Разам з мастаком Уладзімірам Зінкевічам тлумачым пагранічніку, прабачаемся за непаразуменне. Дзякуй Богу, малады немец не аказаўся бязлітасна прынцыповым чалавекам і свае ранейшыя пагрозы нас пакараць змяніў на добразычлівасць. Толькі цяпер мы зразумелі, чаго мог бы каштаваць пралік з копіяй запрашэння. Аднак нам пашанцавала.

Падарожжа было надзіва спакойнае. І нават польскія паны, якія на працягу многіх гадоў здымалі пенку ў памеры 50 марак за правоз багажу па іхняй тэрыторыі, на гэты раз прапусцілі нас без пабораў.

***15.08.1996***

7 гадзін раніцы. Прыехалі ў Беліфельд. Сустрэлі нас на мікрааўтобусе Рэджэп Мемішавіч, славенскі мастак, Анэт і Вілі Зайлер — гаспадары галерэі «Spektrun». Снедалі ў доме Вілі і Анэт. За сталом гутарылі аб тым, як хутка ляціць час, год прамінуў, як імгненне. У беларускіх мастакоў ужо стала традцыяй штогод бываць на зямлі Бад-Зальцуфлена.

Любое падарожжа было б шчаслівей разам з маімі прыгажунямі. Мяне не пакідае хваляванне ад расставання з дачкою. Як маленькае птушанятка, яна ляжала каля мяне і плакала. Мой ад'езд выклікаў у яе душы трывожны вобраз «смутку-разлукі-сустрэчы».

***16. 08.1996***

Дзень прайшоў і практычна і непрактычна, адаптаваліся, пазнаёміліся, пачынаем сябраваць. Рэджэп абжывае новы дом, але ў мяне ўражанне, што ён застаўся ў старым доме, бо планіроўка і сама атмасфера такія ж самыя.

Творы Мемішавіча не выклікаюць ніякіх сумненняў у іх каштоўнасці. Эмацыянальнасць колеравай гамы, як хваля, захліствае пачуцці і не пакідае абыякавым і глухім да творчасці гэтага майстра. Рэджэп знайшоў сябе і сваё месца ў мастацтве. На першы погляд — лёгкасць манеры, залівак, акварэльнай тэхнікі, але няма ўражання пустаты і механічнасці. Творы, як і сам іх аўтар, эмацыянальна ўзнёслыя. У іх выяўляецца ўспрыняцце свету мастаком, асабліва гэта яскрава перадаецца праз яркасць, адкрытасць колеравай гамы. Чысціня каляровай плямы, якая можа фармальна займаць значную частку плоскасці, разліваецца і перацякаць у складаную каларыстычную форму эмоцый. Колер вельмі моцна ўздзейнічае і ўтварае пэўны эмацыянальны настрой. Колер — гэта ключ да стану душы, які адкрывае альбо закрывае свет.

Рэджэп Мемішавіч нарадзіўся ў 1937 годзе ў Югаславіі. Закончыў Акадэмію мастацтваў у Белградзе, Акадэмію мастацтваў у Дзюсельдорфе, пасля чаго застаўся жыць у Германіі. Ажаніўся з нямецкай дзяўчынай, маюць трое дзяцей. Рэджэп — адзін з арганізатараў мастакоўскай суполкі «Дас Фахверк». Месцяцца яны ў старым доме, помніку нямецкай архітэктуры 1618 года. Мэрыя прапанавала яго мастакам у напаўразбураным стане, тыя ж не адмовіліся — забралі, адшукалі сродкі, адрэстаўравалі, частку дома адвялі пад творчыя майстэрні, зрабілі выставачную залу. З 1980 года тут рэгулярна праходзяць выставы, акрамя нямецкіх мастакоў, прыязджае шмат замежных творцаў. Дом стаў цэнтрам культурнага жыцця горада.

Паколькі выстава, якая планавалася пасля пленэра адбыцца ў Любеку, сарвалася, то гэта акалічнасць, безумоўна, паўплывала на арганізацыю нашага прыезду. Вілі і Анэт узялі на сябе клопат аб нашым пражыванні. Увечары высветлілася, што я магу жыць у Фахверку. Вечар правялі ў доме Вілі. Гэта добразычлівыя, добрыя, светлыя людзі. Прыемна і спакойна быць у іх. Атмасфера сяброўская.

...На жаль, мы не ўяўляем вобраз нашай выставы. Запрашэнне і плакат зроблены. Тэрмін кароткі, а выстава, як акцыя, не прадумана.

***17. 08. 1996***

Прайшло два дні пленэра. Складана, калі не ведаеш добра мовы, працаваць з 20 мастакамі. Уладзімір Зінкевіч і Валянціна Сідарава, на іх думку, пад канец дня, як выціснутыя лімоны. Сама акцыя забаўляльная, і прыемна, што ўсе задаволены.

***18.08.1996***

І яшчэ адзін дзень пленэра. Ужо значна лягчэй, больш-менш удаецца паразумецца. Дзякуй Рэджэпу, які, акрамя таго, што малюе, паспявае спраўляцца з абавязкамі перакладчыка. Ён іх усклаў на сябе па добрай волі, за што асобны дзякуй гэтаму чалавеку. А нам, беларусам, гутарыць з Мемішавічам можна і на родных мовах — яго славенская і наша беларуская дазваляюць паразумецца. Ад гэтага паміж намі ўмацоўваецца душэўная прыязнасць, нібыта мы далёкая, але ж радня.

***19.08.1996***

Прысніўся сон, ён быў шматсюжэтны і запамінальны. «Чаму ты так смяешся?» — запытала адна жанчына на французскай мове. І я яе зразумеў. Адказаць не змог. Але паблізу стаяла дзяўчына і пераклала мой адказ — «Таму, што я ўвесь час забаўляю сябе».

Дзея ў сне змянілася. І вось мы з мастаком Уладзімірам Зінкевічам і, не памятаю яшчэ, хто быў разам, разглядаем старую архітэктуру. Збіраліся пакінуць памяшканне. Але я паклікаў усіх у вялікі, як зала, пакой і стаў паказваць сцены і столь. Сцены далі глыбокія скразныя трэшчыны, а ў столі чорныя бэлькі раз'ехаліся — але нікога гэта не здзіўляла. Пачалі падымацца па лесвіцы ўгару паміж дзвюма высокімі сценамі. На трэцім паверсе лесвіца стала на дыбы. Я сказаў уперціся ў сцены рукамі і нагамі. І яны і я ўперліся — і лесвіца стала на месца. Я прачнуўся ад такой нечаканасці.

Гэтую ноч правёў у Мемішавіча. Сяджу ў зале яго новага дома, пасярод пакоя, на раскладушцы, і пішу. Усе сцены і ўсе куты завешаны, застаўлены і закладзены карцінамі. Добры мастак.

У Рэджэпа ёсць званок — на абед звоніць. Я яго замаляваў у свой падарожны нататнік.

***20.08.1996***

Сёння другую ноч спаў у садзе Мемішавіча. Калі ён даведаўся, што я хачу спаць у садзе, доўга смяяўся і ніяк не мог зразумець, што такое можа быць.

У летнія ночы ляжыш на зямлі, глядзіш у зорнае неба — пачуццё, нібыта сам раствараешся ў прасторы і патанаеш у зорнай глыбіні. У гэтую ноч бачыў, як праз усё неба праляцела вялікая камета, пакінуўшы па небасхіле яркую сцежку. У дзяцінстве падобнае відовішча было, калі ляжалі на капе сена і назіралі за зорным небам.

Амаль кожны вечар праводзім у Вілі і Анэт. Іх маленькі ўтульны дворык стварае добразычлівую атмасферу.

Неба нейкім чынам спрыяе таму, каб перакінуўся мосцік да вобраза каханай. Некалі ты сказала: «Будзем глядзець на зоркі ў расстанні». Неба — гэта тая прастора, якая ўзносіць твой дух высока і ты можаш апынуцца ў любым месцы Сусвету. У той вечар Вікторыя, калі пачула пра мой ад'езд, згарнулася каля мяне ў камячок, прытулілася і плакала. Дзіцячая шчырасць дае магчымасць заглыбіцца ў свае пачуцці. Яны застаюцца ў душы і чамусьці балюча раняць сэрца.

Каб зразумець сябе, трэба пабыць сам-насам з сабой. Тады зразумееш, што сэнс жыцця можа быць толькі такім, якім ты хочаш бачыць, адчуваць і трансфарміраваць сваё «Я» ў ім.

***22.08.1996***

Венгерская кухня. Прыемны вечар у сяброў — суседзяў Вілі і Анэт. Прыгожы замкнёны дворык: высокія елкі, кусты, кветкі і... у цэнтры гаспадар паставіў кацёл, развёў вогнішча — гатуе нацыянальную страву. Калі глядзіш на вогнішча, бачыш жыццё ў разрэзе часу. Час — гэта той момант, які можаш спыніць і ўсвядоміць: ты жывеш, адчуваеш і разумееш.

***23.08.1996***

Кожны дзень мае свой вобраз, характар. Каторую раніцу прачынаюся ў садзе Мемішавіча, неба зацягнута лёгкай смугой, і таму зоркі ноччу не праглядаліся.

Па дарозе заехалі ў Херфард па справах Рэджэпа, а пасля ў «Дас Фахверк».

***24.08.1996***

Ноч у садзе была дажджлівая. Звечара неба было ў «авечках». Прачнуўся ад першых кропель. Добра, пад рукою быў цэлафан, які я трымаў пры сабе. Укрыўся ім, як пайшоў спорны дождж. Так і спаў, а дождж барабаніў па цэлафане да раніцы. Коўдра месцамі намокла.

У 9 гадзін раніцы сабраліся ў доме мастакоў «Дас Фахверк».

***25.08.1996***

У горадзе — свята! Днём сустрэлі бюргермайстра з жонкай: прачытаў пра нашу выставу — зайшоў з візітам. Фахверкаўцы, акрамя піва, віна, розных гульняў, як заўсёды, наладзілі аўкцыён. Для «Фахверка» кожны з удзельнікаў пленэра дарыў твор, які пасля выстаўлялі на аўкцыён. Мой невялікі малюнак алоўкам прадалі за 350 марак, даволі высокая цана. Гэта таксама ўклад у скарбонку Фахверка, тым больш, што частка грошай ад пленэра — для гэтага горада.

***26.08.1996***

Дзень быў невыразны, з раніцы ішоў дождж, малявалі. А 16-й гадзіне разам з Рэджэпам і яго сябрам на дзвюх машынах адвезлі ягоныя творы ў галерэю Белефельда. Галерэя невялікая — шкляны павільён у цэнтры каля ратушы. Мемішавіч пазнаёміў мяне і Зінкевіча з чалавекам, які непасрэдна адказвае за мерапрыемствы. Першая дамоўленасць: на наступны год, у верасні, правесці нашу выставу. А наколькі гэта рэальна — пакажа час. Раніцай купілі білеты на цягнік Берлін — Масква. Разам з Вілі і Анэт 31-га едзем у Берлін на іх машыне, таму сёння некаторыя рэчы адправілі на аўтамабілі сябра сястры Анэт, якая гасцявала ў Вілі і Анэт.

Вечарам былі запрошаны ў госці да Федэрыкі. Два гады таму я маляваў яе партрэт. Бацька Федэрыкі, жвавы, энергічны мужчына, вырошчвае кветкі ў парніку. Невялікі дом поўны старых рэчаў. Маім прэзентам быў малюнак. Я зрабіў яго дні два таму, цяпер акурат спатрэбіўся. Сям'я была задаволена. Для нас накрылі стол, стаяла шампанскае, віно і нават гарэлка «Сталічная». Вярталіся позна.

Дома ў Рэджэпа не спалі. Пазваніла яго сястра Аміда з Дзюсельдорфа: у гэты дзень рабілі аперацыю на вочы яе мужу. Раней ён не бачыў, зараз, пасля аперацыі, сказаў: «Бачу». Пілі шампанскае, працягвалі гаворку.

У сад пайшоў апоўначы. Неба — то ў хмарах, то чыстае, свяціў яркі месяц. Сум іншы раз перапаўняе, і неяк цяжка на душы. Так было і зараз.

***28.08.1996***

Чацвер. Ужо ўчора змянілася надвор'е, дождж ішоў амаль увесь дзень. У ноч з 26 на 27-га рэзка пахаладала, неба стала яснае і празрыстае, нібы вымылі начыста, а халоднае паветра нагадала пра восень. Уначы неба зацягнулі хмары, і пад раніцу, гадзіне а чацвёртай, пайшоў дождж. Я быў падрыхтаваны да гэтага. Як толькі адчуў першыя кроплі, нацягнуў цэлафан і пад звон дажджынак заснуў. А дождж дробна барабаніў, у сэрцы нараджаўся сум, і мяне апаноўвала неўтаймоўнае пачуццё адзіноты.

Іншы раз можна сябе ўбачыць зусім іншым чалавекам. Спроба разабрацца ў сабе закранае механізм эмацыянальнай ацэнкі прычыны. Тваё каханне — гэта якраз той сум, тая прастора, як звод неба па-над табою, што не мае межаў. Жыццё мы можам успрымаць толькі скрозь прызму нашых пачуццяў. Яно можа быць поўным і глыбокім альбо пустым — калі не асэнсавана табою.

Пленэр завершаны. Перажыты яго эмоцыі, увасоблены ў карцінах думкі, вобразы, асацыяцыі... Я адзін у начным садзе, пад дажджом, загорнуты ў цэлафан. Холадна. Дыхае восень. Сумую па доме. У Мінск вяртаемся праз Берлін. Хутчэй бы!

## У краіне фіёрдаў, год 1997-ы

З 30 красавіка па 20 мая праходзіла мая персанальная выстава ў Галерэі мастацтва ў Мінску.

23 мая адкрылі выставу ў Светлагорску.

26 мая ў 8.30 вылятаю ў Нарвегію: Стакгольм — Осла — Трандхейм. У Стакгольме трэба атрымаць пасадачны талон. У аэрапорце даведацца, якім чынам адправіць рэчы і дзе потым атрымаць іх.

***27.05.1997, Намсос***

Сёння атрымаў свой багаж, які быў згублены ў дарозе. Дзіўная рэч — заканамернасць, якая існуе па-за нашым жаданнем. Усё пачалося з раніцы ў дзень вылету ў Нарвегію, 26-га мая. Зараз успамінаю падрабязнасці падзей.

Калі атрымаў білет, я не звярнуў увагі, што вылет з аэрапорта «Мінск-1». Дакладна разлічыў час ад'езду, каб доўга не чакаць у аэрапорце, разам з Міхалам, малодшым братам, на яго «Опелі» няспешна выехалі ў «Мінск-2». Па прыездзе ніяк не змог знайсці рэйс і таму запытаў у даведцы. Аказалася: тут «птушкі» не лятаюць у Стакгольм. Дзіўна, але і бацькі маёй маленькай спадарожніцы, якой я павінен апекавацца ў дарозе, таксама знаходзіліся ў зале чакання і нават не пацікавіліся пра рэйс. Былі моцна здзіўлены і ўзрушаны. Каб дабрацца да першага аэрапорта, у нас заставалася практычна гадзіна. На машыне Міхася, цяпер ужо даволі хутка, мы адправіліся ў зваротны шлях. Шмат часу затрацілі на дарогу праз горад, спяшаліся так, што двойчы праехалі на чырвоны святлафор. За 10 хвілін да пачатку пасадкі былі на месцы. Далей усё адбывалася хутка. Здавалася, чакалі толькі нас. Аб'явілі пасадку. У мяне было тры месцы багажу: куфарт, карціна і партфель. Багаж мой не нумаравалі, гэта тыпова для «Белавіі». Нас запрасілі ў аўтобус, а багаж, сказалі, даставяць самі. Унутраны голас падказаў забраць рэчы з сабою, і калі мы садзіліся ў самалёт і аўтобус ужо ад'язджаў, нешта штурханула мяне дагнаць свой багаж і забраць карціну ў салон. У 8.30 вылецелі на Стакгольм.

У аэрапорце Стакгольма я зразумеў: прыгоды працягваюцца. Мы ляцелі транзітам Стакгольм — Осла — Трандхейм. Перасадка на другі самалёт займала паўгадзіны. Забраць наш багаж я, вядома, не мог. Пры рэгістрацыі на рэйс да Трандхейма на кантролі патлумачыў сваю праблему. Шведка, дзякуй ёй, зразумела маю нарвежскую мову і па рацыі перадала інфармацыю ў багажнае аддзяленне. Дзіцё, якое ляцела са мной, было ў роспачы. Я адчуваў сябе дыскамфортна. Нават згадаўся сон у ноч перад адлётам: я зверху назіраў за ходам не надта добрых падзей. Хвалявання не было, але ад псіхалагічнага стрэсу ўключыўся ў падсвядомасці механізм трывогі. Ён незалежны ад свядомасці, непадкантрольны ёй. Цяпер адключыць гэту сістэму трывогі немагчыма, хаця і спрабуеш заглушыць яе спакоем і логікай: «Нават калі рэчы і згубяцца, то яны не маюць той каштоўнасці, з-за якой можна хвалявацца». Думкі ўсплываюць міжволі, парушаецца ўнутраная раўнавага. Усё гэта аслабляе ўвагу.

Прайшлі кантроль — і хуценька на новы рэйс. Пасадзіў дзіця, паставіў карціну, да адлёту лічаныя хвіліны. І тут заўважаю, што няма майго партфеля — згубіў! Я вярнуўся на кантроль, дзе, спадзяваўся, застаўся забыты мной партфель. Сваю нарвежскую мову ўжываў як мог, паслядоўна прайшоў увесь шлях, на якім мог застацца партфель, але трэба было змірыцца — лёс быў мацней, і ён са мной працягваў забаўляцца.

Мне дазволілі ляцець наступным рэйсам, праз паўгадзіны. У аэрапорце Трандхейма я звярнуўся ў інфармацыйную службу, але звестак, што мяне нехта сустракае, не было. Цяпер я ўжо застаўся і без рэчаў, і без дзіцяці, і без карціны. Спусціўся на першы паверх. Дзякаваць Богу, там я знайшоў дзіця і Харальда, з якім быў знаёмы па ранейшых сустрэчах, і шэфа па культуры — яны хвілін пяць, як прыехалі нас сустракаць. Мая гісторыя выклікала спачуванне, уся інфармацыя была ўнесена ў камп'ютэр адпаведнай спецслужбы аэрапорта. Мне было сказана: магчыма, заўтра рэчы, якія я раскідаў ад Мінска да Нарвегіі, даставяць мне ў поўнай цэласці.

Заехалі ў рэстаран у камфартабельным гатэлі. Пасля магутнай нарвежскай кухні нас завезлі ў «Кубус». Акрамя таго, што ў аэрапорце ўручылі нам па вялікай сумцы з туалетнымі прыналежнасцямі (якую я зноў згубіў), купілі ўсё неабходнае — ад трусоў да зубной шчоткі. Дзяўчынку, якой я апекаваўся ў дарозе, адвезлі ў сям'ю: там яна будзе жыць яшчэ з адной мінскай дзяўчынай, тая ў Нарвегіі знаходзілася ўжо 8 месяцаў. Пасля паехалі ў Намсос. Мяне пасялілі ў асобным доме для мастакоў.

Іншы раз пры аналізе нейкай жыццёвай падзеі разумееш, як паслядоўна — і ты не можаш гэтага змяніць! — лёс дыктуе свае ўмовы. Гісторыя з маім багажом нязначная, але яскрава паказвае заканамернасць. Безумоўна, вінавата мая няўважлівасць. Але чаму такое здараецца з чалавекам? Хто ўдзельнічае ў гэтай гульні з ім? І дзеля чаго яна?

Багаж мой сабралі і даставілі, як бы нічога і не здарылася. Спакойна, без напругі. Партфель нават запакавалі ў вялікую каробку, у якую мог улезці чамадан. Тыповы прыклад парадку ў гэтай краіне.

Я для сябе занатаваў у падарожным дзённіку некалькі высноў.

«Сусвет існуе па-за нашым уяўленнем аб ім.

Чалавек створаны Сусветам як увасабленне свайго «Я».

Чалавек так зроблены, што яго духоўная матэрыя кіруецца Сусветам. У чалавека ёсць магчымасць, але яе можа і не быць».

***1.06.1997***

Для мяне сёння, як ніколі, стала зразумела: я іду, мой рух бясконцы — яго пачатак і заканчэнне неспасцігальныя. *Я Іду,* я — няспынны; нават імгненне, калі мне думаецца, што я спыніўся, не з'яўляецца статычным — у гэтае імгненне прыходзіць спасціжэнне рэальнасці таго, што я іду, уласнага руху. Да майго нараджэння ў гэтым жыцці я існаваў бясконца. Як існуе матэрыя духу, так існуе і фізічная матэрыя. Удзячны лёсу, што я гэта разумею.

Я іду, а свет існуе па-за маім уяўленнем пра яго. Я буду ісці бясконца, пакуль у свеце ёсць матэрыя духу, фізічная матэрыя і тая матэрыя, якая існуе вечна ў любым вымярэнні. Чалавеку, як і кожнай істоце на зямлі, дадзена жыццё, але ж кожнаму жыццю належыць зразумець ісціну свайго існавання. Іншы раз мне здаецца, што вось-вось я спасцігну ісціну ўласнага існавання. Але якраз гэта тое імгненне, якое немагчыма спыніць.

Сем гадоў таму, калі першы раз быў у Трандхейме, жадаў наведаць сабор — святое месца гэтай зямлі. Я ўпершыню ў 1976 годзе слухаў арган у Магдэбургскім саборы, было ўражанне вечнасці — і той момант стаў адлікам вечнасці, якую сёння я разумею. Гэта рэквіем Моцарта ў 1986 годзе ў Домскім саборы ў Рызе, у 1996—ым — Рым, Кёльн. Вялікія і маленькія прыстанкі чалавечага духу, яны сведчаць аб ідэі вечнасці, па якой так сумуе наша душа.

Сёння прысутнічаў на ўрачыстай месе, прысвечанай 1000-годдзю Трандхейма. У 14.30 аўтобусам адправіўся ў Намсос. У дарозе вучыў дзеясловы нарвежскай мовы, разважаў, углядаўся ў ландшафт краіны паўночных фіёрдаў. Ехаў гэтым маршрутам упершыню і не заўважыў свайго прыпынку. Давялося вяртацца пешшу, бо ў нядзелю маршрутныя аўтобусы не ходзяць. Што ж, калі чалавек ідзе, то ён павінен ісці не толькі ў пераносным сэнсе.

Архітэктура готыкі — гэта пэўны вобраз уяўленняў чалавека аб мадэлі Сусвету. Заходзіш у храм — і нібыта сступіў са шляху ў бясконцасць, гатычныя зводы трымаюць па-над табою вечнасць. Але паступова адчуваеш, што ты прайшоў праз Браму, за якою бясконцасць быцця. У саборы я адчуваў, што знаходжуся разам не толькі з тымі людзьмі, якія ў гэты час тут прысутнічаюць, а і з маімі роднымі, сябрамі, якія зараз за тысячы кіламетраў ад далёкай Нарвегіі. Так, плынь бясконцасці на імгненне затрымалася. Цяжка асэнсаваць, перадаць і ўвасобіць гэтае імгненне, каб яно набыло зямную рэальнасць. Гэта і ёсць свет духоўнай рэальнасці, даткнуцца да яе можа найперш мастацтва. («Калі нараджаюцца зоркі» — гэта ідэя карціны прыйшла падчас месы: святло і неба, дзіцё і вечнасць...) Прыходзіць разуменне, што дух і рэлігія ўзаемапранікальныя. Рэлігія таксама культурная мадэль чалавечага грамадства. Яна падказвае чалавеку, накіроўвае яго: ты павінен пазнаць сябе. На жаль, атэіст і слепа веруючы чалавек вельмі падобныя, на іх пячатка статыкі. Чалавек павінен імкнуцца да духоўнай вечнасці і чысціні духу, на зямным плане — праз сябе — даць ім праявіцца.

Безумоўна, жыццё чалавека ў плыні вечнасці — імгненне. І трэба паспець у гэтае імгненне прывіць, ужывіць у нашу рэчаіснасць прачысты прамень Боскага Духу. Асаблівая роля, на маю думку, у гэтым адведзена дзіцяці. Дзеці — носьбіты той чысціні і святла, якіх так не хапае дарослым. Дзеці павінны як мага болей заставацца самі сабою, нельга адкрадваць ад іх час дзяцінства, уцягваць іх сіламоццем у жорсткае дарослае жыццё.

Святкаванне юбілею Трандхейма вылілася ў вялікае народнае гулянне. Раніцай у гавані, з якой і пачыналася гісторыя горада, было разыграна прадстаўленне, відовішча мне нечым нагадала «Пінскую шляхту». Маё месца было паблізу «бацькі» горада, сярод сваяцкага кола паважаных людзей сярэдняй часткі Нарвегіі. Я меў магчымасць з усімі пазнаёміцца, бо быў прадстаўлены. Безумоўна, было вельмі прыемна ўдзельнічаць у святочных падзеях, якія здараюцца раз у 1000 гадоў. І якраз апынуцца падчас іх у Трандхейме.

Свята было ўрачыстым, у той жа час не адчувалася нейкай надуманасці, напышлівасці, штучнасці. Дзень выдаўся сонечны і цёплы, гэта быў фактычна першы дзень вясны. У дзень майго прыезду, 26 мая, дрэвы стаялі яшчэ голыя, з набрынялымі пупышкамі.

Мяне пасялілі на вуліцы Мунка ў атэлі «Рэзідэнцыя», насупраць рэзідэнцыі «Конга» — караля Нарвегіі. Па заканчэнні прадстаўлення на набярэжнай пачалося святочнае шэсце. Конг з жонкай стаялі пры парадным уваходзе, з народам. Пасля пачаўся вялікі канцэрт. У 14 гадзін была запланавана сустрэча ў іншым месцы, і я пажадаў вярнуцца на плошчу. Праз пяць хвілін там, дзе я стаяў, прайшоў Конг са світай. На гэтым канцэрт закончыўся. Накіраваліся ў рэстаран на святочны абед.

А 19-й гадзіне выйшлі ў марскі паход, на борце — паважаныя людзі. Вечар быў надзіва прыгожы, вельмі цёплы, хаця дзьмуў даволі свежы вецер. Народ завіхаўся вакол багатага нарвежскага стала: шмат віна, піва і ўсяго астатняга.

Паднялі ветразь. Я зачаравана глядзеў, як вецер надзімаў яго, і карабель пайшоў. Спявалі — кожнаму была дадзена праграмка са словамі песень. Адзін з арганізатараў свята іграў на акардэоне, а пасля заспяваў рускую народную песню пра Сцёпку Разіна. Сонца павольна садзілася за горы, на вяршынях якіх ляжаў снег. Неба свяцілася містычным святлом. Карабель пад ветразем плыў, а людзі на ім спявалі. Час, у якім жылі, успрымаўся зусім інакшым. Дзіўна, але я ўспомніў сваю карціну «Сірэна», напісаную месяцы чатыры таму. Лілася песня, гучаў акардэон, сонца мякка плыло па небасхіле, карабель, нібы птушка, лунаў у прасторы, на люстраной мяжы дзвюх першародных стыхій — вады і неба.

Адчуванне рэальнасці часу і месца вярталася разам са з'яўленнем на гарызонце абрысаў горада, у якіх сучаснае і мінулае зліліся ў адзінае цэлае. Пазелянелыя ад часу вострыя пікі сабораў упіраліся ў неба і здаваліся ўвасобленымі ў зямным матэрыяле знакамі стагоддзяў.

Горад гудзеў, як вулей. На вуліцах і плошчах, у рэстаранах і кафэ спявалі, танцавалі, весяліліся да раніцы. Светлая ноч, нібы імгненне, растварылася ў хуткаплыннай рацэ часу. Усё сціхла: галасы, музыка, смех, радасць, — раніца поўнілася цішынёю. Горад, як і тысячу гадоў таму, нагадваў казачны востраў сярод прыгожых гор, азёраў, фіёрдаў. Нейкі сум агарнуў душу, і стала адзінока. Вось яно, імгненне, якое яднае нараджэнне і старасць, радасць і смутак, рэальнасць і ілюзорнасць. Мяккі туман ірэальнасці засціў убачанае. Можа, гэта выпрабаванне механізма памяці разуменнем? Душа — бязмерны акіян, яна можа раўняцца з Сусветам, бо здольная ўмясціць яго ў сабе.

## Аэрапорт у Варшаве

Дамоў вяртаюся праз Осла, Капенгаген. Варшаву. Праз паўтары гадзіны вылет на Мінск. Ноч у Rica Hell Hotel была неспакойнай, нягледзячы на камфорт сучаснага гатэля. Я пражываў момант расставання і вяртання. Вяртання да каханай, родных, блізкіх. Імгненні расставання і сустрэч, якія зведаў за жыццё, я перажываў занава. Вось бачу сябе ўпершыню ў аэрапорце Капенгагена. У доўгіх пераходах горада ідуць людзі, яны ідуць не толькі праз прастору, але і скрозь час. Утвараецца імгненне-след, што, як і сон, не мае рэальнага адбітку. Гучаць галасы, адны людзі змяняюць другіх, вір — думак, спадзяванняў, сустрэч, расставанняў, смутку, радасці. Горад рэальны, жывы. І ён жа, даўно пакінуты мною, таксама жыве ўва мне. Я — перасячэнне нітачак, повязь імгненняў. Месца, кропка, у якой вечнасць судакранаецца з зямлёю.

Вечнае існуе па-за нашым уяўленнем. Храм — мадэль уяўлення чалавека аб вечнасці, дзверы ў бясконцасць матэрыі духу. Матэрыя фізічная змяняе сваю форму: такім чынам працякае жыццё зямное. А матэрыя духу? Разлад у нашых душах, магчыма, ад зменлівасці матэрыі фізічнай...

## Італьянскія вандроўкі, год 1999-ы

***1.03.1999***

Раніцай сэрца зашчымела ад развітання з маімі дзяўчаткамі. Маё маленькае птушанятка яшчэ спала, я пацалаваў — яна ўсміхнулася, такая маленькая, кволая ў вялікім, бязмерным свеце рэчаіснасці, пачуццяў і мрой. Жыццё — гэта магчымасць адчуваць кожнае імгненне: радасць, роспач, надзеі і безнадзейнасць; гэта перапляценне нітак, якія сходзяцца і разыходзяцца ў прасторы. Момант расставання — ён неад'емны ад жыцця, прысутнічае ў ім пастаянна, ён завалодвае табою на хвіліну альбо ты ў ягонай учэпістай уладзе гадзіны, дні і болей. Ад'езд заўсёды абвастрае пачуцці, узбагачае эмацыянальны стан душы. Вобраз дзіцяці — тая прыгажосць і мера чысціні, радасць і Боская любоў, якія дараваны чалавеку. Мая душа поўная ўдзячнасці і бязмерна шчаслівая, што я маю гэта.

Развітаўся са сваімі каханымі, салодкімі, дарагімі і на таксі паехаў у майстэрню. Карціны загрузілі ў дзве вялікія скрыні, прывязалі на дах аўтамабіля, у якога былі праблемы з тармазамі, а колы сцёртыя і разбоўтаныя. Сябры дапамаглі — прыслалі «Volvo», у які я склаў свае рэчы. На парозе майстэрні сустрэліся і развіталіся з Уладзімірам Зінкевічам, выехалі а 8-й раніцы. На таможню нас правялі першымі. Працэдура звыклая, усё, як заўсёды. Майго калегу папрасілі дастаць даляры і пералічыць, а пасля раскрылі скрыні, агледзелі ўважліва. Мной не цікавіліся: з твару не выйшаў. Пасля «звінеў» адзін з нашых калег — і яго распранулі да споднягa.

Да Рыма лёту 2 гадзіны 40 хвілін, вышыня палёту 9600 метраў. Салон ТУ-134 не надта вялікі, але не запоўнены пасажырамі. Разам з намі ляціць група малых дзяцей, даволі спакойных. На зямлі туман, вільготна, а падняліся за хмары — сонейка. Уверсе прыгожыя аблокі, роўная белая пасцель і фантастычныя горы, нібы са снегу, — незямны свет са сваім космасам, сваім жыццём. Самалёт ляціць роўна, яго нават не трасе, калі ўваходзілі ў тумановыя пласты воблакаў. Мы імкнёмся да пазнання, новых адкрыццяў і пачуццяў. Чалавек так створаны, што яго жаданні патрабуюць быць рэалізаванымі.

Зямля Італіі адкрылася ў сваёй асаблівай прыгажосці. Воблакі, як размытыя акварэлі, плаўна перацякаюць па-над зямлёю. Ярка асветленыя сонцам горы, чыстая прастора, гарызонт — бірузовы. Заходзім на пасадку. За размоваю час палёту прамільгнуў непрыкметна. Зямля зялёная. Беларусь завалена снегам, не прайсці, не праехаць. А тут вясна ў разгары. Імгненне ўспрыняцця: спыняецца час, адлюстроўваюцца ў свядомасці, як на фота, няясныя эмацыянальныя структуры мыслення, думкі слізгаюць па паверхні таго, што адкрылася вачам. Зямля заліта сонцам, краявід упарадкаваны чалавекам і дагледжаны — уражанне, што ўнізе стаіць макет. Яшчэ імгненне, і дрэвы ў квецені набліжаюцца да нас. У Рыме плюс 15, сонечна. Цудоўны палёт і выдатная пасадка, самалёт коціцца да аэрапорта. Гэта маё трэцяе прызямленне ў Рыме. 12 сакавіка я адсюль адлятаю дамоў.

*25.04.1999*

Прачнуўся на досвітку. Дачушцы таксама не спалася, і «мышанятка» прыйшло да мяне, прыціснулася і заснула на маёй руцэ ў прадчуванні разлукі. А шостай гадзіне — пад'ём, час збірацца ў дарогу. У 9.30 загрузілі карціны, рэчы і выехалі на Брэст. Надвор'е прахалоднае, пахмурна. Радуе вока маладая зеляніна.

Мяжа. Усе рэчы ўжо на таможні, не распакоўваліся — прайшлі без прагляду. З нашага боку ніхто не мог парушыць правілаў правозу, мы прафесійна падрыхтаваліся да паездкі. Мастак — незалежная асоба, парушаць закон пярэчыць ягонай прыродзе. Мастак — гэта прынцып. Парушаць, разбураць, уносіць дысгармонію ў лад жыцця, у тым ліку і закона, мастак не будзе.

18.40. Ідзе дождж. Да Варшавы 46 кіламетраў. Некаторыя з пасажыраў глядзяць баявік па тэлевізары. Я любуюся краявідамі. Прыгожая пара — пачатак вясны! Мяне заўсёды вабіў гэты час у прыродзе. Я адчуваю, а можа, прадчуваю, моц жыватворнае сілы зямлі. Вяртаюся ў думках да вас, Света, Victoria — жыццё, пачуцці і каханне...

Хочацца самому за руль. Едзем роўна. У 1990 годзе па гэтай дарозе я ехаў у Нарвегію, дарога не змянілася, як і раней — ні яміны, ні выбоіны. Адразу асацыяцыі са сваім. Мы хочам жыць добра. Што робім для гэтага? Калі б кожны з нас нёс адказнасць за сваю працу, мы жылі б лепш за ўсіх. Не думай пра тое, колькі табе заплоцяць, думай пра тое, як ты робіш, як жывеш. Агульная маса, працэнтаў 90, чакае, бяздзейнічае. А жыццё — гэта і твае асабістыя адносіны да свету: да дрэва ў цвеце — нараджаецца пяшчота ў душы; да дзяржавы — вы не існуеце самі па сабе, вы супольнае... Рух адцягвае ад засяроджаных думак, рух дорыць мне бясконцы свет уражанняў. Аддаюся ў яго ўладу і прыемна адпачываю.

*26.04.1999*

7 гадзін раніцы. Мы ў Брно, у Чэхіі. Удзень экскурсіі па горадзе. Вяснова, цёпла, цвіце бэз. Сёлета мне падораны тры вясны. У адной я пабываў у Рыме, у сакавіку; зараз вось палюбуюся вясновым цвіценнем у Чэхіі і Аўстрыі; а ў маі мяне чакае радасць і раскоша вясны беларускай... У 15.30 выязджаем на Вену. Праз тры гадзіны мы ўжо ў аўстрыйскай сталіцы. На наступны дзень, 27-га, у 11.30 прыязджаем у Torino — горад, які з'яўляецца канцавою кропкаю нашай вандроўкі.

*2.05.1999, Torino*

Учора падчас абеду ў «Arcadii» канчаткова вызначылі план і назву выставы. Сёння абедаем у рэстаране «Porto», для яго гаспадыні наш візіт аказаўся нечаканасцю. Паразумеліся хутка. Смачна пад'елі, выпілі тры літры віна, стала весялей. Пасля абеду на аўтобусе паехалі ў музей сучаснага мастацтва — Museo d'Arte Contemporanea.

Зала, чорны раяль, поўна рознага смецця. Я націснуў пару клавішаў — адагналі ад экспаната. Зала з тэлевізарам і падушкамі. Пасярэдзіне рассцелена квадратная зялёная посцілка, зялёныя круглыя падушкі, тэлевізар паказвае зялёную прыроду. Папрасіў перакласці, што я хачу прылегчы на падушкі, — наша перакладчыца адмовілася. Тады я звярнуўся з гэтай просьбай да італьянскай мастачкі, яна запыталася ў гаспадароў — і мне дазволілі. Паляжаў, паглядзеў тэлевізар. Народу многа, мяне прынялі за экспанат. Секс-зала: напаўцёмны пакой, на сценах 4 фота па 2,5 м увышыню

і шырыню, чорна-белыя. Чатыры здымкі — парнаграфічныя пано, якія пошла, з падкрэсленай натуралістычнасцю прапагандуюць разнастайныя палавыя акты. Фініш! І той, хто дае згоду на прапаганду ў сучасным музеі мастацтва такіх «твораў», хворы не менш цяжка, як і той, хто гэтыя «творы» робіць. Калі мы гаворым пра мастацтва, то ёсць крытэрый духоўнасці. Калі ж мы бачым парнаграфію, то не трэба яе прадукцыю называць мастацтвам. Магчыма, яе вытворца — мастак у парнаграфіі, і толькі. У наступнай зале — гара зямлі, дрэва. Што ж: відаць, вельмі таленавіты аўтар... Яшчэ зала: з пластмасавых бутэлек складзена трохметровая цётка, усё гэта звязана каляровымі анучкамі; можна заходзіць усярэдзіну.

На маё разуменне, музей мастацтва — гэта канцэпцыя, прынцып цывілізацыі, людства. Тое, што змешчана тут, не мае адносін да мастацтва. Адсутнічае які б ні быў крытэрый духоўнасці.

***3.05.1999, Torino***

Роўна ў 10.30 да гасцініцы пад'ехала «карэта», адправіліся да Марко Датрына, на Аокту. Сонечны дзень. Само падарожжа і ўражанні, якія яно прыносіць, — частка жыцця. Дарога — бясконцы сувой інфармацыі. Згадваю сон, што прысніўся сёння ўночы. У ім утрымліваецца выразная інфармацыя аб доме. Разумею, што ён навеяны нявырашанымі праблемамі...

Італьянская вясна вабіць вока, зачароўвае, супакойвае думкі. Зеляніна распусцілася, цвітуць дрэвы, поле жоўтае ад кветак. Едзем павольна, 60 км у гадзіну. Па карце шукаем Торэ Канавэзэ. Нас там чакаюць к 11.00. Мінулы раз я ў Торэ Канавэзэ быў у сакавіку 1998 года. Сёння — май 1999 года. Сувязь з духоўна блізкімі людзьмі, шчырыя адносіны надаюць упэўненасці і лёгкасці на душы. Круты паварот на S.Giorgio, платная дарога — 4 ліры. Меладычная, крыху сумная музыка выклікае ўспаміны дзяцінства. Ад іх перакідваюся да вас, мае дарагія мурзікі. Дарога — гэта яшчэ і сум... Aglie — направа, прама — Торэ Канавэзэ.

У Торэ нас сустрэлі вельмі цёпла. Наведаліся ў замак Марко. Потым вельмі смачна паабедалі ў рэстаране, выпілі выдатнага чырвонага віна. Абмяркоўвалі выставу ў Torino, абгаворвалі новыя праекты. Марко прапанаваў застацца на 2-3 дні, кожнаму зрабіць пано для адкрытага, пад небам, музея Канавэзэ. Нечакана разгарэлася палеміка аб даце вяртання ў Мінск: у кожнага з нас дома важныя справы. Дзеля развіцця далейшых сяброўскіх творчых адносін з італьяскім бокам згадзіліся застацца.

Пасялілі нас у жаночым манастыры. Стары замак, вялікі парк, прыгожы і дагледжаны. Сёстры ў замку вельмі прыветлівыя, маладзейшай з іх гадоў дзевяноста.

Фантастычная пара года! Вясновая зеляніна, цвітуць кветкі: ружовыя, белыя, чырвоныя, жоўтыя... Пасля абеду пайшоў дождж. З вышыні замка прасціраецца прастора — мнагапланавы краявід з высокімі снежнымі горнымі вяршынямі. Горы ў акварэльнай смузе.

Вячэра таксама багатая — і стравамі, і вінамі. Разыходзімся па камерах: камера па-італьянску — пакой. Яны вялікія, прасторныя, з высокай столлю. Але сон быў цяжкі. Мроіўся дом, доўга не мог заснуць. Раніцай а 8-й спусціліся ў трапезную, якая месцілася ніжэй першага паверха. Снедалі за доўгім сталом, застаўленым фруктамі, гароднінай, сырамі, кавай. І да працы! Пісаць пано пачалі ўжо ўчора, адразу па абедзе. Сёння ў такі ж час закончылі справу. З добрым настроем на душы паехалі гадзіне а 18-й у бар піць марціні. На 5 мая запланавана паездка ў суседні гарадок, дзе нас таксама чакае ўдзел у мастацкай праграме.

Перад вячэрай пастаялі на самым высокім месцы палаца Марко і ўгледаліся ў снежныя вяршыні, якія то прасвятляліся, то расплываліся ў дажджлівым хмарным марыве. Я думаў аб тым, што ўсе нечаканасці і перапады ў жыцці чалавека абумоўлены, і я не выключэнне. Будзённае жыццё замкнёна, нібы знаходзішся ў бочцы і ўключаны ў тыя працэсы, што адбываюцца ў яе сценах; у той жа час іншае тваё жыццё працякае ў прасторы думак, межаў якой я не ведаю. Чалавек становіцца асобай, калі мае свой лёс, а лёс яму вызначае Бог.

***5.05.1999, Tore Канавэзэ***

Раніца. Краявід з манастырскага пакоя, у якім нас размясцілі. Паснедалі ў трапезнай, абслугоўвала матушка. Фрукты, сыры розных гатункаў, каўбасы, кава, гарбата.

З мэрам паехалі ў Аокту, у мінулым годзе мы жылі ў гэтым горадзе ў гасцініцы. Адбылася сустрэча з мэрам Аокты, ёсць перспектыва творчай акцыі. З Аокты вязу Вікторыі падарунак — ранец, купіў у магазіне для дзяцей. Прагуляліся па горадзе, вярнуліся ў Tore. Сонечны дзень, горача, раскрыліся горы, відовішча фантастычнае. Па дарозе завіталі да аднаго са знаёмых мэра. Ён вырабляе каўбасы, мае невялікае прадпрыемства. У двары прыгожыя кветкі. Гаспадар прынёс каўбас, частаваў шыпучым мускатам. Учатырох выпілі дзве бутэлькі. Было добра, горш не стала. Вярнуліся ў галерэю. Мэр горада, Эліо, падарыў прыгожую кнігу. Абедаць паехалі на дзвюх машынах. Як заўсёды ў Tore, абедалі з чырвоным і белым вінам. Гаварыліся цёплыя словы, пажаданні. Яшчэ раз запрасілі Эліо, Марко з жонкай прыехаць да нас у Мінск у кастрычніку.

Мужчыны, а нас сямёра, вярнуліся ў манастыр, развіталіся з манашкамі — яны былі вельмі шчаслівыя ад нашай прысутнасці, зняліся на фота на памяць. Развітваліся цёпла. На аўтобусе вярнуліся ў рэстаран, развіталіся з Марко і Эліо. Выехалі на Мілан, па дарозе завіталі ў вялікі магазін, але купілі не ўсё, што хацелі. Неўзабаве былі ў Мілане.

Ноччу ехалі ў гарах. Італія. Германія. Аўстрыя. Начныя краявіды ўражваюць прыгажосцю: падсветленыя замкі, глыбокія каньёны. Дождж...

***7.05.1999***

12.20. Нашу мяжу праехалі без праблем, з боку Польшчы транспарту было зусім мала. А з брэсцкага — краю не відаць аўтамабільнай чарзе. Праз некалькі гадзін буду дома.

## Далёкі свет дзяцінства

### Вярнуцца, каб ізноў пражыць

***10.06.1999***

Самыя цёплыя ўспаміны і глыбокія пачуцці — з дзяцінства. Давер і чысціня ўспрыняцця свету, натуральнае адзінства рэчаіснасці і фантазіі, матэрыяльнага і вобразнага — усё гэта ідэальна гарманіруе ў дзіцяці. Маленькая істота больш цэласна ўспрымае свет, чым дарослы чалавек. Кажуць, немаўлятак забаўляюць ангелы, і ў такія імгненні дзеткі смяюцца самі сабе. Важна не перашкаджаць ім, не парушыць, не абарваць гэтую сувязь. Космас дзяцінства працяты залатымі і сярэбранымі ніцямі-прамен-

нямі, якія лучаць свет зямны і свет нябесны. Дзіця, народжанае ў пустыні альбо ў квітнеючым аазісе, у палацы альбо ў хляве, мае сваю жыццёвую праграму развіцця. Праз вяртанне ў дзяцінства і я хачу асэнсаваць сябе як асобу.

Творца абвострана ўспрымае ўласнае «Я», бо падсвядома адчувае сябе як нейкую кропку, у якую надзвычай шчыльна сціснуты свет. Я памятаю фізічна, як раптам з кропкі пачынала вырастаць, пашырацца прастора, а калі я хацеў, то мог згарнуць гэтую прастору зноў у кропку — і яна спакойна месцілася ўва мне. Праўда, такія хвіліны патрабавалі засяроджанасці, і яны былі прыемна-пакутлівымі, і палохалі. Пазней я пакінуў эксперыментаваць з гэтым станам як з нечым небяспечным для сябе. Затое мяне больш моцна зацікавіў свет навакольны, і я спазнаваў яго таксама па-свойму. Першае пакаранне, дарэчы, атрымаў менавіта за такі эксперымент.

Са слоў маці, я быў вельмі патрабавальны: мая персона не магла абысціся ні на хвіліну без яе ўвагі. Любіў сядзець на руках і нават калі засынаў, не адпускаў маці ні на крок, скрозь сон адчуваў яе прысутнасць альбо адсутнасць і тады распачынаў плач. Вёска Вугольшчына, дзе я нарадзіўся, стаіць высока на беразе Друці. На многія кіламетры ад вёскі распасціраецца прыгожае наваколле. Лес ідзе паабапал поймы рэчкі. Веснавы разліў стварае ўражанне фантастычнай прасторы. Зялёны дыван першай травы ўсыпаны жоўта-залатой лотаццю. І ўсё наўкола патанае ў птушыным шчэбеце. Але бацькі пераехалі з гэтай маляўнічай мясціны ў вёску Вялікія Бялевічы, за шэсць кіламетраў ад Вугольшчыны. Там таксама было прыгожа, як і паўсюль на Беларусі. Мне тады ішоў другі год.

Жылі мы ў дзедавым доме. У дзеда была пасека і за домам — вялікі сад. Памятаю, як гады ў тры я трапіў у гэты сад. Яблыні гнуліся да зямлі пад цяжарам пладоў. Я сарваў і адкусіў адзін яблык, ён быў кіслы. Але я ведаў, што на смак яблыкі бываюць розныя, і пачаў шукаць салодкі. Яблыкі абрываць не стаў, а так як галіны гнуліся да зямлі, то я надкусваў кожны плод. Прадэгуставаўшы спрэс усе яблыкі, да якіх мог дацягнуцца ростам, я перайшоў да наступнага дрэва. І так захапіўся гэтай справай, што дзеда заўважыў толькі тады, калі мяне нехта моцна ўзяў за вуха: «Ну што, шчэлец, яблыкі шынкуеш?!» На разборку быў прыведзены да маці, якая мне растлумачыла, што так рабіць нельга, а каб лепш зразумеў і запомніў на ўсё астатняе жыццё навуку — усыпала крыху. Я наперад заказаў сабе гэтак болей не эксперыментаваць.

Дзед мой быў выдатны цясляр, усю сталярку рабіў сам. У гэты час бацька распачаў непадалёку будаваць новы дом. Дзед дапамагаў: рабіў рамы, дзверы і іншае. Электрычнасць у нас правялі толькі ў 1961 годзе і таму лес на дошкі пілавалі ўручную. Стаялі вялізныя козлы, на іх усцягвалі бервяно і вялікімі піламі — два чалавекі станавіліся ўнізе, два ўверсе — распілоўвалі яго на дошкі. З будоўляй дома і дзедавым цяслярствам у мяне звязаны яшчэ адзін яркі ўспамін дзяцінства.

***Працяг будзе.***

## ЛЕСЯ УКРАІНКА

### ПАСЛАНЕЦ ПОМСТЫ

У цемрадзі таемнай сярод ночы
Госць часта да мяне з'яўляецца, як сон.
У поглядзе нясе трывогу ён,
Бы ў зоркі Марса, ззяюць вочы.

Ён усміхаецца мне ў зваблівай кунезе,
Ва ўсмешцы бачу я нянавісць і любоў.
На белых крылах чырванее кроў,
Як вечаровая зара на снезе.

Мне словы мовіць ён. Нібыта страх вялікі,
У руках булат палае агнявы,
І ў сэрцы дзёрзкі покліч баявы
Уздымае зграю спеваў дзікіх.

«Што словаў бразгат! — госць мой прамаўляе, —
Я помсты пасланец, — учынкаў, а не слоў.
Не думай жа, што спеўны твой алькоў
Інакшых, — не цябе да бою заклікае.

Даю табе мой меч для лютасці супольнай.
Мой меч не цяжкі для адважных рук.
Ці ты баішся смерці, кары, мук,
Ты, што заўжды была душою вольнай?»

Ён падае булат, і ўзяць хачу я зброю,
Але не слухае мяне мая рука,
Бо лютасць гіне, як у суш рака.
«Ідзі, — кажу яму, — я не пайду з табою.

Не шкода мне жыцця, людзей страшуся болю,
Што між мяне жывуць, што поўняць свет сабой.
Калі ж заб'ю, то грэх паўстане мой,
Ганебнай хвілі пераджыць не здолю.

Твая слуга Кардэ, адважная нармандка,
У тыранах бачыла тыранаў цэлы век,

Але тыранам ёй падаўся чалавек,
Каб над забітым плакала каханка...»

І знік мой госць, і погляд той, і мова,
А ў сэрцы след крывавы, як таўро, гарыць.
І ўдзень перад вачмі той госць стаіць,
Душу гняце мной абарваная размова...

### ВЯРТАННЕ

Краіна родная! О, ты ў далёкіх мроях!
Мае ўсе думы да цябе імчаць,
У болі, радасці, ў надзей бясконцых рої
Так птахі з выраю ў свой край ляцяць.

Яшчэ не праспяваныя мной песні,
Ці не здаецца ім, што прынясуць з сабой.
Вярнуцца песні, быццам промень весні,
У край забыты, змучаны тугой.

І так было калісь, і так не раз бывала:
Надзеі на чужыне йшла шукаць —
Як на Радзіме мне іх бракавала —
Каб маладыя сілы абнаўляць.

Я марыла пра хуткае вяртанне
Сярод чужых прэўкрасаў і панад,
Але заўжды пакутнае трыванне
Прыносіў час, калі ішла назад.

Халоднай зброі бляск быў першым прывітаннем,
Пагляд напружаны кардонаў вартавых...
«Ці мы вяртаемся, ці йдземо на выгнанне?» —
Пытаўся спеваў, думаў рой маіх.

Мяне зноў абступала неспатольна
Сцяна няволі, знанай балазе.
І думка, што шукала славы вольнай,
Змяркала ўраз, як вязень у тузе.

Там ангел помсты злы, суворы дух цямніцы,
Праймаў мяне зноў зрокам агнявым,
І мроі чыстыя, бы ў горнае арліцы,
Прэч разганяў мячом сваім крывым.

І песні сцішана тады мае бруялі
Непраспяваныя, якіх тлуміўся рой,
Як думы, што трывожна трапяталі
Мятлушкі крыламі парой начной.

Не раз было мне прыкра і агідна,
Як у самотным лесе пад дажджом,
Нібы ў глухую ноч, было душы абрыдна,
І слёзы сэрца спаланялі дом.

Тады мне тая старана чужая
Здалася краем вечнае вясны,
Як птаху, што па выраю ўздыхае
Ў віры асеннім роднай стараны.

* * *

Так... кожны край мае прарокаў ад раю!
Няма толькі іх у цябе, родны краю!
Ды нават пры гетмане быў свой пясняр.
І з думаў адвечныя спевы ўзрасцілі.
А як іх імёны? І дзе іх магілы,
Каб хоць бы паднесці вянок ім у дар!

Адрынуў з іх кожны багацце дурное,
Бо вабілі вочы іх іншыя мроі.
Не вёў да палацаў іх шлях:
Не оды складалі, а думы народа,
Не стансам занудным апелі Свабоду,
А песняй, што нішчыла страх.

Тых песняў адвечных матыў уваскветы
Ўвабралі другія нашчадкі-паэты
І бацькаўскім шляхам пайшлі:
Ніхто іх не браў пад сваю абарону,
Ніхто не спускаўся з вышэйшага трону,
Каб ім пахвалу надалі.

Ім голаў не грэлі лаўровыя веці,
А німбам цярновым злы лёс іх уквеціў.
Самотай, — не золатам быў іх палон.
Не бляскам, а кроўю зіхцелі іх раны.
Калі ж на руках іх звінелі кайданы,
Не золата быў гэты звон.

## У ПУСТЫНІ

І мовіў Бог: «Належыць помста мне!
Хто ў моц маю не верыць, той не варты
Яе пабачыць. І пакуль апошні з вас
Зняверaны ў сваім граху не згіне,
Не ўбачыць мой народ мной земляў абяцаных!»
Так Бог сказаў праз вернага прарока,
І сказ яго лунаў самотна
Паміж пустыні. Потым наш прарок
Падняўся ў гору, каб здалёку глянуць

На той недасягальны дзіўны край,
І болей не вярнуўся. Мы ж адны
Ў пясках нямой пустыні засталіся.
Цяпер куды? На ўсход, на захад сонца?
На поўнач, поўдзень? Нам усё адно!
О, каб жа легчы тут, на той пясок гарачы,
Чакаць, пакуль віхура наляціць
І нам насыпле мёртвую магілу!
Але адное шкода немаўлят.
Ці нарадзіліся на тое ўсе яны,
Каб зведаць голад, смагі невыноснасць
І смерцю марнаю загінуць між пяскоў?
Лепш пойдзем мы пяскамі наўздагад,
Забіўшы ў сэрцах гадзіну знявер'я,
Адважна гледзячы даўчаснай смерці ў вочы.
Чаго баяцца? Нас труціў адчай,
Паліў, нібыта хіжая зараза,
І сэрцы расцінаў, як востры меч.
Памёр прарок — і гулка гром ударыў.
Хто правадыр для нас? Адная толькі мара,
Недасягальная, як марыва пустыні.
Мы пакараныя. Страшней нас пакараць
Сам грозны бог Адоніі не зможа.
Хадзем! Шляхоў пагрозныя пакуты
Нашчадкам нашым скарацяць дарогу
Да яснай і адзінай пэўнай мэты!

* * *

*Памяці С. М.*

Абарвалася доўгая размова.
Трымціць яна парванаю струной
У маім сэрцы. І душа пазбыта словаў,
Як ціша, што пануе над труной.

Туга паўстала цяжкім сном прыспанай
І разраслася ад зямлі да хмар.
Жаль запалаў прыбоем акіяну
І разбудзіў душы ліхі пажар.

Такі пажар — дыханне свежай сілы,
Той, ад якой паў не адзін тыран,
Што вызваляе добрай волі крылы, —
Мне дараваў ён словаў жоўчных стан.

Таварыш мой! Мне сорамна маўчанне,
Такі мой лёс — нібы жыцця праклён,
Дзе сум у спеве знойдзе вызнаванне
Віхурных мрой і думы будзіць звон.

Часы глуханямыя не заглушаць
Віхурных дум, яны бруяць, бруяць, —
Так, як нявольнікі рукамі зрушаць
Ланцуг кайданаў, так яны звіняць.

Няхай жа звоняць голасна кайданы.
Не буду заглушаць. О, каб змаглі
Яны збудзіць вясну і згоіць раны
Тых сэрцаў, што ўжо мохам параслі!

Калі б кайданаў бразгат мог ударыць
У сэрцы спячыя, збудзіўшы іх ад сноў,
Ціхмянасць душаў сорамам захмарыць,
І нагадаць, што зброі час прыйшоў!

Каб тая зброя ўзнялася да бою,
Заракатала, як вулкана кроў,
Тады замоўклі і самі б сабою
Кайданаў звон і жоўчнасць гэтых слоў.

***Пераклад з украінскай***
***Сяргея Патаранскага.***



*ПУБЛІЦЫСТЫКА*

АЛЕСЬ КАЗАННІКАЎ

# ЧАС ГЕРАСТРАТАЎ

Бяда ды і толькі: чалавеку заўсёды хочацца стаяць вышэй, чым ён стаіць; займаць больш значнае становішча, чым ён займае; выглядаць больш разумным, чым ёсць на самой справе. Чалавеку, асабліва з хваравітай амбіцыйнасцю, хочацца быць у цэнтры ўвагі, нават калі Бог не даў яму для гэтага ні таленту, ні здольнасцей.

Творцы заўжды былі і ёсць навідавоку, чалавецтва іх ведае, іх талентам захапляецца, іх імёны — на слыху.

А што рабіць тым, каму тварыць не дадзена, а ў гісторыю так хочацца ўлезці? Выйсце знайшоў чалавек, якога звалі Герастратам. У старажытнасці гэты чалавек зразумеў, што ў вялікіх і таленавітых людзей павінны быць антыподы: калі не кожнаму дадзена тварыць, то знішчыць вялікае тварэнне можа кожны. Тут свая раўнавага: разбуральнік вялікага становіцца таксама вядомым, як і стваральнік. Яны ідуць ў гісторыі побач.

Герастрат праславіўся тым, што падпаліў адно з цудаў свету — Храм Зеўса. Ён увайшоў у гісторыю, вобразна кажучы, з чорнага ходу і стаў першым героем ганьбы. З таго часу яго лаўры не даюць спакою вельмі многім жыхарам планеты Зямля.

## 1. ВЕЧНЫ ЦУД ЗАЎСЁДЫ ПОБАЧ

Так ужо склалася жыццё, што новыя цуды свету зараз не ствараюцца, а калі і ствараюцца, то не аб'яўляюцца такімі; а даўнія — не захаваліся.

Але нашы герастраты добра ўразумелі: ёсць вечны цуд, не чалавекам створаны, але ён заўсёды побач і з ім можна рабіць усё, што захочацца. Гэта — Прырода. Пераўтвараць, удасканальваць, падпраўляць, ламаць і крышыць яе можна бясконца доўга і, галоўнае, беспакарана. У гэтым істотная перавага нашых герастратаў перад пачынальнікам разбуральнага гераізму.

Спаліць Храм Зеўса — вялікі грэх, але ж не крах жыцця. А вось знішчыць балоты, лясы, водныя крыніцы — гэта ўжо знішчэнне самога жыцця. Ёсць і яшчэ адна істотная розніца: сучасныя герастраты не хаваюцца ад людзей, не бягуць ад закону, яны ўваходзяць у гісторыю з параднага пад'езда — займаюць высокія пасады, кіруюць жыццём, павучаюць людзей жыццю і зусім не адчуваюць сябе вінаватымі. У нас здаўна лічылася, і зараз лічыцца, што прырода — той аб'ект, які можна і нават трэба не проста ўтаймоўваць, але і гвалтаваць, нішчыць, круціць і перакручваць, апаганьваць... Падавалася гэта і падаецца ў форме толькі гераічных спраў. Праўда, у чарзе за ўзнагародамі заўсёды стаяць канкрэтныя нашчадкі Герастрата, але народ увогуле таксама побач: геройства — з'ява ідэа-

лагізаваная, масавая. У гераічным грамадстве перавярнуць прыроду дагары нагамі — справа гонару. І ніякіх альтэрнатыў. Трэба перагарадзіць вялікія рэкі, павярнуць іх цячэнне? Ці, можа, Паўночны Ледавіты акіян кінуць у цёплы Каспій? Ды калі ласка, адным махам. Спатрэбілася прымусіць не да канца пазнаную і недастаткова спасцігнутую атамную энергію служыць чалавеку — раз плюнуць. Газеты, тэлебачанне, радыё — ура! ура! Народ пляскае ў далоні.

І шарэнгі герояў...

У былым Савецкім Саюзе не мелася рэспублікі, нават вобласці, дзе не было б сваіх гераічных эпапей. Яны павінны былі быць, інакш мясцовым герастратам не хапала поля дзейнасці. А без такога гераізму мы ўжо існаваць не маглі. Трацўся сэнс жыцця.

На Беларусі аднойчы распачалася і на многія дзесяцігоддзі расцягнулася вялікая, можна сказаць, агульнанацыянальная вайна з балотамі. Самая магутная тэхніка капала, раўнавала, трамбавала, прасавала балотныя масівы. Рабілася гэта з размахам, з вялікім шумам. Гучала музыка ў гонар пераможцаў; радыё, тэлебачанне захліпаліся ад шчасця, газеты стракацелі аднастайнымі альбомнымі партрэтамі. І радасць, бясконцая і няўтрымная радасць, лунала над Беларуссю: збожжа не будзе куды дзяваць, купацца будзем у малацэ, а танныя мясныя вырабы раздадзім людзям бясплатна...

Будзем, будзем, будзем...

Героі, героі, героі...

Пад такое будучае была створана (а можа, і распрацавана вучонымі людзьмі?) адпаведная канцэпцыя, якая называлася вельмі нават прывабліва: рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў. Такі прынцып гаспадарання на зямлі здаўна ў нас лічыўся, ды што там — і зараз лічыцца — самым справядлівым. Здабыча карысных выкапняў, высячэнне лясоў, хімізацыя сельскай гаспадаркі, будаўніцтва магутных хімічных прадпрыемстваў, ну і, вядома ж, меліярацыя — усё было рацыянальным. А значыць правільным, адпавядаючым нейкім, нікому, праўда, невядомым нормам.

У практычным жыцці гэта выглядзела прыкладна так. Скажам, спецыялісты нейкага торфаздабываючага ведамства ідуць у высокія ўладныя кабінеты і кажуць: вось гэтае балота трэба тэрмінова асушыць і здабываць там торф. Справа, маўляў, рацыянальная. Побач запаведнік? Заказнік? Пушча? Ну і што — вось разлікі: атрымаем... павялічым... эканамічна апраўдана... І — лічбы, лічбы, лічбы...

А следам прыходзяць біёлагі, географы, возеразнаўцы. Прыходзяць без лічбаў. У іх толькі логіка — разумная, жыццесцвярджальная, прыродаахоўная: тут здабываць торф нельга — нашкодзім прыродзе. А каму трэба пустая логіка? Людзі ва ўладзе паказваюць разлікі, якія патрэбны і зацікаўленым спецыялістам, і ім самім. Яны хутка студзяць гарачыя галовы прыродаахоўнікаў: вы супраць таго, каб нашы людзі жылі багата?

Хто перамагае ў такім псеўдарацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў — зразумела. Нехта ж змог даказаць, што неабходна «рацыянальна» распрацоўваць тарфяное месцараджэнне «Асвейскае», якое прымыкае непасрэдна да аднайменнага возера. У выніку ў возеры рэзка ўпаў узровень вады. Так жа было меліяравана балота Дзікі Нікар — частка Белавежскай пушчы, тарфяное радовішча «Ельня» і іншыя.

Такі рацыяналізм цалкам адмятае практычны вопыт. Гэта чыстае кабінетны падыход да справы, які нікольки не абапіраецца на праўдзівае навуковае абгрунтаванне.

Прайшло не так шмат часу, а ўжо можна з упэўненасцю сказаць: тое, што некалі лічылася рацыянальным, зараз аказалася далёка не такім. Канцэпцыя выражала суб'ектыўныя погляды некаторай катэгорыі людзей. Была нанесена вялікая шкода прыродзе. Напачатку, калі толькі асушаліся балоты, на гэтых участках збіралі нядрэнныя ўраджаі. Радаваліся — якія, маўляў, мы прадбачлівыя. Крышачку наперад нікому не хацелася зазірнуць.

А што цяпер маем? Падводзім сумныя вынікі нашай рацыянальнасці. У Любанскім раёне асушаныя землі проста дэградзіруюць. На адной з нарад у Мінску прадстаўнік гэтага раёна з горыччу пытаўся ў залы, дзе сядзелі вучоныя, спецыялісты рацыянальнага выкарыстання прыроды:

— Што будзе з намі далей? Што нас чакае? Мы не можам сёння пракарміць сваіх людзей. Мы не ведаем, што нам рабіць. Ідзе працэс апустыньвання...

Вучоныя і спецыялісты сціпла прамаўчалі.

Вялікамаштабная меліярацыя на Беларусі ахапіла мільёны гектараў. Вялікія меліяраваныя ўчасткі, напрыклад, Палесся, злучаліся ў адзіную асушаную тэрыторыю, якая расла, разрасталася і пачынала неяк па-свойму ўплываць на навакольнае асяроддзе, фарміраваць зусім не аб'ектыўныя працэсы. Такім чынам адбылося разбалансаванне гістарычна складзенага жыцця вялікага рэгіёна. Акрамя таго з мільёна асушаных тарфяна-балотных зямель каля чвэрці іх ужо сталі непрыгоднымі для вядзення сельскай гаспадаркі — на паверхню выйшлі пяскі. У далейшым гэты працэс будзе актыўна развівацца. На думку акадэміка Мікалая Мікалаевіча Бамбалава, гадоў 50—70 мы яшчэ, мусіць, пакарыстаемся гэтымі землямі ў той ці іншай ступені, а далей яны выйдуць са строю, і людзі іх пакінуць. Зарастуць быльнягом, потым сасновым лесам... Інакш не атрымаецца, бо, каб узнавіць іх урадлівасць, спатрэбяцца вельмі вялікія сродкі.

Меліярацыя, як бачым, нічога важкага не дала беларускаму народу. Не патанулі мы ў моры збажыны і не напіліся ўволю нават паўтарапрацэнтнага малака. Замест балот узніклі пустыні, над якімі гуляюць чорныя пылавыя буры, тысячы рэк ператварыліся ў канавы.

З такой безвыходнасці вучоныя знайшлі самае простае выйсце: неабходна панова му ствараць балоты. Цікавая, хоць і гучыць крыху скептычна, ідэя, і нарадзілася яна ў лабараторыі эвалюцыі глеб і дынамікі ландшафтаў Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі, якую ўзначальвае акадэмік Нацыянальнай акадэміі М. М. Бамбалаў. З яго вуснаў некалькі гадоў таму нечакана прагучала фармуліроўка зусім новай канцэпцыі, новага падыходу да прынцыпаў гаспадарання, новы філасофскі погляд на прыроду ўвогуле — біясферна сумяшчальны працэс. Але гэта ўжо зусім іншая гаворка.

Дзіўная рэч, аднак людзі здаўна баяліся балот і адносіліся да іх са страшнаватым недаверам і гідлівасцю. Такая псіхалогія людзей дапамагала меліяратарам рабіць сваю разбуральную работу. І не толькі ў нас. У Заходняй Еўропе маштабная меліярацыя прайшла гадоў 200—300 таму. Значных балотных тэрыторый там ужо няма. Толькі вось карысці ад усяго гэтага еўрапейцы таксама не атрымалі. Асушаныя землі знасіліся, эфектыўнасць іх мізэрная. Цяпер немцы, аўстрыйцы, швейцарцы таксама імкнуцца вярнуць іх у першапачатковае становішча — забалочваюць.

Людзі ламаюць, перайначваюць, перакручваюць бедную прыроду па ўзроўні свайго інтэлекту. Спазналі магчымасць нішчыць — нішчаць; зразумелі першапачатковыя азы нейкай таямніцы — і ўжо ламаюць аснову жыцця, упэўненыя, што прырода не так зрабіла, памылілася. Расчараванне прыходзіць потым, часта з другімі пакаленнямі людзей, калі ўзровень чалавечага мыслення падымецца да ўзроўню вышэйшага пазнання. Але гэта ўжо сённяшняга чалавека не цікавіць — будзе пасля яго. Эгаістычная істота не баіцца суда нашчадкаў.

Сёння настаў час пераасэнсавання ролі балот у жыцці ўсёй планеты. Вучоныя ўжо даўно зразумелі, што калі асушаюцца балоты, то разам з тым назаўсёды знікаюць многія проста незаменныя іх функцыі: біялагічныя, акумуляцыйныя, міжкругазваротныя, ландшафтныя. Скажам, яшчэ зусім нядаўна пра газаачышчальныя магчымасці балот і ў нас, і за мяжой гаварылася вельмі нясмела. Успаміналіся з гэтай нагоды толькі лясы — лёгкія зямлі. Але аказалася, што балоты лепш ачышчаюць паветра. Зараз спецыялісты прыйшлі да вываду, што тры-чатыры працэнты балот планеты ачышчаюць атмасферу з такой эфектыўнасцю, як гэта могуць зрабіць усе лясы, што займаюць больш за 30 працэнтаў тэрыторыі.

Што тычыцца Беларусі, дык паводле ацэнкі лабараторыі акадэміка М. Бамбалава балоты фільтруюць паветра ў 10—16 разоў эфектыўней, чым лясы.

Акрамя ўсяго гэтага, еўрапейцы, застаўшыся без балот, пазбавіліся практычнага палігона для падрыхтоўкі батанікаў і біёлагаў. Напрыклад, нямецкія вучоныя, студэнты-дыпломнікі едуць у Беларусь, каб папрацаваць на нашых балотах, бо ў іх на радзіме даўно ўжо няма многіх відаў раслін, і яны іх ведаюць толькі па малюнках у атласах. Просяцца прыехаць да нас вучоныя з іншых еўрапейскіх універсітэтаў. Балотныя масівы Беларусі — гэта цэнтр Еўропы. Яны ачышчаюць паветра ўсяго кантынента і такім чынам фарміруюць якасць жыцця еўрапейцаў. Іх смела можна аднесці да сусветнай спадчыны, а значыць, атрымаць пэўныя выгоды ад іх існавання. Дарэчы, нямецкі прыродаахоўны фонд Міхаэля Отта ўжо праявіў гатоўнасць выдзяліць нам бязвыплатна паўтара мільёна еўра, каб ставарыць у поймах Прыпяці і Ясельды запаведныя зоны. Сусветны банк мае намер выдзяліць мільён долараў для ўзнаўлення некаторых балот — удакладняецца праект работ.

Ну а што робяць цяпер нашы неўтаймавальныя герастраты? Адны не трацяць надзеі яшчэ «пакалупаць» балоты, а другія з трыбун вельмі гучна і праўдападобна скардзяцца, як іх ламалі, прыніжалі вялікія партакраты з Мінска і Масквы, як яны ўпарціліся, але «супраць лома няма прыёма». Цяпер пішуць мемуары.

## 2. КАЗКІ І КАЗАЧНІКІ

Асушэнне балот — толькі момант у разбуральнай стратэгіі сённяшняга дня. Ён больш відавочны, бо вельмі ўжо маштабны працэс дзейнасці герастратаў новай фармацыі. А побач — сотні і нават тысячы герастратаў, якія практыкуюцца на праблемах атручвання вады, зямлі, паветра, знішчэння лясоў, расліннага і жывёльнага свету... А калі яшчэ глыбей зазірнуць, то з якога б боку мы ні падыходзілі, абавязкова ўпіраемся ў праблему здароўя людзей. Інакш не атрымліваецца. Прырода — асяроддзе нашага жыцця. Якое яно — такія і мы. Гэта, здаецца, усім зразумела. Але чаму тады людзі, якія так рашуча, энергічна, старанна разбураюць (а яны ведаюць, што разбураюць) прыроду, зусім не хочуць помніць, нават грэбліва моршчацца, калі ім напамінаюць пра дрэннае здароўе нацыі? Адзін чыноўнік высокага рангу мне катэгарычна сказаў: «Казкі ўсё гэта». — «Чые?» — пытаюся. «Не мае ж», — быў адказ.

Не адзін год у прэсе ходзіць прыкладна такая фраза: з-за дрэннага навакольнага асяроддзя ў Беларусі хварэюць трыццаць працэнтаў людзей. Ніхто гэтага не абвяргае, і, што зусім незразумела, ніхто канкрэтна з гэтым не пагаджаецца.

Адкуль узяліся такія лічбы? Ды ніадкуль. Са столі. Проста яны ўсіх задавальняюць і таму ўсім спадабаліся.

Калі такія трыццаціпрацэнтныя факты ўсім даспадобы — значыць, няпраўда. Значыць — казка. Хаця стопрацэнтныя герастраты не лічаць сябе казачнікамі. Яны прызнаюць сябе толькі рэалістамі. Дарэчы, той жа чыноўнік на маё сцвярджэнне, што ў нас стала падзеяй нараджэнне здаровага дзіцяці, адказаў да страшнага лаканічна: «Трэба менш піць». — «А Чарнобыль?» — дапытваюся. «Японцы жывуць даўжэй за іншых», — сказаў адказны таварыш. — Падумаў і дадаў: — Чарнобыль — віна неіснуючай дзяржавы». «Але знікае наша нацыя», — імкнуся прабіць бетонную сцяну раўнадушша. «Ніхто не знікае. Не трэба тыражыраваць непацверджаныя чуткі».

Словам, атрымліваецца так: у чарнобыльскай трагедыі сваіх герастратаў не было і няма, а здароўе людзей будзе лепшым, чым было.

Такая вось, аказваецца, у нас казачная будучыня.

Праўда, вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства лічаць інакш. Паводле іх даных, пачынаючы з 1986 года колькасць хворых на туберкулёз у нас павялічваецца прыкладна ў паўтара раза і,

адпаведна, на столькі ж узрасла і смяротнасць ад гэтай хваробы. Больш чым у паўтара раза стала хворых на злаякасныя ўтварэнні. Калі да чарнобыльскай катастрофы рак шчытападобнай залозы ў дзяцей сустракаўся адзін-два на год, то цяпер агульная колькасць такіх хворых перавысіла шэсцьсот выпадкаў. Як бачым, тут японскім доўгажыхарствам і не пахне.

У 1991 годзе Вярхоўны Савет Беларусі зацвердзіў праграму «Ахова мацярынства і дзяцінства ва ўмовах уздзеяння вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Навукова-даследчы інстытут аховы мацярынства і дзяцінства стаў галоўнай арганізацыяй па выкананні праграмы. Іх шматпланавыя даследаванні далі магчымасць назапасіць вялікі і пераканаўчы матэрыял аб сур'ёзных адхіленнях у здароўі дзяцей ранняга ўзросту, што залежыць галоўным чынам ад здароўя іх мацярок. І тут зноў праблем па самае горла.

У постчарнобыльскі перыяд значна павялічылася частата анеміі ў цяжарных жанчын. У Гомельскай вобласці гэты паказчык штогод павышаецца ў 4,8 раза. Назіраецца рост захворванняў шчытападобнай залозы, нырак і сардэчна-сасудзістай сістэмы. Калі да 1986 года ўскладненні пры родах узнікалі ў адной трэці жанчын, то ўжо ў 1994 годзе наадварот — толькі ў трэці гэты працэс праходзіў нармальна. Натуральна, што ў прамой залежнасці ад здароўя цяжарных жанчын знаходзіцца здароўе дзяцей.

Гэты ж інстытут правёў даследаванні біялагічнай каштоўнасці грудного малака. Заўсёды лічылася, што мацярынскае малако — гарант чысціні і карыснасці. А тут раптам выявілася, што па ўтрыманні вітаміну С яно паўнацэннае толькі ў пяці працэнтаў абследаваных. Колькасць свінцу ў ім ва ўсіх ста працэнтах правераных аказалася ў 6—10 разоў большай за дапушчальныя нормы. Толькі адзінаццаць жанчын са ста маюць нармальны ўзровень малака па цэзію-137 і дзевятнаццаць — па стронцыю... Медыкі ў тысячы дзяцей знаходзяць 997, 4 розных хвароб.

Мы сёння канстатуем:

у армію цяжка набраць хлопцаў, якія былі б поўнасцю здаровыя;

аслабленая імунная сістэма беларусаў не можа супраціўляцца самым звычайным прастудным захворванням;

генетычная памяць пачала даваць збоі — больш як 300 тысяч дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця...

Беларусь вымірае фізічна. У краіне ў два разы менш нараджаецца, чым памірае; колькасць самазабойстваў вышэй за сусветныя паказчыкі.

А мы самі сябе супакойваем — маўляў, толькі трыццаць працэнтаў; апраўдваем — трэба менш піць...

Сапраўды, піць трэба менш. Але ж даследаванні НДІ аховы мацярынства і дзяцінства проста ашаламляюць. І тут жа ў галаве ўзнікае трывожная думка: трэба тэрмінова прымаць меры, тармасіць улады, не даваць спакою людзям, ад якіх нешта залежыць, біць у набат...

Трывога непакоіць наіўных людзей. Людзі ва ўладзе ўсё гэта ведаюць лепей за нас. І прымаюць меры ў адпаведнасці з існуючай ідэалогіяй: навошта палохаць людзей, няхай яны жывуць спакойна і спакойна паміраюць. І таму (гэта адбылося ў 1997 годзе) праграму «Ахова мацярынства і дзяцінства ва ўмовах уздзеяння вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» закрылі. Спынілі фінансаванне — грошай няма. Трэба, маўляў, эканоміку падымаць, абследаванне ж людзей — задума непатрэбная.

Дарэчы, напярэдадні закрыцця гэтай праграмы дырэктар НДІ аховы мацярынства і дзяцінства доктар медыцынскіх навук, прафесар Георгій Аляксандравіч Шышко выступаў на адным з пасяджэнняў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, дзе падрабязна расказаў пра ўсе тыя праблемы, якія мы тут часткова закранулі. Слухалі нашы дэпутаты ўважліва — ахкалі і вохкалі... І закрылі праграму.

А ў душу закрадваецца гэткае страшнаватае сумненне: а ці трэба будзе хворым, не здольным паўнацэнна працаваць людзям гэтая самая эканоміка? Ці не

складзецца ў краіне такая сітуацыя, калі ў больш-менш здаровым (поўнасцю здаровым яно не можа быць) эканамічным полі будуць арудаваць фізічна і духоўна недаразвітыя чалавечыя асобіны?

Страшна.

А вось другая сітуацыя. Вучоныя Інстытута геалагічных навук НАН Беларусі ўпэўнена сцвярджаюць: людзі ў многіх сельскіх рэгіёнах краіны п'юць ваду, забруджаную чарнобыльскімі адходамі. Іх вывады ў нейкай ступені, можна сказаць, нечаканыя. Справа ў тым, што звычайна навуковыя даследаванні на радыеактыўнае забруджванне вады праводзіліся галоўным чынам на тыпавых пляцоўках у раёнах з высокім узроўнем паверхневага забруджвання — у трыццацікіламетровай зоне і на тэрыторыях, што прылягаюць да яе. Там, напрыклад, цэзій-137 даволі трывала ўтрымліваецца ў верхніх слаях глебы і вельмі ў нязначнай колькасці трапляе ў грунтавыя воды. У выніку атрымала шырокае распаўсюджванне і, думаецца, у нейкай ступені супакоіла грамадства думка, што радыенукліды ўвогуле глыбока ў зямлю не пранікаюць.

Але даследаванні, якія правялі супрацоўнікі Інстытута геалагічных навук не ў зоне, а ў 120—150 кіламетрах ад яе — у Лельчыцкім раёне, з'явіліся поўнай нечаканасцю. Здавалася б, там нічога дрэннага не павінна быць, тым больш, што і паверхневае радыенуклідное забруджванне невысокае. Атрымалася ж усё наадварот: цэзій выяўлены ў грунтавай вадзе на глыбіні дзесяці метраў. А гэта значыць, што ён можа трапіць у вясковыя калодзежы, з якіх п'юць ваду.

Аналізуючы такую з'яву, вучоныя прыйшлі да высновы: там, дзе адносна невялікая шчыльнасць паверхневага забруджвання на радыенукліды, але дастаткова высокае хімічнае забруджванне, адбываецца накладка аднаго на другое. Радыенукліды, злучыўшыся з камунальна-бытавымі, сельскагаспадарчымі, прамысловымі, іншымі хімічнымі адходамі, сцёкамі, ужо разам, больш энергічна і настойліва «штурмуюць» зямныя слаі і такім чынам трапляюць у грунтавую ваду. І гэта вельмі небяспечна, бо хімічнае забруджванне — рэальнасць для ўсёй тэрыторыі краіны.

Натуральна, была напісана дакладная і накіравана ў высокія кабінеты. І якая рэакцыя? З высокіх кабінетаў — ніякай. А меліяратары адрэагавалі хутка і пасвойму: паколькі, маўляў, калодзежная вада з-за радыенуклідаў непрыгодная для піцця, то трэба працягваць меліярацыю. Логіка вар'яцкая.

Нашы герастраты даўно заткнулі за пояс свайго далёкага заснавальніка разбуральнага рамяства. Знішчыць нейкую там пабудову, лічаць яны, — дробязь. Вось знішчыць жыццё на планеце — гэта ўжо вартая ўвагі ідэя. Галоўнае, давесці да чалавецтва, што такія дзеянні карысныя для яго самога. Балоты асушаюцца — на карысць; ядзерную энергію запрэглі ў непаваротлівы сялянскі вазок — для яго шчасця і радасці; абвальная хімізацыя, будаўніцтва хімічных гігінтаў, жывёлагадоўчых комплексаў — усё на карысць. Ну а што ад гэтага паміраюць людзі — праблема саміх людзей: не трэба многа піць.

І як бы ў развіццё такой ісціны на самых высокіх узроўнях пачалася гаворка аб рэабілітацыі забруджаных радыенуклідамі тэрыторый. Некаторыя дзяржаўныя «мужы» заклікаюць народ супакоіцца і не паддавацца на розныя «мяшчанскія» (такое слова аднойчы для гэтай сітуацыі прагучала на беларускім радыё) псіхалагічныя запалохванні. Тут жа сугучна з вялікадзяржаўнай палітыкай у гэтым плане пачуліся выказванні некаторых вучоных. Так, адзін вядомы сацыёлаг, акадэмік, неяк «асчасліві́ў» беларусаў, сказаўшы, што 60 працэнтаў жыхароў забруджаных раёнаў ужо адаптаваліся да становішча, у якім апынуліся.

Тут, думаецца, трэба дакладна размежаваць разуменні адаптацыі ў медыцыне і ў сацыялогіі. Медыцынская адаптацыя — гэта супрацьстаянне арганізма канкрэтнай сітуацыі, развіццё гэтага арганізма ў існуючай сітуацыі. На думку ж сацыёлагаў, калі чалавек адаптаваўся, то ён ужо не звяртае ўвагі на радыенукліды, харчуецца тым, што расце побач, дзяцей нараджае...

У біялагічным плане адаптавацца проста немагчыма, бо пры такім эка-

лагічным становішчы, якое склалася ў шматлікіх рэгіёнах рэспублікі, будуць нараджацца біялагічна непаўнацэнныя дзеці. Каму спатрэбіцца псіхалагічная адаптацыя, калі краіну будуць насяляць фізічна і разумова адсталыя людзі?

Страшнаватае будучае вымалёўваецца, таварышы герастраты. На парадак дня вырываецца пытанне аб генетычнай катастрофе нацыі.

Кажуць, у працэсе пазнання без ахвяр не бывае. З гэтым можна пагадзіцца. Сапраўды геаічна, калі эксперыментатары ахвяруюць сабою — прывіваюць сабе чуму, тыф, абпраменьваюць свой арганізм высокай дозай радыяцыі...

Калі ж гінуць людзі, якія не ведаюць нават пра ўчынены эксперымент над імі, — гэта злачынства. Сённяшнія герастраты сабою ахвяраваць не хочуць і не будуць.

## 3. ХТО АСУДЗІЦЬ?

На шчасце, прырода не падпарадкоўваецца ні сацыялістычнай, ні рынычнай, ні нават сацыяльнай арыентацыі чалавецтва. Яна існуе сама па сабе. Яна — найважнейшая субстанцыя, створаная магутнымі сіламі, пра якія мы нічога не ведаем. Нам бы паспрабаваць іх зразумець, нам бы нашы намаганні састыкаваць па магчымасці з законамі Прыроды, а мы ўсё робім насуперак ёй.

І тады, хочам мы таго ці не, наступае час пераацэнкі каштоўнасцей — вымушанай (аб'ектыўныя факты патрабуюць), частковай (упарта шукаюць апраўдальныя моманты), спрэчнай (героі заўсёды знаходзяць хітрыя навуковыя канцэпцыі)...

А разам з пераацэнкай каштоўнасцей без усялякага сумнення ўзнікае неабходнасць самага жорсткага, бескампраміснага, няўмольнага асуджэння.

Але хто будзе судзіць? І каго?

Судзіць, вядома ж, павінен народ. Але ў нас сёння няма народа, ёсць электарат — палітызаваны, разрознены, па-варожаму настроены супраць такіх жа, як і сам, але па-другому думаючых, непахісны ў сваіх нават не перакананнях, а ў невытлумачаных догмах. І ён маўчыць.

Народ, нацыя, ператвораная ў электарат, вялікае дасягненне палітыкі падману, замоўчвання, нацкоўвання. А калі член супольніцтва электаратаў памірае і, натуральна, не ведае ад чаго, — ён памірае ціха. І ўсе вакол маўчаць. А што тычыцца экалагічнай цішыні, то яна ўсталявалася ва ўсім нашым грамадстве. Сёння чалавек не ведае, якую ваду ён п'е, — а яна практычна ўся брудная і нават атручаная; не ведае, якія прадукты спажывае, — а яны часам атручаныя вышэй за дапушчальныя нормы, якія ў нас і так балансуюць на мяжы магчымага; не ведае, у якім экалагічным стане знаходзіцца зямля, паветра... Ніякай інфармацыі — і няма праблем. Зручна.

Здараецца, што іншы раз нехта з інтэлігентаў узнімае голас. Дык электарату даўно ўведзена ў вушы, што інтэлігенцыя зусім і не народ. Адзін з былых крамлёўскіх герояў, наш зямляк, вывеў ёй свой прысуд: усе яны нікчэмныя чалавечкі, памагатыя фашызму, сталінізму... Можна толькі здагадацца, з якога вопыту ён зрабіў такія высновы.

Некалькі гадоў таму на міжнароднай экалагічнай канферэнцыі ў Мінску адзін з замежных спецыялістаў з непрыхаванай трывогай сказаў, што гэта страшна, калі ў дзяржаве, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, у наш цывілізаваны век людзі не дажываюць у сярэднім да шасцідзесяці гадоў. Ён заклікаў аб'яднаць навуковыя сілы нашай краіны, каб выявіць прычыны такога стану.

Ніхто не аб'яднаўся, не пачаў выяўляць. Я спрабаваў даведацца — чаму такая відавочная і ўсім зразумелая ідэя нікога не захапіла? Многія вучоныя проста адмахваліся — не да гэтага, маўляў. Толькі адзін з іх адказаў, як думаў: гэта нікому не трэба.

Вось так. Больш таго, у Беларусі, здаецца, так і не праводзіліся кантрольныя эпідэміялагічныя абследаванні, каб паспрабаваць аддзяліць уздзеянне на стан

здароўя людзей забруджанага навакольнага асяроддзя ад фактараў спосабу жыцця. Калі ўсё ў кучы — больш блытаніны і няма вінаватых.

Дык каго судзіць?

У жыцці чалавечага супольніцтва заўсёды існуе нейкая мяжа магчымага, дазволенага, якую нельга пераступаць. За ёй невядомасць, а значыць — ніякай гарантыі. Невядомасць прывучала быць асцярожным. Але канкрэтны сённяшні чалавек ад улады, палітыкі, а то і ад навукі слухаць не хоча аб нейкай там мяжы, тым больш аб асцярожнасці. Ён спяшаецца, ён павінен быць першым, а таму прыспешвае і тых, хто побач. Трэба было б у таяміцы Прыроды ўваходзіць на пальчыках, а тут галопам. Эксперымент праводзіцца на людзях. Можна, вядома ж, і на жывёлах, але гэта не гуманна. Жывёл абараняюць шматлікія таварыствы. Таму эксперыментаваць над сваімі членамі гэтых таварыстваў і проста, і бяспечна.

Для герояў-герастратаў няма немагчымага, недазволенага. Яны гарантуюць тое, чаго нельга гарантаваць; нават сумленне іншых бяруць на сябе — знаёмы факты. Калі ж эксперымент правальваецца — знікаюць з поля зроку. І тады ўзнікае абстрактнае разуменне «ча-ла-век». Гэта ён, абязлічаны, абагулены, непрадказальны, эгаістычны «ча-ла-век» ва ўсім вінаваты. Толькі вось расплачваецца за ўсё гэта чалавек з канкрэтнай вёскі, горада, вуліцы, чалавек з імем і прозвішчам. Нясуць на могілкі канкрэтнага дзядзьку Івана ды цётку Мар'ю.

Вялікая загадка часу: чаму ў нашых людзей так абвострана развілося пачуццё разбурэння? Ледзь не з калыскі мы ламаем, разбіваем, выварочваем усё, што трапляецца пад рукі. Чым прыгажэйшая рэч — тым з большай лютасцю. Прыгожыя ліхтары на вуліцы разбіваюцца, а то і проста выварочваюцца з зямлі ў першую ж ноч; элегантную загародку паламаюць, не дачакаўшыся цемры; лавачкі для сядзення разбіраюцца па частках калі яшчэ і фарба на іх не высахла...

Няўжо нам так не падабаюцца прыгожыя рэчы? Няўжо прыгажосць настолькі чужая ява для нашага ўспрымання, што не можам змірыцца з яе існаваннем?

Такой з'яве цяжка знайсці іншае тлумачэнне, як толькі тое, што самі мы ніколі не жылі прыгожа, не бачылі таго светлага цяпла, якое ахутвае любую прыгажосць. А таму проста нішчым яе.

Акрамя таго, мы, думаецца, міжволі ўнаследвалі філасофію жыхароў вялікай імперыі. Наша краіна маленькая, кампактная і не вельмі багатая, а нам усё здаецца, што мы — гэта неабсяжныя прасторы, нямераныя і няўзважаныя багацці і няма патрэбы дрыжаць над нейкімі там дробязямі. Лянота думкі жыхароў вялікай дзяржавы стала характэрнай рысай грамадзян нашай невялікай краіны.

Быццам апраўдваючы гэтую думку, сёння ўсё часцей даводзіцца чуць, што нашы адносіны да прыроды — гэта гістарычна складзеныя традыцыі, што мы ніколі не выхоўваліся належным чынам, што само разуменне аховы прыроды — з'ява, якая ці не ўчора звалілася на нас. А паколькі мы жывём без вопыту мінулага, то і экалагічная культура нацыі на нулі.

Так кажуць — і ўсё гэта няпраўда. Вопыт мінулага на Беларусі быў і ён вельмі істотны. З даўніх часоў пытанні аховы прыроды на нашай тэрыторыі ставіліся вельмі востра і прынцыпова. Для гэтага дастаткова зазірнуць у Статут Вялікага княства Літоўскага (1588 г.), які з'яўляецца бліскучым прыкладам заканадаўчай дзейнасці свайго часу.

Звычайна мы прывыклі цытаваць выказванні Пятра I аб неабходнасці аховы лясоў, рэк... Але гэта было больш як на сто гадоў пазней, чым быў прыняты Статут.

У гэтым зводзе законаў нашай старадаўняй дзяржавы асаблівае месца адводзілася экалагічнай палітыцы Вялікага княства Літоўскага. Была распрацавана шматгранная сістэма канкрэтных палажэнняў, якія рэгулявалі працоўную дзейнасць сялян і рамеснікаў і іх адносіны да прыроды. Тыя палажэнні, няхай не падасца гэта наіўным, маюць практычны інтарэс і сёння. Ужо тады была распрацавана і дзейнічала сістэма пакаранняў і заахвочванняў, накіраваных на беражлівыя адносіны да навакольнага асяроддзя. Так, у прыватнасці, за падтрыманне чысціні

рэк і азёр прадугледжваліся спецыяльныя грашовыя выплаты. Асабліва гэта тычылася ачысткі рэчышчаў і акультурвання берагоў суднаходных і партовых рэк.

У артыкулах Статута абазначаліся тыя віды флоры і фауны, якія трэба было ахоўваць. Вось фрагмент аднаго артыкула: «...Пан, у чыім валоданні будуць (баб-ровыя) гоны, не павінен дазваляць сваім людзям і сам не павінен разворваць старое поле настолькі, што можна было б да бабровых гняздоўяў дакінуць палку. На такую ж адлегласць не павінен падкошваць і сенакосныя лугі і расчышчаць кусты».

Трэба сказаць, што ў Статуце былі закладзены прававыя нормы прыродакарыстання, якія арыентавалі грамадства на захаванне і памнажэнне прыродных багаццяў, на іх рацыянальнае выкарыстанне. Прычым у самых розных накірунках чалавечай дзейнасці. Тут дакладна і скрупулёзна трактаваліся правы і абавязкі бакоў, калі іх інтарэсы нейкім чынам перасякаліся. Вызначаліся правы і абавязкі тых, хто, скажам, ехаў працаваць на сваё поле, якое знаходзілася ў чужой пушчы. У гэтым выпадку распісвалася літаральна ўсё: што можна браць с сабою, колькі браць, што дазвалялася рабіць... Словам, рэгулявалася руцінная штодзённая праца людзей на прыродзе. Асаблівая ўвага надавалася ахове птушак і звяроў.

Як бачым, у Статуце відавочна праяўляецца не толькі стан культуры таго часу ўвогуле, але і канкрэтна ў галіне прыродакарыстання. Нашы далёкія продкі не толькі прызнавалі права людзей карыстацца прыроднымі аб'ектамі, але і «права» прыроды на сваё жыццё.

Такім чынам, пачынаючы з XVI стагоддзя, а можа, і яшчэ раней, і сама меней на 250 гадоў наперад, пакуль дзейнічаў Статут, лепшыя прадстаўнікі чалавечага роду — мудрэйшыя, разумнейшыя, якія найбольш востра ўспрымалі жыццёвыя памылкі, — пастаянна, з пакалення ў пакаленне гаварылі аб неабходнасці не толькі пазнаваць, але і ахоўваць прыроду. Яны імкнуліся выхаваць у людзей любоў да прыроднага асяроддзя, а праз яе — фарміраваць чалавека-асобу, як аснову нацыянальнай культуры.

Здавалася б, нам толькі і трэба было не забываць усё гэта і на гістарычных ісцінах фарміраваць сучасную свядомасць. На жаль, нічога з гэтага не атрымалася.

Што здарылася — наш чалавек іх не пачуў? Не захацеў усвядоміць і ўспрыняць?

Думаецца, што калі чалавек не ўспрымае гістарычную памяць, значыць, парушана, калі можна так сказаць, сацыяльна-генетычная памяць. І парушылі яе самі людзі сваімі вялікімі гістарычнымі і сацыяльнымі пераломамі.

Спачатку згінула Вялікае княства Літоўскае, кануў у вечнасць яго Статут, потым пайшлі чарадой іншыя гістарычныя катаклізмы. Ну а што тычыцца апошняга часу, то, як сцвярджаюць некаторыя філосафы, неспрыяльную экалагічную сітуацыю, што склалася на постсавецкай прасторы, можна разглядаць як вынік ідэалагізацыі культуры, якая канчаткова знішчыла экалагічную традыцыю і парадзіла на белы свет цэлую армію новых герастратаў. Ідэалагізаваная культура павінна была з'явіцца ў адпаведнасці з ідэалагічнай праграмай «вялікага пераўтварэння прыроды», дзе экалогія, як такая, проста ігнаравалася.

Дык хто спыніць сённяшніх герастратаў?

Электарат маўчыць. І будзе маўчаць вельмі доўга, пакуль нарэшце ён не знойдзе ў сябе сілы зноў зрабіцца народам і выцягнуць на святло ўсіх, хто спараджае зло. Іх і шукаць далёка не трэба. Яны побач: амбіцыёзныя палітыкі, якія толькі і ўмеюць прыгожа гаварыць; эканамісты, якія ніколі ніякіх эканамічных праблем не вырашалі; вучоныя, так да канца і не зразумеўшыя вялікую сутнасць свайго прызначэння...

Ненармальнасць, скажонасць, рабалепства...

І ў такой скажонасці — таксама помста прыроды. Яна пазбаўляе нас здароўя, цвярозага розуму, душэўнасці, суперажывання, магчымасці радавацца натуральнаму жыццю; яна адпраўляе нас на пагост...

Датэрмінова.

І гараць над нашай радзімай свечкі...

НАРЫС

МІКОЛА МІКУЛІЧ

# ШУМЯЦЬ НАРАЧАНСКІЯ СОСНЫ...

Стаяла ранняя, зусім яшчэ нясмелая восень. Было цёпла, сонечна і парна. На сінім купале высокага неба толькі зрэдку з'яўляліся шызыя хмары. Спакваля і няспешна ўсталёўвалася пара тыповай для беларускіх абшараў і звыклай для нас стрыманай красы прыроды.

Славуты нарачанскі край, радзіма аднаго з найярчэйшых талентаў беларускай літаратуры... Усё тут было тыповае для Беларусі, для яе клімату, прыроды і ландшафту, але нібыта вызначалася больш напоўненым зместам, адмысловай эстэтычнай выпраўкай. Да прыкладу, калі свяціла сонца, то свяціла абавязкова шчодра, на фоне не інакш як чыстага блакітнага неба. У яго пяшчотным, часам пякоткім промневым палоне, здавалася, цешылася ўсё жывое і нежывое. Калі ўсчынаўся вецер, то быў ён напорлівы і парыўчаты, уздымаў такія хвалі, якія на вачахператваралі возера ў мора — наша беларускае мора. Яны настырна біліся ў борт лодкі, нахілялі яе то адным, то другім бокам, пагрозліва захліставаючы ўспененай вадою. У такія часіны згадваліся хрэстаматыйныя радкі паэта даверасьнёўскай даўнасці, якія ўражваюць глыбокай філасофіяй аўтарскага мыслення, заангажаванасцю ў грамадзянска-патрыятычную праблематыку, арганічным сінтэзам асобаснага і сацыяльнага, вобразна-метафарычнай своеадметнасцю:

Нарач, як мора, шуміць
і на бераг круты наступае.
Дыміць над выгарамі і над палямі туман.
З ветрам узняўшыся, кружыцца вывадак чаек,
Спуджаных скрыпам абозаў і звонам кайдан.
І чуваць, па-над намі
лятуць недзе гусі у вырай.
Развітальны іх крык патанае ў глухой лебядзе.
Ды балюча скрыпяць і галосяць калёсы па жвіры,
Па мядзельскім тракту
бясконцы этап наш брыдзе.

Сонечная шчодрасць і лагода, мяккая цеплыня і лёгкая хмарнасць час ад часу змяняліся казытліва-волкай прахалодай дажджу, у вясёлых і спорных струменях якога на нейкі момант патанала ўсё навакольле. Яго буйныя кроплі падалі на сьвалы і галіны дрэў, рудую ігліцу і яшчэ зялёны мох. Здавалася, што тут, побач з возерам, усё, у тым ліку і зямля, і паветра, і неба, пахне вадою.

Дождж ленавата аціхаў і адступаўся. Даўгавата яшчэ пасля яго ў пажоўклае лісце, што ўкрывала лясны дол, шпокалі кроплі. У вільготным паветры стаяў водар ядлоўцу і моху. Спакваля сонечныя скразнякі зноўку пачыналі працінаць шаты разгалістых дрэў, нават калючыя лапы ельніку. Лашчылі вока і лагодзілі душу

сіняя паднебная высь і празрыстая азёрная далеч. Усё навокал нібыта ажывала, іскрылася, ружавела, маладзела. Свежасць і хараство, здавалася, былі разлітыя паўсюль.

Так, гэта была незвычайная зямля, незвычайныя ваколіцы. Усё было высокае, крамянае, яркае — сапраўднае, жыццядайнае. Адна і тая ж думка ніяк не адпускала мяне, настойліва нагадвала пра сябе зноў і зноў: толькі такая прыгожая зямля магла нарадзіць такога слыннага чалавека, як Максім Танк. Станавілася зразумелым, чаму ўзлёты творчага натхнення ў паэта надараліся якраз тут альбо былі выкліканы ўспамінамі пра гэтыя ці сумежныя з імі цудадзейныя мясціны. «Прызнацца, самыя неверагодныя задумы ў мяне зараджаліся ў маёй глухой Пількаўшчыне, — пісаў паэт у сваім знакамітым дзённіку. — У літаратурных сталіцах я толькі іх правяраў, прымяраў, як вопратку на кірмашы...» (23 студзеня 1975 года). Шчырасць гэтага прызнання не выклікае сумнення.

У атачэнні разгалістых соснаў стаю на спрэс укрытай сухою ігліцаю выспе. Сонечна. Высока ў небе звонка трымціць адзінокая птушка, па-свойму смакуючы наваколле, далеч, прастор і радуючыся жыццю. Яе трапяткая песня спадае на дол, коціцца па шматлікіх выспах і схілах прыазер'я, воднай роўнядзі, падымаецца зноў у неба. Адрывістыя чэргі самавітага стуку дзятла разбураюць сцярожкую цішыню на ўзбярэжжы ўнізе. Аднаго разу мне пашанцавала ўбачыць яго самога — шчуплага, дзюбатага, шызага колерам. Надзейна ўкленчыўшы на схіленай сухадрэвіне, прысеўшы на пруткі хвост, ён толькі зрэдку падымаў шылаватую галаву, відаць, каб перадыхнуць і агледзецца, і зноў браўся за свой звыклы занятак. Такая зацятая адданасць справе выклікала цікавасць і павагу.

Згадаўся верш «Дзяцел» са зборніка паэта «Глыток вады». Сумяшчаючы фальклорна-казкавае і рэальнае, ён стварыў паўнакроўны, поўны гумару вобраз:

Калі вялікі чарадзей
З праменняў сонца, зораў весніх,
Каб жыць жылося ўсялей,
Стварыў для кожнай птушкі песню,

Зляцеўшыся з усіх старон,
Крылатыя іх разабралі
І кукаванне, свіст і звон
Панеслі, радасныя, ў далі.

Адзін спазніўся той парой
Дзюбаты дзяцел. Затрымаўся,
Чуваць, на хрэсьбінах з кумой.
Таму без песні і астаўся.

Напэўна, нехта ўзяў яе
Сабе ў запас, а хто — не знае,
Хоць цэлы век свой дзюбай б'е —
У дрэва кожнага пытае.

Падчас штодзённага блукання і знаёмства з тутэйшымі ваколіцамі, не-не дый з'яўлялася думка — не магла не з'явіцца: добра было б і раз, і два сустрэцца з паэтам тут, на Нарачы, або на яго родным хутары, пагаварыць пра перажытае ім, пра няпростае сучаснае жыццё, нацыянальную літаратуру і мастацтва. Відаць, у тутэйшых умовах гутарка была б сапраўды раскаванай і нязмушанай. Цікава, як бы тут паэт паводзіў сябе? Мабыць, як і заўсёды: проста і натуральна, даверліва і шчыра, без аніякага разліку на знешні эфект і ўражанне. На вялікі жаль, гэтаму ўжо ніколі не ажыццявіцца. Вялікі жыццялюб, непераўзыдзены пясняр Нарачы пайшоў ад нас назаўсёды...

Дзень будзе прыходзіць на змену ночы, будзе адступаць злосная завея і вяртацца жыццядайнае цяпло, будзе шапацець маркотлівы дождж і выбліскваць яркае сонейка, будуць ляжаць маўклівыя валуны і шумець векавечныя сосны, будзе

трымтліва хваляваецца чароўная Нарач і заліваецца вясёлым спевам у небе жаўрук — але без яго... Яго ўжо тут ніхто не сустрэне, і не толькі тут. Жыццё будзе ісці без Максіма Танка. Ад усведамлення гэтага жорсткага факта на вочы нагортвалася тужлівая памарока. У такія хвіліны думкі блыталіся, ногі ступалі няпэўна, свет здаваўся вузкім і несправядлівым, шэрым і безаблічным.

Так і жыў я тымі, можна сказаць, яшчэ не набрынялымі восеньскімі дажджамі днямі, песцячы ў душы два дзівосныя вобразы выдатнага паэта і чалавека і яго чароўнай, мілай радзімы. Яны вучылі мяне любіць людзей, сваю родную зямлю, жыццё.

Дзівосна прыгожай на нарачанскім узбярэжжы была кожная пара сутак, але, мабыць, асаблівая прыродная лагода ўсталёўвалася апоўдні, калі ўсё таіла ў сабе рэдкую ўнутраную гармонію і святло, што своеасабліва ўтаймоўвалі, здавалася, усе супярэчлівыя думкі і пачуцці.

Мерна зыбаецца ў цёмна-сінім прадонні возера. Коцяцца, набягаючы адна на адну, то наступаючы на бераг, то адступаючы ад яго, невысокія хвалі. Час ад часу цверазіць адчуванні мяккі подых вогкага ветру. Стрыманы водар не такой ужо і цёплай азёрнай вады пераплятаецца з церпкім сасновым пахам. На добрыя метраў сто, а то і болей ад берага — тут зусім неглыбока. І таму, каб адчуць усім целам гаючую сілу і вабнасць цудадзейных нарачанскіх хваль, трэба ісці і ісці. Пакуль ідзеш — звыкаешся з прахалодай і золкасцю і пасля напоўніцу адчуваеш усю радасць яднання з жыццядайнай азёрнай стыхіяй.

Абавязкова трапляеш і на дзве бруістыя крынічкі, вуркатанне якіх чуецца здалёк. У гэтым баку прыбярэжжа пабіта хмызоўем, і яны прытаілся ў засені разлапістага арэшніку і ажыны за некалькі дзесяткаў крокаў ад станцыі пракату лодак і катамаранаў. Тонкая нітка ручайка ад іх спадае непасрэдна ў возера, дзелячы акрайчык прыбалочанай мясцінкі на дзве палавіны — усходнюю і заходнюю.

Калі я ўбачыў гэтыя гаманкія крынічкі першы раз, ад захаплення мяне аж скаланула. Колькі ў іх жыватворнай сілы, святла і красы! Як арганічна ўпісваюцца яны ў гэты зялёны, у буянні травы і крапівы, лажок, усыпаную апалым лісцем нізовінку, надаючы ім адценні цяпла і ўтульнасці!

Няма ніякага сумнення ў тым, што крынічкі былі прадметам асаблівай увагі народнага паэта, што каля іх ён неаднойчы запыняўся, каб наталіць смагу.

Тут жа, што называецца, у падсуседдзі, трымаецца колькі невысокіх асін, за якімі віднеецца маладзенькі дубок, а крыху воддаль — адзінокая алешына, што неяк адразу здалася прататыпам дрэўца з аднайменнага верша паэта, які ўвайшоў у яго зборнік «За маім сталом».

У кожнага дрэва пагудка свая,
Якой яно ўслаўлена, усцешана,
І толькі над Нараччу недзе мая
Забытай сумуе алешына,
Хоць з ёю зраўняцца не можа ніхто
У жывучасці, сціпласці, шчырасці,
Хоць бура згінала яе разоў сто —
Патрапіла выстаяць, вырасці.
Таму яе слаўлю я песняй сваёй,
І каб светлых дзён не паменшала,
Калі будзеш ты на радзіме маёй,
Прышлі хоць лісточак алешыны.

Якраз аднекуль з-за алешыны шумна выпырхнула чародка птушак і адразу асела ў бліжэйшым кустоўі і разнатраўі.

Згадалася: у сваіх шматлікіх творах Танк высока апаэтызаваў і птушак, і травы Нарачы. У многіх выдатных вершах мастака нібы жывыя паўстаюць сосны і валуны — векавечныя сімвалы роднай зямлі, чые вобразы заўсёды нясуць асаблівы духоўна-эстэтычны змест. Як сведка сівой даўніны, старажытных часоў і шматлікіх эпохатворчых гістарычных падзей ляжыць тут, на невялікай паляне,

сярод буйнарослых соснаў, стары замшэлы валун. Не пакідала ўражанне, што ён сапраўды ўсё ведае і ўсё помніць.

Па левы бок ад мясцовага санаторыя, мабыць, за ладны кіламетр адгэтуль, можна было згледзець прышвартаваны да своеасаблівага прычала і пераатвораны ў кавярню-бар не вялікі, але і не малы карабель. Кажуць, яшчэ гадоў два-тры таму ён плаваў па возеры, вазіў шматлікіх турыстаў і адпачываючых. За караблём мутна шарэе высокі корпус тургасцініцы.

Для плённага санаторна-курортнага лячэння людзей, іх аздараўлення і проста адпачынку тут зроблена і робіцца многа. Узнікае нават ураджанне аб перагружанасці возера, у прыватнасці, яго паўночнага ці, дакладней, паўночна-заходняга берага шматлікімі ўстановамі адпаведнага профілю і прызначэння. Мясцовыя жыхары ўсё часцей гавораць пра ўзнікненне ў сувязі з гэтым экалагічных праблем. Цікава, што раней, колькі дзесяткаў гадоў таму, праблемы былі якраз у непрыстасаванасці Нарачы да цывілізаваных форм адпачынку. Тады вядомы дзеяч партыі хрысціянскіх дэмакратаў у Заходняй Беларусі Адольф Клімовіч устрывожана пісаў М. Танку (ад 27 чэрвеня 1963 года): «Харошая яна (Нарач. — **М. М.**) яшчэ сваёю «дзікасцю», але разам і недаступная для такіх «дзікіх», як я, сваёю... нявыгодаю і дарагоўляю... Ёсць там «Турбаза», але там людзі толькі «ўрадуюць», а жыццё плыве ім па-над галовамі і ім за гэта галава не баліць. Ды і дабрацца да яе (турбазы) прыезднаму (з чыгун. вакзала ці з аўтабуснай астаноўкі) — справа зусім не лёгкая. І што выходзіць? Адзіночныя («дзікія») турысты пападаюць з канешнасці ў рукі прыватнікаў, якія здзіраюць з іх колькі ўдасца (за пакоік і ноч ня менш (!) 2 рб.), а колектыўныя (экскурсіонныя) становяцца абозам у прыбярэжным лесе і сваім «промыслам»здабываюць сабе прыпынак (ставяць палаткі), раскладаюць вогнішчы. Прайдзецеся ўздоўж берага возера і пабачыце, колькі там стройных сасонак стаяць з пакалечаным суччом... Усё гэта сляды турыстычных папасак. На месцы няма ніякага інфарматара. Як бедна і прымітыўна выглядаюць паштоўкі з відамі Нарачы (нават у параўнанні з прадваеннымі выданнямі Булгака!)...»

Маўкліва гляджу на блакітна-сінюю роўнядзь возера, на зеленаватыя ад моху і водарасцей камяні і лодкі на прыбярэжным мелкаводдзі, выгоністыя сосны і кусты арэшніку ў высокай траве і міжволі адчуваю сваю далучанасць да гэтага прыгожага краю і яго людзей.

Агульнавядома: вобраз лесу з'яўляецца адным са скразных, традыцыйных у творчасці М.Танка і паэтызуецца фактычна ва ўсіх яго кнігах. У вершы «У гэты вечар» паэт надзяляе лес якасцямі высокага духоўнага храма, у якім атрымалі блаславенне на шчаслівае сумеснае жыццё лірычны герой і яго каханая:

Для нас быў недаступны храм,
Бо мы не мелі святарам

Чым заплаціць, каб блаславілі
Любоў, што грэшных спалучыла.

І не было ў нас ні фаты
І ні пярсцёнкаў залатых,

Якімі скоўваюцца сэрцы
Да смерці або да бяссмерця.

Таму і не было ў той час
Застолля і гасцей у нас,

Якія б «горка!» нам крычалі
І шчасця маладым жадалі.

Таму стаў нашым храмам лес,
Што зелянеў высока спрэс,

З яго шчадротамі-дарамі —
Малліннікамі, верасамі,

З яго капэлай камароў
Ды лесуноў-рагатуноў.

О, як агнём вясельных свечак
Гарэлі зоры ў гэты вечар!

Магнетызм вады, лесу і паветра Нарачанскага краю ствараў асаблівую атмасферу, у якой добра думалася, хораша марылася. Сапраўды, найчасцей хацелася маўчаць і думаць, любавацца першароднасцю наваколля, напоўненага напружаным жыццём усяго бачнага і нябачнага воку, слухаць яго цудадзейную музыку.

Вось, дарэчы, на высокім травяністым пагорку, поруч з імшарнай лагчынаю, дзе лес збягае да возера, — лецішча паэта. Ладны, самавіты сваёй цікавай канструкцыяй у два паверхі, а таксама аздабленнем і разам з тым моцна кранугы слядамі часу будынак яшчэ 50-х гадоў.

З расказаў самога паэта ведаю пра перыпетыі будаўніцтва гэтага лецішча, некаторыя характэрныя асаблівасці догляду зямельнага надзела пры ім, пра жыццё шумнага танкаўскага «калгаса». Добра памятаюцца і словы яго сына Максіма Яўгенавіча: «Усё рабілася ўручную, з дрэва, з бярвенняў, — прыгадвае ён. — Не тое, што цяпер, можна заказаць і табе, напрыклад, вагонкі прывязуць, іншых матэрыялаў. Дошкі рэзаліся з загадзя падрыхтаваных бярвенняў, тут жа сушыліся, габляваліся. Я вам скажу, такое будаўнцітва было... Што датычыць бацькі, дык ён увесь час быў з будаўнікамі — што падкажа, дзе паможа... Атрымаўся звычайны зруб, хата з бярвенняў, перакладзеных мохам. Пазней яе ашалявалі...»

Дарэчы, дзесьці на пачатку 50-х гадоў М. Танк завабіў сюды сваіх літаратурных калег і сяброў, блізкіх суседзяў па гарадскім жытле, спакусіў іх хараством тутэйшых мясцін і краявідаў. Неўзабаве на паўночным беразе возера выраслі тры прасторныя летнія дамы, у тым ліку летнікі Міхася Лынькова і Аркадзя Куляшова.

Прыязджалі адпачываць сюды, як правіла, сем'ямі, дарэчы, на ўсю ці амаль на ўсю цёплую пару года. Летам у ваколіцах дач заўжды было шматлюдна, шумна і весела.

Лецішча прыцягвала, вабіла, нават інтрыгавала. Я ўзіраўся ў яго з прыазёрнага схілу, адкуль у святле прамых сонечных промняў яно выглядала рамантычна-велічным, выгоністым, падымаўся на выспу, заходзіў з тыльнага боку. Адсюль, з боку лесу, была добра відаць уся сядзіба, не толькі сам будынак, але і двор — прасторны, акуратна абгароджаны, з магутнымі соснамі і елкамі па ўсім перыметры. Справа, за нешырокай дарожкай, ён паступова пераходзіў у невялікі сад і агарод. На градах, у разорах між імі было поўна апалых жаўтабокіх яблыкаў.

Хацелася адчыніць пацямнелыя ад часу, дажджоў і снягоў весніцы, пастаяць вунь пад той расахатай яблыняй, паназіраць за шпакоўняй, у якой, па усім відаць, жыла вераб'іная сям'я, зайсці ў дом, на свае вочы ўбачыць усё тое, што цягам доўгіх гадоў спадарожнічала працы і адпачынку паэта, адчуць атмасферу, у якой нараджаліся многія яго выдатныя творы. За час пасля смерці паэта наўрад ці што тут змянілася.

І я адчыняю іх. Як некалі на кватэры сам паэт, мяне зычліва вітае яго старэйшы ўнук Максім. Сын сына Максіма. Ветлівы і прыязны, але прыкметна нешматслоўны, шчыры і дабрадушны, але досыць асцярожны ў думках і меркаваннях, унутрана засяроджаны, стрыманы ў рухах. Зрэдку адлучаючыся ў Мінск, ён жыве тут з сярэдзіны лета: даглядае сядзібу, збірае з пасаджанага ўраджай, разам з сябрам не без поспеху і ўдач ловіць рыбу, ходзіць у грыбы.

Міжволі лаўлю сябе на тым, што спрабую адшукаць у ім (і гэта, відаць, натуральна) рысы падабенства з дзедам — у абліччы, характары мыслення, паводзінах. Хто яго ведае, цяжка сказаць... Мабыць, усё ж такі іх няма, а калі ёсць, дык вельмі нязначныя, зусім непрыкметныя. Іншы час, іншае пакаленне, іншая сфера прафесійных і аматарскіх інтарэсаў...

Дзед для Максіма — увасабленне клопатнай увагі і дабрыні, даверу і справядлівасці, чуласці і пяшчоты. У сямейна-хатніх узаемадачыненнях дзеда і бабы ён не можа прыпомніць аніводнага канфлікту, аніводнай спрэчкі, нават проста напружанай сітуацыі. Па ягоных словах, яны жылі ў поўным і рэдкім для нашага часу паразуменні, згодзе і павазе.

Увогуле ж, цікава, як да праблемы выхавання ставіліся ў сям'і Танкаў, як вырашалі? Як паэт выхоўваў сваіх дзяцей і ўнукаў? Канешне, найперш асабістым прыкладам, змястоўным, заангажаваным у штодзённыя працоўныя клопаты жыццём, шчырасцю і дабрынёю, стварэннем умоў, спрыяльных для развіцця самага шырокага спектра зацікаўленняў, усебаковага раскрыцця асобы. Неяк я запытаў пра гэта ў Максіма Яўгенавіча, ягонага сына, бацькі Максіма. Адказ быў падкрэслена шчыры: «Нейкага спецыяльнага выхавання ў сям'і не было. У маці хапала хатніх, гаспадарчых клопатаў, бацька быў заняты сваімі праблемамі, Саюзам пісьменнікаў. Ну, прыйдзе з працы, запытае: «Як справы, як урокі?» — і ўсё выхаванне... Аднойчы мне патрэбна было напісаць сачыненне па нейкім яго творы, здаецца, паэме «Янук Сяліба». Я прыйшоў са школы і кажу: «Ты напісаў паэму, то і сачыненне напішы, табе ж лепш вядома, што ты тады думаў, што хацеў адлюстраваць», — нешта ў такім родзе. Ён сеў, напісаў, а я двойку атрымаў. Вось тады пасмяяліся...»

І дзеці, і ўнукі Максіма Танка выраслі годнымі людзьмі, паспяхова займаюцца абранай справай.

У сваёй працы «Феномен духу ў мастацтве і навуцы» К. Юнг выказаў цікавую думку аб канфліктнасці жыцця мастака, абумоўленай своеасаблівым супрацьборствам у ім усяго ўласна чалавечага і непасрэдна творчага. «Яго (мастака. — **М. М**) жыццё па неабходнасці перапоўнена канфліктамі, — падкрэсліваў знакаміты культуролаг і псіхааналітык, — бо ў ім змагаюцца дзве сілы: звычайны чалавек з яго законнымі патрэбамі ў шчасці, задаволенасці і жыццёвай забяспечанасці, з аднаго боку, і бязлітаснае творчае захапленне, якое міжволі ўтоптвае ў бруд усе асабістыя жаданні, — з другога. Адсюль выцякае тая акалічнасць, што асабісты жыццёвы лёс вельмі многіх мастакоў да такой ступені нездавальняючы, нават трагічны... Вельмі рэдка сустракаецца творча адораны індывід, якому б не давялося дорага аплаціць іскру божую — свае незвычайныя магчымасці».

У нас ёсць усе падставы сцвярджаць, што Максім Танк быў якраз такім рэдкім «творча адораным індывідам». У яго асобе арганічна ўжываліся звычайныя чалавечыя імкненні і апантанасць мастацкім пошукам, «бязлітаснае творчае захапленне». «Асабісты жыццёвы лёс» паэта быў змястоўны, паўнакроўны, багаты на цікавыя і запамінальныя падзеі і факты, насычаны ўсім тым, што ішло ад шырокага спектра цяжкіх працоўных будняў, гэтак званых вытворчых праблем, літаратурных і грамадскіх клопатаў, чалавечых набыткаў і радасцей, а таксама страт і расчараванняў.

...Па вузкай, крутой лесвіцы падымаемся на другі паверх. Гэтаксама, як і на першым, тут тры невялікія пакоі, адзін з якіх— паэтаў. Максім кажа, што ўсё ў ім засталося так, як было пры жыцці М.Танка, калі той наведваў лецішча.

Паабапал нешырокага акна, якое выходзіць у сад, стаяць дзве акуратна засланыя тахты. Перад самым акном — адмысловыя, па ўсім відаць, зробленыя па індывідуальным заказе стол і крэсла. Злева ад дзвярэй — невысокая шафа з кнігамі і часопісамі. Сцены і столь абшыты адборнымі дошкамі, пакрытымі лакам. Над адной тахтой — добрай работы даматкань дыван, над другой — невялікія карціны, шматлікія фотакарткі, розныя ўпрыгожанні...

Успомніліся мае наведванні паэта ў Мінску.

Яскрава бачу спакойныя, сумныя вочы, адкрыты, стомлены твар, падбітую шматлікімі недамогамі прыгорбленую постаць паэта, выразна чую яго адметны голас — няспешны, можа, нават крыху замаруджаны, заўсёды прыцішаны, мяккі. На душы самотна і тужліва...

На лецішчы паэт любіў працаваць у гародзе, час ад часу аглядаў і падраман-

тоўваў немалы будынак, даводзіў да ладу розныя гаспадарча-побытавыя прыстасаванні. Расказвалі, вельмі часта яго можна было ўбачыць з кнігаю ў двары ці пад дрэвам, на беразе возера, ля вады. Натуральна, тут ён меў цудоўную магчымасць засяродзіцца на паэзіі. Ну, і зразумела, ахвотна хадзіў у грыбы, лавіў рыбу. Дарэчы, досыць часта з Міхасём Лыньковым.

«Тады на Нарачы рыбы было шмат, — зноў успамінае Максім Яўгенавіч. — Выйдзеш пакупацца, станеш у вадзе, а маленькія рыбкі-ёршыкі, акунькі — літаральна торкаюцца табе ў ногі. А цяпер можна цэлы дзень праплаваць і нічога не злавіць.

Асабліва многа было вугроў.

Вы ведаеце, вугор размнажаецца не тут, а ў Саргасавым моры, ля Кубы. Там адкладвае ікру, памірае, а малькі ідуць назад праз Атлантыку да Балтыкі. Раней яны дабіраліся сюды самі, таму што была натуральная водная сістэма. Цяпер жа балоты асушылі, добрых рачных праходаў не стала. У часы Савецкага Саюза малькі закупляліся ў Англіі і запускаліся ў возера. Цяпер гэтым ніхто не займаецца. Таму вугор стаў рэдкасцю».

У знамянальны дзень 17 верасня мы з Максімам, у вузкім коле сяброў і аднадумцаў, на колькі гадзін выбіраемся ў Пількаўшчыну, Новікі, на хутар Жукова, каб сустрэцца і пагутарыць з малодшым братам М. Танка Хведарам Іванавічам, наведаць магілу паэта і яго жонкі Любові Андрэеўны.

Шлях у чатыры-чатыры з паловай дзесяткі кіламетраў па добрай шашы для машыны — не адлегласць. Дабіраемся хутка. Гаспадара застаём на полі ў поўнай рабочай амуніцыі — свабоднага крою кашуля, высокія гумовыя боты, шырокія, перахопленыя ў поясе вузенькай дзягай, порткі, і гэта натуральна — у ваколіцах выбіраюць бульбу. Ад яго даведваемся, што перад намі тут пабыў старшыня Мядзельскага райвыканкама, які, я памятаю, добра ведаўся з народным паэтам, неаднойчы звяртаўся да яго з праблемнымі пытаннямі, прасіў дапамогі, заступніцтва, проста парады. Паэт пасабляў шмат каму з мядзельцаў — радавым і вядомым, ушанаваным пасадамі і званнямі. Зрэшты, хто цяпер гэтага не ведае...

Адкрыў дзверы, зайшоў у хату, перахрысціўся. Дзень нараджэння, кажа, а няма каго віншаваць... Пастаяў... Голас Хведара Іванавіча ледзь не зрываецца.

Сам Хведар Іванавіч доўгі час жыў і працаваў у Мінску. Пасля вяртання ў Пількаўшчыну пэўны час працаваў леснікам, зараз на пенсіі, мае сем з паловай дзесяткаў, але яшчэ трымае немалую гаспадарку, у тым ліку каня, карову.

Гэта дбайны гаспадар, вялікі, ахвярны руплівец на роднай зямлі.

Кідаюцца ў вочы шчырасць, адкрытасць Хведара Іванавіча, яго зараджанасць на праўду і дабрыню, апантанасць клопатам пра бліжняга, прамата меркаванняў і ацэнак, вынашаная перакананасць назіранняў. Успамінае:

— Мой дзед меў тры кані, дваццаць кароў, семдзесят пяць гектараў зямлі. Адчуваў сябе гаспадаром, незалежным чалавекам. Радаваўся зямлі, вынікам сваёй працы на ёй, жыццю... Тады, я вам скажу, людзі былі сціплыя, сумленныя, працавітыя. Пасля да ўлады прыйшлі басякі, жулікі, прайдзісветы — і ўсё перакулілася... Калі параноўваць сучаснае жыццё з тым, якое было пры дзеду, то гэта — неба і зямля. У сельскай гаспадарцы сёння ўсё дабіта да нуля...

Слухаючы Хведара Іванавіча, міжволі ўспамінаю адзін з характэрных дзённікавых запісаў Максіма Танка канца 40-х гадоў: «Паслаў пісьмо дамоў, ды, відаць, трэба будзе пад'ехаць у сваю Пількаўшчыну і ўгаварыць, каб там нашы не ўпіраліся ўступаць у калгас, бо ўжо званілі мне з абкома, што дзядзька Максіма Танка сарваў сход, на якім нашы хутаране аб'явілі аб сваёй гатоўнасці пайсці ў калгас, калі ў яго пойдуць дзядзька Фадзей і мой бацька. А сход, здаецца, праводзіў адзін з адказных работнікаў Маладзечанскага абкома Л. Г. Кляцкоў. Відаць, дома не ўяўляюць, чым усё гэта можа закончыцца...» (ад 2 красавіка 1948 года).

Пахне бульбоўнікам. Пад мерную, часам узрушаную гаворку гаспадара, насычаную цікавымі фактамі і дэталямі, аглядаем сядзібу.

У засені ліп, як дзве родныя сястры, ціхмяна прытуліліся адна да другой дзве хаты — адна зусім старэнькая, нізенькая, прыгорбленая, з пачарнелымі сценамі, маленькімі, пры самай зямлі, вокнамі і — нашмат навейшая, відная, на досыць высокім цагляным падмурку. У першай яшчэ амаль на золку стагоддзя пабачыў свет будучы народны паэт. Праўда, калі быць дакладным, то дзесьці праз год-два пасля яго нараджэння яе перасыпалі, паднавіўшы ніжнія вянкі. У другой вось ужо каторы год разам з жонкай і сынам жыве Хведар Іванавіч.

Невялікі падворак з усім неабходным для селяніна і яго цяглавітай працы гаспадарчым начыннем. Бліжэй да адчыненай пуні — акуратныя штабялі дроў; каля невысокага, з рэдкімі шчыкецінамі плота — калёсы з дугою і хамутом у скрыні, побач — калодзеж з высокім, ледзьве не роўным з прысядзібнымі дрэвамі асверам.

У двары каля невысокай будыніны ў атачэнні сакатлівай курынай кампаніі панавіта гуляе певень...

За хатамі раскінуўся ладны кавалак зямлі, сад, агарод з кашлатаю грушаю, на якім ад цямна да цямна шчыруюць гаспадар з гаспадыняю. Да сядзібы блізка падступае лес.

Пытаюся ў Хведара Іванавіча пра ўраджай. Кажа — някепскі. Урадзіла і садавіна, і гароднiна, ёсць і яблыкі, і бульба, і шмат што яшчэ. Тут жа прапануе нам набраць крамяных антонавак, якімі літаральна ўсланы дол.

Максім Танк, зразумела, тады яшчэ толькі Яўген Скурко, пакінуў гэты хутар восенню 1926 года, калі з дазволу дзеда падаўся вучыцца спачатку ў Вілейскую рускую, затым Радашковіцкую беларускую і, нарэшце, Віленскія — беларускую і рускую — гімназіі, дарэчы, так ніводнай з іх і не скончыў.

Развітанне з родным котлішчам... Барацьбітоўскія «сцяжыны-дарогі» паэта, «этапы і краты»...

Як добра прагучала пра ўсё гэта ў Міколы Арочкі:

Бацька паехаў у ноч, у снег
Шляхам зваротным, завёзшы сына.
А вецер шалеў, замятаў палазіны —
І толькі ў завеі ледзь-ледзь чарнеў
Бацькаў кажух на прыгнутай спіне...
Маці вачыма маліла, шаптала.
Сэрцу яе не хапала слоў.
Толькі праводзячы ў снег, за сяло,
Сына цішком яна пражагнала,
Каб сцежку дахаты не замяло...
Мая Беларусь праз навалу завей
З упартасцю нейкай святой і зацятай
Ішла тады ў ноч на агеньчык надзей.
На дальні паўстанак, што зваўся «Заўтра».

Доўгія дзесяцігоддзі паэт наведваў гэты дарагі куточак зямлі, саграваў яго сваёй увагай і клопатам, і сам падзараджаўся біятокамі жыццятворнай энергетыкі. Гэта вельмі хораша раскрылася, напрыклад, у вершах «Шкада мне знаёмых аселіц...» і «Адлігі шызы вецер кружыць…», напісаных яшчэ ў 1939 годзе.

Позним асеннім вечарам лірычны герой развітваецца з роднымі аселіцамі і краявідамі. На яго душы самотна і тужліва. Маладое сэрца поўніцца пяшчотай і замілаваннем да кожнай дэталі і прадмета з роднага котлішча, навакольнай прыроды. Да шчымоты знаёмыя і дарагія перажыванні...

Шкада мне знаёмых аселіц,
Скрыпучых на полі калёс
І гэтых лістоў пажаўцелых,
Вятрамі сарваных з бяроз.
Зара на куросаднях ціха

Збіраецца ўжо начаваць.
А мне яшчэ хочацца крыху
На ржышчы пустым пастаяць.
Як быццам, адходзячы ў горад,
Забыўся асенняй парой
Сказаць, каб шчаслівыя зоры
Гарэлі над вёскай маёй.

Што датычыць сустрэчы з роднымі нівамі і палісадамі, то па даўняй народнай традыцыі яна адбываецца «Пад весні звон». Суправаджаюць яе ўзрушанае хваляванне лірычнага героя, яго прыўзняты настрой і радасць. Канечне, дома, як нідзе, можна добра душэўна адпачыць, набрацца сіл, падрыхтавацца да новых выпрабаванняў.

Адлігі шызы вецер кружыць,
Гне вішнякі
І з лазнякоў страсае ў лужы
Густы блакіт.
Усюды цёплых кропляў поўна.
Плывуць з акон.
Мо нехта дні былыя ўспомніць
Пад весні звон,
Але мяне хвалюе радасць,
Што я дамоў
Да родных ніў і палісадаў
Вясной прыйшоў,
Дзе можна сэрца супакоіць
Пад шум бяроз,
Дзе песні зноў мае напоіць
Блакіт нябёс.

Тут зноў згадаю гутарку з сынам паэта, яго назіранні і сведчанні: «Кожны раз, калі мы ехалі на дачу, абавязкова заязджалі на хутар. Летам гэта было разоў дзесяць, не меней. Едучы туды, мы, як правіла, цэлую машыну везлі хлеба, круп, іншых прадуктаў. Там бралі бульбу, дзядзька Фёдар сала, мяса даваў, яблыкі адтуль прывозілі — сад на хутары вялікі. Тады ж, вы ведаеце, з усім складанасці былі, тым больш у сельскіх магазінах. Асабліва многа, помню, везлі хлеба — скаціну трэба ж было нечым карміць...» І далей: «Калі мы ехалі ў Пількаўшчыну, то ў багажнік машыны бацька заўсёды клаў і кнігі, многа кніг. Большасць сваіх выданняў, а таксама тыя, якія яму дарылі, ён адвозіў у школу. Бібліятэка ў Сваткаўскай школе запоўнена ў многім яго кнігамі. Прычым ён спецыяльна адбіраў туды кнігі. Часта я ездзіў без яго, дык ён і мною перадаваў, каб я завёз...»

І яшчэ: «На хутары ён звычайна пасядзіць з братам Фёдарам, пасля пагаворыць з аднавяскоўцамі, якія, даведаўшыся, што ён прыехаў, заўсёды прыходзілі з рознымі праблемамі, просьбамі памагчы. Любіў хадзіць па ваколіцах, па лесе. У такія часіны неяк выпростваўся, абуджаўся, ажываў, прасвятляўся. Што вы хочаце, кожнае ж дрэва помніў, кожную сцяжынку. Я часта хадзіў з ім, дык ён мне расказваў, дзе што адбылося, напрыклад, дзе і як памёр прадзед, дзе нашы блізкія хаваліся ад немцаў у вайну...

А лес там вялікі, стары. Былі такія мясціны, дзе дрэвы падалі ад старасці, а мурашнік можна было сустрэць у рост чалавека».

Жыццё і сапраўды кідала паэта з аднаго месца на другое: даводзілася жыць і працаваць у Вільні, Вілейцы, Беластоку, іншых гарадах, вельмі часта ездзіць у камандзіроўкі. Але нідзе ён «сябе так добра не адчуваў, як дома, са сваімі думамі, падобнымі да шумнага, гаманлівага кірмашнага натоўпу».

Гэтыя і многія іншыя словы з дзённікавых нататак паэта «Лісткі календара» поўняцца пяшчотаю і цеплынёй, глыбокім замілаваннем да ўсяго блізкага і роднага.

Дарэчы, пра дзённікавыя запісы. Падчас стрэч і размоў з паэтам пра многія

з балючых праблем нашай мінуўшчыны і апошніх дзесяцігоддзяў з ласкавай згоды гаспадара ў мяне была магчымасць знаёміцца з матэрыяламі і дакументамі яго багатага сямейнага архіва. Напрыклад, з некаторымі рукапісамі, рэдкімі цяпер, а таму дужа цікавымі публікацыямі і фотаздымкамі заходнебеларускага перыяду жыцця і творчасці, не надрукаванымі ва ўсім аб'ёме і па сёння, поўнымі гаркоты і болю, а таксама шчырай пашаны і замілавання да народнага паэта лістамі Ларысы Геніюш, Ганны Новік, іншых пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў, прыватных асоб. Тым часам упершыню давялося неспадзявана ўбачыць і нават пагартаць, прагледзець колькі невялікіх сшыткаў, рукапісаў дзённікавых нататак, якія паэт вёў, пачынаючы з 1941 года.

«Дзённікі» Максіма Танка — 860 старонак машынапісу, падрыхтаванага і выверанага, а таксама ашчадна спакаванага самім паэтам.

Калі знаёмішся з «Дзённікамі», адразу кідаецца ў вочы іх традыцыйнасць для паэта, характэрная «танкаўскасць». Па змесце і форме яны з'яўляюцца непасрэдным працягам «Лісткоў календара».

У гэтым сэнсе «Дзённікі» паэта каштоўныя найперш тым, што яны, як уяўляецца, аб'ектыўна люструюць час і падзеі нядаўняга мінулага, 40-х — сярэдзіны 90-х гадоў, поўняцца складанай амальгамай душэўных перажыванняў, грамадзянскіх клопатаў і турбот выдатнага нацыянальнага паэта. У іх — яго ўспрыняцце рэчаіснасці, згадкі пра далёкія дзіцячыя гады, надзвычайная цеплыня ў адносінах да маці і бацькі, шчырая ўвага да калег па творчай працы. У аднабаковым выяўленні складаных жыццёвых працэсаў аўтара не папракнеш.

Чытаеш гэтыя старонкі і бачыш: як бы ні складваліся абставіны, фактычна ніколі паэт не схібіў, нідзе не даў падстаў усуміцца ў сваіх высокіх чалавечых, грамадзянска-патрыятычных і прафесійных якасцях. Працуючы на адказных пасадах, ён, натуральна, знаходзіўся ў вядомым ідэалагічным полі, вымушаны быў паводзіць сябе з аглядкай і папраўкай на тагачасныя кампартыйныя «цэнтры мудрасці». У той жа час паэт выразна бачыў і выяўляў хібы і заганы ў рабоце чыноўніцка-бюракратычнага апарату, з яе нязменнымі атрыбутамі — бясконцымі нарадамі і пасяджэннямі, кантролем і забаронамі, знаходзіў у сабе мужнасць не згаджацца наконт вырашэння шмат якіх прынцыповых пытанняў. На ўсіх жыццёвых этапах паэт глыбока усведамляў праблемы роднай культуры і мовы, стаўку рабіў на дабро і праўду. Чаго варты, прыкладам, яго наступны дзённікавы запіс, датаваны 2 лютага 1954 года: «Памыляецца нямецкі мовазнаўца Аўгуст Шляйхер, што мова, нават будучы адарванаю ад штодзённага жыцця, можа жыць. Гэтаму пярэчаць факты. Зараз наша беларуская мова, жывыя крыніцы якой перакрыты іншамоўнымі школай, прэсай, радыё, прапагандай і міграцыяй, — усё больш і больш адступае перад экспансіямі суседніх дзяржаўных моў, губляе свае пазіцыі і знікае. І гэта — у той жа час, калі вызваляюцца народы ад імперыялістычнага прыгнёту і адраджаюць сваю мову і культуру. А ў нас многіх і сёння абвіняюць у нацыяналізме, тады, калі стан беларускай мовы і культуры не можа не насцярожваць. Карабель, якога ватэрлінія на вачах ідзе ўглыб, патанае. А мы — «дзеці набата» (Рэне Шар) — маўчым».

Але вернемся да Хведара Іванавіча. Знешне чалавек гэты, здаецца, мала падобны да свайго брата — пільныя, падкрэслена засяроджаныя вочы, заўжды сур'ёзны твар — аніякага нават намёку на ўсмешку, энергічная, упэўненая паходка, невысокая, каржакаватая, рухавая постаць, размашыстыя жэсты. А вось унутрана, асобасна, самой філасофіяй мыслення, адносінамі да жыцця і яго асноўных каштоўнасцей — браты вельмі падобныя.

Розныя, нават дзесьці супрацьлеглыя былі ў іх сферы і маштаб дзейнасці: кожны займаўся сваім. Займаўся, праз усё жыццё несучы светлыя пачуцці ўзаемаразумення і ўзаемапавагі, духоўнай лучнасці. Дужа характарыстычным у гэтых адносінах з'яўляецца верш Танка «Пісьмо брату» з апошняга прыжыццёвага зборніка паэта «Мой каўчэг»:

Магчыма, гэты атрымаеш ліст,
Вярнуўшыся з арбы на схіле дня.
Ля нашай студні пількаўскай, калі
Прыпынішся, каб напаіць каня.

Зайдзі ў старую хату.
Помню, там
За абразамі недзе мусіць быць
Наш дапатопны соннік, які нам
Дапамагаў таемнае раскрыць.

Бо зараз, на бальнічным ложку мне,
Чамусьці сняцца плёсы, паплавы,
І чую, як наяве, у паўсне
Кудысьці мяне клічуць журавы.

Ты не марудзь з адказам, хоць вясной —
І неэпісталярная пара,
Штодзённа трэба быць на пасяўной
І пальцы не прывыклі да пяра.

Як добра, што цябе не заўраклі
Кругі парнаскіх німфаў і багоў.
Застаўся верным плугу, і зямлі,
І спаконвечным звычаям бацькоў.

А я, знаць, змарнаваў свае ўсе дні
На справы непатрэбныя, мой брат.
Як сейбіта былога памяні
Мяне на полі жменяю зярнят.

Несумненна, такі «ліст» можа быць адрасаваны толькі вельмі блізкаму чалавеку.

У нашай гутарцы Хведар Іванавіч амаль не згадвае Яўгена Іванавіча Але калі згадвае, то яго аповед прыкметна запавольваецца, голас цішэе, становціца прыглушаным, вочы вільгатнеюць. На мае пытанні адказвае адрывіста, кароткімі рэплікамі, якія поўняцца падкрэсленай цеплынёй і чуласцю, любоўю да брата: «Працавіты быў чалавек, прыхільны і да касы, і да плуга... Каб такія людзі былі ў сіле і ва ўладзе, дык мы б жылі лепш... Калі трэба, мог пагаварыць з чалавекам, падбадзёрыць яго, неяк развеяць... Дай Бог, каб было гэткае насенне... Гэта чалавек рэдкі...»

«Зайдзі ў старую хату...» — памятаеце зварот народнага паэта да брата-селяніна з просьбаю адшукаць за абразамі даўні соннік?

З хваляваннем пераступаю невысокі, дарэшты збіты парог. Што праcторна ды светла — натуральна, не скажаш. Каб сфатаграфавацца на памяць, уключаем святло, але яно мала пасабляе. Дужа нізкая столь (нават для мяне), здаецца, амаль не кранутыя часам звонкія смалістыя бярвенні, паміж якімі ва ўсе бакі разбягаюцца тонкія палоскі некалі акуратна абсечанага моху. Ага, на покуці — абразы, а на сценах, засланых белымі абрусамі сталах — розных часоў, якасці і фармату фотаздымкі паэта, карціны беларускіх мастакоў. Паўсюль многа складзеных у асобныя стосы кніг, альбомаў, сшыткаў...

Нельга не звярнуць увагі на арыгінальную фотаработу, якая адлюстравала выдатнага мастака з маці Домнай Іванаўнай. Гэты здымак я ўжо неаднойчы бачыў, у тым ліку ў яго дома, на сцяне рабочага кабінета. Але тут, у роднай хаце паэта, ён успрымаецца асабліва сімвалічна. Строгі, прыкметна сумны твар маці, завязаная пад падбародак белая хустка, на засланых ручніком каленях — спрацаваныя сялянскія рукі...

Вобраз маці натхняў паэта на працягу ўсяго яго пакручастага шляху. Прыходзячы ў вершы зноў і зноў, напаўняў іх сэнсатворным зместам, акцэнтаваў важ-

насць духоўна-маральных першакаштоўнасцей, любові да людзей, роднай зямлі і працы на ёй.

З непрытульнага
Слабадскога пагоста,
Хоць і абгароджанага толькі
Заламанымі ў роспачы рукамі
І шумам сосен,
Ніхто зноў не вяртаўся.

І усё ж.
Здаецца мне,
У парэпанай раме дзвярэй
Зноў цябе бачу, маці!
Бачу, пасівелую, як валун,
Што і сёння трымае
На згорбленых плячах
Зруб нашага шчасця...

Тут, у старой хаце, жыў дзядзька паэта Фадзей Хведаравіч, які доўгі час быў у эміграцыі, на заробках у Чэхаславакіі, Германіі, Аргенціне. Даўно ўжо няма дзядзькі, ён памёр яшчэ ў 1966 годзе, але да гэтай пары на асобнай этажэрцы стаяць яго кнігі па ветэрынарыі, якой ён займаўся, выдадзеныя ў розных краінах, на розных еўрапейскіх мовах. Як памяць пра яго, як сведчанне цікавага лёсу, як дакумент няпростага часу.

Мы ведаем, пры назаўсёдным адвітанні з народным паэтам сюды ўносілі труну з яго целам. Па ўсталяванай народнай традыцыі. Каб паэт перад апошнім шляхам пабыў у хаце, знайшоў тут супакаенне. Пасля дамавіну ставілі ў садзе. Аддаць даніну глыбокай павагі свайму вялікаму земляку, засведчыць сваю любоў да яго тады прыйшлі пількаўшчане, шматлікія жыхары навакольных вёсак.

А колькі іх, маўклівых, самотных, стаяла ўздоўж бальшака, якім рухаўся з Мінска пахавальны картэж машын і аўтобусаў, — на конях, на трактарах, са знятымі шапкамі ў руках... Наўрад ці каго тут калі так хавалі...

І сама сабою прыходзціь думка, што тут, на хутары, павінен быць адкрыты музей паэта, нават цэлы мемарыяльны комплекс...

У 1971 годзе М. Танк напісаў верш «Магільнікі — спрадвечныя кірмашы...», у якім поўна выявіліся асобасныя якасці паэта, адметныя рысы яго светаадчування, мастацкага мыслення:

Магільнікі —
Спрадвечныя кірмашы,
На якіх, сабраўшыся,
Крыжы, пліты, валуны
Пляткараць:
Хто колькі жыў,
Якую займаў пасаду,
Каго хавалі з музыкай,
А каго — так,
У каго лепшая агароджа
І весялейшае месца,
У каго больш вянкоў і кветак...

Калі настане час
Сюды перасяліцца,
Не паскупіцеся
Магільшчыку даць на паўлітра,
Каб выдзеліў мне месца
Спакайнейшае
Сярод забытых, безыменных.

Пра існаванне Слабадскіх могілак, што раскінуліся на досыць высокім грудку, усыпаным валунамі і ўрослым соснамі ды бярозамі, зусім поруч з вёскай Новікі, сёння ведае, мабыць, кожны адукаваны беларус. Тут папрасіў пахаваць сябе народны паэт Беларусі, каб назаўжды застацца побач з самымі сціплымі, шчырымі і працавітымі, дарагімі яму людзьмі — бацькам і маці, роднымі і блізкімі, суседзямі-аднавяскоўцамі. У гісторыі нашай культуры, у прыватнасці, літаратуры XX стагоддзя, гэты выпадак з'яўляецца унікальным і паказальным. Вядома, што ўсе народныя пісьменнікі Беларусі пахаваны толькі ў Мінску...

Два гады таму я прысутнічаў на адкрыцці надмагільнага помніка М. Танку і ягонай жонцы работы скульптара Анатоля Арцымовіча. Памятаецца, тады, сярод мноства людзей, у асяроддзі вядомых грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў і журналістаў, пад гучныя прамовы выступоўцаў, маё ўсведамленне ўсёй глыбіні і сімптаматычнасці сэнсатворнага зместу жалобнай цырымоніі, яе правядзення ў дадзеным месцы было нібы недавыяўленым, ці што, не да канца акцэнтаваным. Зусім не тое зараз...

Могілкі сустрэлі мяне поўнай цішынёй, самотай і вусцішнасцю. Ад цішыні і напружанасці аж зазвінела ў вушах.

Хоць яны і не абгароджаны, ля ўвахода, у пачатку выкладзенай камянямі нешырокай сцежкі, якая падымаецца ўгору, устаноўлены сімвалічныя жалезныя весніцы. Побач ляжаць два сівыя валуны, на адным з якіх выбіта першая страфа верша паэта «Мой хлеб надзённы».

У канцы сцежкі два велічныя — адзін большы, другі меншы — жалобна-чорныя крыжы: сімвалы жыцця і смерці Максіма Танка і яго вернай спадарожніцы Любові Андрэеўны, якія ў адным годзе нарадзіліся, у адным і адышлі. Літаральна за лічаныя крокі ад сціпла прытуленых адна да адной магілак бацькоў паэта Івана Хведаравіча і Домны Іванаўны і дзядзькі Фадзея.

Падыходжу бліжэй, і сэрца тужліва сціскаецца: на маўклівай надмагільнай пліце яркім полымем гарыць букет жывых чырвоных кветак.

На памяць нагарнуліся паэтавы радкі ледзь не саракагадовай даўнасці:

Не стаўце на магілах агароджы,
Каб без ніякіх перашкод маглі
Да іх прыйсці ў вясновы дзень пагожы
Жывыя кветкі, галасы зямлі.

Замест апошніх датаў на граніце,
Замест слоў спачувальных і пустых
Дні нараджэння толькі напішыце —
Так будзе лепш для мёртвых і жывых.

Звычайныя вясковыя могілкі, апошні прытулак народнага паэта Беларусі... Пад кронамі высокіх бяроз і разгалістых соснаў — старыя і свежыя крыжы, сціплыя помнікі, агароджы. У доле шмат апалага лісця, ігліцы.

На супрацьлеглым канцы могілак нейк коратка, нібы пахапкам, абазвалася зязюля. Дзесьці далёка ў полі чуецца адзінокае вуркатанне трактара....

Веліч і хараство Нарачанскага краю набывалі ў маім успрыняцці выразную журботна-тужлівую акрасу.

Нямоцны азёрны вецер калыша рэшткі зжаўцелага лісця маладжавых алешын, лёгка зыбаецца, гуляе ў злыселых кронах вохрыстых асін і бяроз.

Прыпынюся, пастаю над разгалістай, нізка нахіленай над вадой вярбою. Узняўшыся на заўжды небяспечнай для любой расліны мяжы вады і сушы, возера і лесу, яна першая тут сустракае наступленне кожнага новага дня, узыход сонца, радуецца яму, але і першая прымае на сябе ўсе вятры-навальніцы, беды і няшчасці. Вось бы стаяць так, глядзець і бачыць, душою адчуваць гэты дзівосна прыгожы нарачанскі краявід. Стаяць, думаць, успамінаць, марыць...

Возера, было відаць, жыло прадчуваннем і чаканнем зменаў у прыродзе.

Можна ўявіць, як тут прыгожа зімою, калі яно замерзне, стане прасторнай белай палянаю, па якой ходзяць людзі, рухаюцца машыны…

Высока ў небе гучыць сумная птушыная песня…

Дзесьці тут жыве і душа паэта, песняра Нарачы. Дзе ж ёй яшчэ жыць, як не ў гэтай гулкай баравіне, перасыпанай елкамі ды бярозамі, асінамі ды алешынамі, таямніча прымружанай вогкай азёрнай далечы, хвалюючай паднебнай высі. Несумненна, сваёй навечнай прысутнасцю яна яшчэ болей упрыгожыла і ўвысакародзіла і без таго прыгожы і высакародны Нарачанскі край.

Жыццё тут і далей будзе ісці па здаўна заведзеным і трывала ўсталяваным парадку: селяніну-земляробу наканавана араць і сеяць, рыбаку — лавіць рыбу, паляўнічаму — хадзіць на паляванне. Багацце і разнастайнасць, каларыт і своеадметнасць жыцця нарачанцаў і Нарачанскага краю, іх духоўная сіла і веліч, прыгажосць і гармонія знойдуць сваё ўвасабленне і раскрыццё ў многіх арыгінальных мастацкіх творах. Але гэта ўжо будуць творы іншых аўтараў.

Велічна і ўрачыста, самагодна наступае на бераг цёмна-сіняя Нарач, пакалыхваючы на сваіх хвалях рэдкія лодкі.

Высока над галавою далёкім самотна-журлівым курлыканнем азваўся стомлены клін журавоў.

Шумяць нарачанскія сосны...



*СПАДЧЫНА*

# ЛІСТЫ МАКСІМА ТАНКА

Багатую і пакуль недастаткова вывучаную эпісталярную спадчыну Максіма Танка складае яго ліставанне з калегамі, сябрамі, роднымі. У лістах постаць знакамітага паэта паварочваецца да нас новымі гранямі, дапаўняецца чалавечай усхваляванасцю, заклапочанасцю, радасцю, удзячнасцю. Як вядома, М. Танк у жыцці быў даволі жывым, дзейсным, актыўным. Усе азначаныя якасці характару паэта добра раскрываюцца і ў ягоных лістах. Праз душэўныя пакуты, цяжкія рашэнні, унутраныя канфлікты — праз усё гэта і многае іншае давялося прайсці яму на нялёгкім жыццёвым шляху.

Чытачам «Полымя» прапануюцца лісты Максіма Танка, напісаныя ў розныя гады адпаведна самым розным нагодам сябрам і знаёмым у Беларусі і іншых краінах.

Эпісталярная спадчына народнага паэта складае асобны дзесяты том Збору яго твораў, што падрыхтаваны ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі.

### ДАРАГІ ЛЕСЛАЎ![1]

*Сёння атрымаў ад Цябе ліст, свае томікі і другі нумар «Паэзіі». За ўсё я вельмі і вельмі Табе ўдзячны. Шкада, што ў біяграфічную нататку закралася памылка: «наступныя яго зборнікі выйшлі ў Савецкім Саюзе». А гэтыя зборнікі былі выдадзены яшчэ да 1939 г. у Вільні. Шкада, што ў той зборнік трапіла нізка вельмі слабых вершаў. Але я рады, што гэты зборнік, дзякуючы старанням маіх польскіх сяброў, выйшаў у цудоўным «ПІВ»-аўскім выданні. Нататку пра прозу Янкі Брыля ў «Літаратурным жыцці» я чытаў. Тваю выразку прышлю сам. Але і тут не абышлося без кур'ёзу: вядомага савецкага крытыка Леаніда Навічэнку перарабілі ў жанчыну, пішучы: «Паводле думкі Л. Навічэнка, рэцэнзенткі «Літературной газеты» і г.д.; і г.д.*

*Пішучы ў сваім лісце пра навейшую паэзію, я меў на ўвазе Твой артыкул пра паэзію маладых, які Ты абяцаў напісаць для «Полымя». Але калі нічога цікавага не адбылося ў паэзіі, будзем чакаць Твайго артыкула пра сучасную прозу. Яшчэ раз сардэчна дзякую за ліст і кнігі.*

З братэрскім прывітаннем —
Максім Танк

Мінск, 22.II. 66 г.

*Дарагі Леслаў! Сардэчна дзякую Табе за навагоднія пажаданні і ліст, які сёння атрымаў. Я быў страшэнна заняты ў сувязі з пэўнай рэарганізацыяй нашага апарату. Броўка пайшоў на працу ў Акадэмію. Будзе галоўным рэдактарам беларускай энцыклапедыі. А ў нас на апошнім пленуме, як у Маскве і Кіеве, выбраны сакратарыят, у які ўвайшлі: Брыль, Мележ, Панчанка, Шамякін, Ткачоў і я. Таму я пакінуў «Полымя» і цяпер цэлымі днямі сяджу ў нашым Саюзе Пісьменнікаў. Вымусілі мяне памяняць індыка на быка. І так было шмат працы, а цяпер — яшчэ болей. Горш тое, што са здароўем чуюся слаба. Вельмі шкадую, што мы не ўбачыліся з Табою ў Мінску. Сёння размаўляў з таварышамі з «Полымя» пра Твой артыкул аб сучаснай польскай прозе. Такі артыкул яны ахвотна надрукуюць. Таму — чакаем. «Полымя» цяпер выглядае даволі салідна: выходзіць на 256 старонках. У першым нумары (я Табе яго прышлю) надрукавана шэсць польскіх апавяданняў (Івашкевіча, Ружэвіча, Кавальца, Мрожака, Варашыльскага, Кручкоўскага).*

*Вельмі буду ўдзячны Табе, калі прышлеш мне Грахавяка і «Анталогію паэзіі 1914—39».*

*Апошнім часам я скончыў працу над чатырохтомным выданнем сваіх вершаў, якое павінна з'явіцца ў другім квартале 1967 г.*

Сардэчнае прывітанне ад Тваіх мінскіх сяброў.
Моцна цісну Тваю руку.
Твой
Максім

Мінск, 25.I.67 г.

## ДАРАГІ БРАЦЕ МАЦЕЮ![2]

*Зараз маю магчымасць своечасова адказваць на лісты сяброў, бо ляжу ў бальніцы, куды загналі мяне розныя хваробы (арытмія, ціск...), пасяджэнні, нарады. Калі крыху падрамантуюць, відаць, адправяць яшчэ на нейкі час у санаторый. Таму Твой ліст з'явіўся для мяне ў гэтых бальнічных умовах не толькі сардэчным поціскам рукі, але і подыхам нашых незабыўных сяброўскіх сустрэч і надзей — на будучыя і найлепшым лякарствам, за што шчыра Табе дзякую.*

*«Ksikgi pryjaciyi» я яшчэ не атрымаў. Спадзяюся, што яшчэ прыйдзе, бо ў наш час звышгукавых хуткасцяў пошту часта вязуць на валах. Дзякую за «Wycinki z Kierunkyw i Przekroju». Я вельмі ўдзячны Ё .Стэфаньскаму за яго рэцэнзію на «Wiersze wybrane» і асабліва за тое, што ён даў заслужана высокую ацэнку майстэрства перакладу Твайго і іншых маіх польскіх сяброў. Я гэта лічу вялікім шчасцем, бо з перакладамі, сам ведаеш, як бывае. Неяк чытаў я пераклады Б. Пастарнака паэзіі Ю. Славацкага. Гэта быў рэдкі паядынак, у якім адразу загінулі два выдатныя паэты.*

*Што да карэктарскіх памылак, дык яны, відаць, неадступныя спадарожнікі нашага брата. Янка Табе, пэўна, расказваў, як яго недзе ў Вас перахрысцілі на Янка Франка. Здараецца гэта і ў нас. На гэту тэму можна было б напісаць цікавую кнігу.*

*Пры сустрэчы з Янкам напомню яму, каб выслаў Табе «Мы з вогненнай вёскі». Кніга страшна цяжкая. І неабходная. Бо, на жаль, памяць — не вечная. А тое, што перажыў народ, нельга забыць. Напісанне гэтай кнігі — сапраўдны подзвіг.*

*Вельмі буду Табе ўдзячны, калі прышлеш мне кнігу М.Кужыны пра М.Ваньковіча — апошняга крэсовага магікана, — якога я ведаў яшчэ з даваенных год. Перад самай сваёй канчынай ён збіраўся наведаць Мінск і сваю родную Случчы-*

*ну, дзе прайшлі яго szczenikсе lata. Шкада, што не ўдалося яму ажыццявіць свайго намеру.*

*А зараз, пасля розных уколаў і працэдур, адвяду сваю душу над перакладам Твайго цудоўнага верша «Nie Stoi w drzwi».*

*Моцна Цябе абдымаю. Сардэчнае прывітанне Табе і Твайму дому і ўсім нашым супольным сябрам.*

Максім Танк

Мінск, 27.5.1975 г.

**ДАРАГІ ДРУЖА МАЦЕЮ!**

*Дзякую табе за ліст, які атрымаў, вярнуўшыся з Браціславы, куды ездзіў на пару тыдняў з рускім празаікам Георгіем Сямёнавым і дагестанскай паэтэсай Фазу Аліевай. Прызнацца, паездка была цікавая, але, як на мае гады, цяжкая, бо безліч было розных сустрэч, бясед з чытачамі, выдаўцамі, пісьменнікамі, прадстаўнікамі розных арганізацый. Больш, хіба, на такія паездкі ехаць не адважуся.*

*Згодзен з табой, што пераклад маіх «Лісткоў календара» атрымаўся не зусім беззаганным. Найгорш, што я не мог з гэтым перакладам пазнаёміцца раней і апусціць некаторыя з сённяшняга пункту гледжання наіўныя і спрэчныя вывады, якія былі зроблены тады, калі пісаліся гэтыя карткі календара, і якія былі запазычаны з падпольнай прэсы, часта вельмі ўпрошчана асвятляючай многія складаныя тагачасныя падзеі.*

*Тым больш, адчуваю сваю віну перад табой, што гэтыя карткі адабралі ў цябе шмат часу. Абяцаю больш такіх твораў не пісаць.*

*Жадаю, табе дружа, добра адпачыць. Нізкі паклон твайму дому і тваёй сям'і.*

Моцна абдымаю.
Максім Танк

Мінск, 4 красавіка, 1977 г.

**ДАРАГІ ДРУЖА МАЦЕЮ!**

*Хоць Ты і адпусціў мае грахі, але баюся,што, заахвочаны гэтым адпушчэннем і ўзброены цудоўнай цытатай святога Аўгустына, каб, як гэта часта бывае, я не ўпаў у яшчэ большыя грахі і спакусы.*

*Выбачай, што пішу па-беларуску, бо пераклад з беларускага Ты зробіш лепш, як я. Да гэтага мяне яшчэ асмелівае і тое, што мы часта і ў Польшчы, і ў Расіі, і на Украіне, і ў Беларусі падчас сустрэч гаворым на сваіх мовах і кожны адзін другога разумее. І я гэта лічу нашым шчасцем у жыцці і ў творчасці, у якой так моцна адчуваюцца жывыя сувязі нашых братніх славянскіх моў.*

*Шчыра мы ўсе Табе дзякуем за пераклады і кнігі Я. Брыля, А. Адамовіча, У. Калесніка і вершаў нашага наднёманскага жаўрука — Дануты Бічэль. Будзем старацца ўсё зрабіць, каб яна пабывала ў Вас, што, напэўна, яе яшчэ больш акрыліць.*

*Дужа шкада, што пакінулі нас і Бруч, і Дыгат. Бруч калісьці ў «Wiadomościach Literackich» напісаў пра мой варшаўскі літаратурны вечар (1939 год) чартоўскі празорліваю рэцэнзію. Праўда, самога я яго мала ведаў, бо толькі пару раз сустракаўся з ім у Лодзі. Лепш ведаў Дыгата. Сустракаўся з ім часта ў Кракаве, Варшаве і нават у Нью-Йорку. Апошні раз мы з ім з Барысавым замачвалі маю Заіксаўскую прэмію на Старым Мясце, дзе з'елі па пару качак — такія былі апетытныя! — запіваючы «Бікавэрам». Відаць, мы, Дружа, увайшлі ў тую сумную паласу жыцця, калі ўсё часцей і часцей развітваемся з сябрамі. Сёння мінула 40 дзён, як адышоў ад нас адзін з самых выдатных нашых паэтаў — Аркадзь Куляшоў. Гэта вялікая страта, якую адчувае савецкая паэзія.*

*Як адгалосак нашых лодзінскіх сустрэч, пасылаю Табе свой верш «Ланьцуцкі замак», які збіраюся даць з новай падборкай вершаў у «Полымя».*

Тут зараз восеньская цішыня і прахалода.
Апошні ланьцуцкі ўладар, пачуўшы гром з усходу,
Збег, прыхапіўшы, што ўдалося, скнара,
Усіх бялініх, кранахаў і фраганараў,
Увесь фарфор і серабро, каўры і габелены.
Ён не пакінуў бы і замкавыя сцены,
Ды часу не хапіла.
Сонечны гадзіннік
Ужо адлічваў апошнія гадзіны.
Таму й не трапілі на лонданскія аўкцыёны
Калісь набытыя за кроў і пот прыгонных
Кнігі старажытных філосафаў, паэтаў
I ўся калекцыя карэт, кабрыялетаў.
За пару злотых і сягоння можна
На іх паездзіць па лугу мурожным.
Вось паняслісяя коні. Свішча вецер!..
А мне чамусьці ў гэты час здаецца
Не коні вараныя, а галопам
Бягуць, залёгшы ў хамуты, халопы.
Свіст бізуна, нацягнутыя лейцы,
I я з апошніх сіл бягу ў прыпрэжцы.
Спыніліся. Мінулага знік прывід.
Дзяцей вясёлы смех. У строі мігатлівым
На ганку маладая жэшавянка
З букетам кветак запрашае ў госці.
Я, зняўшы партызанскую вушанку,
Аддаў паклон ёй і народнай Польшчы,
Як рэвалюцыі Кастрычніцкай Бранеўскі.

*Нізкі паклон нашым супольным сябрам і Яну Гушчы за яго пераклады, якія мы атрымалі ад Цябе, і Твайму гасціннаму дому. Моцна Цябе абдымаю*

Максім Танк

P.S. Выбачай, дружа, за памылкі машыністкі. Прывітанне Табе ад Янкі Брыля. З нецярпеннем чакаю Твайго прыезду ў Мінск. М.Т.
Мінск, 15.3.78

## ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ ТАВАРЫШ ЯВОРСКІ![3]

*Прашу даравацъ мне, грэшнаму, за такое астранамічнае спазненне з адказам на Ваша пісьмо. Гэтаму былі дзве прычыны: пачаўшы працаваць у Саюзе пісьменнікаў, стаўшы бюракратам, зусім адарваўся і ад творчай працы, і ад сяброў, а да ўсяго гэтага пачало падводзіць сэрца. І зараз Вам пішу з бальнічнай палаты, адкуль не знаю, калі мне ўдасца і ў якім стане выйсці на волю.*

*Што да майго папярэдняга ліста і одклікаў Вашых шматлікіх сяброў на Ваш юбілей, не думайце, што мы пераацэньвалі зробленае Вамі. Я яшчэ ў тыя далёкія гады захапляўся Вамі і як пісьменнікам, і чалавекам. Зараз мы вельмі часта любім скланяць слова «дружба»; і, мне здаецца, стаўшы надзённым, яно нешта згубіла са сваёй сапраўднай вартасці. Калі Вы адзін з першых перакладалі і друкавалі ў «Катепі» вершы нашых беларускіх паэтаў — паэтаў народа, пра якога некаторыя нічога не зналі ці не хацелі знаць, — гэта гаварыла аб многім, аб чым ніколі не забываецца.*

*У гэтым гаду мы хацелі склікаць у Мінску нараду перакладчыкаў беларускай літаратуры, запрасіўшы на яе многіх нашых замежных сяброў. На гэтай нарадзе нам асабліва хацелася б бачыць Вас. Толькі гэты год так перагружаны рознымі гістарычнымі датамі, юбілеямі, што мы мусілі гэта мерапрыемства ад-*

*класці на далейшы час, калі можна будзе не толькі спакойна пагаварыць за бясedным сталом, але і паездзіць па дарагім усім нам мясцінам. Я думаю, што гэта нам удасца ажыццявіць, толькі каб нікога не падвяло здароўе.*

*Нас дужа радуе, што Вы сочыце за нашымі часопісамі, асабліва —паэзіяй, у якой, мне здаецца, ёсць многа цікавага, але яшчэ і многа выпадковага. Я атрымліваю амаль усе польскія літаратурныя часопісы, кроме «Паэзіі» і « Месенчніка Літ.», якіх чамусьці, у нас нельга выпісаць. Нейкі чыноўнік, відаць, забыўся ўставіць у індэкс часопісаў і газет, хоць там ёсць усе журналы і мод, і спорту. Многія рэчы перакладаю, хоць, прызнацца, што сучасная паэзія ўсё больш становіцца паэзіяй, якую дужа цяжка перакладаць, а то зусім немагчыма падабраць да яе нейкі ключ. Можа гэта — адна з яе асаблівасцяў?*

Моцна цісну Вашу руку. З глыбокай пашанай і любоўю.

Максім Танк

Мінск, 20.9.68.

## ДАРАГІ ДРУЖА ЯНЕ![4]

*І я — (па-польску нечытэльна) — недаравальна замарудзіў з адказам на лісты сяброў, бо апошнімі часамі цяжка захварэла жонка, а ў сувязі з гэтым парушыўся і ўвесь мой жыццёвы і творчы лад. Я рад, што Табе спадабаліся мае бібліяфільскія зборнічкі і падзяляю Тваю думку аб высокім паэтычным майстэрстве маіх польскіх сяброў-перакладчыкаў, якому можна і парадавацца, і пазайздросціць.*

*Што да кніг, пра якія пішаш, дык я не забыў. Справа ў тым, што наступныя тамы слоўніка і збору маіх твораў яшчэ не выйшлі з друку. Як толькі выйдуць, я іх Табе прышлю першаму. Што да памылкі І. Шамякіна, думаю, яна не паўторыцца, ды ён зараз пакідае работу ў Саюзе пісьменнікаў, ідзе на месца Петруся Броўкі. Будзе ўзначальваць наша энцыклапедычнае выданне. Зараз мы яго вылучылі кандыдатам у члены-карэспандэнты Акадэміі навук БССР. У наступным гаду, у сувязі з юбілеем Купалы і Коласа, мы збіраемся склікаць нараду перакладчыкаў беларускай літаратуры, на якую запросім многіх нашых сяброў і на якой вельмі б былі рады вітаць Цябе, як аднаго з самых заслужаных і дарагіх гасцей.*

*Тваю ідэю выдання зборніка сучаснай беларускай паэзіі мы можам толькі вітаць, бо за апошнія гады, мне здаецца, паэзія наша папоўнілася шмат цікавымі і абяцаючымі імёнамі. Слушная Твая заўвага аб часопісе «Полымя». Думаю, што тут не ўсё залежыць ад рэдкалегіі. Каб ад яе залежала, было б вельмі лёгка вырашыць усе праблемы, звязаныя з якасцю літаратурных твораў.*

*Новы Твой адрас я заўважыў адразу, як і своеасаблівы стыль тваіх пісем, з якога заўсёды бачу Цябе з тваёй крыху гаркаватай усмешкай — усмешкай чалавека «умудренного опытом жизни».*

Моцна Цябе абдымаю.

З сардэчным прывітаннем і з надзеяй на нашы будучыя сустрэчы.

14.8.1980.

## ВЕЛЬМОЖИНУ, УЧИТЕЛЮ[5]

*Уважаемый Владимир Николаевич!*

*Я получил Ваше интересное письмо и статью с эпиграфом незабвенного Н. Рыленкова. Все оно почему-то около месяца не могло со Смоленщины дойти до Белоруссии. К большому сожалению, сегодня я не могу по состоянию здоровья ответить на затронутые Вами вопросы. Сердечно благодарю за поздравление и отзыв о моих стихах. Признаться, я не ожидал, что в наше время беспредела и*

*волюнтаризма, нац.распрей [когда рвутся живые корни связей между братскими народами], может кого интересовать и мое скромное творчество. Хорошо, что есть на свете такие, как Вы, подвижники — воспитатели нашей молодой смены, кот. учтет и наши дост.(оинства), наши ошибки. Трудно переоценить знач.(ение) родного языка в жизни каждого народа, а русского языка — и в укреплении наших братских связей и в развитии мировой культуры.*

Крепко жму Вашу руку. С наилуч.(шими) пожеланиями

М. Танк

Минск, 1.9.92

## ДАРАГІ ДРУЖА ПАВЕЛ![6]

*Я вельмі ўдзячан Табе за пісьмо і за ўсё тое, што Ты зрабіў для мяне. Прашу выбачыць за клопаты з выдавецтвам. Я заўтра зайду ў банк, які даўно не наведваў, бо ўвесь час быў у дарогах і таму нічога не ведаў аб пераведзеных грошах з Ленінграда.*

*Вершы пра Пушкіна трафілі ў Маскву таму, што да нас прыязджалі Масквічы за гэтымі вершамі. Верш «У доме Пушкіна» я напісаў даўно. Другі пісаў едучы ў Прагу ды ў дарозе згубіў і ніяк не прыпомніў яго пачатак. Зараз я перарабіў яго тры радкі. Пачынаецца ён зараз так:*

*«Юнацтва маё ў непагожыя дні*
*Прайшло па этапных шляхах старыны.*
*І песня твая да мяне прыплыла»... і г.д.*

*Прашу Цябе, калі не позна, дадай гэту папраўку. Яна, лічу, патрэбна. Верш пазбываецца лішняй нагрузкі гістарычнай, якая, дарэчы сказаць, тут і не гучыць. Робіцца цяплейшым. Мне здаецца, у добрым перакладзе Усевалада Аляксандравіча рытмічна верш стаў менш выразным. Мо лепш было б пакінуць рытм арыгінала? Ёсць пару заўваг да Твайго пераклада, але яны такія, што і ў Мінску можна будзе іх уладзіць. З усім іншым я з Табой згодзен. Прывітанні Табе ад Любы. Прывітанні ад нас усім незабыўным цудоўным сябрам. Спадзяюся, што хутка пабачымся. Моцна цісну Тваю руку —*

Максім Танк

Мінск 24.5.1949 г.

## ДАРАГІ ЯЎГЕНІЙ СЯМЁНАВІЧ![7]

*Я даўно да Цябе збіраўся напісаць з нашага разбуранага Мінска, але ледзь не кожны дзень быў у камандыроўцы і толькі пару дзён як вярнуўся хворы дадому. Аб'ездзіў я за гэты час і Беларусь, і беларускі фронт. Шмат прыйшлося пабачыць і радаснага і жудаснага. Як сустрэнемся, будзе аб чым пагутарыць. Спадзяюся, што рана ці позна, а наведаеш наш Мінск. Збіраемся склікаць пленум, але столькі розных неадкладных спраў, што з месяца на месяц адкладаем тэрмін.*

*Зараз да першага наступнага месяца загружаны Лынькоў, Куляшоў і я «франтавымі» заказамі. Маецца выйсці кніга «Беларускі паход», кніга аб арміі Гарбатава, якая зараз стаіць на Прускай граніцы і якая ў вызваленні Беларусі прымала актыўны ўдзел. Я напісаў пару вершаў да гэтай кнігі. Прасіў бы Цябе, калі будзеш мець час і яны Табе спадабаюцца, перакласці іх і адначасна выкарыстаць іх у друку пакуль выйдзе тая кніга. Калі не будзеш мець часу, я прашу перадаць гэтыя вершы і папрасіць ад мяне Ірыніна, каб ён заняўся імі. Сам я ў Маскву хіба да Новага года ніяк не змагу пад'ехаць.*

*Пішы, над чым працуеш.*

*Прывітанне ад жонкі. Моцна цісну Тваю руку з надзеяй на хуткую сустрэчу.*

*З прывітаннем —*

Максім Танк

Мінск 20.11.1944 г.

## ПАВАЖАНЫ ТАВ. ФАДЗЕЕЎ![8]

*У тэлеграме, якую я Вам выслаў з Ульянаўска, я Вас прасіў пасадзейнічаць мне зноў вярнуцца ў франтавую прэсу. Справа мая выглядае так: дзевятага сакавіка 1942 г. ад ПУРККА я атрымаў загад дзесятага сакавіка выехаць у Саратаў, дзе мяне павінны былі выкарыстаць у адной з газет у якасці літработніка. Але ў Саратаве месца не знайшлося. Накіравалі мяне на адміністр.-гаспадарчую работу ў інцендантскае ўпраўленне, якое, у сваю чаргу, паслала мяне ў Ульянаўск на перакваліфікацыю. Праз пару месяцаў я буду малодшым камандзірам. Я не ведаю, якія прычыны паслужылі таму, што мне далі загад выехаць з газеты, у якой я працаваў і ў якой я не быў лішнім чалавекам. Можа таму, што заходнік? Зноўжа, пярэчыць гэтаму тое, што я — ў школе. Для мяне ўсё гэта не толькі незразумела. Бо будучы на фронце і працуючы там па сваёй спэцыяльнасці я прынёс бы карысці шмат больш як там, дзе знаходжуся цяпер не маючы магчымасці пісаць. Ды пасколькі мне ведама, да гэтага часу ніхто якраз у такой перакваліфікацыі пісьменнікаў не быў і не зацікаўлены. Усе гэта перарвала маю работу, якую ў абставінах франтавой прэсы я мог бы кончыць за пару месяцаў, а тут мне нават не прыходзіцца аб гэтым марыць і думаць. Таму прашу Вас, таварыш Фадзееў, калі магчыма, памагчы мне выясніць маю справу. З прывітаннем*

Максім Танк

Гор.Ульяновск почтовое отд. 2
Почт. Е.Скурко. (М.Танк) п | я 171 |4
Ульянаўск 19.4.42 г.

## ДАРАГІ ЯКАЎ![9]

*Гэта лета зусім мяне выбіла з працы: цяжка захварэлі мае старыя бацькі, а месяц таму нявестка нарадзіла ўнука, якога ледзь уратавалі, бо нарадзіўся на тыдні тры раней. Таму я не змог пад'ехаць у Маскву на Пленум Камітэта Міра, пабываць на юбілеях нашых шасцідзесятнікаў. Чуў толькі, што ўсе юбілейныя ўрачыстасці прайшлі на высокім узроўні, шмат было гасцей, тэлеграм. Прызнацца, я не люблю гэтай шуміхі, ды, відаць, і самім юбілярам каштавала гэта шмат здароўя. Кніжку Тваю «Неприкосновенный запас» (харошая назва !) атрымаў, прачытаў і парадаваўся, знайшоўшы ў ёй шмат харошых вершаў, сугучных і блізкіх усім нам, хто пранёс у сваім сэрцы праз усе нягоды і выпрабаванні гэты непарушны запас любві, дружбы, сумленнасці.*

*Калі будуць якія магчымасці, пастараюся праехаць па Твайму паўночнаму маршруту. Я быў калісьці ў Швецыі і Фінляндзіі, але Нарвегія, чуў, найбольш маляўнічая і паэтычная краіна. Агітаваў мяне яшчэ калісьці Путрамант, які, здаецца, некалькі разоў гасціў там.*

*Кніга мая «Хлеб мой надзённы» даўно ўжо надрукавана. Я нават маю сігнальны экземпляр, але тыраж, відаць, недзе ляжыць у пераплётнай, дзе зараз усе заняты выпускам школьных падручнікаў. Як толькі з'явіцца ў магазіне ці атрымаю аўтарскія, адразу прышлю Табе. Кніга выдана на добрай паперы, хораша аформлена нашым цудоўным мастаком Заборавым. Радуе і тыраж — 27 тысяч!*

*Зараз я са сваімі дочкамі адпачываю ў Планерскім. Гарачыня тут страшэнная. І схавацца няма дзе ад сонца, ад распаленага блакіту неба, ад шуму і гаму турыстаў. Гадоў 15 я не ездзіў на курорты. Цяпер канчаткова пераканаўся, што найлепш адпачываць дома.*

Моцна Цябе абдымаю. Прывітанні Тваёй сям'і.
Максім Танк

Планерскае, 3.8.65 г.

## ДАРАГІ ДРУЖА ЯКАЎ!

*Дзякую Табе за майскую паштоўку і добрыя пажаданні. У самога мяне — кепскія справы: тры месяцы правёў у бальніцы. Зараз адпусцілі на свята. Магчыма, зноў трэба будзе вяртацца на бальнічнае ложа. Да ўсяго, і Любоў Андрэеўна ледзе ходзе дома. Відаць, сёлета не зможам паехаць і на Нарач. Зараз рыхтую сваю апошнюю падборку для «Полымя». Можа, нават прышлю Табе пачытаць, бо аб друкаванні ў нашы дні — справа безнадзейная і, лічу, беспатрэбная. Даў я ў «Неман» з дзесятак Тваіх перакладаў. Не ведаю нат які іх лёс. Бо ўсё, прызнацца, так астачарцела, што не хочацца і гаварыць пра нашы пісьменніцкія справы, пра якія Ты сам добра ведаеш. Зараз пад відам рэабілітацыі ідзе адмыванне ўсіх чорных варон і іх кананізацыя, што толькі дзіву даешся: да чаго можа дайсці кожны звар'яцелы шавініст. Яшчэ пакуль што ў нас не страляюць, хоць некаторыя класікі бядуюць, што перасохлі рэкі, каб тапіць, і высяклі лясы, каб вешаць камуністаў. Прымі сардэчныя віншаванні з майскімі святамі і пажаданні здароўя.*

Максім, 1992 г.

## ДОРОГОЙ ДРУГ КОСТАС![10]

*Расплачиваясь за легкомысленный образ жизни (беспрерывные юбилеи, поездки, заседания), нахожусь под домашним арестом и под наблюдением разных эскулапов. Не знаю, когда они смогут отрегулировать мое сердце, и смогут ли они это сделать. Сегодня, неожиданно, получил чудесный подарок — «Literatura iz Menas» № 42, в котором напечатана большая подборка моих стихов, переведенная Тобою. Большое Тебе спасибо за то, что моим скромным стихам выпало счастье прозвучать на братском литовском языке и погостить у моих дорогих друзей.*

*Сердечно поздравляю Тебя с наступающим праздником Великого Октября. Желаю Тебе здоровья, радостных дней в Твоей большой творческой жизни.*

Крепко обнимаю
Максим Танк

Минск, 24.10.72 г.

## ДОРОГОЙ ДРУГ КАРЫМ![11]

*Сердечное спасибо за Ваше поздравление с присуждением мне Ленинской премии. Разрешите и мне крепко пожать Вашу руку — руку собрата по оружию — чудесного поэта, на родине которого мне выпало счастье однажды побывать, и незабываемое воспоминание о котором я свято храню в своём сердце.*

*Я очень рад, что книга моих стихов понравилась Вам, и что строки из стихотворения «Красива ли ты» стала эпиграфом Вашего стихотворения, получившего широкое признание туркменских читателей. Я знаю, что часто эпиграф, как эхо в горах, может вызвать целую лавину, значительно превосходящую его звучание. С любовью и братским приветом.*

Максим Танк.

Нарочь, 18.8.78.

## ПАВАЖАНАЯ НІНА АЛЯКСАНДРАЎНА[12]

*Выбачайце, што не змог раней адказаць на Ваша пісьмо, бо толькі сёння вярнуўся ў Мінск з адпачынку. Быў у сваіх родных нарачанскіх мясцінах і блізкай Вам і мне Вілейцы.*

*З нецярпеннем буду чакаць выхаду Вашага бібліяграфічнага даведніка выданняў Кампартыі Заходняй Беларусі. І так пару слоў пра «Краты». Першы нумар гэтага часопіса, хутчэй за ўсё, выйшаў у самым канцы 1933 г., бо да мая 1934 г., калі я звольніўся з Лукішак, было выдана 6 нумароў. Пасля мяне рэдактарамі «Крат» былі П.Пястрак і В.Таўлай. Зараз цяжка ўдакладніць, колькі выйшла нумароў гэтага цікавага турэмнага часопіса, які выдаваўся ў двух экземплярах. За турэмныя краты, відаць, яго вынесці не ўдалося. Магчыма, і да сённяшняга дня парахнеюць старонкі яго ў нейкім вентыляцыйным лабірынце Лукішскіх муроў, дзе пераходваліся розныя грыпсы і іншая нелегальная літаратура.*

З прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі.

Мінск, 3.IX.1979 г.

## ДАРАГІ ДРУЖА![13]

*Зараз мне цяжка знайсці ў архіве сваё выступленне. Магу толькі паўтарыць свае словы, якія я сказаў, развітваючыся з незабыўным дзядзькам Рыгорам. Вось яны:*

*Рыгор Раманавіч Шырма быў піянерам і першапраходцам у многіх галінах нашага мастацтва. Без яго нашмат бяднейшай была б наша песня, наша літаратура, наша культура. Талент яго быў усеахопліваючым. Да чаго б ён ні дакрануўся, тое ззяла здзіўляючым хараством, гучэла незабыўнай мелодыяй. Страсцю Рыгора Раманавіча былі песня і літаратура, да якіх ён адносіўся з бязмежнай любоўю і замілаваннем. Яны яго глыбока краналі, цікавілі, імі ён умеў з усёй шчырасцю і маладым запалам захапляцца і перад імі ставіць высокія тэмы і адказныя задачы. Ён надзвычай беражна адносіўся да скарбаў народнай культуры і нас вучыў іх збіраць, прыумнажаць і даражыць імі. Рыгор Раманавіч заўсёды быў у гушчы падзей нашага часу, у цэнтры грамадскага і культурнага жыцця, пошукаў і ідэйнай барацьбы за рэалістычнае, народнае, партыйнае мастацтва. Ён быў чалавекам багатай і шчодрай натуры, які заўсёды прыцягваў да сябе творчыя маладыя сілы і таленты. І таму яго шматгранная і нястомная дзейнасць з'яўляецца слаўнай старонкай у гісторыі і культуры беларускага народа і значным укладам у скарбніцу ўсёй шматнацыянальнай культуры нашай краіны...*

*Многа можна было б сказаць пра дзядзьку Рыгора, бо многім з нас ён памог стаць на свае ногі, узняцца на крылах да палёту.*

*Я дужа рад, што ты збіраешся прысвяціць яму старонкі сваіх успамінаў.*

Моцна абдымаю.

Максім Танк

26/VII. 1979 г.

## ГЛЫБОКАПАВАЖАНАЯ і ДАРАГАЯ КАНСТАНЦЫЯ АНТОНАЎНА![14]

*Шчыра дзякую Вам за Ваша цудоўнае пісьмо. Толькі Вы перабольшваеце заслугі сакратарыята і мае асабістыя, бо — на вялікі жаль — мы яшчэ працуем не так, як хацелася б і як трэба было б працаваць. Нас часцей трэба крытыкаваць, бо за навалай розных другарадных спраў мы часта не паспяваем своечасова вырашаць шматлікія творчыя, арганізацыйныя і іншыя пытанні. Мы ўдзячны нашай Партыі і Ураду за тое, што яны так добразычліва аднесліся да ўсіх нашых пісьменніцкіх просьб і клопатаў і штодзённа аказваюць нам дапамогу. Рады, што Вашы вялікія заслугі перад нашай беларускай літаратурай атрымалі высокую ацэнку і ўсенароднае прызнанне; рады, што Вы зараз чуецеся лепш, папраўляецеся, вяртаецеся да працы. Шчыра дзякую Вам за вершы, якія Вы прыслалі для ленінскага зборніка, які павінен выйсці да юбілейнай даты. Ад усяго сэрца ўсе мы жадаем Вам хутчэй паправіцца. Бясконцыя прывітанні Вам і Вашаму мужу ад Вашых шматлікіх мінскіх сяброў.*

З глыбокай пашанай і любоўю

Максім Танк

Мінск, 15.3.69 г.

## ДАРАГІ ДРУЖА![15]

*І я вельмі шкадую, што не змог Вас пабачыць у Мінску і падзякаваць Вам за фотаздымкі, якія, у сувязі з маёй хваробай, досыць доўга пралежалі ў рэдакцыі «Полымя». Работу гэту я прачытаў з цікавасцю. Яна мне прыпомніла далёкія мінулыя дні, якія ўжо сталі гісторыяй і пакрыліся пылам забыцця. Выправіў я толькі некалькі памылак. Яны, відаць, закраліся ў прозвішчы не па віне розных рэферэнтаў. Што да Гарэлічонка дык ён, сапраўды, не быў у Львове. Я аб гэтым знаю добра, бо мы разам з ім сядзелі і судзілі нас па адной справе. Я, здаецца, Вам гаварыў, што да арышта ён працаваў на Віленскай алейнай фабрыцы. Быў членам Новасвецкага гуртка ТБТ. А з Серафімам Паворам я вучыўся ў Радашковічах і працаваў у Вільні ў камсамоле. Я знаў і «Адольфа», які нейкі час быў нацкікам. Але потым след яго недзе загубіўся, і зараз цяжка ўстанавіць і сапраўднае прозвішча. Вам напэўна пісаў Анатолій Сцяпанавіч, што нашы вершы ён падрыхтаваў для «Полымя». Не знаю толькі, у які ён збіраецца нумар іх даць, бо яшчэ (толькі ўчора вярнуўся з Грузіі) і сам не прагледзеў рэдакцыйных планаў. Жадаю Вам здароўя і поспеху ў Вашай службе і ў працы.*

Моцна цісну Вашу руку —

Максім Танк.

Мінск 4.X.66.

## ДАРАГІ УЛАДЗІМІР ВАСІЛЬЕВІЧ![16]

*Дазвольце, хоць са спазненнем, павіншаваць Вас з слаўным 65-годдзем. І дарэмна Вы крыўдуеце на сябе, што нібы мала за гэты час зроблена. Бо і зроблена не так ужо мала, ды і годы былі такія, што часта прыходзілася адрывацца ад мірнай працы і займацца рознымі неадкладнымі і неабходнымі справамі, і да літаратуры вяртацца толькі ў вольны час.*

*З усіх апавяданняў, пра якія Вы пішаце, мне здаецца, падышло б для «Полымя» апавяданне Лаганоўскага Е., хаця тэма, сапраўды, не новая. Калі ёсць у Вас пераклад — прышліце нам. Калі будзеце перакладаць чэхаў, дык не забывайце і пра нас. Мы ахвотна надрукуем некалькі навел Яна Дрды і Іржэ Марэка. Апошняга мы друкавалі ў «Полымі» ў мінулым годзе.*

*Я толькі ўчора вярнуўся з больніцы. Нешта пачаў хварэць і канца хваробам не відаць. Таму і не быў на абмеркаванні «Полымя». У сувязі з дрэнным станам здароў'я буду прасіць, каб мяне або звольнілі з работы ў часопісе, або далі некалькі месяцаў адпачыць, каб паправіць сваё здароў'е.*

*Апошнімі часамі я нават не пісаў і, відаць, не хутка змагу ўзяцца за пяро. Здаў у выдавецтва новы зборнік вершаў і зборнік казак.*

*Перадайце шчырае прывітанне Судрабкалну.*

Моцна цісну Вашу руку.

З прывітаннем

Максім Танк.

Мінск 17.4.54 г.

## ДАРАГІ ВЯЧАСЛАЎ ПЯТРОВІЧ![17]

*Прачытаў я Вашы тэзісы і падумаў: а ці варта ў наш час глабальнай рэвалюцыйнай перабудовы ўдзяляць столькі ўвагі справам «давно минувших дней»? Ну, ды гэта, відаць, тэма для нейкай наступнай навуковай канферэнцыі ці нашай сяброўскай бяседы. А зараз спрабую адказаць на Вашы пытанні.*

***1.** Мне цяжка сказаць, хто з літоўскіх пісьменнікаў мне бліжэй за ўсіх. У свой час я быў захоплены творамі многіх літоўскіх паэтаў і пісьменнікаў, ачара-*

*ваны эпічным подыхам Данелайціса, палымянай рэвалюцыйнай паэзіяй Янoніса, цудоўнай лірыкай Нерыс, як і многімі творамі сучасных літоўскіх майстроў слова, якія з высокай нацыянальнай годнасцю і глыбокім рэалістычным пранікненнем у жыццё раскрываюць непаўторны вобраз свайго народа, яго душу. Гіра, Ціловіцэс, Борцта, Венулава, Жукаўскас, Межэлайціс, Марцінкявічус, Матузявічус, Раймерыс і многія другія — магутная паэзія, якая ўзбагаціла ўсю нашу шматнацыянальную Савецкую літаратуру. І блізасць да яе, знаёмства з ёю даюць нам, беларускім паэтам, большую ўпэўненасць у пошуках новых выяўленчых сродкаў і шляхоў развіцця.*

***2.*** *Спецыфіка беларуска-літоўскіх узаемасувязяў — у супольных гістарычных лёсах нашых народаў, якія разам змагаліся за сацыяльную і нацыянальную справядлівасць, разам адстаівалі заваёвы Кастрычніка. Таму мы знаходзім шмат супольных, сугучных матываў у нашых народных песнях і казках, абрадах, у распрацоўцы такіх тэм, як станаўленне савецкай улады ў Літве і Беларусі, як адлюстраванне гераізма народа ў Вялікай Айчыннай вайне, яго ратных і працоўных подзвігаў. Бясспрэчна, што за пасляваенныя годы значна ўзмацніліся нашы літаратурныя сувязі, хоць у большасці выпадкаў яны яшчэ маюць юбілейны ці дэкадны характар. І тут варта было б нам павучыцца ў калгаснікаў і рабочых нашых рэспублік, якія даўно плённа спаборнічаюць, дзеляцца сваім вопытам, сваімі дасягненнямі, часцей сустракаюцца на сваіх палях, у цэхах заводаў, як мы — на старонках свайго друку і супольных нарадах. Неабходна больш увагі ўдзяліць і перакладам лепшых твораў беларускіх і літоўскіх пісьменнікаў, твораў, якія пашыраюць абсяг новых тэм, памагаюць на больш высокім ідэйным і мастацкім узроўні адлюстроўваць нашу сучаснасць.*

***3.*** *Многаму мы можам навучыцца ў нашых літоўскіх сяброў. Навучыцца больш беражным адносінам да сваёй гісторыі, спадчыны, культуры, прыроды, мовы і клапатлівым адносінам да выхавання новай маладой змены. Напэўна, нешта могуць пераняць нашы літоўскія сябры і ў нас. Але гэта лепш ведаць ім самім.*

***4.*** *На вялікі жаль, літоўскай мовай я не валодаю. Неяк склалася так, што ў гады майго юнацтва мовай нашых сувязяў пераважна былі мовы польская і руская, якімі мы ўсе валодалі, хоць гучанне літоўскай мовы для мяне такое ж блізкае і мілагучнае, як народнай песні ці музыкі. Да таго, дзякуючы шматвекавому мірнаму суседству нашых народаў, эканамічным і культурным сувязям і адсутнасці нейкіх геаграфічных бар'ераў, у беларускай мове захавалася шмат літуанізмаў, як, напэўна, і ў літоўскай — беларусізмаў, на што было б варта звярнуць увагу нашым моваведам, бо даследванне ў гэтай галіне абяцае шмат цікавых адкрыццяў і падарожжаў у неабсяжныя прасторы нашых моў.*

***5.*** *Вільнюскі універсітэт, не зважаючы на тое, што, як і большасць вышэйшых навуковых устаноў у Санацыйнай Польшчы, быў маладаступны для дзяцей з рабочага і сялянскага асяроддзя, адыграў значную ролю ў культурным жыцці на т.з. в.«Усходніх крэсах». Зразумела, што і для мяне ён быў закрыт, як для чалавека, пазбаўленага судом Панскай Польшчы на 8 год усіх правоў і некалькі раз зведаўшага казематы славутых «Лукішак». Мне толькі даводзілася часта выступаць у Зале Снядэцкіх на розных літаратурных вечарах і мітынгах, арганізаваных прагрэсіўнымі студэнцкімі арганізацыямі і кружкамі, а праз знаёмых польскіх пісьменнікаў — Путраманта, Рымкевіча, Буйніцкага, Мікуску — карыстацца бібліятэкай кола паланістаў, дзе можна было знайсці амаль усе навінкі савецкай літаратуры, што для мяне мела велізарнае значэнне. Тут я сустракаўся з многімі польскімі, літоўскімі, яўрэйскімі, рускімі, украінскімі студэнтамі. Універсітэт вільнюскі быў у нейкай меры своеасаблівай, як і Лукішкі, школай інтэрнацыяналізму і нашых братэрскіх сувязяў.*

***6.*** *Што хацелася б пажадаць літоўскім сябрам? Ёсць у нас вядомая песня «Бывайце здаровы!» на словы А. Русака, у якой, мне здаецца, паэту ўдалося выказаць самыя запаветныя ўяўленні народа аб шчасці, якога мы заўсёды жадаем*

*нашым блізкім. Хай жа гэта шчасце будзе штодзённым спадарожнікам у жыцці і маіх літоўскіх сяброў, і хай далей мацнее наша дружба — надзейная запарука нашы далейшых поспехаў у жыцці, у барацьбе за мір і светлую будучыню. Кажуць, што мастак нараджаецца двойчы. Першы раз яго нараджае маці, другі раз — абставіны. Вось аб гэтых абставінах мы заўсёды павінны помніць. Хацелася б, каб наша новая змена хутчэй расла, мужала і арыентавалася на самыя высокія вяршыні духоўнай культуры, больш упэўнена ўступала на свой творчы шлях, смялей брала на свае плечы груз абавязкаў і далей развівала слаўныя традыцыі савецкай літаратуры — традыцыі служэння праўдзе і народу. І хай ніколі не зарастаюць травой дарогі, якія вядуць да сяброў.*

Максім Танк

P.S. Дарагі Вячаслаў Пятровіч! Не крыўдуйце на трафарэнтную нудоту маіх адказаў на Вашы пытанні, але за гаспадарчымі нарачанскімі клапотамі няма калі ні думаць, ні пісаць. Шчыра Вам дзякую за артыкул для «Бярозкі» і перапрашаю, што сваім 75-годдзем прыспорыў Вам клапот. Спадзяюся, што і мы хутка, следам за балгарамі, прымем разумную пастанову аб адмене розных тэатралізаваных урачыстасцей, юбілеяў і іншых паказух, якія даўно ўжо ўсім надакучылі.

З нарачанскім прывітаннем.

Нарач, 27.8.1987 г.

## ДАРАГІ ІВАНЕ![18]

*Пісьмо тваё атрымаў. Пастараюся адшукаць твой артыкул пра В.Таўлая. Мне здаецца, ён патрабаваў вельмі грунтоўнай дапрацоўкі. На радзіму Адама Гурыновіча, у зімніх умовах і пры сёлетнім бездарожжы, дабрацца вельмі цяжка, і, асабліва, з такім вопытным шафёрам, як я, рызыкаваць не варта. Твая ацэнка «Глытка вады», прызнацца, мяне не здзівіла. Я помню, што і пасля «Пад мачтай» і гаварылі, і пісалі, што я выпісаўся, што папярэднія мае зборнікі лепшыя. І калі там пасвятлее ў Вашых галавах! Пішы, можа што знайшоў цікавага ў архівах для нашага часопіса, ды агітуй віленскіх беларусаў, каб падпісваліся на «Полымя», бо з Новага году ў нас будзе друкавацца шмат цікавых матэрыялаў. Ды і сам не думай хварэць!*

З прывітаннем
Максім Танк

Мінск 29.11.64 г.

## ПАВАЖАНАЯ МАРЫЯ МІХАЙЛАЎНА, ДАРАГІЯ МАЕ ЮНЫЯ СЯБРЫ![19]

*Выбачайце, што замарудзіў з адказам на ваша цікавае пісьмо, бо атрымаў я яго ў цяжкія для мяне дні, калі пахаваў блізкіх — дачку і сястру, а самога з жонкай падкасілі розныя хваробы і недамаганні.*

*І так — лічу слушнымі некаторыя Вашы крытычныя заўвагі ў адносінах да сваіх вершаў, услаўляючых часы культа, часы, якія аказаліся самымі змрочнымі ў жыцці ўсёй нашай краіны. Скажу толькі, што, за рэдкім выключэннем, аб гэтым пісьменнікі не ведалі, як не ведалі ачмураныя тагачаснай прапагандай і запалоханыя мільёны людзей, якія на сваіх шматлікіх сходах і мітынгах аднагалосна патрабавалі расправы над т.зв. «ворагамі народа».*

*Гэтым тлумачыцца і той факт, што ў тыя часы нават многія самыя выдатныя прадстаўнікі сусветнай літаратуры, такія, як: Фейхтвайгер, Лу Сінь, Тагор, Ралан, Сінклер, Нексе, Шоу, Бранеўскі і іншыя, — услаўлялі Савецкі Лад, Сталіна і яго крывавых апрычнікаў, хоць ім не было чаго баяцца. Але і Яны не ведалі ўсёй страшнай праўды:*

*Асноўным маім жанрам з'яўляецца лірыка. Я кожны год даю падборкі сваіх вершаў то ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», то ў дзевятых — нумарах — ужо стаўшых традыцыйнымі нумарамі — часопіса «Полымя». Відаць, Вы іх не чыталі і судзіце па скупых публікацыях у школьных падручніках, па якіх цяжка мець нейкае аб'ектыўнае ўяўленне аб творчасці любога пісьменніка. І ў гэтым не Ваша віна, школьныя праграмы так перагружаны рознымі прадметамі, што на літаратуру застаецца вельмі мала часу.*

*Я думаю, што сапраўднай паэзіяй з'яўляецца лірыка, і спалучэнне яе з палітыкамі ніколі не прыносіла карысці ні паэзіі, ні палітыцы, якая заўсёды бывае зменнай, падначаленай патрабаванням часу, умовам, розным партыйным догмам. Псеўданім свой я выбраў не толькі таму, што мне, як танку, ва ўмовах былой Заходняй Беларусі трэба было прабівацца праз розныя акупацыйныя і цэнзурныя перашкоды, але і таму, што ўсе віды флоры былі разабраны маімі папярэднікамі і сябрамі. Прыгадайце толькі: Колас, Гушча, Чарот, Чабор, Крапіва, Бярозкін, Васілёк і г.д.*

*Ды слова «танк» больш асацыіруецца з адной са старэйшых форм японскай паэзіі — «танк»-«танка» (пяцірадковы нерыфмаваны верш). Як бачыце, псеўданім гэты мае пэўнае дачыненне і да літаратуры. Ды ад псеўданімаў, як і ад прозвішчаў, нельга патрабаваць, каб яны адпавядалі сваім гучаннем, бо тады Максім Горкі павінен быць горкім, Міхаіл Галодны — галодным, Змітрок Бядуля — бядулем, Якуб Колас — коласам, Кузьма Чорны — чорным і г.д. А што да зброі знішчэння, дык ёю можа быць і кавенька, на якую абапіраемся, і нож, якім кроім хлеб, і агонь, падораны нам Праметэем, і многія дзяржаўныя сімвалы, і нат пяро. Я калісьці пісаў у адным са сваіх вершаў. Тут усё залежыць, у чыіх яны руках:*

*—Я — цар. Магу — хваліўся Меч,—*
*Любую галаву зняць з плеч.*
*— А я — Сціло. Магу забіць,*
*— Але й з нябыту ўваскрасіць.*

*Аб грамадскім значэнні і актуальнасці сваіх вершаў гаварыць не буду, бо толькі час, а не сам аўтар, і нат не яго сучаснікі, якія вельмі часта памыляліся і памыляюцца, можа даць аб'ектыўную ацэнку.*

*Зараз мы перажываем векапомныя дні, калі ад канчатковых вырашэнняў нацыянальных, сацыяльных і дзяржаўных пытанняў будзе залежаць [будучыня] далейшы лёс нашага беларускага народа. Хочацца верыць, што [яна] наша будучыня будзе больш светлай, чым праклятая мінуўшчына, і што нашай маладой змене не прыйдзецца перажыць таго, што перажылі нашы дзяды і бацькі, людзі майго пакалення.*

*Ад усяго сэрца віншую Вас з надыходзячым Новым годам і жадаю Вам усяго найлепшага ў жыцці, вучобе і працы.*

Максім Танк

## КАМЕНТАР

1. Бартэльскі Леслаў (нар. 1920) — польскі празаік, паэт, публіцыст, літаратурны крытык, перакладчык. Аўтограф захоўваецца ў архіве адрасата. Пераклад У. І. Мархеля.

2. Канановіч Мацей Юзаф (1.II.1912—31.IV.1986) — польскі пісьменнік і перакладчык. Перакладаў на польскую мову творы М.Танка. Аўтограф захоўваецца ў архіве адрасата.

3. Яворскі Казімір Андрэй (1987—1973) — польскі паэт.

4. Гушча Ян (24.XII.1917—26.VI.1986) — польскі пісьменнік і перакладчык. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 25, воп. 4, с. 136.

5. Вяльможын В. Н. — настаўнік са Смаленшчыны. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 25, воп. 5, с. 144.

6. Кабзарэўскі П.С. (14.VIII.1909—8.X.1970) — рускі пісьменнік, перакладчык. Перакладаў на рускую мову творы М. Танка. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 31, воп. 2, с. 419.

7. Мазалькоў Я. С. (30.IX.1909—15.XII.1969) — расійскі літаратуразнаўца, крытык, перакладчык. Перакладаў на рускую мову творы М.Танка. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 259, воп. 1, с. 390.

8. Фадзееў А. А. (11.XII.1901—13.V.1956) — рускі пісьменнік.

9. Хелемскі Я. А. (нар. 18.I.1914) — рускі паэт і перакладчык. Перакладаў на рускую мову творы М.Танка. Аўтограф захоўваецца ў адрасата.

10. Корсакас Костас (5.X.1909—24.11.1986) — літоўскі літаратуразнаўца, паэт, акадэмік АН Літвы, народны пісьменнік Літвы (1979). Аўтограф захоўваецца ў Інстытуце літоўскай літаратуры і фальклору АН Літвы, ф. 17-4578.

11. Курбаннепесаў Керым (26.X.1929—1.IX.1988) — туркменскі паэт, народны пісьменнік Туркменістана. Перакладаў на туркменскую мову творы М. Танка. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 25, воп. 4, с. 140.

12. Ляшковіч Н.А. (1912 - ........) — супрацоўніца аддзела рэдкай кнігі ЦАН Літвы.

13. Юшчанка А. Я. (нар. 2.VIII.1917) — украінскі паэт. Аўтограф захоўваецца ў асабістым архіве адрасата.

14. Буйло Канстанцыя (2.(14).I.1893—4.VI.1986) — паэтэса. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 263, воп. 1, с. 100.

15. Панізнік Сяргей (нар. 10.V.1942) — паэт, перакладчык. Аўтограф у асабістым архіве адрасата.

16. Пігулеўскі У. В. (10.III.1898—17.VI.1958) — пісьменнік, перакладчык, беларускі грамадскі дзеяч. Аўтограф захоўваецца ў ЦНБ НАН Б, ф. 6, воп. 1, адз. зах. 64.

17. Рагойша В. П. (нар. 5.VI.1942) — крытык, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук. Аўтограф захоўваецца ў асабістым архіве адрасата.

18. Шутовіч Янка (11.I.1904—9.XII.1973) — літаратуразнаўца, выдавец, публіцыст, грамадска-культурны дзеяч Заходняй Беларусі. Аўтограф захоўваецца ў ЦНБ НАН Б, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 224.

19. Шыкуць М. М. — настаўніца СШ № 2 г. Клецка. Аўтограф захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 25, воп. 5, с. 145.

***Уступнае слова, падрыхтоўка да друку і каментар С. Калядкі.***



АЛЕСЬ МАРЦІНОВІЧ

# «ДУШЫ... ХОЧАЦЦА ЦЯПЛА»

Навум Гальпяровіч.
**Святло ў акне.** Вершы. — Мн.: Юнацтва, 2002.

Варта адно толькі адгарнуць першую старонку новай кнігі паэзіі Навума Гальпяровіча «Святло ў акне» і адразу ўзнікае адчуванне, што сустракаешся са сваім добрым знаёмым, бо лірычнага героя паэта няблага ведаеш па ранейшых зборніках, як ведаеш і тое, чым жыве ён, што непакоіць яго. Аднак, як і ў жыцці, кожная новая сустрэча дадае нешта новае. У дачыненні да творчасці Н. Гальпяровіча — гэта абвостранае, прагавітае жаданне разабрацца ў самім сабе і людзях. А адбываецца ўсё праз матывы еднасці з бацькоўскай зямлёй, праз заглыбленне ў сівую даўніну. Лірычны герой паэта, у чым асабліва пераконвае яго новая кніга, вяртае чытачу першародны сэнс шмат якіх асноватворных паняццяў, ачышчаных ад друзу выпадковага і другаснага. І галоўнае тут — прывязанасць чалавека да Бацькаўшчыны. У адрозненне ад многіх паэтаў, Н. Гальпяровіч не схільны да поклічных запэўніванняў і гучнай кляцьбы ў адданасці і вернасці Беларусі. Прамаўляецца ўсё, як на першы погляд, сцішана, засяроджана, творчая задумка аўтара раскрываецца гэтым даволі грунтоўна. Паслядоўна праводзячы сваю думку, паэт закранае ў чытацкай душы самыя патаемныя струны:

Купальскай летняй ночкай памаўчым.
Вунь з неба зорка на зямлю упала.
Два ціхіх словы — «Беларусь», «Купала», —
Нібы ад брамы вечнасці ключы.

Дурманяць травы. Ружавее ўсход,
Шапочуць хвалі першароднай мовай,
Якой шаптаў Купала тыя словы,
Што ў сэрцы спелі, — «Беларусь», «Народ».

Паэзія Н. Гальпяровіча — паэзія глыбокой думкі, пэўнай філасафічнай напоўненасці. Але найперш гэта паэзія пачуцця, з якога паступова і прарастаюць зерні важкай сэнсавай напоўненасці. Гэтае паэтычнае пачуццё прыводзіць да асаблівай настраёвасці, што выклікае суперажыванне, блізкае аўтарскаму. Творчая скіраванасць вершаў Н. Гальпяровіча — у тым глыбіннасутнасным, якое ва ўсёй паўнаце і суладдзі можна зразумець толькі тады, калі сэрца перапоўнена болем і памкненнем слухаць прыроду, час, вечнасць. Калі здатны прыслухоўвацца да самога жыцця: сённяшняга і таго, якое было раней, зразумеўшы, што з падобных імгненняў і складаецца ўсё зямное, душы блізкае, сэрцу адкрытае. Нярэдка да падобных высноў прыходзіш шляхам пераацэнак і ўласных поглядаў, і свайго стаўлення да пэўных з'яў і ўчынкаў. Але тым большая важкасць нязменнага пераканання, што так ёсць і павінна быць:

Іней ляжыць на жарстве. Падмарозіла.
Голыя вербы. На лодцы замок.
Ціхае неба і ціхае возера.
Вечар. Празрыстасць. І пахне зімой.

Ціхае неба і ціхае возера,
Голыя вербы на ўскрайку сяла...
Гэтыя фарбы пяшчоты і восені
Поўныя суму, тугі і святла.

Колькі ж пакут і бяссонных гадзінаў,
Колькі ж памылак прайшло праз гады,
Каб зразумець, што вось гэта — адзінае.
Гэта адзінае, што назаўжды.

І неўпрыкмет ад імгненняў паўсядзённага жыцця масток перакідваецца да берагоў самой вечнасці. Але Н. Гальпяровіч і гэтым разам далёкі ад таго, каб падаваць нейкія разгорнутыя — у часе і прасторы — малюнкі, як бы нанізваць асацыяцыю на асацыяцыю. Наадварот, у выбары выяўленчых сродкаў паэт вельмі ашчадны. Аднак гэта не перашкаджае сказаць галоўнае. Дзякуючы таму, што спрацоўвае тое сакральнае, нікім да канца не вытлумачанае, дый у рэшце рэшт невытлумачальная сутнасць творчасці, паэтычная загадкавасць. У выніку, здавалася б, зусім простыя радкі, пры ўсёй сваёй някідкасці, нясуць вельмі шмат і многае прамаўляюць. Праз тую ж настраёвасць, тое ж пачуццё:

Ціхі полацкі вечар...
Як тысяча гадоў таму.
Здаецца, рыпне за акном кола
І пакліча ў дарогу ізноў.
А на беразе Палаты дзьмухаўцы,
Як дваццаць гадоў таму.
Ды ты недзе далёка,
У замглёнай смузе памяці.
Ціхі полацкі вечар.

Матыў у нечым блізкі азначанаму і ў вершы «***Зноў адыходзіць мода»: «Ах, мода! Памяняюцца сцягі, // Апраткі і гарачыя прамовы... // А за акном у полі вечаровым, // Як сто гадоў назад, ідуць снягі». Блізкі тым, што паэт у вечнасць узіраецца праз прыроду, якая сама па сабе і з'яўляецца часткай вечнасці, прытым адной з асноўных. Але ж ад прыроды неаддзельны сам чалавек, і гэтую лучнасць, паяднанасць нікол не парваць. Ва ўсякім разе яна не павінна рвацца, інакш парушыцца гармонія, знікне пастаянства, у якім свая прыгажосць:

Душы так хочацца цяпла,
А сэрцу — радасці і волі,
Як поўні той, што ўжо над полем,
Нібы ліхтар начны, ўзышла.

Паняцце «душа» часта прысутнічае ў вершах Н. Гальпяровіча. І прысутнасць гэтая — не даніна часу, а апошняе, будзем справядлівымі, сёння назіраецца нярэдка, калі сёй-той з аўтараў празмерна падкрэслівае сваю прыхільнасць да хрысціянскіх запаведзяў, народнай маралі і, як вынік, звяртаецца да той чалавечай сутнасці, што з'яўляецца ўвасабленнем задумы Творцы, але выказанае не прапускаецца праз сэрца, а таму няма шчырасці, пераканальнасці. Радкі атрымліваюцца нейкімі халоднымі. Іншая рэч — Н. Гальпяровіч. Напісанае ім — гэта сведчанне духоўнай і душэўнай патрэбы выказацца, а праз гэтае выказванне зноў жа лепш зразумець чалавека, а праз чалавека наблізіцца да разумення і спасціжэння той жа вечнасці:

Ва ўсім душа: і ў тоненькай травінцы,
І ў карабельнай велічнай сасне.
І раздае нам свет па палавінцы
Сваю пяшчоту — і табе, і мне.

І розум чалавечы, і прырода,
Ўступаючы ў адзіны, вечны шлях,
Суіснуюць і велічна, і годна,
Пакуль ў Сусвеце круціцца зямля.

І, слухаючы запаветны голас,
Зноў душы адкрываюцца яму.
І ў тым суладдзі радасці і гора
Азвацца могуць слову аднаму.

Але лірычны герой паэта, як гэта відаць з кнігі, не пазбаўлены сумненняў. Таксама звычайны чалавечы стан. Не сумняваецца толькі той, хто прывык жыць, як набяжыць, а чым больш чалавек патрабавальны да сябе, тым часцей вярэдзіць яго непастаянства, душэўны неспакой:

На востраве душы маёй зіма.
На востраве душы маёй завея.
Нібыта ў ёй даўно мяне няма.
А толькі успаміны ды надзея.

Апошнім часам паэтычнае майстэрства Н. Гальпяровіча ўзрасло. Адбываецца гэта найперш у накірунку жанравага пашырэння твораў, у чым, у прыватнасці, пераконваюць балады,

якія ўвайшлі ў гэты зборнік. Але не менш плённы набытак узрослай сэнсавай напоўненасці радка, калі нават у невялікім творы паэт можа сказаць вельмі шмат. У якасці прыкладу нельга не прывесці верш «Шагал». Пра гэтага выдатнага мастака напісана шмат, не абыдзены ўвагай Марк Шагал і беларускімі паэтамі. Сказаць штосьці новае вельмі цяжка, асабліва, калі гэта неабходна зрабіць як мага больш лаканічна. Але ўзяўся за пяро Н. Гальпяровіч і, калі ласка:

І скрыпка, і цяля, і сум сусветны...
З вачэй біблейскіх выплывае туга...
Ізноў зямля пакутная ў снягах,
І ціш, і стынь, і одум пракаветны.

На сінім небе рыбы, і звяры,
І ціхія шчаслівыя анёлы.
А свет вакол, нібы дзіцятка, кволы,
Што толькі пачынае гаварыць.

Хто добра знаёмы з творчасцю М. Шагала, лёгка ўпэўніцца, што ў вершы дакладна прыкмечана адметнасць яе, перададзена тое асноватворнае, што і вызначае сутнасць таленту Шагала. А ўвогуле, кніга «Святло ў акне» — гэта шмат вершаў добрых і розных. Чытаць яе адно задавальненне. Радуешся таленту паэта, зайздросціш яго аптымізму і захапляешся яго творчасцю. А калі захапляешся, дык і даруеш яму, калі нечакана натрапляеш на няхай і маленькае, але зніжэнне аўтарскай патрабавальнасці. Даруеш, бо і тваёй «душы так хочацца цяпла», а яго, гэтага цяпла, у кнізе шмат. І найперш — гэта цяпло Бацькаўшчыны, а калі яно ёсць дык

І дыхаюць воляю грудзі,
І стане ясней небасхіл...
І хочацца верыць, што будзем,
Што не ператворымся ў пыл.



ІВАН ЯШКІН

# ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

Г. Ф. Юрчанка. **«Народныя мудраслоўі. Слоўнік».** Мн. «Белнавука», 2002.

Слаўная Мсціслаўшчына ўжо 15-ы раз перадае ў славянскую скарбніцу свае моўныя багацці.

З выйсцем кожнага зборніка было жаданне параўнаць, выявіць агульнае і адрозненнае традыцыйнай лексікі на паўднёвы захад ад Мсціслаўшчыны, за Крычавам, Чэрыкавам, на Слаўгарадчыне. Слаўгарадчына (Прапойшчына) знаходзіцца на пагранiччы сярэднявечных Мсціслаўскага ваяводства, Аршанскага (Чавусы, Быхаў) і Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства (Прапойск). Прайшло шмат часу, але старэйшае пакаленне можа адрозніць «мсціслаўскае» і «прапойскае» (ужо «мінскае»). Яны звязаны адной артэрыяй — ракой Сож.

Лексіка на Мсціслаўшчыне і Слаўгарадчыне не мае рэзкіх адрозненняў. На Слаўгарадчыне зусім мала «мсціслаўскіх» слоў (паводле нашага вопыту). Заўважаецца адсутнасць на Слаўгарадчыне лексем усходняга рэгіёна, русізмаў, якія стала бытуюць у сістэме мсціслаўскіх гаворак. На Слаўгарадчыне іх ведаюць, чулі як «мсціслаўскія» ці нават як «рускія», але маюць ужо іншыя, «свае» лексемы.

Напрыклад: (мсціслаўскае) *ві́дзіць* — (слаўгарадскае) — *ба́чыць* (але ў песнях — у выніку міграцыі рабочай сілы ў XIX стагоддзі на Старынкаўскі медна-жалезаробчы завод, дзе было 900 рабочых, паралельна ўжываюцца і *ба́чыць* і *ві́дзіць* тыпу *«ці ня ўве́(і́) жу, ці ні ўба́чу, каго́ ве́рна любі́ла»); вуша́т — ша́йка; прыту́га* ‘пакаранне’ — *прару́ха, во́падзь; пло́ха — дрэ́нна; пяту́х — пе́вень (пяту́х* ‘фалас’); *петуша́ціна — пе́ўніна́, пеўня́ціна, пе́вінне); атвяча́й — бу́дзе табе́, галаво́й наклада́й, твя́чавай; рукаво́д*

*руќа, — галава́; браць на капле̂н — понт* (на понт); *празо́р — адхлы́н; галы́ш — голь, го́лы галы́м, галёна; грэ́нка — мсліва́сць, зла́мслі́васць; дава́ць шуп'якоў — дава́ць штурхалёў; сядзя́ць як гру́здзікі — сядзя́ць як баравікі́; збіва́ць з партэ́су — збіва́ць з панталы́ку; пайці́ць на сці́ру — на пераці́р(у); ка́мушак — камушо́к; у пакла́д — у закла́д; крут круці́ць — кру́цьма кру́ціцца; дасу́г — не па сабе́; ня́ сцёрп; пад гу́мар — пад ла́ску; паднасі́ць ду́лю* (моцна біць) — *паднасі́ць, дава́ць ду́лю; пуска́ць па́валку — па́валка* (пра тонкую плёнку, покрыва тлушчавое на вадзе, гноевую жыжу); *пяты́ не сто́іць — падпя́тка ня сто́я, падмётка, по́дметка ні варт; расппляска́ць у ляпёшку — распляска́ць у блін; рэнь на рэнь — на перакася́к, зуб за зуб; сцякля́нны бог — шкля́нка; то́лькі да тапара́ — то́лькі сказа́ць; хадзі́ць на цырлях (цэ́рлах) — 1) хадзіць на цыпачках, 2) не́сца скаро́дзіць языко́м — цяга́ць языко́м; ухадзі́ць у барбу́ — нашто́ табе́ пасты́льства?! Апастыля́цца, чапа́цца, устрыва́ць; як ку́рыца (кукаро́ка); кума́к — як мак красне́я; як (яг) на карусе́лях — як на жару́, як на йго́лках; як перашпі́лены — як перашчы́кнуты); як у кляпні́ — як у калодзежы; як у я́мцы; як у свінны́м гняздзе́ — як у свінны́м гайне́; як у калга́се — як у калгася́(е́); як шу́я* (тоўсты) — *шу́ядзь; адуніятнічаць, адуні́ятнічацца — мслі́віць, по́мслівіць, помсці́ць, мсьці́ць, затаі́цца; ара́вія — ара́ва, вара́ўва гурт, калектыў; буська́ны — бу́сіны(й), бусянэ́й* (цалаваны); *вараці́льнік, вараці́цельнік — варацэ́льнік, варацяцельнік, ва- рачэ́ньнік, вараці́ла; вазюга́н — вазьзю́га; вы́валачка — прабо́рка, вы́браць дуб за бярэ́знікам; га́рыкі — галаве́шкі, гарэ́лікі; вёхра, вёхрышча — пліці́я, звод́ніца; ву́дальства — ву́харства; во́мегам — па́дка; вы́каць* (дэкальтэ) — *вы́катка, наткры́тую, выпіва́нец — выпіва́ха, выпіво́ха; гу́ндзіць — гу́ніць, гу́нніць; дарабі́на — (а)даро́бак; дзе́дзканне — дзедзьканьне, дра́йна — драпе́ня; дрыпсаннік — дры́панніk; ду́гаць — дзугаць; жаніха́йлік — жаніха́йла, жаніха́йлё; езуі́тнічанне — двулі́касць, зацятасць, заце́нлівасць, двулікатá; вы́перазаць* 'моцна ўдарыць' — *апераза́ць, перацягну́ць, пераця́ць; замята́ч* (паслугач) — *замята́йла, замята́іч; згару́ніваць — згінаць, загару́ніваць; куклёнак* (лялька) — *ля́ля, ля́лька; курацёпак — свавольнік, не́слух, не́слуш; кро́пна* (страшна) — *су́мна, сумні́ўна; ла́барны* (дрэнны) — *агу́рлівы, безалабе́рны; лістасы́п — лістапа́д, асыпа́нне лі́сця; ліўко́м — лі́ўма, лівако́м ліўмака́; макра́вы — макравэ́й, макраўке́й; навёхрыцца* (наплят-карыцца) — *насухава́цца; наезуі́тнічацца — назлаўрэ́днічацца, назьдзіка́цца, нападтыка́цца, назьдзе́кувыцца; назю́зіцца* (напіцца п'яным) — *надзю́дзьдзіцца; напа́й — прыпо́й, лі́тае, ліцця́цё, ліццё; насвадзёбнічаць* (закончыць быць на вяселлі) — *насвадзёбіць; нату́рнік — нату́рлівы(й), ана́рт; наўзгарэ́* (на прыгорку) — *наўзгары́, наўзго́ррі; падвёхрыцца* (папляткарыць) — *падсухава́цца, насухава́цца; паджыга́ннік* (падбухторшчык) — *падсы́ка́ннік, падсы́ка́ць; паграбе́нь* (прыгрэбка) — *паграбня́; падкрава́тнік, — раскура́тнік («курве́ль»), донжуа́н — перал́юбец* («прелюбодзей»), *пад'ю́пнік;*

*пазы́рыцца* (паквапіцца), *паза́рыцца, пазаза́рыцца; пако́ланкі* (ранкі на галёнках ад іржэўніку) — *пако́лацце, кало́цце, цы́пкі, парэ́пкі, гарэ́пканне; пас* (вус у гурках, гарбузах) — *каса́, вус; пата́хкаць* (падсеяць рэшатам) — *патата́хкаць, падбі́ць, паўскру́жваць, падкружы́ць; патало́ка* (мітусня) — *су́талака, су́талка; патрасу́ха* (трывожны час) — *мітрэ́нка, мітрэ́нга; патру́шка* (дробна пацёртае сена) — *патруха́, труха́; пахлехата́цца* (пазлавацца) — *паклеката́цца, пахлехата́цца* (пра брагу); *пачыня́ннік* — *пачыня́ннінішчык* (хто рамантуе); *пашвігі́кацца* (пашпурляцца) — *пашві́ка́цца* (падаваць кукішы); *перабі́ркі* (выбраныя рэшткі) — *вы́баркі, перабо́ркі; перага́мжыванне* (камечанне; псаванне) — *гамжэ́нне, гамзі́ць; перазы́чыванне* (жаданне) *зы́чыньня; по́маз* (пэндзаль) — *по́маз* (шматок палатна і шкварка сала падмазваць патэльню ў час выпякання бліноў); *пра́сліца, ‘агароджа, прасла з жардзін’* — *пра́сілца, пра́сілліка; прыдзве́рнік* (вартаўнік) — *прыдзве́рны* (у Ф. Скарыны: *«придверники»*); *прыка́зія ‘загад’* — *указэ́я; прыката́льнік* — *трысьце́н, трысце́нчык, трысьцяно́к; прымы́льніца* (прылазнік) — *прымы́льнік; прысе́чак* (недасечаны кавалак дрэва) — *недасе́ка, недасёка; прыпе́рць* (прыбудаваць абы-як, часова) — *прыпя́ць; пры́ца* (гразкая, размоклая глеба) — *пры́цігліввая зімля́, пры́цяглявая зямля́; пу́рганнік* (сёрбала, хто прагна есць) — *пу́ганнік пу́гая, аж нос упрі́сідку скача; пуцёвец* (разумны, разважлівы чалавек) — *пуцёвы(й), путнэ́й; пушчэ́льнік* (неахайнік) — *апушчэ́льнік, (а)пушчэ́ннік; пясцене́нне* — *пяшчэ́нне, пішчане́нне; пя́цьма* (пляма) — *пля́мама́; разві́нчыванне* (свавольства) — *развінці́цца; распу́га* — *распу́ста; расстó́ліваннік* (хто здымае столь) — *расстале́нне, расстó́ління; салам́оненне* (плявузганне) — *саламана́* (пустая гамонка); *са́лка, са́лца; свадзьбі́ст* (аматар да вяселляў) — *свадзёбнік; руда́* (валасы на барадзе) — *рудзь, брудзь; смакату́н* (каб смачна паесці) — *смашнёнік, смакату́н, смакту́н* (парасё, вяпрук, які не захоплівае *(«хла́мкае»)* густое і вадкае ў *«ме́шані»*, а смокча толькі вадкую частку); *смяя́ннік* (хто смяецца) — *сме́шнік, смехату́н, сьмяшо́к; спазра́нне* (упадабанне) — *спазрэ́нне, спазря́цца, спазры́цца; ссучы́цца* — *ссаба́чыцца, су́чка* м. і ж.; *стра́шаннік* (хто палохае) — *страшэ́ннік, страхе́ннік, страхахе́ннік, страхашэ́ннік; су́пчык* (нягоднік) — *шка́радзь, няго́днік, зямля́; таптáнец* (хто топча) — *та́пта́ннік, таптáне́ц; тархáннік* (штурханнік) — *турха́ннік, штурыха́ннік; таўпяшэ́нне* (штурханіна ў цеснаце) — *таўпе́нне, таўпе́сся, таўпе(я)ссё́; тка́ха* — *тка́лля; трыхаму́дства* (пустаслоўе) — *тархаму́дства; тэ́птала* (хто топчацца) — *тэ́пала, тэ́пкала; угамо́выванік* (хто сунімае) — *угамо́ннік, угамо́ўнік; угамо́нак* (супакой) — *угамо́ння, уга́маннё; удзядзе́ць* (пасталець) — *убу́ціць, пасамаві́цець; уліко́выванне* (пераграванне) — *жа́ркінне, жа́рчынне, жарэ́нне; уло́мец* (гультай) — *зло́мак, ламáка, лом; улыба́ннік* (хто пасміхаецца) — *лы́баннік, скалазу́б, сьміх, лыбі́цца; умякча́ць* (улагоджваць) — *мякчэ́ць, мекачэ́ць, мекаце́ць; усце́шыванне* (суцяшэнне) — *сусце́шынне; утара́пліванне* (неадрыўны погляд) — *утара́пліванне;*

*ухадзі́* (выключна) — *куды́ табе́; ушарахо́ніць* (уняць) — *ухарахо́ніць; ха́нджо́вый* (дэнатуратны) — *ханджджажа́* (энергічны, як чачэн); *ханянё́м* (ганарыста) — *хамянё́м; цясця́нка* (гразь) — *це́ста; чарві́ўка* (віно з ягад і пладоў) — *чарві́вае, чарвіўня́е, чарвіво́е; шабуцё́ж* (шум, галас) — *шархо́ба, шарбуш*э́*нне; шало́ха* (неахайніца) — *сало́ха, шалуха́* м. і ж.; *шалуджэ́ннік* (задавака) — *шалу́дзька, шо́лудзі; шапярда́, шупярда́* (непаважаныя асобы) — *шавярда́, шавярдзе́й; шкандыба́ць — чыкільга́ць; шло́мкала* (хто тупае) — *шлёмала, шлёма, шлёмка(ла); шлю́ндрык* (лёгкадум) — *шугаве́й, шалу́шка; шуга́цьканне* (беганіна) — *шу́ганне, шугага́нне; шуля́к* (шула) — *шу́лка, шуля́к, шуляля́к* (значнага памеру); *шумо́ты — шум, шум; шумата́; шу́рба, шу́рха* (непаважаная жанчына) — прозвішча *Шу́рхавы* (в. Ржаўка); *шчадлі́вы* (беражлівы) — *шчадзі́ць усяго́; шчаката́ць* (есці з хрустам) — *шчаката́ць дзе́ці ўсё бу́дуць пыдря́д; мышы шчако́чуць у сало́мі; шчап'ё́* (трэскі) — *шчапап'ё́, шчап'ё́, шчэ́пачча; шчыку́нь* (пра шчыканне) — *шчык, шчыку́нь, шчыкаку́нь; шчы́льна — пры́тна, шчыгу́льна; шчы́тнасць* (эканомнасць) — *шчыгу́льнасць; шынь* (вокліч адагнаць жарабят) — *сыль; адаме́йшый — ядо́мшы, едаме́й, страўне́й, страўне́йшы; я́сцве́нный* (яўны) — *я́ўсьцьве́нны(й), яўн*э́*й, я́вінны(й).*

Агульнае на Мсціслаўшчыне і Слаўгарадчыне складае выключную большасць розных устойлівых словаспалучэнняў, арыгінальных эмацыянальна-экспрэсіўных слоў тыпу *«жыве́ш не так, як хочаш, а як прыходзіцца»; «жывот не ведаў, што абедаў»* і г.д.

У частцы словаспалучэнняў з'яўляецца «мсціслаўскі» элемент тыпу *«каму ўдаецца, у таго пяту́х* (мсц. замест слаўг. *певень*) *нясецца».* Частка словаспалучэнняў адносіцца толькі да «мсціслаўскіх», напрыклад: *«Кошку б'юць, а на нявестку паглядаюць».* На Слаўгарадчыне адпавядае па сэнсу 'ва ўсім вінавата нявестка' *«Нявесткін парцю́к ляжаў ля жлу́кта».*

Часам разыходзіцца сэнс: (на Мсціслаўшчыне) *«Паняць верх»* — 'прывыкнуць'; (на Слаўгарадчыне) 'зрабіцца тыранам' *тыпу «узяла́ жонка верх» (веріх, верьріх)».*

Адзначаецца частка народнага мудраслоўя, якой не даводзілася чуць на Слаўгарадчыне. Бывае яно з запазычаным элементам (*«Дай — плоха, не дай — дрэнна»*), а бывае, відаць, традыцыйнае, пэўнага рэгіёна (не «слаўгарадскага») (*«Адны лепе́дзі* 'выключная беднасць'; *«Хадзіць па цырлях»* 'дагаджаць, задавацца').

Мсціслаўскія гаворкі знаходзяцца на мяжы непасрэдных кантактаў беларускіх і «заходняй дыялектнай зоны рускіх гаворак», а таксама «паўднёва-заходняй дыялектнай зоны рускіх гаворак» (Русская диалектология. Под ред. Р. И. Аванесова и В. Г. Орловой. М., 1964. Карты № 3, 7, 8, 9). Гэтая зона сучасных гаворак рускай мовы характарызуецца міграцыяй насельніцтва з Беларусі ў мінулым. Былі перасяленцы і з Мсціслаўскага павета (1670—1677 гг.): *м. Горкі Сменка,* в. *Ананіна,* з Клімавіцкага староства на тэрыторыю сучаснай Арлоўскай вобласці Расіі. У 1868 г. на тэрыторыі Курскай губерні наліч-

валася 23 000 чалавек «гаруноў» з Беларусі.

**Заўвага.** Вялікі прыток беларусаў быў у Бранскі пагранічны павет (Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1960, т. 2, с.37, 38), і на Куршчыну (сучасная Арлоўская вобл. Расіі). Цар указаў месца для перасяленцаў з Беларусі — «ададслаць у Кромы і ў Навасіль, і на Чэрнь (1638). У Почапе на Браншчыне пасяліліся, напрыклад, у 1633 г. 50 выхадцаў з г. Крычава і в. Бярозкі (Русско-белорусские связи // СБ. Документов (1570—1667 гг.). Мн., 1963, № 94, 133, 194). У 30-х гадах XVIII стагоддзя на землях старадубскага палка пасяліліся выхадцы са Слаўгарадчыны, з в. Ушакі «з-пад Крычава». Яшчэ : у с. Багаяўленскім Епіфанскага пав. Тульскай губ. (1670, 73 сям'і), у Маскве, Суджы (1665, 14 чалавек), Дарагабужы, Замаскоўскім краі (у 19 паветах у 1685—1688 гг. жыло 10 тысяч беларускіх сялян, Звянігарадскім павеце (2-я палова XVII стагоддзя, 1150 выхадцаў з Беларусі). А ў 1670—1674 гг. «ад разарэння ваенных людзей... ад хлебнага недароду, ад голаду» перасялілася ў сяло Маладоўскае Гарадзішча баярына Хітрова Крамскога павета (сучасная Арлоўская вобласць) 121 сям'я (506 душ) з паўночна-ўсходніх паветаў Беларусі: з Аршанскага павета (вв. Спырава Слабада, Крывыя Канцы, Хоцьжа, Славень, с. Любавіча і інш.), Віцебскага (вв. Ледніцы, Лучаны, Малкава, Машчонак і інш.), Гарадзецкага, Дубровенскага (вв. Валакалакава, Ганчарова, Гусікава, Сценка, Дзягілева, Лупырэшчын, Лядаў, пасаду Дуброўка, Стрэжава і інш.), Капыскага, Крычаўскага, Магілёўскага (сс. Болі, Учаінава і інш.), Мсціслаўскага (м. Горкі Сменка, в. Ананніна, ад пана Галынскага з Клімавіцкага староства і інш.), Полацкага (в. Чашнікі, с. Мікуліна і інш.), са Свяцкага, Шклоўскага (Галоўчын і інш.). (Гл. Е.Ф. Карский. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 410—411; І. Я. Яшкін. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм. М. 1976. С. 13—15.) Кантакты, як бачым, гэта толькі частка мовы соцыума, які складваецца гістарычна. Дыялектныя зоны, іхнія асаблівасці — больш сталая характарыстыка наяўных спрадвечных рысаў гаворкі.

На Слаўгарадчыне, у яе паўночна-ўсходняй частцы, як і на Мсціслаўшчыне, факультатыўна ўжываецца ў канчатках прыметнікаў, займеннікаў, парадкавых лічэбнікаў, дзеепрыметнікаў -й: *нóвы — нóвый, другí — другíй, усякі — усякій, напхáты — напхáтый.* Заўсёды і ў слаўгарадскіх, і ў мсціслаўскіх, і ў заходняй дыялектнай зоне рускіх гаворак — ужываецца *-эй, -ей, : навэ́й, сякéй, такéй,* нават *(аб)чышчанэ́й.* У паўднёва-заходняй частцы Слаўгарадскага раёна такіх формаў няма: *новы, усякі, другí, напхáты.* Заўсёды змякчаюцца і на Слаўгарадчыне, як і на Мсціслаўшчыне, зычныя *дз, з, л, н, с, ц* перад мяккімі зычнымі тыпу *дзьве, цьвет.* Адсутнічае пераход *г, к, х* у *з, ц, с* у мсціслаўскіх гаворках, але ён адзначаецца на Слаўгарадчыне на ўсёй тэрыторыі; *у сáжалке — у сáжалцы, берагí — беражы́, на нíтачке — на нíтцы́, у гарэ́лке — у гарэ́лцы.*

На Мсціслаўшчыне і на Слаўга-

радчыне пануюць прозвішчы, імёны сыноў з суфіксамі *-онак, -ёнак*: *Канастрацёнкаў голас, Карпёнкаў сын, Петрачонак, Патапёнак, Кандрацёнак.*

У мсціслаўскіх і слаўгарадскіх гаворках пануе форма *за Сажом,* а не Сожам, як у літаратурнай кальцы за Сожам.

Тлумачэнні ў слоўніку адрозніваюцца выключнай дакладнасцю, у тым жа значэнні, што і на Слаўгарадчыне. Часам адзначаецца варыянтнасць слоў. Бачыцца ўзаемадзеянне дыялектных зон беларускай мовы. Адміністратыўная мяжа амаль не ўплывае на склад гаворкі. «Гарадскі» элемент зусім нязначны. Адзначаецца (наяўнасць асобных лексем новага паходжання, «моднасць», «культурная» цяга ўжыць слова з суседняй мовы).

Магчыма, што параўнанне, наяўнасць аднолькавай лексікі, адсутнасць лексем суседняй гаворкі з'яўляецца працягам вывучэння геаграфіі пэўных лексем на Беларусі. Гэта будзе служыць выяўленню розных лексічных зон, іх узаемадзеяння.

«Народае мудраслоўе» Г. Ф. Юрчанкі, як і ўсе яго зборнікі, з'яўляецца вялікім фарпостам на ўсходзе Рэспублікі Беларусь для вывучэння беларускіх гаворак.



## ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ

# Антон ПРЫЦЭЛ

### ВЕЧАРАМ І РАНІЦАЙ

Прытулі мацней,
мая абранніца.
Наталі
мае сухія вусны...

***Генадзь Бураўкін***

З вечара і сам магу,
а з раніцы
Ўжо не той імпэт,
што у юнацтве.
Прытулі мацней,
мая абранніца,
Дай мне ўрэшце
зноўку сіл набрацца.

Пацалуй мяне,
мая тужлівая,
Раскатурхай,
нібы штормам мора,
І цябе зраблю я зноў
шчасліваю.
Вунь жа штосьці змог зрабіць учора.

### ПАКАЯННЕ

Я каюся, бо ёсць за што і мне:
Зрабіў няшмат, а памыляўся многа.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Я каюся, хоць ведаю, што ёсць
Такія, што нашмат, чым я, павінны.

***Навум Гальпяровіч***

Пражыў на свеце белым як-ніяк
Я звыш паўвека, толькі вось, нябога,
Няшмат зрабіў, а што зрабіў — не так,
Бо памыляўся, зрэшты, вельмі многа.

Вучыцца б на памылках мне чужых,
А я ствараў для іншых дапаможнік.
Дажыўся — хоць ты ўжо ў царкву бяжы
І кайся у грахах там усяможных.

Ад іх душу я ачышчаю й плоць —
Даруй мне, Божа, ўсе мае правіны!
Хоць радуе, што і такія ёсць,
Што больш, чым я, перад табой павінны.

### ЦІ ВАРТА ШЧЫРАВАЦЬ?

Калі адшчырue над кветкай пчала,
Мураш сваю рупнасць у працы
спатоліць, —
Работа мяне прыкуе да стала.
Я стану рабом. І забуду на волю.

***Кастусь Жук***

Рупліўка-пчала адшчырue над кветкай,
І рупны мураш змахне кропелькі поту —
Нібыта ўпікаюць мяне ў тым, паэта,
Што толькі адзін я такі бестурботны.

Я вольны ад працы. І лоб мой не потны.
Жыву як хачу. Не шчырую ніколі.
А сяду за стол, то, прыкуты работай,
Зраблюся рабом. І забуду на волю.

І я б шчыраваць мог не меней,
чым пчолка,
Не меней снаваць,
чым мураш неспатольны,
Ды ведаю ўсё ж, што ніякага толку
Ад гэтых маіх шчыраванняў застольных.

### МОЙ ПАРНАС

Хаціна бабулькі Параскі —
Мой самы высокі Парнас.

***Сяргей Панізнік***

Якія б ні баялі казкі,
Ды боскі Алімп — не для нас.
Хаціна бабулькі Параскі —
Мой самы высокі Парнас.

І, можа, не столькі хаціна,
А печ —
Больш дакладна, чарэнь,
Дзе я, так разлёгшыся чынна,
Прышпорваю рыфмы штодзень.

Снуюцца радкі, як вяроўкі.
(Няпростая ўсё-такі рэч!)
То ж злезу паесці — і зноўку,
Як кот той, сігаю на печ.

Пішу — і так складна выходзіць,
Аж дзіву даецца Пегас...

Бабулька ж адна ў агародзе
Агорвае грады тымчас.

## ВЕДАЙ НАШЫХ!

Магілёўцы п'юць з капытка,
Мо таму
І цвярозыя.

*Алесь Пісьмянкоў*

У пітве ў нас высокая марка,
І па тым пазнаю земляка:
Калі іншыя п'юць звеку з чаркі, —
Магілёўскія п'юць з капытка.

Разабраліся продкі ў тым шпарка
І ў пітве цяпер ведаюць толк:
Як драбіна слану, для іх чарка;
Справа іншая ўсё ж — капыток.

З яго й сам п'ю, бо й сам разумею
Землякоў,
Дзе б я іх ні спаткаў...

Магілёўцы таму й не п'янеюць,
Што прывыкшыя піць з капытка.



**_ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ:_**

**_на II паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь._**

**_Ведамасны льготны індэкс — 00727;_**
**_падпісная цана на 6 месяцаў 2003 г. — 16 800 руб._**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-80-12;
намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў літаратуры,
грамадскага жыцця і культуры — 284-49-91.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Старавсрава.

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 30.08.2003 г. Фармат 70x108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк. арк. 19,60. Ул.-выд арк. 18,04. Тыраж 1648 экз. Зак. 1834.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

